Беларускае гістарычнае таварыства

# 44

# Беларускі гістарычны зборнік

Беласток 2015

# Białoruskie Towarzystwo Historyczne





**Skład:** Adam Pawłowski
**Korekta:** Witalis Łuba
**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Historyczne
**Adres redakcji:** 15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, tel. 85 744 61 11
**E-mail:** ebma@interia.pl
**Strona internetowa:** http://bzh.kamunikat.org
**Nakład:** 500 egz.

Zrealizowano:
- dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji,
- przy wsparciu finansowym Urzędu Marszałkowskiego Województwa Podlaskiego w Białymstoku,




*Na okładce* (I strona): o. Alexander Nadson, (IV strona): Białoruska Biblioteka i Muzeum im. Franciszka Skaryny w Londynie.

# Spis treści

## artykuły

## materiały źródłowe



## artykuły recenzyjne



## in memoriam

# Contents

## academic papers

**Уладзімір Падалінскі**
(Мінск)

## Праблематыка мясцовага самакіравання ў рашэннях вальнага сойма Рэчы Паспалітай (1569-1605 гг.)

Паводле рэформаў дзяржаўнага ладу Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), праведзеных у 1564-1566 гг., паветы станавіліся цэнтрамі адміністрацыйнага, ваеннага, судовага і палітычнага жыцця лакальных сацыяльных структур — павятовых шляхецкіх карпарацый. На павятовых сойміках шляхта магла абмяркоўваць не толькі справы агульнадзяржаўнай важнасці, але і вырашаць актуальныя мясцовыя праблемы. Заключэнне ў 1569 г. Люблінскай уніі і ўтварэнне супольнага вальнага сойма Рэчы Паспалітай стварала новыя магчымасці для актывізацыі грамадскай дзейнасці павятовага шляхецтва. Прадстаўнічыя інстытуты ўлады сталі важнейшым звяном сацыяльнага ўзаемадзеяння паміж лакальнымі шляхецкімі супольнасцямі і цэнтральнай уладай. У дадзеным матэрыяле нас, перш за ўсё, будзе цікавіць менавіта роля вальнага сойма Рэчы Паспалітай у рэгуляванні пытанняў шляхецкага самакіравання ў ВКЛ за перыяд з 1569 па 1605 год. Звернем увагу, што даследаванне праблематыкі шляхецкага самакіравання ў Рэчы Паспалітай з'яўляецца вельмі актуальным у сучаснай гістарыяграфіі Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны[1].

За разглядаемы перыяд на вальных соймах Рэчы Паспалітай было ўхвалена 43 канстытуцыі, якія рэгулявалі розныя пытанні мясцовага жыцця паветаў і ваяводстваў ВКЛ[2]. Падкрэслім, што абсалютная большасць ухвалаў, звязаных з лакальнымі справамі, была створана менавіта з ініцыятывы павятовай шляхты. Гэтыя соймавыя канстытуцыі датычылі перш за ўсё пытанняў размежавання розных рэгіёнаў ВКЛ як з суседнімі тэрыторыямі Рэчы Паспалітай, так і паміж сабой

[1] Гл. напр.: *Praktyka życia publicznego w Rzeczypospolitej Obojga Narodów w XVI-XVIII wieku. Materiały XVIII konferencji Komisji Lituanistycznej przy Komitecie Nauk Historycznych PAN w dniach 22-23 września 2009 roku*, red. U. Augustyniak i A. Zakrzewski, Warszawa 2010.

[2] Соймавыя канстытуцыі дадзенага перыяду надрукаваны ў: *Volumina Constitutionum*, t. II (1550-1609), vol. 1 (1550-1585), wyd. S. Grodziski, I. Dwornicka i W. Uruszczak, Warszawa 2005; t. II (1550-1609), vol. 2 (1587-1609), wyd. S. Grodziski, przedm. W. Uruszczak, Warszawa 2008.

(19)[3], арганізацыі судаводства на месцах (11) ды забеспячэння гандлю і шляхоў зносін (7). Таксама шэраг соймавых ухвалаў (канстытуцыі і падатковыя ўніверсалы) рэгламентавалі вырашэнне мясцовых падатковых спраў.

Надзвычай важнай праблемай для шляхты было *размежаванне* некаторых рэгіёнаў Вялікага Княства Літоўскага як з суседнімі землямі Кароны Польскай, так і паміж сабой. Адпаведныя соймавыя канстытуцыі з’яўляюцца добрай ілюстрацыяй тых непаразуменняў паміж Вялікім Княствам і Каронай, якія ўзніклі ўжо ў першыя гады існавання супольнай Рэчы Паспалітай. Інкарпарацыя ў 1569 г. у склад Польшчы зямель Падляшша, Валыні, Падолля і Кіеўшчыны спарадзіла шматлікія тэрытарыяльныя спрэчкі паміж двума складовымі часткамі Рэчы Паспалітай. Найперш, паўстала праблема вакол падсуднасці шляхты памежных рэгіёнаў судам Кароны або Вялікага Княства. Яшчэ на вальным сойме 1576 г., падобна, з ініцыятывы кароннага боку, разгарэлася спрэчка аб межах ВКЛ з Падляшскім ваяводствам, але яе вырашэнне адклалі на наступны сойм[4]. А ўжо ў 1581 г. была прынята канстытуцыя, якая прадугледжвала прызначэнне камісараў для вызначэння межаў Берасцейскага староства ВКЛ з Холмскай зямлёй Рускага ваяводства Кароны (арт. 13)[5]. Адна з канстытуцый (арт. 90), ухваленых соймам 1589 г., прызначала на размежаванне Падляшскага і Берасцейскага ваяводстваў камісараў „роўную колькасць з абодвух народаў”, а другая (арт. 74) — апісвала арганізацыю іх працы[6]. Аднак праблема аказалася вельмі сур’ёзнай, і камісія не змагла прыйсці да канкрэтнага рашэння, таму соймы зноў і зноў звярталіся да гэтага пытання. Канстытуцыі аб размежаванні Берасцейскага ваяводства і Гарадзенскага павета з Падляшшам прымаліся на соймах 1590-1591 (арт. 19), 1596 (арт. 7), 1598 (арт. 25), 1601 (арт. 36, 44) і іншых гадоў[7].

[3] З іх 17 датычылі размежавання ваяводстваў і паветаў ВКЛ з суседнімі тэрыторыямі Кароны Польскай або з Інфлянтамі, Прускім герцагствам ды Курляндскім і Земгальскім герцагствам.

[4] *Akta Metryki Koronnej co ważniejsze z czasów Stefana Batorego. 1576-1586*, wyd. A. Pawiński, Warszawa 1882, s. 304-305.

[5] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 1, s. 448.

[6] Там жа, t. II, vol. 2, s. 113, 116. Пытанне аб парушэнні межаў Берасцейскага ваяводства ўздымаў Галоўны соймік ВКЛ у лютым 1589 г.: *Akta zjazdów stanów Wielkiego Księstwa Litewskiego*, t. 2: *Okresy panowań królów elekcyjnych XVI-XVII wiek*, opr. H. Lulewicz, Warszawa 2009, s. 87.

[7] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 179, 232-233, 244-245, 276, 279. Размежаванне паветаў актыўна абмяркоўвалася на сойме 1597 г., які скончыўся без прыняцця канстытуцый: *Dyaryusze sejmowe roku 1597. W dodatkach: akta sejmikowe i inne odnoszące się do tego sejmu*, wyd. E. Barwiński, Kraków 1907, s. 113-118.

Яшчэ адной праблемай стала вызначэнне межаў Мазыршчыны з Кіеўшчынай, падзеленых таксама ў 1569 г.: Мазырскі павет быў вылучаны са складу Кіеўскага ваяводства і застаўся ў межах ВКЛ. На вальным сойме 1589 г. была ўхвалена канстытуцыя (арт. 91) аб размежаванні Кіеўскага ваяводства з Мазырскім паветам Менскага ваяводства[8]. Аднак і яна неаднаразова паўтаралася наступнымі соймамі: 1593 (арт. 34), 1598 (арт. 10, 25, 29), 1601 (арт. 40) гг.[9] Канчаткова мяжа паміж Падляшшам і Кіеўшчынай з аднаго боку і ВКЛ з другога была вызначана толькі ў першай палове XVII ст.[10] Сойм зацвярджаў асабовы склад падобных камісій, вызначаў месца і час пачатку іх працы, а таксама надаваў камісарам, якія прызначаліся, як правіла, з мясцовай шляхты і ўраднікаў, неабмежаваныя паўнамоцтвы (*moc zupełną*) для вырашэння ўсіх спрэчных пытанняў.

З ініцыятывы шляхты паўставалі і канстытуцыі аб размежаванні ВКЛ з землямі, якія знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад Рэчы Паспалітай. Напрыклад, у студзені 1598 г. шляхта, сабраная на перадсоймавым сойміку ў Браславе, даручала сваім паслам дабіцца на сойме прызначэння камісараў для размежавання Браслаўскага павета з Курляндыяй[11]. На вальным сойме 1598 г. браслаўскія паслы скардзіліся на абывацеляў Курляндскага і Земгальскага герцагства, што тыя незаконна захопліваюць шляхецкіх і каралеўскіх падданых, землі, лясы, азёры, а таксама ўчыняюць наезды, забойствы і іншыя „крыўды і шкоды". У выніку, па просьбе паслоў была прынята канстытуцыя аб вызначэнні межаў Браслаўскага павета з Курляндскім герцагствам (арт. 26)[12]. Аднак прызначаныя камісары сваю задачу не выканалі, таму сойм 1601 г. (арт. 122) вызначыў новых камісараў на размежаванне Браслаўшчыны і Курляндыі[13]. Соймік Жамойцкага староства, у сваю чаргу, у студзені 1598 г. уздымаў пытанне аб межах з Прускім герцагствам і той жа Курляндыяй[14]. Магчыма, менавіта жамойцкія паслы

8 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 116.

9 Там жа, s. 205, 240, 245, 246, 278. Шляхта Віленскага павета ў студзені 1598 г. прасіла, каб землі Мазырскага павета не абкладаліся паборамі і падаткамі Кіеўскага ваяводства: Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (далей: AGAD), Archiwum Radziwiłłów (далей: AR), dz. II, nr 370, s. 4.

10 Д. Міхалюк, *Памежныя спрэчкі паміж Каронай і Вялікім Княствам Літоўскім у 16-17 стст. на прыкладзе Мельніцкай і Берасцейскай земляў*, „Гістарычны альманах", 2001, т. 5, с. 23-53; H. Litwin, *Równi do równych: kijowska reprezentacja sejmowa 1569-1648*, Warszawa 2009, s. 14-15.

11 AGAD, AR, dz. II, nr 400, s. 1.

12 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 245.

13 Там жа, s. 293.

14 AGAD, AR, dz. II, nr 243, s. 3.

дабіліся прыняцця на сойме канстытуцыі аб размежаванні Юрбаркскага староства (дзяржавы) і лясніцтва з Прусіяй (арт. 27)[15]. Таксама ў 1601 г. па просьбе жамойцкіх паслоў была прынята яшчэ адна канстытуцыя (арт. 121) аб стварэнні камісіі, якая павінна была заняцца межамі Жамойцкага староства з Курляндскім і Земгальскім герцагствам[16].

Ухваляліся канстытуцыі і аб размежаванні зямель уласна Вялікага Княства Літоўскага. Так, на сойме 1590 г. пастанаўлялася (арт. 5), што межы Полацкага ваяводства неабходна ўдакладніць адпаведным падкаморым[17], г.зн. падкаморым полацкаму, браслаўскаму, ашмянскаму, менскаму, аршанскаму і віцебскаму. А ў 1601 г. соймавая канстытуцыя (арт. 123) даручала падкаморым правесці размежаванне Полацкага ваяводства, Віцебскага і Аршанскага паветаў[18]. Між іншым, спрэчкі аб дакладных межах паміж Полацкім і Віцебскім ваяводствамі цягнуліся на соймах Рэчы Паспалітай ужо даволі доўга. Напрыклад, яшчэ на вальным сойме 1576 г. віцебская шляхта скардзілася на парушэнне юрысдыкцыі іх ваяводства з боку полацкіх абывацеляў. І віцебскія паслы дабіліся ад караля польскага і вялікага князя літоўскага Стэфана Баторыя выдачы адпаведнага ліста (граматы) да тагачаснага полацкага ваяводы Мікалая Дарагастайскага, каб той «не вступовалъ за границы повету Витебского»[19]. Сама скарга, як можна зразумець з тэксту граматы, была складзена на перадсоймавым сойміку Віцебскага павета. Відавочна, што эфектыўнасць падобных камісій была нізкай. Не асабліва дапамагалі і спробы ўвесці грашовыя пакаранні (штрафы ў 100-200 грыўняў) для тых камісараў, якія ігнаравалі свае абавязкі і папросту не прыязджалі на пасяджэнні камісій[20].

Вальны сойм Рэчы Паспалітай надаваў значную ўвагу праблемам *арганізацыі мясцовага судаводства*. Ужо на Люблінскім сойме 1569 г. была ўхвалена канстытуцыя (арт. 82), на аснове якой наступныя соймы прымалі шматлікія пастановы аб забеспячэнні працы земскіх і гродскіх судоў у ваяводствах ды паветах Вялікага Княства Літоўска-

[15] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 245. Праўда, ва ўхвале гаворка вялася ў першую чаргу аб шкодах для каралеўскіх, а не шляхецкіх уладанняў.

[16] Там жа, s. 293.

[17] Там жа, s. 155.

[18] Там жа, s. 294.

[19] *Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссиею: В 5 т.*, т. 3: *1544-1587 гг.*, Санкт-Петербург 1848, с. 199-200. Дарэчы, адным з соймавых паслоў быў Фёдар Храпавіцкі, віцебскі падкаморы, які паводле свайго ўрада павінен быў непасрэдна займацца пытаннямі межаў землеўладанняў.

[20] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 179, 233, 276, 279.

га. Гэтая канстытуцыя даручала старостам у павятовых цэнтрах вызначыць месцы для пабудовы дамоў, у якіх бы засядалі земскія суды і захоўваліся судовыя кнігі. Для яе выканання старостам павінны былі быць высланы спецыяльныя лісты з канцылярыі ВКЛ[21]. На сойме 1578 г. па просьбе паслоў Берасцейскага ваяводства была ўхвалена канстытуцыя (арт. 31), якая ўдакладняла рэалізацыю ўхвалы 1569 г. на практыцы. Згодна з ёй, мясцоваму старасту, кашталяну троцкаму і канцлеру ВКЛ Астафею Валовічу дазвалялася даць шляхце пляц у Берасці для пабудовы дома „на суды земскія і на захаванне кніг". Пры гэтым, канстытуцыя давала берасцейскай шляхце даволі шырокія паўнамоцтвы ў галіне мясцовага самакіравання. Па ўсеагульнай згодзе (выказанай, хутчэй за ўсё, на перадсоймавым сойміку) шляхта згаджалася выдаць спецыяльны падатак — 1 грош літоўскі з валокі на адзін год. Зборшчыкам падатку быў прызначаны, дарэчы, мясцовы земскі суддзя Адам Пацей. Сабраўшы грошы, пaборца павінен быў зрабіць справаздачу перад шляхтай на сесіі земскага суда. Затым мясцовае шляхецтва абрала б сярод сябе адказнага за пабудову дома і перадала яму сабраныя сродкі[22]. Зразумела, што для шляхты гэта было надзвычай актуальнае пытанне. Аднак, магчыма, практычнае выкананне падобных рашэнняў сутыкалася з праблемамі. Менавіта таму, на нашу думку, вальны сойм 1581 г. (арт. 46) яшчэ раз паўтарыў канстытуцыю 1569 г.[23] Пастановы 1569, 1578 і 1581 гг. сталі прававой падставай для пазнейшых соймавых ухвалаў, якія рэгламентавалі ўмовы пабудовы т.зв. „судовых дамоў" у ваяводствах і паветах Вялікага Княства.

На аснове канстытуцый 1578 і 1581 гг. і па просьбе мясцовых паслоў вальны сойм Рэчы Паспалітай 1589 г. дазваляў пабудаваць судовы дом у Пінску (арт. 93)[24]. Соймавая канстытуцыя 1590 г. (арт. 6) зацвердзіла рашэнне шляхты Гарадзенскага павета аб зборы спецыяльнага падатку на пабудову будынка для земскага суда, а да яго ўзвядзення судовыя пасяджэнні павінны былі адбывацца ў памяшканні гарадзенскага замка[25]. Заўважым, што адным з паслоў Пінскага павета

[21] Там жа, t. II, vol. 1, s. 255.

[22] Там жа, s. 412, 429.

[23] Там жа, s. 452. Магчыма, на аснове гэтай канстытуцыі дзесьці ў канцы 1581 — пачатку 1582 г. адбывалася пабудова будынка для земскага суда Жамойцкага староства ў Расейнах: *Собрание древних грамот и актов городов: Вильны, Ковна, Трок, православных монастырей, церквей, по разным предметам: В 2 ч.*, ч. II, Вильно 1843, с. 187-191.

[24] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 116.

[25] Там жа, s. 155.

на сойме 1589 г. быў пінскі земскі падсудак Міхал Дольскі, а паслом Гарадзенскага павета на сойме 1590 г. — мясцовы падкаморы Рыгор Масальскі, які ў свой час займаў пасады гарадзенскага падсудка і суддзі[26]. На нашу думку, менавіта гэтыя асобы, непасрэдна звязаныя з працай земскіх судоў у сваіх паветах, былі галоўнымі ініцыятарамі прыняцця падобных пастаноў. На сойме 1590 г. таксама было прынята рашэнне, „паводле канстытуцыі мінулага сойма", аб узвядзенні судовага дома і мураванні склепа для захоўвання судовых кніг у Браславе (арт. 9)[27]. Вальны сойм 1601 г. (арт. 126) перадаў „па просьбе і супольнай згодзе паслоў (...) на вечныя часы" абывацелям Ковенскага павета мураваную вежу ў ковенскім замку для правядзення пасяджэнняў земскіх судоў, захоўвання судовых кніг і ўтрымання злачынцаў. Ковенская шляхта гатова была правесці рамонт вежы за ўласны кошт[28], г.зн. выплаціць адпаведны падатак. Праўда, далёка не ўсе хацелі выдаткоўваць свае грошы на вырашэнне мясцовых праблем. Так, у інструкцыі, складзенай у студзені 1598 г. на сойміку Віленскага павета, паслам даручалася дабіцца на сойме, каб рамонт судовай ізбы ў Вільні і склепа для захоўвання судовых кніг ажыццяўляўся за кошт каралеўскага скарбу[29]. Па просьбе ваўкавыскай і ўпіцкай шляхты вальны сойм 1601 г. (арт. 127) даручаў старостам вызначыць у Ваўкавыску, Упіце і Панявежы (Упіцкі павет) месцы для пабудовы дамоў, у якіх бы засядалі земскія суды і захоўваліся судовыя кнігі[30]. Гэтая пастанова, безумоўна, была ўхвалена на падставе соймавых канстытуцый 1569 і 1581 гг. Дададзім таксама, што вальны сойм 1589 г. зацвердзіў просьбу паслоў Навагародскага павета адрамантаваць „стары мур у ніжнім навагародскім замку і вежу старую, над студняй ляжачую", і збудаваць там дом для правядзення судовых пасяджэнняў і захоўвання судовых кніг. Аднак асновай для гэтай канстытуцыі (арт. 94) стаў асобны гаспадарскі прывілей, а не ранейшыя ўхвалы соймаў Рэчы Паспалітай[31].

Павятовая шляхта ініцыявала на сойме разгляд і іншых пытанняў, звязаных з мясцовым судаводствам, што добра ілюструе наступны

26 У. Падалінскі, *Прадстаўніцтва Гарадзенскага павета на соймах Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVI ст.*, [у:] *Леў Сапега (1557-1633 гг.) і яго час: зборнік навуковых артыкулаў*, рэдкал.: С. В. Марозава [і інш.], Гродна 2007, с. 35; *Codex diplomaticus Regni Poloniae et Magni Ducatus Lithuaniae*, Vilnae 1758, t. 1, s. 239.

27 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 155.

28 Там жа, s. 294.

29 AGAD, AR, dz. II, nr 370, s. 5.

30 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 294.

31 Там жа, s. 117.

прыклад. Так, соймік Ашмянскага павета ў інструкцыі паслам на вальны сойм Рэчы Паспалітай 1590 г. даручаў разгледзець пытанне аб заснаванні судовага гродскага ўрада не толькі ў Ашмянах, але і ў Мядзелі[32]. У выніку, сойм, згодна з просьбай ашмянскай шляхты, пастанавіў (арт. 8 *O pisarzu oszmiańskim*), што староста Ашмянскага павета будзе мець яшчэ аднаго гродскага пісара ў Мядзелі, які (пісар) павінен запісваць у судовыя кнігі паведамленні возных аб розных злачынствах і выдаваць выпісы пад сваёй і старосты пячаткай[33]. Яшчэ адна канстытуцыя сойма 1590 г. (арт. 7) вызначала парадак правядзення земскіх судоў у Вількамірскім павеце. Справы шляхты, якая пражывала ў паўночнай частцы павета, павінны былі разглядацца ў Анікштах — „такім жа чынам, як у Ашмянах і ў Троках"[34]. Звернем таксама ўвагу, што ўхвала сойма 1601 г. (арт. 125) уводзіла ў Новагародскім павеце іншыя, у адрозненні ад астатніх зямель Вялікага Княства, тэрміны працы мясцовага земскага суда[35]. Прыведзеныя прыклады сведчаць, што вальны сойм Рэчы Паспалітай зацвярджаў значную колькасць выканаўчых і адміністрацыйных рашэнняў з галіны мясцовага судаводства, якія лакальныя шляхецкія супольнасці ВКЛ ініцыявалі і прымалі на павятовых сойміках.

Шмат увагі надавалася ў соймавых ухвалах пытанням арганізацыі *гандлю і шляхоў зносін*. Не будзем забываць, што шляхта актыўна ўдзельнічала ў аптовым гандлі: экспартавала збожжа і прадукцыю дрэваапрацоўкі, прывозіла з-за мяжы зброю, коней і іншыя важныя для сябе тавары. На соймах Рэчы Паспалітай земскія паслы дабіваліся прыняцця рашэнняў, якія датычылі перш за ўсё пабудовы сухапутных дарог, а таксама забеспячэння свабоднай навігацыі па рэках. Так, з ініцыятывы паслоў Ковенскага павета ў 1581 г. была прынятая канстытуцыя *O drogach Ziemie Żmudzkiej* (арт. 49). Паводле яе, у Жамойцкім старостве павінна была быць вызначана дарога, па якой шляхта магла б перавозіць тавары з уласнай гаспадаркі ў Прускае герцагства. Прычым, новыя „нязвыклыя" дарогі да Прусіі, праведзеныя праз пушчы, ліквідаваліся[36]. У канстытуцыі зацвярджалася таксама заснаван-

[32] AGAD, AR, dz. II, nr 242, s. 10. У інструкцыі асобна зазначалася, што павінны захоўвацца правы мясцовага старосты і земскі суд павінен быць у павеце толькі адзін.

[33] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 155.

[34] Там жа.

[35] Там жа, s. 294. Гл. таксама: D.Vilimas, *Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės žemės teismo sistemos formavimasis (1564-1588)*, Vilnius 2006, p. 260, 282. Калі ў іншых паветах ВКЛ земскія суды пачыналі свае сесіі 6 студзеня, на Сёмуху і 29 верасня, то ў Новагародскім павеце — 2 лютага, 25 красавіка і 1 лістапада кожнага года.

[36] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 1, s. 452. Гл. таксама: М. В. Доўнар-Заполь-

не склада „людзям купецкім” у Коўне. Аднак рашэнне гэтае рэалізавана не было, таму вальныя соймы 1598 і 1607 гг., па сутнасці, яшчэ раз паўтаралі канстытуцыю 1581 г.[37] У 1581 г., са спасылкай на рашэнне яшчэ сойма ВКЛ 1568 г. у Гародні, зацвярджалася (арт. 48) вольнае суднаходства па рацэ Нявежыс і забаранялася стрымліваць яго ў Кейданах плацінай[38]. Важнасць гэтага рашэння заключалася ў тым, што р. Нявежыс давала магчымасць мясцовай шляхце і купцам выходзіць у Нёман і, адпаведна, дастаўляць свае тавары ў Каралявец. Дададзім таксама, што Статут ВКЛ 1588 г. (раздзел 1, артыкулы 29, 31) абавязваў шляхту за свой кошт ва ўласных маёнтках забяспечваць належны стан шляхоў зносін (дарог, мастоў і інш.)[39]. Пры гэтым, шляхта часам сама брала на сябе адказнасць за арганізацыю бяспечнай навігацыі па рэках. Напрыклад, на вальным сойме 1589 г. была ўхвалена канстытуцыя (арт. 92), якая дазваляла ў будучым, калі хто захоча, раку Швянтою (Вількамірскі павет) „для паспалітага пажытку (...) ачысціць”[40]. Можна прасачыць, як шляхта сачыла за ўмовамі суднаходства на практыцы. Так, купцы часта разбівалі свае судны на рацэ Стыр, якая працякала праз маёнтак Рэчыца Паўла Дарагастайскага ў Пінскім павеце. Вальны сойм 1598 г. прызначыў камісараў (арт. 34), якія павінны былі ацаніць сітуацыю і прызначыць на рацэ спецыяльнае мыта. Даходы з гэтага мыта ішлі П. Дарагастайскаму і яго нашчадкам, каб яны „вечнымі часамі” ачышчалі Стыр і, такім чынам, забяспечвалі там нармальную навігацыю[41].

У канцы XVI ст. шляхта на розных сойміках і з’ездах даволі часта ўздымала пытанне аб правядзенні кірмашоў, вольных ад усякіх мытных выплатаў. У выніку, вальны сойм Рэчы Паспалітай 1598 г. ухваліў канстытуцыю (арт. 35), паводле якой у буйнейшых гарадах Беларусі і Літвы, у адпаведнасці з іх прывілеямі, засноўваліся кірмашы, вольныя ад выплаты мыта. Гэтымі гарадамі былі Трокі, Гародня, Коўна, Навагародак, Віцебск, Берасце і Менск[42]. А на сойме 1601 г. была прынята яшчэ адна канстытуцыя (арт. 131), якая прадугледжвала пра-

скі, *Дзяржаўная гаспадарка Вялікага княства Літоўскага пры Ягелонах*, падрыхт. да друку: А. І. Груша, Р. А. Аляхновіч, Мінск 2009, с. 439.

37 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 1, s. 452; t. II, vol. 2, s. 245, 362.

38 *Русская историческая библиотека: В 39 т.*, т. 30: *Литовская Метрика. Отдел первый-второй*, ч. 3: *Книги публичных дел*, ред. И. И. Лаппо, Юрьев 1914, стб. 474-475; *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 1, s. 452.

39 *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі*, рэдкал.: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш., Мінск 1989, с. 97-99, 100.

40 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 116.

41 Там жа, s. 247.

42 Там жа.

вядзенне штогод у Менску двух вольных ад усякага мыта двухтыднёвых кірмашоў[43]. Падкрэслім, што соймавыя ўхвалы 1598 і 1601 гг. паўсталі менавіта з ініцыятывы шырокіх колаў павятовай шляхты Вялікага Княства Літоўскага[44].

Вялікакняская шляхта імкнулася на сойме Рэчы Паспалітай зацвердзіць рашэнні, якія б дазволілі на павятовым узроўні вырашаць некаторыя справы з галіны *фінансавай палітыкі* (напрыклад, прызначэнне зборшчыкаў пабораў, кантроль за зборам агульнадзяржаўных і мясцовых падаткаў). Так, на сойме 1589 г. у кожным ваяводстве ВКЛ прызначаліся шафары — адказныя за паступленне і размеркаванне ўхваленых падаткаў. Пры гэтым, справаздачу аб зборы падаткаў паборцы і шафары павінны былі зрабіць перад шляхтай менавіта на павятовых сойміках напярэдадні наступнага сойма[45]. Праўда, па нейкіх прычынах шляхта на сойміках, скліканых перад соймам 1590 г., праігнаравала падобныя справаздачы (так адбылося ў Полацкім і Менскім ваяводствах)[46]. І ў далейшым ад падобнай практыкі прызначэння шафараў адмовіліся. Трэба адзначыць, што з канца 1590-х гг. абранне паборцаў у рэгіёнах Рэчы Паспалітай усё часцей стала пераносіцца на паслясоймавыя, рэляцыйныя соймікі[47]. Канстытуцыя сойма 1601 г. (арт. 130) вызначала, што на рэляцыйных сойміках павінна была адбывацца і справаздача тых паборцаў, якія збіралі падатак на забеспячэнне („на страву”) мясцовых соймавых паслоў[48]. Дарэчы, пытанне аплаты паслам з рэгіёнаў Вялікага Княства іх дарогі і побыту на сойме неаднаразова ўздымалася шляхтай на ўсіх узроўнях парламенцкай сістэмы Рэчы Паспалітай яшчэ з 1569 г. Паводле Статута 1588 г. (раздз. 3, арт. 7), у паветах і ваяводствах ВКЛ павінен быў збірацца спецыяльны падатак „на страву” для земскіх паслоў[49]. У сваю чаргу, соймавыя канстытуцыі 1598 г. (арт. 30) і 1601 г. (арт. 130) вызначалі парадак пакарання (штраф у памеры 10 коп літоўскіх грошай) тых шляхцічаў, хто гэты падатак не выплаціў, а таксама паборцаў, якія не аддалі грошы

43 Там жа, s. 295.

44 У. Падалінскі, *Гандлёвая праблематыка ў працы прадстаўнічых структур улады Вялікага Княства Літоўскага (апошняя трэць XVI ст.)*, [у:] *Да сваёй гісторыі: Сярэднявечча і Ранні Новы час: зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных памяці Паўла Лойкі*, навук. рэд. В. А. Варонін, Смаленск 2013, с. 64.

45 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 133-134, 135-136.

46 *Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией: В 39 т.*, т. 36: *Акты минского гродского суда (1582 и 1590)*, Вильно 1912, с. 382-383, 411, 415-416.

47 Гл. напр.: E. Opaliński, *Sejm srebrnego wieku (1587-1652). Między głosowaniem większościowym a liberum veto*, Warszawa 2001, s. 103-104.

48 *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 295.

49 *Статут Вялікага княства Літоўскага*, с. 116-117.

паслам[50]. Заўважым, што ад выплаты «пенезей стравныхъ» вызваляліся гаспадарскія і царкоўныя маёнткі, а таксама ўладанні сенатараў, якія павінны былі ехаць на сойм за ўласныя сродкі.

Вальныя соймы Рэчы Паспалітай зацвярджалі падатковыя рашэнні павятовай шляхты, прынятыя ў надзвычайных сітуацыях, асабліва, у час войнаў і сацыяльных канфліктаў. Так, у сувязі з тым, што Менскі, Навагародскі і Упіцкі паветы ў пачатку 1596 г. ужо выплачвалі пабор на аплату ўласных атрадаў для барацьбы з казацкім бунтам Севярына Налівайкі, шляхта гэтых паветаў вызвалялася ад усякіх падаткаў, ухваленых на сойме 1596 г.[51] Падобная сітуацыя склалася і ў 1601 г. з Упіцкім паветам, шляхта якога яшчэ да сойма выдала пабор для найму жаўнераў на вайну са Швецыяй, што распачалася ў 1600 г.[52] Як ужо адзначалася вышэй, соймавымі канстытуцыямі таксама зацвярджаліся падаткі, ухваленыя павятовымі соймікамі на мясцовыя патрэбы, у прыватнасці на пабудову памяшканняў для земскіх судоў. У некаторых выпадках жаданні шляхты ў галіне фінансаў ішлі даволі далёка. Лідская шляхта на сойміку ў снежні 1596 г. даручала сваім паслам дабіцца на сойме прыняцця канстытуцыі, каб па прыкладзе Кароны ў кожным павеце Вялікага Княства былі заснаваны свае павятовыя скарбы. Прычым, у павятовы скарб павінен быў ісці падатак, як са свецкіх маёнткаў, у тым ліку сенатарскіх, так і духоўных[53]. Аднак ідэя гэтая не была рэалізавана. Вальны сойм забяспечваў лакальным шляхецкім карпарацыям даволі шырокія паўнамоцтвы ў прызначэнні падаткаў для вырашэння розных мясцовых спраў, у тым ліку, абароны і судаводства, а таксама ў кантролі за зборам агульнадзяржаўных падаткаў. Разам з тым, казаць пра дэцэнтралізацыю фінансавай сістэмы ВКЛ ці ўсёй Рэчы Паспалітай у дадзены перыяд не прыходзіцца.

[50] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 246, 295. Гл. таксама: A. Rachuba, *Diety poselskie w Wielkim Księstwie Litewskim XVI-XVII wieku na przykładzie sejmiku żmudzkiego*, [w:] *Z dziejów kultury prawnej. Studia ofiarowane prof. J. Bardachowi w 90-lecie urodzin*, Warszawa 2004, s. 599-606; A. Radaman, *Uchwała sejmikowa powiatu nowogródzkiego z 1568 r. a system finansowania posłów sejmowych Wielkiego Księstwa Litewskiego*, [w:] *Litwa w epoce Wazów. Prace ofiarowane H. Wisnerowi w siedemdziesiątą rocznicę urodzin*, Warszawa 2006, s. 145-156.

[51] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 230-231. Гл. таксама: H. Lulewicz, *Nieformalne zjazdy senatorsko-szlacheckie w Wielkim Księstwie Litewskim na przykładzie wydarzeń z lat 1595-1596 (inwazja S. Nalewajki)*, [у:] *Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV-XVIII стагоддзях: Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі*, навук. рэд. С. Ф. Сокал, А. М. Янушкевіч, Мінск 2008, с. 210-216.

[52] *Volumina Constitutionum*, t. II, vol. 2, s. 304.

[53] *Dyaryusze sejmowe roku 1597*, s. 414.

Шляхта выносіла на разгляд сойма і іншыя праблемы, звязаныя з рознымі аспектамі мясцовага самакіравання. Некаторыя з іх вырашаліся, некаторыя — не. Напрыклад, так і не была аформлена ў выглядзе соймавай канстытуцыі просьба, прадстаўленая каралю і вялікаму князю Жыгімонту Вазе на вальным сойме 1597 г., аб тым, каб шляхта Полацкага ваяводства, згодна са старадаўнімі прывілеямі, сама абірала свайго ваяводу[54]. Адным з ініцыятараў просьбы з'яўляўся пасол Полацкага ваяводства Якуб Сямашка, а гэта дазваляе адназначна казаць, што пастулат аб выбарах ваяводы быў сфармуляваны на перадсоймавым сойміку ў Полацку. У любым выпадку, актыўная пазіцыя палітычнага народа ВКЛ[55] прывяла да таго, што ў 1597 г. новы полацкі ваявода Андрэй Сапега быў менавіта абраны полацкай шляхтай, а ўжо пасля гэтага прызначаны на свой урад Жыгімонтам Вазам[56].

Такім чынам, праблематыка мясцовага самакіравання займала трывалае месца ў працы вальнага сойма Рэчы Паспалітай канца XVI — пачатку XVII ст. Павятовая шляхта актыўна ініцыявала разгляд на сойме шырокага кола мясцовых спраў і дабівалася зацвярджэння адпаведных канстытуцый, што, дарэчы, сведчыла аб тым значэнні, якое надавалася вышэйшаму прадстаўнічаму інстытуту ўлады ў грамадскай свядомасці. У сваю чаргу, соймавыя ўхвалы стваралі спрыяльныя ўмовы для аўтаномнага функцыянавання лакальных шляхецкіх супольнасцей. Цэнтрамі вырашэння мясцовых праблем станавіліся павятовыя соймікі, прычым іх функцыі і паўнамоцтвы ў галіне самакіравання паступова пашыраліся. Разам з тым, рэалізацыя рашэнняў сойма на практыцы не заўсёды была эфектыўнай. Падкрэслім таксама, што соймавыя пастановы, якія датычылі лакальных спраў, даюць багаты матэрыял для вывучэння прававых асноў і практыкі жыцця павятовых карпарацый шляхты Вялікага Княства Літоўскага, іх палітычнай і прававой культуры, ступені актыўнасці рэгіянальных эліт у вырашэнні мясцовых праблем.

[54] Там жа, s. 92, 422.

[55] У канцы XVI ст. шляхта ВКЛ неаднаразова ўздымала пытанне аб выбарах полацкага і віцебскага ваяводаў: У. Падалінскі, *Соймавае прадстаўніцтва Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. Спроба аналізу*, [у:] *Полацкі музейны штогоднік (зборнік навуковых артыкулаў за 2010 г.)*, уклад. Т. А. Джумантаева, А. У. Шумовіч, Т. Р. Смірнова, Полацк 2011, с. 180.

[56] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску, ф. КМФ-18, воп. 1, адз. зах. 286, арк. 120-121, 123 адв. — 124 адв. Інфармацыя А. Радамана.

**Summary**
**The Problems of Local Government in the Resolutions of the General Diet (*Sejm*) of the Commonwealth in 1569–1605.**

The article analyses the role of the General Diet of the Commonwealth in the regulation of nobles' self-government in the Grand Duchy of Lithuania in 1569–1605. A conclusion is made that the consideration of the local problems had a firm place in the work of the Diet at that time. The General Diet often approved decisions, related primarily to the delimitation between the various regions (districts), the organization of local legal proceedings, providing the trade and means of communication, the collection of local taxes. The district noble communities were the main initiator of such decisions. It must be stressed that the Diet resolutions gave broad powers in the field of self-government to the regional councils (*sejmiks*) of the GDL.

**Streszczenie**
**Problematyka samorządu terytorialnego w decyzjach sejmu walnego Rzeczypospolitej w latach 1569-1605**

Artykuł traktuje o roli sejmu walnego Rzeczypospolitej w regulowaniu kwestii samorządności szlacheckiej w Wielkim Księstwie Litewskim w latach 1569-1605. Autor artykułu dochodzi do wniosku, że w omawianym okresie problemy szczebla lokalnego zajmowały trwałe miejsce w pracy sejmu. Na sejmie przyjmowano uchwały w sprawie rozgraniczenia poszczególnych regionów, organizacji sądownictwa lokalnego, zabezpieczenia handlu i szlaków komunikacyjnych, zbierania podatków lokalnych. Głównym inicjatorem przyjmowania podobnych aktów prawnych była szlachta powiatowa. Należy podkreślić, że konstytucje sejmowe dawały sejmikom powiatowym WKL szerokie pełnomocnictwa w dziedzinie samorządności.

**Uładzimir Padalinski** – docent w Katedrze Najdawniejszej i Średniowiecznej Historii Białorusi Wydziału Historycznego Białoruskiego Uniwersytetu Państwowego w Mińsku, kandydat nauk historycznych. Zainteresowania badawcze: parlamentaryzm, instytucje przedstawicielskie władzy oraz elity polityczne Wielkiego Księstwa Litewskiego i Rzeczypospolitej w drugiej połowie XVI – pierwszej połowie XVII w.

**Adrian Selin**
(Saint-Petersburg)

## Lithuanian Borderland in 1609: View from Smolensk Chancellery*

### Introduction

Early Modern Moscow-Lithuanian Borderland is well studied. Its trace is the best investigated one among the borderlines of Muscovy. The case of the Russian-Lithuanian borderline was the basis of important theoretical reconstruction (by M. Krom and also A. Frolov[1]) in the sphere of the appearance of borders as signs of Early Modern states.

### „Smolensk archive" and Sapiehas

New data for studying the Moscow-Lithuanian border is provided by the acts from the Smolensk Chancellery 1609-1611. The „Smolensk archive" is one of the „divided archives" of early 17th century (like also „Novgorod archive" and „Tikhvin archive" — term by Elisabeth Löfstrand). As in the archive of Novgorod Chancellery 1611-1616 the Smolensk archive collected the random samples of acts; the acts concerning previously unknown spheres of Muscovite day-to-day life were not bad preserved.

Traditionally the story of the Smolensk documents is considered as follows. They were the pure archive of Smolensk City Chancellery from the period of the siege 1609-1611 and some previous months. After Sigismund III took Smolensk it had become Polish military salvage and fall to Bereza estate archives. During Polish-Lithuanian „Potop" in mid-17th century Swedes had conquered it and the archive was taken to Sweden as also a trophy. In 1830s significant part of the archive was thieved by S. V. Solovjev and moved to Russia; then Solovjov sold some (all?) documents to Emperor's Archaeographic Commission in St. Petersburg. In 1840s some acts were

* This article is an output of a research project „Territorialization of Politics of Difference: Internal and External borders in Russian History" implemented as part of the Basic Research Program at the National Research University Higher School of Economics (HSE).

[1] M. M. Krom, *Changing Allegiances in the Age of State Building. The border between the Great Duchy of Lithuanea and the Great Principality of Moscow*, [in:] *Imagined. Negotiated. Remembered. Constructing European Borders and Borderlands*, Münster 2012, p. 15-30; А. А. Фролов, *Феномен «чернокунства» новгородско-литовских соглашений XV в.*, „Древняя Русь. Вопросы медиевистики", 2013, № 3 (53), с. 143-144.

published by the Archaeographic Commission, some lost unpublished. Now they are distributed to two archive collections in St. Petersburg Institute for History: Collection 124 (S. V. Solovjov; the acts published in 1842 are also kept there) and Collection 174 (Acts before 1613). The other part of Smolensk Chancellery in 17th century fall into Sko-Klöster Collection of Brahe Comtes, then in 1893 the Brahe (or Sko-Klöster) Collection became a part of State Archives (Svenska Riksarkiv) in Stockholm.

However the fate of the „Smolensk archive" is not so easy. Among the acts distributed to three archive collections (one in Stockholm and two in St. Petersburg) one could found not only acts from inside Smolensk before and during the siege of 1609-1611. Significant part of the documents were the petitions of Moscow State Court members and also provincial gentry (mostly from Smolensk and other West Russian towns) to Czar Wladislaw Zhigimontowich, also letters by Vasilij Shujskiy's adherents sieged in Troitsa to Moscow; letters by noble Muscovites to Chancellor Lev Sapieha with petitions for intercession. Many of the documents originated not from Smolensk but also from King Sigismund's field camp near it. Probably the story of the Smolensk archive was more complicated.

In June 1611 the archive of the City Chancellery was taken not by „Polish-Lithuanian officials" but personally by the Great Chancellor of Lithuania Lev Sapieha. He also held the documents been accumulated during the siege of the City in 1609-1611m especially concerning the relations with different Muscovite civil acts. Then, according to Igor' Tyumentsev, the archives of Lev Sapieha was kept for a while together with the field archives of his twice removed brother Jan Petr Sapieha, False Dmitriy II's hetman; a kind of „diffusion" between the two archives happened[2]. Bereza archive taken by Swedes in Lithuania in mid-17th which is known as „Smolensk archive" is mostly the remains of lost Lev Sapieha's archive with some acts from field archives of his twice removed brother. Letters from Troitsa to Moscow (including two letters of Xenia (Ol'ga) Godunova), 1609, belong to hetman Sapieha's archives, of course (Tyumentsev wrote about a number of postings taken by Sapieha's soldiers[3]). These documents (from hetman's field archives) had never been in Smolensk (they had the chance only after city conquering in June 1611, on the way to Lithuania).

In 1910 the documents from „Smolensk archive" were sent to Russia, to Jurij Gautier for publishing; Gautier started to study the Smolensk acts in

[2] *Русский архив гетмана Яна Сапеги 1608-1611 годов: опыт реконструкции и источниковедческого анализа*, Волгоград 2005, с. 8, 35, 36; S. Mirsky, N. Tupikova, N. Tyumentseva, *Новые документы архива Я. П. Сапеги*, „Canadian-American Slavic Studies", 2014, Vol. 48, Issue 1-2, p. 179-211.

[3] *Русский архив...*, с. 44.

1897, in Sweden. The publication of Smolensk acts held in connection with the Jubilee of Romanov's Dinasty in 1913 could not called average: Gautier was in a hurry, did not make good titles and missed sometimes words, sometimes parts of the acts. The publication of some Smolensk documents provided 70 years before Gautier, in 1840s was done much better. Now the documents of Smolensk archive in Stockholm are preserved in the same order they were sent to Gautier in 1910, in boxes, mixed with each other. In 2014 the project of digital description of Smolensk collection started, with the support of Rikbanken Jubileumfundet. The idea is also to reconstruct its volume including the losses of 19th century.

The documents of „Smolensk Chancellery 1609-1611" were used by historians since its first publication in 1842 and especially after Gautier's publication in 1912. Gautier also started to study the problem of borderline conflicts in Spring-Summer 1609. These conflicts anticipated the king's direct invasion to Moscow State in late August from Orsha). Gautier had also revealed a group of acts from Smolensk Chancellery connected with that conflicts and linked that group with acts been held in Archaeographic Commission collections.

The last important work where the problem of Smolensk-Lithuanian borderland was considered is the book by S. Aleksandrov about the Smolensk siege 1609-1611. The researcher showed how brothers Gosiewskis had conquered parts of Porechje and Schuchje Court districts, plotting on the texts of Court peasants' petitions and reports by outposts' heads[4].

### Smolensk and Novgorod

The data from Smolensk archive is better to be studied in comparative prospective. Really, the data used by Aleksandrov is not unique; it is possible to place them in the context of similar documents of Moscow Time of Troubles. The closest analogue is the archives of Novgorod the Great, 1611-1617[5]. The both archives, from Novgorod and from Smolensk were taken entirely, without preliminary classification of acts and books. In Natalja Rybalko's paper the both City Chancelleries of Smolensk and Novgorod were considered as the two largest Chancelleries of Muscovite State[6]. I suppose such a characteristic is more connected with the extent of preservation of

4 С. В. Александров, *Смоленская осада 1609-1611 гг.*, Москва 2011.

5 E. Löfstrand, L. Nordquist, *Accounts of the Occupied City. Catalogue of the Novgorod Occupation Archives 1611-1617*, Serie 1, Stockholm 2005; Serie 2, Stockholm 2009.

6 Н. В. Рыбалко, *Приказная служба дьяков и подьячих в городах периода царствования Василия Шуйского*, [in:] *Государство и общество в России XV — начала XX века. Сборник статей памяти Н. Е. Носова*, Санкт-Петербург 2007, с. 277-307.

the archives (and the extent of its studying). But there could be found other two factors important to combine the two archives. The borderline situation of both cities determined similar specific traits in local gentry services (outpost, other borderline servings). In this direction the data from Smolensk looks more informative than the same from Novgorod.

The comparison of Smolensk governor Shein and Novgorod governor Prince Odoevskij is often in historical (including public historical) literature. The sum of known documents does not allow contrasting the two heroes of the Time of Troubles. They are too different and belong to different generations: Shein of 30 years old, typical product of adventurous civil war period who seized upon power in sieged Smolensk; and old boyar Prince Odoevskij who played the second roles in Novgorod government in 1611-1616 (died in 1616 in Novgorod still occupied by Swedes). No one could find in their fates the contrast of heroism and conformism. The date of Prince Odoevskij is much more the fate of a person whose carrier started in the age of Ivan the Terrible; Shein was a climber typical for the Time of Troubles. Musketeer Semen Igumnov in his petition in December 1610 addressed to „Muscovite State boyar and ruler Sovereign Mikhailo Borisovich (Shein)"[7] (in the same time in Novgorod a petition could be addressed to „Czar Wladislaw Zhigimontovich"). That was the unique case; in most petition the Smolensk inhabitants after August 1610 usually addressed to „the Boyars of Muscovite state".

The comparative analysis of the documents from Smolensk and Novgorod also shows sustainability of the border guarding system. The system of border-guarding in Smolensk-Velizh border gas quite close analogies in the system of border-guarding on Swedish-Russian borderline after delimitation in 1618 (and especially — after contr-epidemic measures in 1629-1630). The documents on the Smolensk border of 1609 are the earliest data on the border-guarding in Muscovite tradition (in forest zone, not in steppe).

### Borderline attacks during the Time of Troubles

Documents connected with the borderline control organizing in early stage of the Time of Troubles are of most interest for studying the issue of Russian-Lithuanian borderline. The same could be mentioned concerning the documents of the time of the king's army step up to Smolensk and first weeks of the siege. The documents are mostly the correspondence of Smolensk governors with outpost officers concerning the problems of en-

[7] Явка стрельца Семена Игуменова приказа В. Г. Чихачева на стрельца того же приказа Никиту Иванова сына Сапожника, похваляющегося на него разными лихими делами за сказанную правду. 1610. 25.12, Архив Санкт-Петербургского института истории, кол. 174, оп. 2, д. 496.

forcing the border and including „Lithuanian events". Numerous peasants' petitions from the borderline districts are also well preserved. They include information on the attacks of brothers Gosiewskis and brothers Khripunovs (former Muscovite subjects) and then — about the gradual conquering of the Court districts by Lithuanians. The syncretism of the reports could be found when the Smolensk inhabitants after crossing the Lithuanian border made complains against the Lithuanian authorities who had accused them to be spies and in the same time told the Muscovite authorities about the moving of Lithuanian troops.

The struggle for North-Western parts of Smolensk area started immediately after the Jam-Zapolje armistice. After stopping the war in 1582 the argue for Velizh district started; because the points of the armistice did not regulate its borders. Moscow did not agree to transfer Velizh district to Lithuania because some parts of it belonged previously to Toropets. Shelamanova showed that Moscow did not succeed to keep these parts because of very active position of Vitebsk elder Stanislaw Pac, who conquered lands in Smolensk, Toropets and Velijie Luki districts after 1583. A. Filjushkin also wrote about non-stopped border war in this territory. According to him, on September 17, 1583 Boyar Council together with czar Ivan IV discussed „attacks in Luki, Toropets and Nevel'"; then 2000 servicemen headed be Prince Eletskij were sent to guard the border. Czar at that time was in great depression, thus only generals had argued with each other in that council[8]. In 1583 Lithuanians destroyed number of villages and parish centers in the area and the village Ogryzkovo was the object of Lithuanians' attacks also in 1584 and 1585, then it was connected to Velizh district[9].

Ju. Gautier wrote in 1912 about the vanguard battles on the Velizh border in 1609 according to the order by governor Shein to outpost officer Bashmakov to stop robbery in Schuchje district. The activities of Lithuanians from Velizh did not stop all the summer 1609. On July 21 they tried to organize the road cleaning and bridge making in Schuchje district in order to cut the rye in the district they named belonging to Velizh area. In the same time 53 peasants of Elshovo ten had sworn to Simon Gosiewski. Outpost officers wrote to Smolensk that the local recruits who had been sent to the border were deserting; they asked governor for „true military powers" to defend the border. Officer Zhidovinov complained that on May 31 he had no chance to go from Porechje district to Schuchje district because of alarm

8 А. И. Филюшкин, *Изобретая первую войну России и Европы. Балтийские войны второй половины XVI в. глазами современников и потомков*, Санкт-Петербург 2013, с. 170.

9 Н. Б. Шеламанова, *К вопросу об изучении источников по истории внешней политики России в конце XVI в.*, Москва 1962.

news. In the same time the musketeers and peasants from Porechje district refused to help him and sabotage his orders. In Schuchje district there was a local conflict: some of peasants followed their oath to Czar Vasilij Shujskiy, the others (headed by Lesunovs family) had sworn to Lithuania and received help from Velizh. On August 2 officer Bashmakov reported that local peasants who had already deserted to Lithuania started propaganda in Schuchje district for swearing Velizh Lord. At that point Bashmakov had no chance to stay against the upcoming Gosiewskis' invasion: he was hardly alone, the only gentleman with him, Boris Leskov was blind. Gautier wrote that Gosiewskis had continuously attacked these borderline districts to the extent that King Sigismund appeared from Orsha[10].

The conflicts on the Velizh border started in March 1609 were not the immediate reaction to the alliance between Muscovite State and Sweden. It were described by the sources as a set of borderline attacks typical for the borderland in 15-17th cc. One could found mutual calling each other traitors by court peasants, swearing to „Velizh Lords" made the peasants firstly traitors, then — „Lithuanians". Not only Gosiewskis started the attacks in spring 1609 but also former Muscovite subjects brothers Khripunovs.

The information on local geography of borderline in the documents of Smolensk archive adds a lot about the concrete infrastructure in this part of Smolensk area. In one petition Porechje peasants told the authorities that they had received news about how Aleksander Gosiewski plan to attack them: he „send his troops along three roads: through Schuchje district, directly throufg the wood and along the third road, through Surozh in boats (that means they would come along the Dvina river).

New political concepts of the Time of Troubles (treason, deserters) appeared in the lexica of acts in both the Chancelleries. Those concepts are very characteristic for the civil war and help to find the interpretation of locals as strangers: it appeared in bureaucratic discourse of acts but also had political and social senses. Different cases of usage provide different meanings. In the case of Novgorod documents the concept of treason appeared in the logic of struggle for estates; in Smolensk case — mostly in the context of struggle with Velizh neighbors for villages in Porechje and Schuchje districts. When parts of those districts were forced to swear to Lithuania by Simon Gosiewski the peasants who preserved to be Moscow subjects had complained that some of their former comrades had become traitors, followed the Lithuanians' orders and paved the roads from Velizh

[10] Ю. В. Готье, *Предисловие*, [in:] *Смутное время Московского государства*, вып. 6: *Памятники обороны Смоленска 1609-1611 гг.*, под редакцией и с предисловием Ю. В. Готье, Москва 1912, с. IX-X.

ад сітуацыі ва ўсім Княстве. У Браслаўскім павеце канфлікт паміж прадстаўнікамі розных магнацкіх груповак дасягнуў свайго апагею. У Княстве тым часам удалося прыйсці да пэўнага прымірэння паміж Фаміліяй і Радзівіламі. На перамовах у Варшаве было вырашана, што Андрэй Абрамовіч вернецца на сваю пасаду, але амаль адразу мае адмовіцца ад яе. За гэта ён мае атрымаць першы вызваліўшыся сенатарскі ўрад у ВКЛ, якім стала брэсцкая кашталянія. Аднак і Фамілія, і Радзівілы актыўна рыхтаваліся да выбараў на Трыбунал ВКЛ 1757 г., каб ён знаходзіўся пад кантролем іх прыхільнікаў. Стараўшыся над прымірэннем з Радзівіламі Міхал Антоні Сапега ў пачатку 1757 г. прыехаў на перамовы ў Нясвіж. Перамовы з Міхалам Казімірам Радзівілам скончыліся дэкларацыямі аб прымірэнні бакоў. Менавіта тут у Нясвіжы Міхал Антоні Сапега прыняў рашэнне, што лепей будзе, калі браслаўскі грамнічны соймік 1757 г. скончыцца выбарам дэпутатаў. Лепшымі кандыдатамі ў дэпутатаў лічыў браслаўскага мечніка Цыпрыяна Мірскага і браслаўскага абознага Станіслава Клота[38]. Іншы лідар Фаміліі канцлер ВКЛ Міхал Чартарыйскі найбольш баяўся замяшальніцтваў на віленскім і браслаўскім грамнічных сойміках[39].

Судовая справа аб разводзе Яна Цеханавецкага і забойстве Ксаверыя Цеханавецкага не пакідала шанцаў Цеханавецкім і Струтынскім застацца ў баку ад выбараў дэпутатаў на грамнічных сойміках 1757 г. Дапамагалі Цеханавецкім іх саюзнікі Ваўжэцкія. Існавалі чуткі, што адзін з іх аршанскі падстароста Аляксандр Ваўжэцкі меркаваў быць абраны паслом на гарадзенскім ці лідскім сойміку. На гарадзенскім перашкодзіць яму праз сваіх прыхільнікаў абяцаў Юзаф Струтынскі. Адначасова, Струтынскі прасіў прыхільнікаў Фаміліі перашкодзіць стаць дэпутатам Ваўжэцкаму ў Лідзе[40]. Праўда, сам Струтынскі баяўся за сваё жыццё і ўвогуле вырашыў не прысутнічаць на браслаўскім сойміку. Праўда гэта не супакоіла сітуацыю на самім браслаўскім сойміку, які зноў прайшоў у барацьбе паміж прыхільнікамі Радзівілаў Цеханавецкімі і прыхільнікамі Фаміліі на чале з Рудамінамі і Мірскімі. На каралеўскі двор была даслана інфармацыя аб дэпутатах, якія былі абраны на сойміках 1757 г. Сярод іншага сцвярджалася, што ў Браславе былі абраны дэпутатамі на адным сойміку Мірскі і Шаўман, а на другім сойміку — Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі і Пётр Мірскі.

38 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 24, M. A. Sapieha do M. Łopacińskiego, 10 I 1757, Nieśwież, p. 163-163v.

39 BN, Biblioteka Ordynacji Zamojskiej (далей: BOZ) 939, M. Czartoryski do M. A. Sapiehy, 23 I 1757, Wołczyn, k. 25v.

40 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 25, J. Strutyński do M. Łopacińskiego, 16 IX 1756, Wilno, p. 61-61v.

Гэтая інфармацыя пацвярджаецца і іншымі крыніцамі: карэспандэнцыяй і канфедэрацкім дэкрэтам 1764 года[41]. Праціўнікі Цеханавецкіх сцвярджалі, што тыя „zwyczajnym sposobem” прыбылі з вялікай колькасцю ўзброеных людзей, якія павыганялі прыхільнікаў Мірскіх і Рудамінаў. Больш таго, пасеклі ехаўшых на соймік браслаўскага лоўчыца Яна Жабу і браслаўскага гараднічыца Лявона Мірскага. Размясцілі сваіх жаўнераў у Браславе і нават паставілі дзевяць гарматаў. Размясціўшыхся раней у Браславе Мірскіх і Рудамінаў выгналі. Тады праціўнікі Цеханавецкіх былі вымушаны ўцякаць і сабраліся на свой соймік каля Браслава ў манастыры. Тут пасля пачатку пасяджэнняў, адкрытых вышэйшымураднікам браслаўскім падстаростам Мікалаем Рудамінам, дырэктарам абралі браслаўскага лоўчага Антонія Жабу. Пасля былі абраны дэпутаты — браслаўскі земскі сурагатар Цыпрыян Мірскі і харужы ЯКМ Шаўман. Прыхільнікі Цеханавецкіх на сваім сойміку ў Браславе дэпутатамі абралі аршанскага падстаросту Аляксандра Ваўжэцкага і Пятра Мірскага. Цікава, што Ваўжэцкі 7 красавіка 1757 г. прыехаў да Чартарыйскага ў Воўчын дамаўляцца аб прыбранні перашкод для свайго дэпутацтва. Міхал Чартарыйскі лічыў, што з двух канкурэнтных браслаўскіх соймікаў трэба было дапусціць дэпутатаў па адным з кожнага (Цыпрыяна Мірскага і Аляксандра Ваўжэцкага), але ўжо пасля выбараў на трыбунальскія ўрады, каб Ваўжэцкі не мог прэтэндаваць на іх. Усё пайшло, аднак, іншым шляхам, чым меркаваў Міхал Чартарыйскі. Згодна дамовы пры пасрэдніцтве Пацеяў на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ было вырашана, што дэпутатамі будуць прызнаны прыхільнікі Цеханавецкіх. Больш таго, браслаўскі падстароста Мікалай Рудаміна адмаўляецца на карысць аршанскага падстаросты Аляксандра Ваўжэцкага ад канкурэнцыі аб урад браслаўскага стольніка і судовая справа аб гэты ўрад не будзе разглядацца ў асэсарскім судзе. За гэта Цеханавецкія мелі адмовіцца ад судовага пераследу Рудамінаў і Мірскіх у справе з Юзафам Струтынскім аб забойстве на браслаўскім пасольскім сойміку 1756 г. Ксаверыя Цеханавецкага. Аднак, Цеханавецкія сарвалі дамову і ўжо на Трыбунале ВКЛ 1757 г. распачалі разгляд гэтай справы супраць Рудамінаў, Мірскіх і гегабродскага старосты Яна Плятэра[42].

[41] Biblioteka Jagiellońska (далей: BJ), Akcesja 24/61, b.p.; LVIA, SA 144, p. 91v-92; AGAD, AR, dz. V, sygn. 17023, Aleksander Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 13 II 1757, Wilno, k. 24-25; BN, BOZ 939, M. Czartoryski do M. A. Sapiehy, 7 IV 1757, Wołczyn, k. 43-43v; W. Konopczyński, *Polska w dobie wojny siedmioletniej: 1755-1758*, t. 1, Kraków — Warszawa 1909, przypisy, s. 410.

[42] H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 219-220; LVIA, SA 144, k.110-113; LVVA, F. 712, b. 103, p. 9-9v; LVIA, SA 511, p. 1083-1083v.

Аўгуст III патрабаваў, каб рэасумпцыя Трыбунала ВКЛ адбылася спакойна[43]. Кандыдатамі на пасаду трыбунальскага маршалка аб'яўлялі сябе прыхільнік Фаміліі лідскі дэпутат і лідскі падкаморы Юры Іодка і прыхільнік Радзівілаў браслаўскі дэпутат, браслаўскі стольнік і аршанскі падстароста Аляксандр Ваўжэцкі[44]. Праўда, унутры групоўкі Радзівілаў было прынята рашэнне для большай знявагі Фаміліі зрабіць маршалкам Трыбунала слугу Антонія Паца (няўдалага канкурэнта на трыбунальскае маршалкоўства з папярэдняга 1756 г.) Багуслава Ясінскага. Ваўжэцкі меў саступіць. У выніку прыхільнікі Радзівілаў атрымалі большасць сярод трыбунальскіх суддзяў і Ясінскі быў абраны маршалкам Трыбунала ВКЛ 1757 г.

Пасля выбараў на Трыбунал ВКЛ 1757 г. у ВКЛ адбываецца пэўнае прымірэнне паміж Радзівіламі і Чартарыйскімі. Былі зроблены спробы ўзгадніць выбары і на грамнічным сойміку ў Браславе. Ад Фаміліі кандыдатам на выбар дэпутатам быў прапанаваны Клот. Ян Дамінік Лапацінскі нават атрымаў згоду на яго кандыдатуру ад брэсцкага кашталяна Андрэя Абрамовіча, які напісаў аб гэтым да Яна Цеханавецкага. Праблемай для Фаміліі было тое, што іх мясцовыя прыхільнікі браслаўскі падстароста Мікалай Рудаміна, Мірскія і іх прыхільнікі „na sejmiku bydź nie chcą". Акрамя Клота, было шмат канкурэнтаў на выбар дэпутатам у Браславе: два Ваўжэцкія, „szwagier Mirskiego deputata"[45] і Станіслаў Квінта[46].

У сітуацыі пэўнага прымірэння паміж магнацкімі групоўкамі ў Княстве выбары на павятовых грамнічных сойміках у Трыбунал ВКЛ 1758 г. адбываюцца ў куды больш спакойнай абстаноўцы, чым у 1756 і 1757 гг. Праўда, гэта зноў не датычылася браслаўскага сойміка, на якім даходзіць да канфлікту часткі прыхільнікаў Фаміліі з прыхільнікамі Цеханавецкіх. У выніку ў Браславе радзівілаўскія прыхільнікі пад дырэкцыяй сапежынскага прыхільніка Ігната Лапацінскага абралі дэпутатамі Станіслава Цеханавецкага і браслаўскага скарбніка Станіслава Квінту. Пратэставаўшая шляхта сцвярджала, што гэта адбылося ў прысутнасці толькі радзівілаўскіх прыхільнікаў Цеханавецкіх і Ваўжэцкіх. Згодна гэтай пратэстацыі Цеханавецкія прывялі на соймік вялікую лічбу жаўнераў і з іх дапамогай пагражалі шляхце. Прычым ужо было звычайнай справай, што Цеханавецкія на соймік прыводзяць „nie tylko nadwornych żołnierzów, tudzież strzel-

43 AGAD, AR, dz. V, nr 9855, cz. 6, J. Mniszek do M. K. Radziwiłła, 18 IV 1757, Warszawa, k. 43.

44 LMAB, F. 139, b. 4249, S. Ślizień do A. Sapiehy, 2 V 1757, Wilno, p. 31.

45 На жаль, не зразумела хто маецца на ўвазе.

46 BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 4 II 1758, Wilno, k. 88v-89.

ców, ziemian, kozaków z strzelbą, dzidami, oszczepami, z harmatami, ale też komputowych pocztowych z różnym do boju orężem zgromadzając". Нягледзячы на гэта, пад час сойміка пратэставала частка шляхты на чале з братамі браслаўскім будаўнічым Рафалам і Бенедыктам Квінтамі. Гэтую пратэстацыю ў браслаўскім гродзе не прынялі па выдуманай прычыне, што грод не можа прымаць пратэстацыю супраць свайго кіраўніка, браслаўскага гродскага суддзі Ігната Лапацінскага, які быў дырэктарам сойміка. У выніку пратэстацыя была занесена ў інфлянцкія іількамірскія гродскія кнігі. Пратэставаўшая шляхта сцвярджала, што Цеханавецкія і Ваўжэцкія пужаюць заслужаную ў Браслаўскім павеце шляхту родаў Мірскіх, Рудамінаў, Бутлераў, Гедройцаў, Маслоўскіх і Копцяў, каб яны не бывалі на сойміках. Прыводзіўся прыклад з папярэдняга сойміка, калі з-за пагрозы жаўнераў большасць шляхты на чале амаль з усімі ўраднікамі мела праводзіць соймік не ў Браславе, а ў манастыры пад ім[47].

Радзівілаўскія прыхільнікі сцвярджалі, што лідары групоўкі Чартарыйскіх Рудаміна і Мірскі на сойміку не былі, а Струтынскі „z Moskalami w domie swoim siedział"[48]. Як бачым, у той жа час Цеханавецкія атрымалі падтрымку браслаўскага гродскага суддзі Лапацінскага, які быў прыхільнікам Сапегаў, якія з'яўляліся часткай Фаміліі. Гэта выклікала вялікую незадаволенасць брата Ігната Лапацінскага ксяндза Яна Даменіка, які, небеспадстаўна, чакаў абвінавачванняў унутры Фаміліі (асабліва ад падскарбія ВКЛ Юрыя Флемінга) у спрыянні радзівілаўскім прыхільнікам[49]. Сваю вялікую незадаволенасць пастукам Ігната Лапацінскага выказаў і лідар Фаміліі Міхал Чартарыйскі[50].

Пасольскі соймік 1758 г. у Браславе выклікаў значную дыскусію сярод лідараў Фаміліі: Міхалам Чартарыйскім, Юрыем Флемінгам і Міхалам Антоніем Сапегам. Прычынай было жаданне Міхала Антонія Сапегі, каб інстыгатар ВКЛ Мікалай Тадэвуш Лапацінскі канкураваў аб выбар паслом на браслаўскім ці мсціслаўскім сойміку, дзе дакладна быў бы абраны. Сам Мікалай Тадэвуш Лапацінскі хацеў старацца аб

[47] H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 222, 237; LMAB, F. 139, b. 2556, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, b.d., b.m., p. 80v; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 7 IV 1758, Wilno, p. 4; LVVA, F. 712, b. 103, p. 3-4v, 7-7v, 9-9v; LVIA, SA 13923, p. 261-262v.

[48] LVVA, F. 712, b. 103, p. 6, 8-8v; AGAD, AR, dz. V, nr 10, A. Abramowicz do M. K. Radziwiłła, 9 II 1758, Wilno, k. 218; dz. IV, 878, k. 108, 147, 148.

[49] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, b.d., b.m, p. 9-9v; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 18 II 1758, Wilno, p. 14-14v; BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 1 III 1758, Łosk, k. 117v.

[50] BN, BOZ 939, M. Czartoryski do M. A. Sapiehy, 21 II 1758, Wołczyn, k. 107.

пасольства на эгзулянцкіх сойміках (смаленскім ці старадубскім)[51]. Праз тыдзень Міхал Антоній Сапега бачыў, што з-за перашкод выбар Лапацінскага ў Мсціславе становіцца маларэальным і лічыў лепшымі для яго выбару смаленскі ці браслаўскі соймікі[52]. Сапежынскі прыхільнік Ян Дамінік Лапацінскі лічыў, што ў Мсціслаўлі можна правесці выбар пасламі Людвіка Пацея і Мікалая Тадэвуша Лапацінскага. Потым нават меркаваў, што Лапацінскі і Пацей (якому саступіць Ян Цеханавецкі) дакладна былі б абраны пасламі на сойміку ў Браславе. Ён не выключаў, што Лапацінскі, калі яму дазволіць Міхал Чартарыйскі, можа стаць паслом і на смаленскім сойміку. Малаверагодна, каб яго абралі на браслаўскім сойміку, бо тады павінен адмовіцца адзін з двух канкурэнтаў: опскі староста Ян Цеханавецкі ці браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен. Потым Ян Дамінік Лапацінскі выбар брата паслом лічыў немагчымым з-за канкурэнцыі з боку Яна Цеханавецкага і Бенедыкта Кубліцкага[53]. Міхал Чартарыйскі спачатку ўвогуле хацеў сарваць браслаўскі соймік і нават прасіў Міхала Антонія Сапегу, каб гэта дапамаглі зрабіць яго прыхільнікі Мікалай Тадэвуш Лапацінскі і Клот[54]. Потым Чартарыйскі прасіў Мікалая Лапацінскага толькі пільнаваць выбары на браслаўскім сойміку[55]. У выніку Міхал Чартарыйскі падтрымаў ідэю Міхала Антонія Сапегі, каб Мікалай Тадэвуш Лапацінскі, прыбыўшы на браслаўскі соймік, настойваў на сваім выбары паслом „nieodstępnie, nie dopuszczając ullatenus kogo innego”. Прычым, Чартарыйскі пагаджаўся, каб яго калегам мог быць абраны нават хтосьці з Абрамовічаў і Цеханавецкіх, але толькі не Ігнат Богуш. Больш таго, Чартарыйскі згаджаўся, каб у такім выпадку была складзена непрыхільная для Фаміліі інструкцыя браслаўскім паслам[56]. Непрыхільны Сапегам іншы лідар Фаміліі Юры Флемінг лічыў неабходным сарваць браслаўскі соймік, каб не дапусціць выбару паслом Яна Цеханавецкага. Менавіта таму выступаў і супраць пасольства з браслаўскага сойміка Гільзена ці Мікалая Лапацінскага.

51 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 24, M. A. Sapieha do M. Łopacińskiego, 10 VII 1758, Dereczyn, p. 180v.

52 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 24, M. A. Sapieha do M. Łopacińskiego, 17 VII 1758, Dereczyn, p. 181.

53 BJ, Akcesja 27/61; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, b.d., b.m, p. 9-9v; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, b.d., b.m., p. 64V; BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 20 VII 1758, Łosk, k. 232, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 31 VII 1758, Wilno, k. 250v.

54 BN, BOZ 939, M. Czartoryski do M. A. Sapiehy, 1 VII 1758, b.m., k. 217.

55 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 18, M. Czartoryski do M. Łopacińskiego, 7 VII 1758, Przybysławiczy, p. 254v.

56 BN, BOZ 939, M. Czartoryski do M. A. Sapiehy, 22 VII 1758, Przybysławiczy, k. 236.

Згодна радзівілаўскім планам пасламі ў Браславе якраз планавалася абраць Цеханавецкага і Гільзена[57]. Юры Флемінг увогуле заявіў, што збіраецца сарваць мсціслаўскі, браслаўскі і смаленскі соймікі. У такім выпадку, на яго думку, Мікалай Тадэвуш Лапацінскі можа стаць паслом толькі з паўторных сойміkаў[58]. Згода Міхала Чартарыйскага, каб Мікалай Тадэвуш Лапацінскі быў абраны паслом у Браславе, прымусіла пагадзіцца на гэта і Юрыя Флемінга. Праўда, па назіраннях Яна Дамініка Лапацінскага, Флемінг усё роўна не будзе задаволены, калі браслаўскі соймік не будзе сарваны і скончыцца выбарам паслоў. Прычынай быў запланаваны выбар паслом опскага старосты Яна Цеханавецкага. Тым больш, што яго калегам мог быць абраны хтосьці з роду Ваўжэцкіх ці, што было больш верагодна, браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен. Гэтыя кандыдатуры не задавальнялі Фамілію[59]. Не ўдалося дамовіцца і аб выбары іншых кандыдатаў Фаміліі на браслаўскім сойміку. Мясцовыя лідары Фаміліі браслаўскі падстароста Мікалай Рудаміна і Цыпрыян Мірскі заявілі, што на сойміку „być żadną miarą nie chcą, ani mogą się pokazać”. Яны лічылі, што, не зважаючы на пратэстацыі, пасламі будуць абраны радзівілаўскія прыхільнікі Ян Цеханавецкі і Бенедыкт Кубліцкі. Адзінай магчымасцю ім перашкодзіць Рудаміна і Мірскі бачылі, калі аб выбар паслом канкураваў бы Мікалай Тадэвуш ці Ігнат Лапацінскія. Нават, калі аднаму з Лапацінскіх не ўдалося б стаць пасламі, то тады можна было б лёгка сарваць браслаўскі соймік[60]. Тым больш, што нічым скончыліся перамовы з Янам Цеханавецкім. Праз Андрэя Абрамовіча Ян Дамінік Лапацінскі спрабаваў пераканаць Цеханавецкага, што паслом з ім будзе абраны Мікалай Тадэвуш Лапацінскі і згодны яму саступіць Гільзен. Цеханавецкі, аднак, адмовіўся і сцвярджаў, што ў такім выпадку ён няўпэўнены ў паспяховым заканчэнні сойміка, бо свае прэтэнзіі на выбар паслом заявіць і Ваўжэцкі. Праўда, потым Цеханавецкі пагадзіўся, але ўжо Лапацінскі ўзгадніў з каралеўскім дваром, што стане паслом з інфлянцкага сойміка. У выніку было вырашана вярнуцца да ранейшага плана ўзгодненага ў Нясвіжы, каб на браслаўскім сойміку пасламі былі абраны Ян Цеханавецкі і Юзаф Гільзен[61].

57 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, b.d., b.m., p. 66v-67v.

58 BJ, Akcesja 27/61; BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 31 VII 1758, Wilno, k. 250v.

59 BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 6 VIII 1758, Wilno, k. 261v.

60 BN, BOZ 939, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 12 VII 1758, Łosk, k. 223v; LVIA, F. 1135, op. 14, b.32, p. 266-266v.

61 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 7 VIII 1758, Wilno, p. 70v-71.

У выніку Мікалай Тадэвуш Лапацінскі застаўся на эгзулянцкіх сойміках. У Браславе ў гэты час пасламі былі абраны браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен і радзівілаўскі прыхільнік опскі староста Ян Цеханавецкі[62]. Першы з іх быў прыхільнікам каралеўскага двара і захоўваў прыязныя адносіны з Сапегамі. Прыхільнасць каралеўскаму двару, напэўна, і стала той прычынай, па якой Цеханавецкія пагадзіліся на выбар паслом Гільзена. У той жа час, як бачым, Фаміліі не ўдалося правесці выбар паслом свайго прыхільніка. Гэта мела адрозненне ад сітуацыі ва ўсім ВКЛ, дзе менавіта Фамілія атрымала перавагу на пасольскіх сойміках[63]. Праўда, кандыдатура Гільзена задавальняла Фамілію, прыхільнікі якой пагадзіліся на яго выбар нават разам з такім непрыязным паслом як Ян Цеханавецкі. Безумоўна спакою пад час правядзення браслаўскага сойміка садзейнічала тое, што на ім не было Юзафа Струтынскага, які ў гэты час знаходзіўся ў Пецярбургу, дзе шукаў для сябе расійскай падтрымкі[64].

Пасля сойма 1758 г. адбываецца канчатковы разрыў Сапегаў з Фаміліяй. Сапегі становяцца прыдворнай групоўкай. У такой сітуацыі адбываюцца выбары ў Трыбунал ВКЛ 1759 г. З-за хваробы ўзгодненага з каралеўскім дваром канкурэнта на ўрад трыбунальскага маршалка наваградскага кашталяна Яна Храптовіча, Радзівілы і Сапегі вырашылі правесці выбар дэпутатам крайчага ВКЛ Міхала Ксаверыя Сапегі і зрабіць яго трыбунальскім маршалкам на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ. У такой сітуацыі Сапегам спатрэбілася, каб разам з Міхалам Ксаверыем Сапегам было як мага больш прыхільных дэпутатаў і асабліва такіх дасведчаных, як інстыгатар ВКЛ Мікалай Тадэвуш Лапацінскі. 29 студзеня 1759 г. Міхал Антоній Сапега са Слоніма напісаў ліст Мікалаю Тадэвушу Лапацінскаму, каб ён стараўся быць абраным дэпутатам у Браславе разам з браслаўскім войскім Феліцыянам Ваўжэцкім. Для гэтага Лапацінскі меў дамовіцца з Цеханавецкімі. Ніякая адмова Лапацінскага не прымалася, бо ў яго выбары дэпутатам быў зацікаўлены каралеўскі двор[65]. Падтрымаў Сапегу і яго саюзнік

62 H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 223; W. Konopczyński, *Polska w dobie wojny siedmioletniej...*, t. 1, przypisy, s. 504; *Diariusze sejmowe z wieku XVIII*, Warszawa 1937, s. 283-289; LVIA, F. 598, b. 125, p. 1-1v.

63 A. Macuk, *Wybory posłów sejmowych na sejmikach powiatowych Wielkiego Księstwa Litewskiego w 1758 r.*, [у:] *Kultura parlamentarna epoki staropolskiej. Studia pod redakcją Andrzeja Stroynowskiego*, Warszawa 2013, s. 377-378.

64 T. Szwaciński, *Protekcja rosyjska udzielana przedstawicielom szlachty litewskiej...*, „Kwartalnik Historyczny”, 2011, R. CXVIII, z. 1, s. 72-73.

65 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 24, M. A. Sapieha do M. Łopacińskiego, 29 I 1759, Słonim, p. 191-191v.

па прыдворнай партыі Міхал Казімір Радзівіл, які прасіў брэсцкага кашталяна Андрэя Абрамовіча, браслаўскага войскага Феліцыяна Ваўжэцкага, браслаўскага стольніка Аляксандра Ваўжэцкага, каб дэпутатамі ў Браславе былі абраны вышэйзгаданы Феліцыян Ваўжэцкі і інстыгатар ВКЛ Мікалай Лапацінскі[66]. Адначасова Радзівіл спаслаўся на недахоп часу і таму адмовіўся дапамагчы быць абраным дэпутатам у Браславе браслаўскаму гродскаму пісару Стэфану Беліковічу[67]. Пры тым, што Беліковіч быў прыхільнікам іншага лідара прыдворнай партыі ў Княстве маршалка ВКЛ Ігната Агінскага. Стараўся аб дапамозе Радзівіла ў яго прыхільнікаў Цеханавецкіх Бенедыкт Кубліцкі, які, таксама, хацеў быць абраным дэпутатам на сойміку ў Браславе[68].

У выніку Лапацінскаму амаль без падрыхтоўкі прыйшлося старацца стаць дэпутатам на браслаўскім грамнічным сойміку. Дырэктарам сойміка без пратэстаў быў абраны Станіслаў Цеханавецкі. На гэтым сойміку былі тры кандыдаты на дэпутацтва: інстыгатар ВКЛ Мікалай Лапацінскі, браслаўскі гродскі пісар Стэфан Беліковіч, браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі. Беліковіч, аднак, не пагадзіўся, каб усе тры кандыдаты пазней прыйшлі да згоды паміж сабой, а зараз усе тры кандыдаты былі вызначаны дэпутатамі, і соймік быў сарваны. Праўда, заставалася спадзяванне, што канкурэнты пагодзяцца паміж сабой і два з іх, як браслаўскія дэпутаты, увойдуць у лік трыбунальскіх суддзяў. На самім браслаўскім сойміку адсутнічаў опскі староста Ян Цеханавецкі, які ў гэты час быў абраны дэпутатам на старадубскім сойміку разам са старадубскім скарбнікам Аляксандрам Корсакам[69].

Соймік у Браславе і надалей выклікаў вялікія праблемы сярод прыхільнікаў каралеўскага двара, якія хацелі, каб Мікалай Тадэвуш Лапацінскі стаў браслаўскім дэпутатам. Сапегі і Радзівілы імкнуліся, каб тры канкурэнты на дэпутацтва пагадзіліся паміж сабой і Ваўжэцкі ці Беліковіч адмовіліся ад дэпутацтва[70]. Падазрэнні ў тым, што не ўдава-

66 AGAD, AR, dz. IV, sygn. 879, k. 21, 43, 48, 52.

67 AGAD, AR, dz. IV, sygn. 879, k. 105.

68 AGAD, AR, dz. V, sygn. 7928, B. Kublicki do M. K. Radziwiłła, 2 I 1759, Naliboki, k. 3-4.

69 H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 223; LMAB, F. 139, b. 2562, M. Łopaciński do A. Sapiehy, 6 II 1759, Ikaźń, p. 1-2; AGAD, AR, dz. IV, sygn. 879, k. 65; Biblioteka Czartoryskich w Krakowie (далей: BCz) 3837, k. 77; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 5, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 10 II 1759, Wilno, p. 225-226v; AGAD, AR, dz.V, sygn. 17024, cz. IV, F. Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 8 II 1759, Widzy, k. 208-210.

70 BCz 3837, M. K. Radziwiłł do J. Mniszka, 24 III 1759, Nieśwież, k. 226-227; AGAD, AR, dz. V, nr 9855, cz. 9, J. Mniszek do M. K. Radziwiłła, 12 III 1759,

лася супакоіць пратэстацыі супраць браслаўскага сойміка, падалі на Ігната Агінскага, які абвяргаў усе абвінавачванні. Такія падазрэнні былі выкліканы тым, што супраць сойміка пратэставалі браты яго прыхільніка браслаўскага гродскага пісара Стэфана Беліковіча: браслаўскі канюшы Леанард і браслаўскі скарбнік Адам Беліковічы[71]. Сам Ігнат Агінскі напісаў да Міхала Казіміра Радзівіла, што браслаўскі соймік быў сарваны адразу пасля „загаення". Агінскі інфармаваў, што Міхал Антоні Сапега, аднак, прадпрымае спробы супакоіць пратэстацыю, каб дэпутатам стаў інстыгатар ВКЛ Мікалай Тадэвуш Лапацінскі. У такім выпадку Агінскі прасіў, каб калегам Лапацінскаму стаў браслаўскі гродскі пісар Стэфан Беліковіч ці прызнаць браслаўскі соймік за сарваны[72]. Аднак, ніхто не хацеў саступаць і тады ад дэпутацтва вырашыў адмовіцца ўжо Мікалай Тадэвуш Лапацінскі. Сапегі атрымалі згоду каралеўскага двара на яго рашэнне. Аднак чаканні Радзівіла, што канкурэнты Лапацінскага — Ваўжэцкі і Беліковіч — стануць дэпутатамі і ўвойдуць у лік трыбунальскіх суддзяў не спраўдзіліся з-за пазіцыі Беліковіча, што лепей, калі соймік будзе прызнаны за сарваны[73]. Як можна меркаваць, Беліковіч выконваў пажаданні свайго магнацкага патрона маршалка ВКЛ Ігната Агінскага.

Па рашэнню каралеўскага двара наступны Трыбунал ВКЛ меў знаходзіцца пад кантролем магнацкага роду Агінскіх. Пагадзіўся з гэтым і Міхал Казімір Радзівіл, бо хацеў зменшыць уплывы Сапегаў у Княстве, якія разлічвалі зрабіць маршалкам Трыбунала ВКЛ свайго прыхільніка Мікалая Тадэвуша Лапацінскага. 4 снежня 1759 г. Ігнат Агінскі даслаў Міхалу Казіміру Радзівілу спіс сваіх прыхільнікаў, якіх ён хацеў, каб выбралі на грамнічных сойміках. Сярод іншага ў Браславе Ігнат Агінскі хацеў правесці выбар дэпутатам свайго прыхільніка браслаўскага гродскага пісара Стэфана Беліковіча[74]. Сам Міхал Казімір Радзівіл, аднак, даслаў загады сваім прыхільнікам адносна некаторых соймікаў, сярод якіх быў браслаўскі гродскі староста

Warszawa, k. 18; LMAB, F. 139, b. 2562, M. Łopaciński do A. Sapiehy, 6 II 1759, Ikaźń, p. 1-2; AGAD, AR, dz. V, sygn. 17023, Aleksander Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 13 III 1759, Wereszkowo, k. 60.

71 AGAD, AR, dz. V, nr 9855, cz. 9, J. Mniszek do M. K. Radziwiłła, 14 V 1759, Warszawa, k. 49; dz. IV, sygn. 879, k. 217; BCz 3837, I. Ogiński do J. Mniszek, 31 V 1759, Nieśwież, k. 391-393.

72 AGAD, AR, dz. V, nr 10702, cz. 4, I. Ogiński do M. K. Radziwiłła, b.d., b.m., k. 127-128.

73 LMAB, F. 139, b. 2556, M. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 2 IV 1759, Leonpol, p. 204; AGAD, AR, dz. IV, sygn. 879, k. 149.

74 AGAD, AR, dz. V, nr 10702, cz. 4, I. Ogiński do M. K. Radziwiłła, 4 XII 1759, Borysów, k. 112.

Юзаф Гільзен. Загад Гільзену заключаўся ў тым, каб той стараўся аб выбар дэпутатам на сойміку ў Браславе браслаўскага вайсковіча Яна Ваўжэцкага[75].

На выбар дэпутатам на браслаўскім сойміку прэтэндавала вялікая колькасць канкурэнтаў: браслаўскі вайсковіч Ян Ваўжэцкі, Юзаф і Антоній Квінты, браслаўскі падстолі Юрый Падбярэскі, Кубліцкі (напэўна зноў Бенедыкт Кубліцкі), браслаўскі канюшы Леанард Беліковіч, Бенедыкт Беліковіч, Клот, браслаўскі лоўчыц Жаба (напэўна Ян Жаба), браслаўскі гродскі пісар Стэфан Беліковіч. Апошні імкнуўся стаць дэпутатам па просьбе Тадэвуша Агінскага і нават прасіў дапамогі ў Сапегаў. Мікалай Тадэвуш Лапацінскі лічыў магчымым падтрымаць яго, бо Стэфан Беліковіч быў родзічам сапежынскіх прыхільнікаў Храпавіцкіх (жанаты з Францішкай з Храпавіцкіх) і Клотаў. Лепшымі для Сапегаў з'яўляліся кандыдатуры Завішы і Юзафа Квінты. Адначасова не збіраўся прэтэндаваць на дэпутацтва Клот, бо меў вялікія перашкоды ад мясцовай шляхты. Найбольшыя шанцы быць абранымі мелі Юзаф Квінта і Ян Ваўжэцкі. Выбар апошняга, аднак, быў пад пытаннем, бо ў Браславе чакалі прыезду опскага старосты Яна Цеханавецкага, які выступаў супраць кандыдатуры Ваўжэцкага. Гэта пры тым, што Міхал Казімір Радзівіл падтрымаў кандыдатуру Ваўжэцкага. Магчыма Ян Цеханавецкі выступаў супраць кандыдатуры Яна Ваўжэцкага па той прычыне, што той служыў пры двары крамянецкага старосты Юзафа Сангушкі, які супрацоўнічаў з Фаміліяй. Браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен прасіў сапежынскага прыхільніка Мікалая Тадэвуша Лапацінскага падтрымаць кандыдатуру Антонія Квінты, якога па чутках падтрымлівалі Міхал Чартарыйскі і Юры Флемінг. Гэта не дазваляла пагадзіцца на яго кандыдатуру ўплывоваму опскаму старосту[76]. Такім чынам, склалася цікавая сітуацыя, калі прыхільнікі каралеўскага двара Радзівілы — Агінскія і Сапегі — не толькі не дайшлі да згоды пры ўзгадненні кандыдатаў на выбар дэпутатам на браслаўскім сойміку, але і таемна дзейнічалі супраць кандыдатур сваіх саюзнікаў па кааліцыі. Акрамя таго, прапаноўвалі значную колькасць кандыдатаў на выбар дэпутатам ад прыдворнай групоўкі.

[75] AGAD, AR, dz. IV, sygn. 880, k. 13.

[76] LMAB, F. 139, b. 2556, M. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 16 XII 1759, Leonpol, p. 210-212v; J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 22 XII 1759, Wilno, p. 114; LVIA, F. 1135, op. 14, b. 32, p. 339. Цікава, што Агінскія разглядалі браслаўскі соймік як найбольш падыходзячы для выбару дэпутатам Андрэя Агінскага, які потым па ўзгадненню з каралеўскім дваром павінен стаць трыбунальскім маршалкам. — AGAD, AR, dz. V, nr 10702, cz. 4, I. Ogiński do M. K. Radziwiłła, 16 I 1760, Świsłocz, k. 150.

Вялікая колькасць канкурэнтаў на выбар дэпутатам і стала прычынай зрыву браслаўскага грамнічнага сойміка 1760 г., нягледзячы на старанні Юзафа Гільзена і Яна Цеханавецкага[77]. Па інфармацыі Ігната Лапацінскага „sejmik nasz deputacki zpełzł politycznie podczas samego zagajenia”, калі ўзнікла пытанне: хто мае распачаць соймікавыя пасяджэнні — браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі ці браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен? Гэтае пытанне адышло на другі план, калі з пратэстацыяй адазваліся браслаўскі стражнік Адам Клот і эканом (напэўна Дрысвяцкага ключа Віленскай эканоміі) Квінта з вялікай колькасцю шляхты. Клот і Квінта не хацелі і распачынаць пасяджэнні сойміка пакуль паміж сабой не пагодзіцца вялікая колькасць канкурэнтаў на выбар дэпутатаў. У выніку соймік быў сарваны. Асабліва быў засмучаны гэтым прэтэндаваўшы на выбар дэпутатам браслаўскі ротмістр Юзаф Квінта, бо лічыў свой выбар цалкам магчымым. Праўда, на думку Ігната Лапацінскага, большай падтрымкай карыстаўся Антоній Квінта, але на яго выбар не згадзілася праціўная яму групоўка. На наступны дзень, на гаспадарчым сойміку, павятовым палкоўнікам быў абраны Ян Цеханавецкі. Увогуле соймікі адбыліся ў незвычайна спакойнай абстаноўцы: „Wszystko było spokojnie, wizytowali się wzajemnie i we wszelkich znakach przyjaźni rozpisali się”. Магчыма, садзейнічала гэтаму прысутнасць на сойміку мінскага ваяводы Яна Антонія Гільзена[78]. Другой прычынай з’яўляецца тое, што яўную перавагу на браслаўскім сойміку мелі прыхільнікі каралеўскага двара, якія і не дайшлі да згоды ў падтрымцы супольных кандыдатур на выбар дэпутатамі. Гэта і прадвызначыла лёс сойміка.

Падрыхтоўка да выбараў на сойм 1760 г. прайшла ў даволі спакойнай сітуацыі. Ігнат Агінскі праінфармаваў Міхала Казіміра Радзівіла аб сваіх планах на пасольскія соймікі. Сярод іншага ён хацеў абраць паслом у Браславе браслаўскага гродскага пісара Стэфана Беліковіча. Для выбару апошняга Ігнат Агінскі прасіў Радзівіла напісаць лісты да Цеханавецкіх[79]. Сам Міхал Казімір Радзівіл прыкладаў намаганні, каб выбраць сваіх прыхільнікаў на шматлікіх сойміках, сярод якіх быў і браслаўскі соймік. На ім інтарэсы Радзівіла мелі пільнаваць опскі староста Ян Це-

[77] H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa*..., s. 224; BCz 3839, Józef Hylzen do J. Mniszka, 6 II 1760, Brasław, k. 137; LMAB, F. 139, b. 2556, J. Łopaciński do M. A. Sapiehy, 25 II 1760, Wilno, p. 163.

[78] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 5 II 1760, Brasław, p. 86. Zamek Królewski w Warszawie, Zbiory Fundacji Rodziny Ciechanowieckich.

[79] AGAD, AR, dz. V, nr 10702, cz. 4, I. Ogiński do M. K. Radziwiłła, 17 VIII 1760, Ostaszów, k. 203.

ханавецкі, браслаўскі гродскі суддзя Ігнат Лапацінскі, Пётр Мірскі, браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі і браслаўскі стольнік Аляксандр Ваўжэцкі. Акрамя таго, Міхал Казімір Радзівіл даслаў пункты, якія трэба было ўключыць у інструкцыю мясцовым паслам. Адначасова Радзівіл не захацеў абяцаць дапамогі браслаўскаму ротмістру Квінту, а толькі паабяцаў павіншаваць яго, калі ён будзе абраны браслаўскім паслом[80].

У выніку ў Браславе былі абраны пасламі сапежынскі прыхільнік браслаўскі гродскі суддзя Ігнат Лапацінскі і прыхільнік Агінскіх браслаўскі скарбнік Адам Беліковіч[81]. З ліста Ігната Лапацінскага да брата Яна Дамініка Лапацінскага становіцца вядома, што ў інструкцыі браслаўскіх паслоў былі ўключаны пункты аб справе пакаранняВаладковіча, супраць расійскай пратэкцыі асуджанаму Юзафу Струтынскаму, рэкамендацыя браслаўскага стольніка і аршанскага падстаросты Аляксандра Ваўжэцкага. Усе гэтыя пункты былі і ў папярэдняй інструкцыі браслаўскага сойміка 1758 г. Дадаткова ў інструкцыі 1760 г. у канцы дырэктар сойміка даклаў пункт аб рэкамендацыі Ігната Масальскага, але агульную, без указання ўрада каад’ютара ВКЛ, на які той прэтэндаваў. Супраць сойміка ў полацкія гродскія кнігі быў пададзены пратэст. Згодна яго, Цеханавецкія не мелі права прымаць удзелу ў сойміку, бо знаходзіліся пад трыма дэкрэтамі. Нягледзячы на гэта, Цеханавецкія прывялі ў Браслаў кампутовых жаўнераў, стральцоў і „różnych kondycji ludzi” з розных паветаў Княства, якія рабілі засады на ехаўшую на соймік шляхту. Сам соймік пачаў браслаўскі стольнік Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі, які знаходзіўся пад шматлікімі кандэмнатамі. Супраць гэтага на сойміку пратэставала шмат шляхты, але яе пратэстацыі не былі прыняты ў мясцовым гродзе. З вышэйзгаданага ліста Ігната Лапацінскага сітуацыя на браслаўскім сойміку выглядае па-іншаму. Ініцыятарамі пратэстацыі былі названы Мірскія, якія ўсім родам прыбылі на соймік і згаджаліся з прапанаванымі кандыдатамі на выбар пасламі і прапанаванымі пунктамі ў інструкцыі, але калі ўсе пайшлі на замкавую гару, то з іх роду пайшло толькі тры асобы („браслаўскі ротмістр з зяцем” і Лявон Мірскі), а астатнія ад’ехалі. Ужо калі сцямнела прыслаў пратэст у браслаўскія гродскія кнігі з маёнтка Завер’я браслаўскі земскі сурагатар Цыпрыян Мірскі, але ўжо была вынята рэвізія, што не было пратэстацыі супраць сойміка. У такім выпадку пратэст супраць сойміка быў перасланы ў Полацк[82].

80 AGAD, AR, dz. IV, sygn. 880, k. 455-458, 472-473, 479.

81 W. Konopczyński, *Polska w dobie wojny siedmioletniej...*, t. 2, Kraków — Warszawa 1911, przypisy, s. 406; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), Ф. 1734, воп. 1, спр. 49, арк. 939-939v.

82 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. Łopacińskiego, 9 IX 1760, Jody, p. 95-96; НГАБ, Ф. 1734, воп. 1, спр. 49, арк. 939-939v.

Яшчэ адна пратэстацыя супраць дзейнасці на браслаўскім сойміку Цеханавецкіх і Ваўжэцкіх прыхільнікі Фаміліі на чале з браслаўскім чашнікам і браслаўскім падстаростам Мікалаем Рудамінам і браслаўскім земскім сурагатарам Цыпрыянам Мірскім падалі ў вількамірскія гродскія кнігі. Тэкст гэтай пратэстацыі фактычна паўтараў тэкст пратэсту занесенага ў полацкія гродскія кнігі. Сцвярджалася, што знаходзіўшыся пад кандэмнатамі браслаўскі стольнік Аляксандр Ваўжэцкі не меў права пачынаць пасяджэнні пасольскага сойміка 1760 г. На сам гэты соймік не здолела прыбыць шмат шляхты з-за пастаўленай Цеханавецкімі і Ваўжэцкімі варты з кампутовых і прыватных жаўнераў. Акрамя таго, у ёй пералічваліся злоўжыванні Цеханавецкіх з браслаўскага пасольскага сойміка 1756 г., а таксама няслушныя дэкрэты ў Трыбунале ВКЛ[83]. У гэты час Агінскія парвалі ўжо з Радзівіламі і каралеўскім дваром і супрацоўнічалі з Фаміліяй. Нягледзячы на гэта, прыхільнікі Фаміліі вырашылі занесці пратэстацыю супраць сойміка, на якім адным з паслоў быў абраны прыхільнік іх кааліцыі. Ды і другі пасол Ігнат Лапацінскі быў нашмат лепшым кандыдатам, чым хто-небудзь з прыхільнікаў Цеханавецкіх. Магчымай прычынай пратэстацыі быў прыхільны Радзівілам тэкст інструкцыі і непрыязь Мірскіх да Цеханавецкіх і Ваўжэцкіх.

Пасля таго, як стаў бачны ў ВКЛ пераход Агінскіх на бок Фаміліі, Радзівілам і каралеўскаму двару было неабходна перамагчы пад час выбараў на Трыбунал ВКЛ 1761 г. Аб выбар прыхільных дэпутатаў на браслаўскім сойміку стараўся Ігнат Лапацінскі, які паведамляў аб вялікай колькасці канкурэнтаў на выбар дэпутатам: браслаўскі ротмістр Юзаф Квінта, браслаўскі падстолі Юрый Падбярэскі, браслаўскі вайсковіч Ян Ваўжэцкі, браслаўскі стражнік Адам Клот і Гедройц (напэўна абольскі староста Юзаф Гедройц). Акрамя таго, браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен настойліва ўгаворваў старацца быць абраным дэпутатам Ігната Лапацінскага. Гільзен нават спакушаў Лапацінскага, што папросіць вялікага гетмана ВКЛ Міхала Казіміра Радзівіла, каб Лапацінскі на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ быў абраны пісарам літоўскай ці рускай кадэнцый. Гільзен пераконваў Ігната Лапацінскага, што яго знаходжанне сярод трыбунальскіх суддзяў дапаможа і брату Яну Дамініку на каралеўскім двары атрымаць якое-небудзь з біскупстваў. Потым браслаўскі гродскі староста заявіў, што ведае аб планах узгодненых Янам Дамінікам і Мікалаем Тадэвушам Лапацінскімі з Міхалам Казімірам Радзівілам аб выбары дэпутатамі прыхільнікаў каралеўскага двара ў ВКЛ, а сярод іх і Ігната Лапацінскага. Менавіта таму згаджаўся на кандыдатуру Лапацінскага і опскі староста Ян Це-

[83] LVIA, SA 13924, p. 173-174v.

ханавецкі. Ігнату Лапацінскаму прыйшлося распавесці Гільзену, што згодна гэтаму плану мае старацца аб выбар дэпутатам, але не з браслаўскага, а з іншага сойміка[84]. На самім браслаўскім сойміку адбыўся канфлікт Кімбара з браслаўскім стольнікам Аляксандрам Тадэвушам Ваўжэцкім і ў выніку дайшло нават да „pojedynków"[85]. У выніку на браслаўскім сойміку засталіся тры кандыдаты на выбар дэпутатам: браслаўскі ротмістр Юзаф Квінта, браслаўскі падстолі Юрый Падбярэскі і браслаўскі вайсковіч Ян Ваўжэцкі. На сойміку было вырашана, што яны павінны дамовіцца паміж сабой, каб адзін з іх саступіў і адмовіўся ад канкурэнцыі на выбар дэпутатам. На кандыдатуры Падбярэскага і Ваўжэцкага не пагаджаліся некаторыя шляхціцы. Пасля таго, як соймік распачаў браслаўскі стольнік Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі, амаль усе шляхціцы пагадзіліся выбраць дырэктарам сойміка браслаўскага скарбніка Адама Беліковіча. Супраць пратэставаў, верагодна па просьбе Людвіка Пацея, толькі шляхціц Арцімовіч, які сцвярджаў, што сарваў соймік. Увечары ў Браслаў прыехаў векшнянскі цівун Міхал Агінскі[86] і мясцовая шляхта прапаноўвала яму стаць дэпутатам разам з Квінтам і Арцімовіч быў згодны адмовіцца ад пратэстацыі. Аднак Агінскі адмовіўся і Арцімовіч захаваў сваю пратэстацыю. Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі падазраваў, што Арцімовіч дзейнічаў па загадзе Яна Цеханавецкага і накіраваўся да хворага опскага старосты ў Богіна. Цеханавецкі, аднак, пераканаў, што Арцімовіч не дзейнічае па яго просьбе, але адначасова адмовіўся і дапамагаць у выратаванні сойміка[87].

Гэта не спыніла спроб Ваўжэцкага выратаваць браслаўскі соймік ад зрыву. У выніку было вырашана намінаваць дэпутатамі Квінту і Ваўжэцкага[88]. У сваю чаргу Ігнат Лапацінскі сцвярджаў, што былі абраны ўсе тры кандыдаты, якія пазней павінны былі выбраць двух паміж сабой[89]. Лапацінскі спрабаваў супакоіць і пратэстацыю супраць сойміка і запрасіў да сябе падтрымаўшага пратэстацыю Кімба-

[84] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 26 I 1761, Brasław, p. 99-101v.

[85] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 23 III 1761, Jody, p. 106.

[86] З браслаўскай (шляхецкай) галіны роду Агінскіх.

[87] Супраць кандыдатуры Ваўжэцкага выступалі прыхільнікі Яна Цеханавецкага. — BCz 3843, k. 57-58.

[88] BCz 3843, A.Wawrzecki do J.Mniszka, 10 II 1761, Brasław, k. 409. Па звестках дырэктара сойміка Адама Беліковіча соймік адбыўся і былі абраны прыхільныя Радзівілам дэпутаты. — AGAD, AR, dz. V, nr 760, A. Bielikowicz do M. K. Radziwiłła, ? II 1761, b.m., k. 2.

[89] AGAD, AR, dz. V, nr 8904, I. Łopaciński do M. K. Radziwiłła, 10 II 1761, Brasław, k. 1-2.

ра і абранага адным з трох дэпутатаў Квінту. Гэта сустрэча нічым не скончылася, бо Кімбар не адмовіўся ад пратэстацыі, і, больш таго, адкрыў, што яе ніхто не супакоіць. Прычына заключалася ў тым, што мэтай пратэстацыі было сарваць соймік. Квінта заявіў, што калі ён не будзе пэўным, што стане дэпутатам, то яго брат Антоній будзе прэтэндаваць на выбар паслом на браслаўскім пасольскім сойміку на надзвычайны сойм 1761 года[90]. Акрамя таго існавалі падазрэнні, што Падбярэскі прэтэндаваў на выбар дэпутатам, каб з-за яго канкурэнцыі лягчэй было сарваць соймік[91]. Міхал Казімір Радзівіл стараўся, каб браслаўскія дэпутаты не толькі прыйшлі да згоды, але і супакоілі пратэстацыі супраць сойміка[92]. Праўда, існавалі чуткі, што сам Радзівіл не вельмі задаволены выбарам дэпутатам браслаўскага падстолія Юрыя Падбярэскага і таму соймік будзе сарваны. Не вельмі добрымі быў для Радзівілаў і іншы канкурэнт Квінта, бо існавала інфармацыя аб тым, што ён бярэ грошы ад Агінскіх ці ўвогуле ад Фаміліі. Сам Квінта, праўда, аб'яўляў, што будзе служыць інтарэсам полацкага ваяводы Аляксандра Сапегі, які быў саюзнікам Радзівілаў і каралеўскага двара[93]. Магчыма падазрэнні Радзівіла ў прыхільнасці двух з трох браслаўскіх дэпутатаў Фаміліі і прывялі да таго, што канкурэнты не пагадзіліся паміж сабой і браслаўскі соймік на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ быў прызнаны за сарваны.

У гэтым жа годзе быў прызначаны надзвычайны сойм 1761 г., які павінен быў правесці рэформу абменнага курса і абараніць краіну ад фальшывых грошай. На сойміках у ВКЛ, акрамя таго, разгарнулася барацьба за вызваліўшыся пасля смерці Міхала Антонія Сапегі ўрад падканцлера ВКЛ. Галоўнымі кандыдатамі на гэты ўрад ад прыхільнікаў каралеўскага двара былі мсціслаўскі ваявода Канстанцін Людвік Плятэр і стражнік ВКЛ Людвік Пацей, а ад Фаміліі — пісар ВКЛ Антоній Пшаздзецкі. Усе кандыдаты стараліся аб іх рэкамендацыі ў інструкцыях павятовых соймікаў, якія павінны былі адбыцца 17 сакавіка 1761 г. З канца лютага 1761 г. радзівілаўская партыя рыхтавалася да выбараў на сойм. Згодна плану выбараў прыхільнікаў каралеўскага двара ў Браславе меркавалася па магчымасці сарваць соймік[94]. Міхал Казімір Радзівіл загадаў назіраць за выбарамі на браслаўскім сойміку

[90] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, b.d., b.m., p. 284-285.

[91] AGAD, AR, dz. V, sygn. 17023, Aleksander Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 16 II 1761, Brasław, k. 71.

[92] AGAD, AR, dz. IV, sygn. 881, k. 196-197.

[93] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 23 III 1761, Jody, p. 106-106v.

[94] BCz 3843, k. 103-104.

браслаўскаму падстолію Юрыю Падбярэскаму, браслаўскаму стольніку і аршанскаму падстаросту Аляксандру Ваўжэцкаму. Загад Радзівіла паўтараў пажаданні каралеўскага двара — па магчымасці сарваць браслаўскі соймік[95]. Магчыма таму сапежынскі прыхільнік Ігнат Лапацінскі меркаваў малаверагодным, што браслаўскі пасольскі соймік 1761 г. не будзе сарваны і скончыцца выбарам паслоў. Прычынай была вялікая колькасць канкурэнтаў: браслаўскі стольнік і аршанскі падстароста Аляксандр Ваўжэцкі, Антоній Квінта, браслаўскі абозны Пётр Мірскі і браслаўскі гродскі пісар Стэфан Белікові[96]. Больш таго, перад соймікам у Браслаў прыехаў краснасельскі староста Тадэвуш Бужынскі і хацеў прэтэндаваць на выбар паслом. Яго пераканаў прыехаць і канкураваць аб пасольства браслаўскі гродскі пісар Белікові, які абяцаў Бужынскаму саступіць сваю канкурэнцыю на пасольства на яго карысць. Для гэтых мэт угаварылі старацца аб пасольства Шаўмана, які, таксама, пазней меў саступіць Бужынскаму. Яшчэ адным кандыдатам ад той групоўкі быў браслаўскі стражнік Антоній Квінта. Ад іншай групоўкі кандыдатамі былі браслаўскі абозны Пётр Мірскі і Ігнат Лапацінскі. На сустрэчы перад соймікам у браслаўскага войскага не ўдалося дасягнуць згоды. Мірскі і Лапацінскі маглі саступіць адзін аднаму, але з іншага боку Бужынскі і Квінта не маглі саступіць адзін аднаму. У выніку на замкавай гары браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі пачаў соймік і хутка „pożegnał". Такім чынам соймік быў сарваны яшчэ да выбараў дырэктара сойміка і паслоў на сойм. Яшчэ адной прычынай яго зрыву была нязгода паміж шляхтай адносна ўключэння рэкамендацый да вольных урадаў тых ці іншых асоб[97]. На думку Бужынскага, прычынамі зрыву сойміка былі пытанне рэкамендацыі да ўрада падканцлера ВКЛ і імкненне прыхільнікаў Фаміліі на гэтым сойміку забяспечыць грамнічны соймік, пазбавіўшыся канкурэнта, які меў зараз стаць паслом (напэўна размова ідзе пра канкурэнцыю братоў Квінтаў)[98].

Перад выбарамі дэпутатаў у Трыбунал ВКЛ 1762 г. паміж каралеўскім дваром і аднымі з лідараў Фаміліі Масальскімі было ўзгоднена, што маршалкам стане падчашы ВКЛ Ян Масальскі. Вымушаны былі

[95] AGAD, AR, dz. IV, sygn. 881, k. 196, 197. Браслаўскі гродскі пісар Стэфан Беліковіч прасіў Міхала Казіміра Радзівіла падтрымкі, каб стаць паслом на сойміку ў Браславе. — AGAD, AR, dz. V, nr 757, S. Bielikowicz do M. K. Radziwiłła, 14 II 1761, Brasław, k. 11.

[96] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 23 II 1761, Jody, p. 103.

[97] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 14, I. Łopaciński do J. D. Łopacińskiego, 17 III 1761, Jody, p. 104-105.

[98] BCz 3844, T. Burzyński do J. Mniszka, 17 III 1761, Brasław, k. 191-192.

пагадзіцца з гэтым і Радзівілы. Зразумела, што ў такім выпадку адным з дэпутатаў на браслаўскім сойміку меў быць абраны шляхціц, якога рэкамендуюць Масальскія. Адбыцца так магло, праўда, толькі ў тым выпадку, калі на гэта пагодзяцца радзівілаўскія прыхільнікі Цеханавецкія. Гэта было цалкам магчыма, бо самі Цеханавецкія былі зацікаўлены, каб выбары на сойміку адбыліся і яны мелі магчымасць праз прыхільных сабе суддзяў уплываць на разгляд судовых спраў са Струтынскімі ў Трыбунале ВКЛ. Міхал Казімір Радзівіл пагадзіўся, каб дэпутатам ад яго прыхільнікаў на браслаўскім сойміку быў абраны ротмістр Юзаф Квінта, а яго сын Караль Станіслаў Радзівіл настойваў, каб ім стаў Ігнат Лапацінскі[99]. Радзівілаўскі прыхільнік браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі пагадзіўся падтрымаць рэкамендаваных Міхалам Казімірам Радзівілам кандыдатаў і перастаць старацца аб выбар дэпутатам аднаго з яго сыноў[100]. У выніку мы маем розную інфармацыю аб браслаўскім грамнічным сойміку 1762 г. Паводле адной версіі соймік разышоўся адразу як пачаўся. Згодна другой — дэпутатамі былі абраны Рудаміна і Цеханавецкі[101]. На сам рэч соймік быў сарваны, што пацвярджаецца карэспандэнцыяй і пратэстам у трыбунальскіх кнігах. Так, інфармацыю аб зрыве браслаўскага сойміка распаўсюджвалі абазнаныя ў мясцовых рэаліях браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен, браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі і браслаўскі гродскі суддзя Ігнат Лапацінскі. Прычым апошні з іх тлумачыў гэтым немагчымасць свайго абрання браслаўскім дэпутатам вялікаму гетману ВКЛ Міхалу Казіміру Радзівілу[102]. Лісты Ваўжэцкага і Гільзена падрабязна паказваюць прычыны зрыву сойміка. Гэтыя лісты разам з трыбунальскім пратэстам прадстаўляюць цікавую прававую дыскусію аб чарговасці павятовыхураднікаў, якія мелі пачынаць соймік. Браслаўскі войскі Феліцыян Ваўжэцкі падае інфармацыю аб зрыве сойміка ўжо пад час яго „загаення". Прычынай было тое, што распачаць соймік як больш высокі ўраднік замест Ваўжэцкага прэтэндаваў прыбыўшы на соймік інфлянцкі кашталян і браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен. Дапамагаў яму бацька, мінскі ваявода Ян Гільзен. Феліцыян Ваўжэцкі не пагадзіўся з гэтым і атрымаў

[99] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 6, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 15 I 1762, b.m., p. 240v.

[100] AGAD, AR, dz. V, sygn. 17024, cz. IV, F. Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 10 II 1762, Widzy, k. 211.

[101] LMAB, F. 139, b. 2712, cz. 2, M. Massalski do I. Massalskiego, b.d., b.m., p. 120-120v.

[102] AGAD, AR, dz. V, nr 8904, I. Łopaciński do M. K. Radziwiłła, 11 II 1762, Jody, k. 3; M. Matuszewicz, *Diariusz życia mego*, t. 2, Warszawa 1986, s. 196; AGAD, AR, dz. IV, sygn. 882, k. 141.

значную падтрымку шляхты. Гільзены са сваімі прыхільнікамі не ўпусцілі іх у соймікавую ізбу. У выніку Ваўжэцкі са сваімі прыхільнікамі размясціліся на „dziedzińcu”. Калі Ваўжэцкі пачаў соймік, то адразу з соймікавай ізбы запратэставалі супраць гэтага Гільзены і іх прыхільнікі. Гэтую пратэстацыю ў браслаўскі гродскі суд занеслі іх прыхільнікі — браслаўскі будаўнічы Рафал Квінта, Міхал Астаневіч і Міхал Клот[103]. Гэта пацвярджаецца і сапернікам Ваўжэцкага — інфлянцкім кашталянам і браслаўскім гродскім старостам Юзафам Гільзенам, „gdyż co wyraźne prawo przepisało, to quaestioni podpadać nie ma, ani powinno prerogatywą st[aros]ty sądowego w stopniach urzędow ziemskich, jako jest umieszczona między podkomorzym i chorążym, tak ex stallo suo nie może ustąpić niższemu urzędnikowi”. Больш таго, Гільзен распачаў працэс у Трыбунале ВКЛ супраць дзеянняў Ваўжэцкага. Згодна гэтага працэсу, як вольнымі былі ўрады браслаўскіх маршалка і падкаморыя, то згодна праву распачаць соймік меў браслаўскі гродскі староста. Феліцыян Ваўжэцкі прэтэндаваў, каб соймік распачаў ён, бо войскі ў гэтым мае перавагу перад гродскім старостам. Юзаф Гільзен хацеў пазбегнуць зрыву сойміка і прапанаваў, каб зараз соймік пачынаў не войскі і не гродскі староста, а хтосьці іншы з браслаўскіх шляхціцаў. Адначасова прапаноўвалася адаслаць на вырашэнне Трыбунала ВКЛ справу аб тым, хто павінен пачынаць браслаўскі соймік: войскі ці гродскі староста? Ваўжэцкі на гэта не пагадзіўся і са сваімі прыхільнікамі выйшаў з соймікавай ізбы. У такім выпадку Гільзен распачаў свой соймік у соймікавай ізбе і, каб не ствараць двух браслаўскіх соймікаў, яго „pożegnał”[104]. Такім чынам усе крыніцы пацвярджаюць, што соймік быў сарваны адразу пасля „загаення”.

Смерць вялікага гетмана ВКЛ і віленскага ваяводы Міхала Казіміра Радзівіла (22 мая 1762 г.) прынесла значныя перамены ва ўнутрыпалітычную сітуацыю ў ВКЛ. Радзівілаўская групоўка была аслаблена пасля смерці лідара, Масальскія фактычна адышлі ад Фаміліі і супрацоўнічалі з каралеўскім дваром, а Сапегі і Агінскія не валодалі моцай, каб уплываць на ўсе павятовыя соймікі. Фактычна ў ВКЛ стала функцыянаваць некалькі магнацкіх груповак замест двух ранейшых — Радзівілаў і Чартарыйскіх. Усе гэтыя магнацкія групоўкі імкнуліся атрымаць вызваліўшыеся ўрады пасля смерці Міхала Казіміра Радзівіла. Пасля таго, як стала вядома, што вялікім гетманам ВКЛ стане Міхал Масальскі, асабліва вострая барацьба разгарнулася за ўрад польнага гетмана ВКЛ, які ён павінен быў пры гэтым вызваліць. Галоўнымі кандыдатамі на гэты ўрад

[103] AGAD, AR, dz. V, sygn. 17024, cz. IV, F. Wawrzecki do M. K. Radziwiłła, 10 II 1762, Widzy, k. 211-213.

[104] LVIA, SA 131, p. 1210-1211v.

былі былыя саюзнікі па прыдворнай партыі — сын памерлага вялікага гетмана ВКЛ і мечнік ВКЛ Караль Станіслаў Радзівіл ды полацкі ваявода Аляксандр Сапега. Каралеўскі двор схіляўся да таго, каб урады гетмана і віленскага ваяводы больш не былі ў руках аднаго чалавека. У такой сітуацыі Радзівіл і Сапега былі канкурэнтамі і на ўрад віленскага ваяводы. На гэты ўрад ад Фаміліі прэтэндаваў Міхал Казімір Агінскі. Акрамя таго, заставаўся вольным і ўрад падканцлера ВКЛ, за які таксама вялася барацьба паміж магнацкімі групоўкамі. Рэкамендацыі на вызваліўшыеся ўрады канкурэнты да іх імкнуліся ўключыць у інструкцыі павятовых пасольскіх соймікаў 1762 г. Нам невядома пасольская інструкцыя сойміка ў Браславе. Толькі вядома, што на ім пасламі былі абраны радзівілаўскі прыхільнік — быстрыцкі староста Станіслаў Бжастоўскі і прыхільнік Агінскіх — браслаўскі гродскі пісар Стэфан Беліковіч[105].

Абвастрыўшаяся сітуацыя на сойме 1762 г. прывяла да таго, што выбары дэпутатаў на грамнічных сойміках ВКЛ 1763 г. прайшлі ў зацятай барацьбе паміж прыхільнікамі Фаміліі і прыдворнай радзівілаўскай групоўкі. Напружаная сітуацыя была і ў Браслаўскім павеце. Менавіта таму ўзгодненага з каралеўскім дваром кандыдата на выбар дэпутатам Ігната Лапацінскага меркавалася абраць на ковенскім сойміку ці якім іншым, але не браслаўскім, які сумніўна, што не будзе сарваны[106]. У Браславе канфлікт на сойміку разгарэўся адразу, бо датычыўся пытання: хто мае пачаць соймік? На гэта прэтэндавалі інфлянцкі кашталян і браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен ды браслаўскі стольнік Аляксандр Тадэвуш Ваўжэцкі. Са слоў Гільзена, Ваўжэцкі прэтэндаваў пачаць соймік „nie mając względu na szczupłość sił swoich i słaby w powiecie kredyt” і выратавалі яго ад раз'юшанай шляхты толькі ўцёкі. Гільзен сцвярджаў, што Ваўжэцкі пры гэтым дзейнічаў супраць інтарэсаў сваіх былых пратэктараў Радзівілаў. У сваю чаргу Гільзен атрымаў дапамогу радзівілаўскіх прыхільнікаў Цеханавецкіх. У выніку дэпутатамі на сойміку былі абраны браслаўскі абозны Пётр Мірскі і браслаўскі ротмістр Юзаф Квінта[107].

[105] M. Czeppe, *Kamaryla pana z Dukli. Kształtowanie się obozu politycznego Jerzego Augusta Mniszcha 1750-1763*, Warszawa 1998, s. 200; W. Konopczyński, *Polska w dobie wojny siedmioletniej...*, t. 2, przypisy, s. 474; BCz 3851, k. 331; К. С. Радзівіл да Ю. Мнішка, 24 VIII 1762, Дынебург, k. 99.

[106] LVIA, F. 1135, op. 14, b. 6, J. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 4 XII 1762, Michniszelcy, p. 305.

[107] H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 229; BCz 3853, J. Łopaciński do J. Mniszka, 9 II 1763, Kołtyniany, k. 345-346; Józef Hylzen do J. Mniszka, 15 II 1763, Belmonty, k. 377-378; AGAD, AR, dz. V, nr 757, S. Bielikowicz do K. S. Radziwiłła, 15 II 1763, Brasław, k. 12; nr 5586, Józef Hylzen do K. S. Radziwiłła, 8 II 1763, Brasław, k. 5-6; nr 2277, Jan Ciechanowiecki do K. S.

5 кастрычніка 1763 г. у Дрэздэне памірае Аўгуст III. У Рэчы Паспалітай наступае бескаралеўе. Для браслаўскіх соймікаў і ўсяго Браслаўскага павета вялікае значэнне мела іншая смерць — опскага старосты Яна Цеханавецкага. Выяўлены намі ліст Ігната Лапацінскага да брата Мікалая Тадэвуша Лапацінскага з 1 лістапада 1763 г. дазваляе рэканструяваць апошнія дні жыцця і дакладную дату смерці Яна Цеханавецкага. Згодна гэтага ліста, Ян Цеханавецкі хварэў каля тыдня і ўгорскі прэзбітар, як была адменена ўжо экскамуніка (адлучэнне)[108], параіў выспаведацца. Ян Цеханавецкі хацеў адразу выспаведацца вышэйзгаданаму прэзбітару, але той параіў звярнуцца да тэолага. 23 лістапада 1763 г. Ян Цеханавецкі быў у Відзах, а вярнуўшыся адтуль вельмі быў разззлаваўся з-за хатніх спраў і „co raz na zdrowiu zapadać zaczoł". Двойчы пасылалі па цырульніка, але ён прыехаў толькі ў сераду ўвечары (26 лістапада 1763 г.). Ян Цеханавецкі загадаў пусціць сабе кроў. Калі гэта цырульнік зрабіў, то Цеханавецкі пачаў слабець. Пабачыўшы малую надзею на выздараўленне, выслалі па прэзбітара, але яго не знайшлі і паслалі па ксяндза ў Відзы. Пакуль яго чакалі, Ян Цеханавецкі памёр[109]. Так скончылася жыццё аднаго з асноўных дзеячаў браслаўскіх соймікаў 50-х — пачатку 60-х гг. XVIII ст., які вельмі часта вызначаў іх лёс. Браслаўскія соймікі ўступалі ў цалкам новы перыяд свайго функцыянавання.

Такім чынам, магчыма зрабіць наступныя высновы. Функцыянаванне браслаўскіх соймікаў у 50-х — пачатку 60-х гг. XVIII ст. не мела поўнай залежнасці ад канфлікту паміж Цеханавецкімі і Струтынскімі, хаця менавіта гэты канфлікт меў лёсавызначальнае значэнне для іх у 1756-1758 гг. Браслаўскія соймікі гэтага перыяду прайшлі

Radziwiłła, 9 II 1763, Bohyń, k. 2; nr 2277, Jan Ciechanowiecki do K. S. Radziwiłła, 21 III 1763, Wilno, k. 5; M. Czeppe, *Kamaryla pana z Dukli...*, s. 201.

108 Гэта інфармацыя пярэчыць іншай крыніцы, згодна якой экскамуніка не была знята і пасля смерці Яна Цеханавецкага. — LMAB, F. 139, op. 1, b. 4701, A. Tyszkiewiczowa do A. Sapiehy, 10 XII 1763, Wilno, p. 6.

109 LVIA, F. 1135, op. 14, b. 6, I. Łopaciński do M. Łopacińskiego, 1 XI 1763, Jody, p. 161v-162. Згодна іншай інфармацыі, якую атрымалі з газет, Ян Цеханавецкі памёр 25 X 1763 г. — Российский государственный исторический архив, Ф. 823, оп. 3, дело 510, л. 210, ksiądz Zaborowski do J. Smogorzewskiego, 2 XI 1763, Dziernowiczy. На падставе гэтай крыніцы пададзена і дата смерці — 25 кастрычніка ў біяграфіі Яна Цеханавецкага. — H. Lulewicz, A. Rachuba, J. Sikorska-Kulesza, S. Dumin, A. Haratym, A. Macuk, A. Pospiszil, *Dzieje rodziny Ciechanowieckich herbu Dąbrowa...*, s. 230. Больш дакладнай, аднак, падаецца інфармацыя Ігната Лапацінскага, бо ён знаходзіўся бліжэй да Угора і Богіна і атрымаў яе ад слугі памерлага Яна Цеханавецкага. Акрамя таго, у тэксце прысутнічаюць дакладныя падрабязнасці аб доўгім чаканні цырульніка, які прыехаў толькі ў сераду, гэта значыць 26 лістапада 1763 г.

ў барацьбе паміж рознымі мясцовымі групоўкамі, якія вельмі часта рэпрэзентавалі асноўныя магнацкія групоўкі ў ВКЛ. Першыя моцныя канфлікты паміж мясцовымі шляхецкімі групоўкамі разгарнуліся пад час браслаўскага грамнічнага сойміка 1754 г. У выніку з шаснаццаці грамнічных і пасольскіх соймікаў было сарвана сем. З іх два пасольскія з шасці (1756 і 1761 гг.) і пяць дэпутацкіх з дзесяці (1755, 1759-1762 гг.). Аднак гэтыя лічбы не цалкам паказваюць склаўшуюся сітуацыю. Адзін з браслаўскіх грамнічных соймікаў (1757 г.) быў раздвоены і ўдалося прыйсці да згоды толькі ў сітуацыі згоды Цеханавецкіх пайсці на пэўныя саступкі ў справе забойства Ксаверыя Цеханавецкага. Яшчэ супраць некаторых соймікаў існавалі моцныя пратэстацыі: пасольскіх (1754 і 1760 гг.) і дэпутацкага (1758 г.). Яны не былі прызнаны слушнымі ў першую чаргу з-за прыналежнасці абраных паслоў ці дэпутатаў да той ці іншай магнацкай групоўкі. Падрабязны аналіз сарваных соймікаў паказвае, што частка іх была сарвана з-за барацьбы паміж прыхільнікамі Радзівілаў (Цеханавецкіх і Ваўжэцкіх) з прыхільнікамі Фаміліі (Рудамінамі і Мірскімі): пасольскі 1756 г. і дэпутацкія 1755 г. Адначасова браслаўскія грамнічныя соймікі 1759 і 1761 гг. нават скончыліся абраннем трох канкурэнтаў на выбар дэпутатамі, але ўжо яны не здолелі пагадзіцца паміж сабой і гэтыя соймікі былі прызнаны за сарваныя. Прычым падрабязны аналіз падзей гэтых соймікаў паказвае, што сарваны яны былі па ініцыятыве прыхільнікаў каралеўскага двара: 1759 г. — Агінскіх, 1761 г. — Пацеяў. Пры гэтым нельга казаць, што гэта было зроблена з-за супрацьстаяння з прыхільнікамі Фаміліі. Прычынай была нязгода і канфлікты сярод розных груповак, якія фармавалі прыдворную партыю ў ВКЛ (Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх і Гільзенаў). Браслаўскі грамнічны соймік 1760 г. быў сарваны з-за вялікай колькасці канкурэнтаў, якія якраз належалі да прыхільнікаў каралеўскага двара і іх праціўнікаў — Фаміліі. Больш значнай прычынай для яго зрыву, аднак, бачыцца тое, што прыхільнікі каралеўскага двара не ўзгаднілі сваіх кандыдатаў на выбар дэпутатам. Яшчэ адной прычынай зрыву мясцовага сойміка быў канфлікт аб тым, хто павінен пачынаць соймік: браслаўскі стольнік Аляксандр Ваўжэцкі ці браслаўскі гродскі староста Юзаф Гільзен. Прычым абодва канкурэнты прыналежалі да прыхільнікаў каралеўскага двара. Магчыма, нават пры ўзгадненні кандыдатаў для выбару дэпутатаў гэты соймік якраз быў бы сарваны з-за канфлікту аб „загаенні" сойміка. Гэты канфлікт працягваўся на браслаўскіх грамнічных сойміках 1762 і 1763 гг. З іх браслаўскі грамнічны соймік і быў сарваны з гэтай прычыны. Таксама на браслаўскім пасольскім сойміку 1761 г. не ўдалося абраць паслоў з-за вялікай колькасці канкурэнтаў, якія хацелі быць абранымі пасламі. Да канца незразумелы прычыны зрыву браслаўскага грамніч-

нага сойміка. А між іншым яны маглі, як і ў гады перад гэтым, быць сарваны з-за вялікай колькасці канкурэнтаў. Мы маем, што з сямі сарваных соймікаў два дакладна былі сарваны з-за канфлікту паміж прыхільнікамі Радзівілаў і Чартарыйскіх. З гэтай прычыны яшчэ тры соймікі былі апратэставаны. Аднак, у любым выпадку, гэта менш паловы. У выпадках шматлікай колькасці канкурэнтаў і нязгоды ўжо абраных трох кандыдатаў вельмі часта вырашальным было слова магната, якім было лепей сарваць соймік, чым дапусціць да абрання прадстаўніка непрыхільнай магнацкай групоўкі. Дакладна так было ў выніку браслаўскіх грамнічных соймікаў 1759 і 1761 гг. Акрамя мясцовых груповак Радзівілаў і Чартарыйскіх у Браслаўскім павеце значнымі ўплывамі валодалі прыхільнікі Агінскіх на чале з родам Беліковічаў і яго прадстаўнікі два разы ў 1760 і 1762 гг. станавіліся пасламі на браслаўскім сойміку. Пасля разрыву з Фаміліяй значныя ўплывы ў Браслаўскім павеце мелі і прыхільнікі Сапегаў на чале з браслаўскім гродскім суддзёй Ігнатам Лапацінскім, які абіраўся паслом у Браславе ў 1760 г. Добрыя адносіны з лідарам радзівілаўскіх прыхільнікаў Янам Цеханавецкім дапамаглі яму яшчэ да разрыву з Фаміліяй быць абраным на мясцовым сойміку дэпутатам у 1756 г. і дырэктарам браслаўскага грамнічнага сойміка ў 1758 г. Моцнымі ўплывамі ў павеце валодалі мінскі ваявода Ян Гільзен і яго сын браслаўскі гродскі староста Юзаф. Менавіта Юзаф Гільзен быў абраны паслом на браслаўскім пасольскім сойміку 1758 г. Увогуле з чатырох браслаўскіх пасольскіх соймікаў, якія скончыліся выбарамі паслоў, пасламі сталі чатыры прыхільнікі Радзівілаў: Юзаф Струтынскі (1754 г.), Ян Цеханавецкі (1754 і 1758 гг.) і Станіслаў Бжастоўскі (1762 г.). Гэта палова ўсіх паслоў. Двойчы пасламі абіраліся прыхільнікі Агінскіх: Адам Беліковіч (1760 г.) і Стэфан Беліковіч (1762 г.). Тут мы маем чацвёртую частку ўсіх абраных у гэты час браслаўскіх паслоў. Прыхільнік Сапегаў Ігнат Лапацінскі абіраўся паслом у 1760 г., а ў 1758 г. ім быў прыхільнік каралеўскага двара Юзаф Гільзен, а прыдворнымі групоўкамі ў гэты час былі Радзівілы і Агінскія. Схіляліся ўжо да супрацоўніцтва з каралеўскім дваром і Сапегі. Агінскія, праўда, ужо з 1760 г. сталі саюзнікамі Фаміліі. З шасці скончыўшыхся прызнанымі легітымнымі выбарамі дэпутатаў дакладна толькі прыхільнікі Радзівілаў станавіліся дэпутатамі ў 1757, 1758 гг. (прычым у 1757 г. па ўзгадненню з прыхільнікамі Фаміліі). Па адным прыхільніку Радзівілаў абіралася дэпутатамі на браслаўскіх грамнічных сойміках у 1756 і 1763 гг. Гэта больш паловы (6 дэпутатаў) з усіх прызнаных легітымнымі выбараў дэпутатаў у Браславе (10 дэпутатаў). Прыхільнікі Фаміліі (Мікалай Рудаміна і Ігнат Лапацінскі) абіраліся дэпутатамі двойчы: адпаведна ў 1754 і 1756 гг. Прыхільны каралеўскаму двару і супрацоўнічаўшы

з Фамiлiяй Канстанцiн Людвiк Плятэр быў дэпутатам у 1754 г. Яшчэ адзiн з браслаўскiх дэпутатаў 1763 г. Юзаф Квiнта быў прыхiльнiкам Сапегаў, але здаецца супрацоўнiчаў i з Фамiлiяй, i з Агiнскiмi. Як бачна, прыхiльнiкi Радзiвiлаў абiралiся на палову пасольскiх i больш паловы дэпутацкiх месцаў. Гэта тлумачыцца перавагай, якую мелi тут iх мясцовая групоўка, якая складалася з родаў Цеханавецкiх i Ваўжэцкiх (у 1754 г. Юзафа Струтынскага).

**Summary**

**Braslaw regional councils (*sejmiks*) in the 1750s and early 1760s**

Braslaw regional assemblies of the 1750s and early 1760s were held in the atmosphere of growing antagonism among various magnate factions that emerged in the Grand Duchy of Lithuania. In the years 1756-1758 the parties from Ciechanowiec and Strutyń had greatest influence. With time, the political conflicts spread to local followers. As a consequence, seven out of the total number of sixteen Braslaw parliaments were broken off. The analysis of the events shows that a number of *sejmiks*, including the 1756 and the 1755 assemblies, were dissolved as a result of fight between the Radziwiłł and the Familia factions. Other reasons included disagreements between royal supporters and those of numerous noblemen groups, such as Sapieha, Ogiński, Pociej, and Hylzen. At the four effective electoral *sejmiks*, four Radziwiłł followers were elected, and at that time they made half of all elected Braslaw representatives. Consequently, owing to strong local support from Ciechanowiecki and Wawrzecki families, and from Józef Strutyński in 1754, Radziwiłł electors dominated more than half of all regional parliaments.

**Streszczenie**

**Sejmiki brasławskie w latach 50. i na początku lat 60. XVIII w.**

Sejmiki brasławskie w latach 50. i na początku lat 60. XVIII w. odbywały się w atmosferze walki między zwolennikami różnych stronnictw magnackich w Wielkim Księstwie Litewskim. Znaczny wpływ na sejmiki w Brasławiu w latach 1756-1758 miał konflikt między Ciechanowieckimi i Strutyńskimi. Z biegiem czasu ten konflikt na sejmikach brasławskich znalazł się w cieniu walki między różnymi miejscowymi ugrupowaniami, które bardzo często reprezentowały podstawowe stronnictwa magnackie w WKL. W rezultacie z szesnastu gromnicznych i poselskich sejmików w Brasławiu zerwanych zostało siedem — dwa sejmiki poselskie z ogólnej liczby sześciu i pięć deputackich — z dziesięciu. Analiza zerwanych sejmików świadczy, że część z nich została zerwana z powodu walki między zwolennikami Radziwiłłów i Familii: poselski w 1756 r. i deputackie w 1755 r. Inne sejmiki były zrywane z powodu innych przyczyn, głównie z powodu braku zgody w szeregach miejscowych zwolenników dworu królewskiego i jednocześnie zwolenników miejscowych rodów magnackich Radziwiłłów, Sapiehów, Ogińskich, Pociejów i Hylzenów. Najczęściej posłami i deputowanymi na sejmikach w Brasławiu wybierani byli zwolennicy Radziwiłłów. Na zakończonych wyborami czterech brasławskich sejmikach poselskich posłami zostało czterech zwolenników Radziwiłłów. Stanowili oni połowę wszystkich wybranych w owym czasie w Brasławiu posłów. Na sześciu ważnych sejmikach gromnicznych deputowanymi wybrano sześciu zwolenników Radziwiłłów. Stanowiło to ponad połowę ogólnej liczby ważnych wyborów w Brasławiu (10 deputowanych). Zwolennicy Radziwiłłów byli wybierani na połowę poselskich i ponad połowę deputackich miejsc. Taka sytuacja była wynikiem przewagi miejscowego ugrupowania radziwiłłowskiego, w którego skład wchodziły rody Ciechanowieckich i Wawrzeckich (w 1754 r. — Józefa Strutyńskiego).

**Галіна Флікоп-Світа**
(Мінск)

# Апостальскі чын іканастасаў грэка-каталіцкіх храмаў Беларусі XVII — першай трэці XIX ст.: асаблівасці даследавання і праблемы атрыбутавання захаваных помнікаў

Дадзены артыкул прысвечаны аднаму з актуальных пытанняў у даследаванні Грэка-каталіцкай царквы на беларускіх землях у XVII — першай трэці XIX ст. — іканастасам. А дакладней, аднаму з ярусаў гэтай сакральнай канструкцыі — апостальскаму чыну. У некаторых нашых артыкулах ужо ўзнімаліся пытанні наяўнасці іканастасаў ва ўніяцкіх цэрквах Беларусі ў XVII — першай трэці XIX ст., вялася гаворка пра асаблівасці гэтай сакральнай канструкцыі (колькасць чыноў), асвятлялася тэрміналогія, якая выкарыстоўвалася візітатарамі грэка-каталіцкіх храмаў пры апісанні іканастасаў у канцы XVII — пачатку XIX стст. Аднак улічваючы нераспрацаванасць шэрагу пытанняў, датычных уніяцкіх іканастасаў, бачыцца неабходным чарговы раз звярнуцца да гэтай праблематыкі і засяродзіцца на глыбокім вывучэнні аднаго з аспектаў.

У дадзеным артыкуле ўвага будзе нададзена апостальскаму чыну. Паводле меркавання даследчыкаў, наяўнасць гэтага яруса — рыса, характэрная менавіта для беларускіх іканастасаў, і з’явілася яна ў рэчышчы Грэка-каталіцкай царквы[1]. Выяўленыя намі звесткі гавораць пра тое, што апостальскі чын замест дэісуснага прысутнічае і ва ўкраінскіх іканастасах грэка-каталіцкіх храмаў, а таксама ў тагачасных беларускіх праваслаўных цэрквах[2]. Гэта дазволіла выказаць здагадку пра тое, што ўзнікненне апостальскага чыну ў храмах грэчаскага абраду Вялікага Княства Літоўскага тлумачыцца не ўзнікненнем новай канфесіі (уніяцтва), а нейкімі іншымі фактарамі. На дадзены момант вызначыць іх з дакладнасцю не ўяўляецца магчымым.

Аднак не толькі пытанне ўзнікнення гэтага яруса (замест дэісуснага) з’яўляецца цікавым і патрабуе вывучэння. Так, не даследаванымі застаюцца і шматлікія помнікі, якія некалі складалі гэты ярус у ікана-

[1] А. Ю. Хадыка, Ю. В. Хадыка, *Рэнесанс у беларускім новым іканапісе,* [у:] *Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння*, Мінск 1994, с. 62-70.

[2] Г. А. Флікоп, *Мастацкія і іканаграфічныя асаблівасці іканапісу грэка-каталіцкіх храмаў Беларусі XVII — першай паловы XIX ст.: аўтарэф. дыс. (...) канд. мастацтвазнаўства*, Мінск 2014, 26 с.

стасах уніяцкіх храмаў. Таксама не разглядалася пытанне і пра колькасць абразоў у гэтым радзе, пра цэнтральную выяву і іншае. Таму дадзены артыкул будзе накіраваны на вывучэнне акрэсленых пытанняў, а таксама — на ўвядзенне ў навуковае карыстанне цікавых архіўных дакументаў і шматлікіх помнікаў уніяцкага іканапісу.

Асноўнымі гістарычнымі крыніцамі, выкарыстанымі для дадзенага даследавання, з'яўляюцца пратаколы праверак уніяцкіх храмаў (візіты, інвентары) XVIII — пачатку XIX стст. Гэтыя дакументы захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску (далей: НГАБ), Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве (Lietuvos valstybės istorijos archyvas; далей — LVIA), Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу (Российский государственный исторический архив; далей — РГИА), Люблінскім дзяржаўным архіве (Archiwum Państwowe w Lubline; далей — APL). Неабходна адразу падкрэсліць, што больш раннія дакументы, дзе прыводзяцца звесткі пра інтэр'еры ўніяцкіх храмаў, фактычна не даюць уяўлення пра тагачасныя іканастасы.

Так, у НГАБ захоўваецца крыніца 1680-1682 гг. (дакумент быў апрацаваны і апублікаваны Дзянісам Лісейчыкавым у 2009 г.[3]), у якой прыводзяцца пратаколы праверкі цэркваў трынаццаці грэка-каталіцкіх пратапопій (у той час ва ўніяцкім справаводстве для абазначэння царкоўна-адміністрацыйнай адзінкі, прадстаўленай пэўнай колькасцю (звычайна 10-20) храмаў, яшчэ выкарыстоўваўся гэты тэрмін, заменены пасля 1720 г. на „дэканат" паводле каталіцкага ўзору), аднак пра іканастасы ў лепшым выпадку толькі прыводзяцца згадкі: ёсць ці няма[4]. Апісанні іх не прыводзяцца. Тое ж датычыцца і дакумента з РГИА за 1694-1696 гг., які з'яўляецца візітай дзевяці храмаў Полацкага ваяводства[5]. Гэтае ж назіранне актуальнае і для яшчэ адной крыніцы гэтага ж перыяду з названага архіва: пратаколаў праверак Слонімскай, Ваўкавыскай, Клецкай, Нясвіжскай, Гродзенскай, Цырынскай пратапопій за 1696 год[6]. Такім чынам, звесткі пра ўніяцкія іканастасы XVII ст. з гістарычных дакументаў атрымаць немагчыма. Уяўленне пра іх даюць

[3] *Візіты уніяцкіх цэркваў Мінскага і Навагрудскага сабораў 1680-1682 гг.: зборнік дакументаў*, укладальнік Дз. В. Лісейчыкаў, Мінск 2009, 270 с.: іл.

[4] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ), фонд 136, вопіс 1, справа 42042: „Візіты цэркваў Мінскай, Бабруйскай, Навагрудскай, Клецкай, Нясвіжскай, Цырынскай, Барысаўскай, Лагойскай, Даўгінаўскай, Блонскай, Ігуменскай, Мядзельскай, Пухавіцкай пратапопій", 1680-1682, 109 аркушаў.

[5] Российский государственный исторический архив (далей: РГИА), ф. 823, воп. 3, спр. 409: „Отчёт о визите церквей в деревнях Церковной, Дзедзин и др.", 1684-1686, 16 арк.

[6] РГИА, ф. 823, воп. 3, спр. 420: „Візіты пратапопій Слонімскай, Ваўкавыскай, Нясвіжскай, Клецкай, Гродзенскай, Цырынскай", 1696.

захаваныя помнікі іканапісу. Безумоўна, жывапісныя творы былі выкарыстаны і пры вывучэнні іканастасаў і больш позняга часу.

Так, мастацкімі крыніцамі выступаюць абразы, якія знаходзяцца ў розных музеях краіны. Для артыкула пераважна былі выкарыстаны творы з Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (далей: НММ РБ) і Музея старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (далей: МСБК).

Апостальскі чын знаходзіўся ў большасці іканастасаў, вышэйшых за адзін ярус. Наяўнасць абразоў Апосталаў для ўніяцкага храма была настолькі натуральнай, што пры адсутнасці такіх ікон візітатар часам рабіў адпаведны запіс. Так, у царкве вёскі Сухопаль Пружанскага дэканата ў 1725 г. „deisus nie porządny bez Apostołow”, а пры гэтым у суседнім храме ў Макранах „deisus z apostołami pożądny”[7]. Такім чынам, пры адсутнасці гэтых абразоў іканастас успрымаўся непрыгожым, нязграбным.

Як сведчаць архіўныя крыніцы, апостальскі чын, як правіла, быў поўны і складаўся з 12 выяў Апосталаў і іконы „Архірэй”, размешчанай пасярэдзіне (калі глядзець па вертыкалі, дык яна размяшчалася над Царскай Брамай). Пацвярджэннем гэтаму з’яўляюцца шматлікія фармулёўкі ў апісаннях уніяцкіх храмаў прыблізна такога зместу: „w gorze jest obraz Archiereia (...) obrazy SS. Apostołow”[8]. Часам пазначалася і колькасць абразоў: „w gurze ktorych 12tu Apostołow z Panem Jezusem”[9] — але далёка не заўсёды. На нашу думку, у большасці выпадкаў апостальскі чын быў поўным. Гэта было натуральнай з’явай, якая не патрабавала дадатковага тлумачэння і апісання, таму візітатары пры занатоўванні звестак колькасць ікон Апосталаў не пазначалі. Але часам былі і іншыя выпадкі.

Так, у Мікалаеўскай царкве вёскі Казіміраўка Глускага дэканата на 1784 г. быў іканастас, у якім „Carskie Drzwi nad ktoremi Pan Jezus z 4ma Apostołami”[10]. А ў другім чыне іканастаса царквы вёскі Любавічы Мсціслаўскага дэканата ў 1822 г. былі толькі два абразы — „Пётр”

[7] Archiwum Państwowe w Lublinie (далей: APL), ф. „Chełmski Konsystorz Greckokatolicki” (далей: ChKGK), спр. 101: „Protokóły wizytacyjne i wizytacja generalna cerkwi w diecezji chełmskiej, bełskiej i brzeskiej”, 1720-1727, арк. 124 адварот, 126 адв.

[8] Lietuvos valstybės istorijos archyvas (далей: LVIA), ф. 634, воп. 1, спр. 48: „Wizyja generalna Prużańskiego, Kobryńskiego, Poliskiego, Kamienieckiego y Włodawskiego dyecezyi Brzeskiey dekanatów”, с. 367.

[9] НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 41241: „Akt Wizyty g[ene]r[a]lney dekanatow Bobruyskiego, Hłuskiego y Rohaczewskiego”, 1784, арк. 46.

[10] Там жа, арк. 112 адв.

і „Павел”[11]. Падобнае апісанне датычыцца і апостальскага раду храма вёскі Балоты Кобрынскага дэканата за 1759 г.: паміж „Пятром” і „Паўлам” знаходзілася выява Архірэя, якая, паводле канонаў, і мусіла размяшчацца ў цэнтры гэтага чыну[12].

Няпоўны рад з пяці выяў Апосталаў (шостая — „Архірэй”) меўся ў філіяльнай аксёнавіцкай царкве (прыпісана да царковіцкай) Гарадзішчанскага дэканата (1822 г.)[13]. А ў царкве вёскі Стары Бубель Брэсцкага дэканата (на 1773 г.) акрамя „Архірэя” было толькі два абразы Апосталаў[14].

А вось у Чаравачыцах Кобрынскага дэканата ў 1759 г. уверсе іканастаса знаходзіўся толькі адзін „Архірэй”. Верагодна, у дадзеным выпадку апостальскі чын быў прадстаўлены толькі гэтым абразом. Трэба адзначыць, што паміж ім (па вертыкалі) і Царскай Брамай, як і мае быць, знаходзілася „Тайная Вячэра”[15].

Падобнае размяшчэнне абразоў было і ў іканастасе царквы вёскі Арэхава Уладаўскага дэканата (у тым жа годзе), аднак там выява Архірэя размяшчалася непасрэдна над Царскай Брамай („Тайная Вячэра” не згадваецца)[16]. Можна меркаваць, што гэта быў аднаярусны іканастас (абразы мясцовага чыну апісваюцца), і ў ім, як у іншых такога роду канструкцыях, над брамай знаходзілася ікона. Толькі ў астатніх храмах у дадзеным выпадку гаворка ідзе пра „Тайную вячэру” або выяву „Спас нерукатворны”, якія кананічна (адна з іх) і займалі адпаведнае месца. Тут жа яны не ўпамінаюцца. Таму можна лічыць арэхаўскі іканастас аднаярусным, дзе замест „традыцыйнай” іконы над Царскай Брамай быў змешчаны „Архірэй”. Аднак небеспадстаўным будзе меркаванне, што названая канструкцыя — двух’ярусны іканастас, у якім другі чын прадстаўлены толькі адным абразом. Такія выпадкі вядомыя ў іншых храмах. Так, захаваны іканастас канца XVIII — пачатку XIX стст. у праваслаўнай давыд-гарадоцкай Юраўскай царкве ў праайцоўскім чыне мае толькі адну выяву — Саваофа[17].

Кажучы пра апостальскі чын, нельга не згадаць пра рэдкі выпадак, датычны іканастаса ў храме вёскі Пятровічы Мсціслаўскага дэканата

11 РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 182: „Wizyty dekanatów Mscisławskiego, Zapolańskiego i Zasożskiego protopresbyteryi Mscisławskiey za rok 1822”, арк. 1.

12 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 160.

13 РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 179: „Wizyty dekanatu Bychowskiego za 1822 rok i Horodyszczańskiego”, арк. 46 адв.

14 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 50: „Wizyja dekanatu Brzeskiego”, 1773, арк. 36 адв.

15 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 106-107.

16 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 437.

17 *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, аўтар тэксту і складальнік Н. Ф. Высоцкая, Мінск 2001, іл. № 76.

(1822 г.). Тут выявы Апосталаў былі размешчаны **пад** мясцовымі абразамі. Гэта ў дакуменце апісана наступным чынам: „Ikonostas o jedney kondygnacyi. W nim rzniętych 12 Apostołow, nad nimi 2 obraze namiestne z Drzwiami Carskiemi”[18]. Звяртаюць на сябе ўвагу два нюансы: размяшчэнне і тэхніка выканання. Па ўсёй верагоднасці, майстры-разьбяры выканалі іх у якасці дэкаратыўнага элемента ніжняй асновы іканастаса. Таму візітатарам гэтыя выявы і не апісаны як асобны чын, у адрозненне ад апостальскіх радоў у іншых храмах.

Выразным прыкладам „класічнага” апостальскага чыну ўніяцкага іканастаса з’яўляюцца абразы з царквы ў Шарашове Пружанскага раёна[19]. Зараз яны захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі РБ і гэта, бадай, адзіны з нешматлікіх іканастасных ярусаў, які захаваўся і патрапіў у музей у поўным складзе (а ў дадзеным выпадку не толькі адзін ярус, а цэлы іканастас). У астатніх выпадках часцей за ўсё да нашага часу або дайшлі выбраныя творы, або помнікі знаходзяцца ў розных месцах (часткова ў храмах, часткова ў калекцыях).

Абразы апостальскага чыну шарашоўскага іканастаса даследчыкі датуюць другой паловай XVIII стагоддзя[20]. Выкарыстанне гістарычных дакументаў можа паспрыяць удакладненню часу напісання выяў. З апісаннямі шарашоўскай царквы нам вядомыя дзве крыніцы: візіта 1725 г., якая захоўваецца ў Люблінскім дзяржаўным архіве, і візіта 1759 г., якая знаходзіцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве. На першы погляд можа падацца, што названыя дакументы ў атрыбуцыі шарашоўскіх абразоў дапамагчы ніяк не змогуць, паколькі належаць да больш ранняга перыяду, пакуль яшчэ разглядаемыя жывапісныя выявы не былі створаны. Аднак, як будзе прадэманстравана ніжэй, нават у такіх выпадках гістарычныя крыніцы могуць паспрыяць даследаванню.

У найбольш ранняй з названых візітаў пра іканастас адзначаецца, што ён „porządny”[21]. Праўда пра колькасць чыноў гаворка не ідзе. Зафіксавана толькі, што ў мясцовым чыне чатыры абразы, але нават яны не пералічваюцца. Аднак, па ўсёй верагоднасці, апостальскі ярус быў, паколькі характарыстыка „porządny” ўсё ж сведчыць пра тое, што іканастас складаўся не толькі з мясцовага чыну. Тая акалічнасць, што найчасцей над ніжнім ярусам знаходзіліся „Апосталы” дазваляе выказаць думку пра наяўнасць разглядаемага чыну.

[18] РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 182, арк. 52-52 адв.

[19] Малюнак 1-4. *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 130-134.

[20] *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў у зборы Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Каталог*, аўтар-складальнік Н. Ф. Высоцкая, Мінск 1986, с. 141-150; *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 130-134.

[21] APL, ф. ChKGK, спр. 101, арк. 124 адв., 126 адв.

Пэўным пацвярджэннем могуць з'яўляцца апісанні іншых храмаў Пружанскага дэканата за 1725 г. Так, пра іканастас у сухапольскай царкве гаворыцца, што ён „nie porządny bez Apostołow", а вось у макранскай — быў „deisus z ap[osta]łami pożądny". Таму такая ж характарыстыка ў апісанні шарашоўскай царквы, як і ў макранскай, дазваляе выказаць думку, што і ў гэтым выпадку ў іканастасе былі „Апосталы".

Больш падрабязная інфармацыя ўтрымліваецца ў дакуменце за 1759 г. Так, пра іканастас гаворыцца, што ён стары і складаецца з трох чыноў, якія, аднак, і ў дадзеным выпадку не пералічваюцца[22]. Азначэнне „стары" наводзіць на лагічныя высновы: у хуткім часе іканастас мог быць заменены новым, тады ж і былі выкананы разглядаемыя абразы „Апосталаў", якія даследчыкамі датуюцца другой паловай XVIII ст. Неабходна таксама адзначыць, што і царкоўны будынак, з якога абразы былі вывезены ў музей, быў узведзены ў 1760 г. Верагодна, гэтая дата і стала прычынай таго, што перыяд стварэння іканастасных твораў навукоўцы акрэслілі другой паловай XVIII ст. На першы погляд усё падаецца лагічным. Але не ўсё так проста.

Вядома вельмі шмат выпадкаў, калі новы храмавы будынак узводзіўся на месцы заняпалага старога, з якога абразы і пераносіліся. На падставе вышэйпрыведзеных звестак можа падацца, што ў дадзеным выпадку была адваротная сітуацыя. Аднак прыцягнем да даследавання іншыя факты. Так, у НММ РБ разам з іканастаснымі абразамі з шарашоўскай царквы паступіў і алтарны абраз „Тры Святцілі"[23]. У альбомах, дзе друкаваўся гэты твор, ён таксама фігуруе з датай „другая палова XVIII ст.". Аднак гэты абраз згадваецца ў візітах за 1725 і 1759 гады[24]. Значыць, да 1725 г. ён ужо быў створаны. Скептыкі могуць паспрабаваць аспрэчыць такую выснову: маўляў, да 1725 г. быў напісаны адзін твор, а ў другой палове XVIII ст. мог быць напісаны іншы абраз такога ж сюжэта. Гэта лагічна, аднак у дадзеным выпадку мала верагодна.

Справа ў тым, што ў храме з пэўнай перыядычнасцю мяняліся (або „ўзнаўляліся" — перапісваліся) абразы мясцовага чыну (пры наяўнасці іканастаса) або твор з выявай Святога ці біблейскай падзеі, у гонар якой асвечаны храм (напрыклад, св. Мікола, Успенне Божай Маці). Гэта тлумачыцца тым, што такія выявы для храма з'яўляюцца найбольш значнымі і вернікамі найбольш шанаванымі: яны павінны былі выглядаць належным чынам. А вось абраз „Тры Святцілі" не з'яўляецца напрастольным. Больш за тое, для вернікаў ён быў нават не бачны,

[22] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 89.
[23] Малюнак 5. *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 135.
[24] APL, ф. ChKGK, спр. 101, арк. 128; LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 89.

бо знаходзіўся ў алтары ў прэзбітэрыі: г.зн. — за іканастасам. Таму не было патрэбы яго падмалёўваць або замяняць новым. Чаму мы згадалі тут пра гэтую выяву, якая, здаецца, да апостальскага чыну не мае дачынення? Справа ў тым, што стылістычнае параўнанне „Трох Свяціцеляў" і групы апостальскіх абразоў сведчыць пра тое, што іх выканаў адзін майстар. Доказам можа з'яўляцца разны арнамент на фонах гэтых твораў: ён ідэнтычны. Такім чынам, і „Апосталы" былі напісаныя да 1725 г.

У дадзеным выпадку кожная выява Апостала напісана на асобнай аснове. Верхняе поле і бакі дошкі, вольныя ад жывапісу, дазваляюць уявіць, якім чынам творы ўстаўляліся ў агульную іканастасную канструкцыю. Трэба адзначыць, што арачнае завяршэнне было даволі характэрным.

Прыкладам гэтаму з'яўляецца фрагмент апостальскага чыну іканастаса царквы Нараджэння Божай Маці ў вёсцы Шэбрын Брэсцкага р-на Брэсцкай вобл., які захоўваецца зараз у МСБК[25]. Дадзены помнік мае тры выявы Апосталаў, напісаныя на злучаных паміж сабой пяці дошках. Да драўлянай асновы прымацаваны пілястры з капітэлямі, якія адасабляюць „Апосталаў" адзін ад другога, і наверша з арачнымі праёмамі, што акрэслівае паўколамі верхнюю частку жывапіснай кампазіцыі.

Падобным чынам можна ахарактарызаваць яшчэ адзін помнік: фрагмент іканастаса з вёскі Дамачава Брэсцкага р-на Брэсцкай вобл.[26] Абодва названыя творы датуюцца даследчыкамі XVII стагоддзем. На жаль, за гэты перыяд дакументаў па Брэсцкай уніяцкай дыяцэзіі, у склад якога ўваходзілі гэтыя цэрквы, не захавалася. У апісанні шэбрынскага храма за 1773 г. адзначаецца наяўнасць ікон „Апосталаў" на дрэве[27]. Дамачаўская ўніяцкая царква пабудавана была ў 1788 годзе[28]. Не вядома, праўда, у склад якога дэканата яна тады ўваходзіла, бо знаходзілася на памежжы Брэсцкага і Уладаўскага дэканатаў. Аднак па абедзвюх адміністрацыйных адзінках дакументаў з апісаннямі храмаў пасля 1788 г. нам выявіць не ўдалося. Паколькі мастацкія асаблівасці твора сведчаць пра яго больш ранняе паходжанне, дык, відавочна, што ён быў прынесены ў храм з нейкай іншай царквы.

Кажучы пра апостальскі чын, нельга не адзначыць і такую акалічнасць, што і поўны ярус з дванаццаццю „Апосталамі" мог складацца

[25] Малюнак 6. *Музей старажытнабеларускай культуры: альбом,* укладальнік А. А. Ярашэвіч, Мінск 2004, с. 40.

[26] Малюнак 7. МСБК, інв. № - КП 1053.

[27] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 50, арк. 25.

[28] *Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя*, Мінск 2006, т. 3: *Брэсцкая вобласць*, кн. 1, 528 с., іл.

з рознай колькасці абразоў. Так, выявы маглі размяшчацца папарна, або па некалькі на кожным з твораў. Напрыклад, Троіцкая царква ў мястэчку Глазомічы Веляшкоўскага дэканата ў 1822-1823 гг. мела ў іканастасе „(...) cztery obrazy w dłutach rzniętych mające w sobie Dwunastu Apostołow”[29]. Такім чынам, тут выявы былі размеркаваны на чатырох дошках па тры на кожнай.

Парныя выявы, напісаныя на дрэве, былі ў гарадоцкім іканастасе (Мсціслаўскі дэканат, 1822 г.): „nad kratkami sześć obrazow starych z wyrznięciem 12tu apostołow, a posrodku Zbawiciela P. na drzewie malowanych”[30]. Такая ж кампаноўка фігур была і на абразах у іканастасе вёскі Азяты Кобрынскага дэканата ў 1802 г., але там яны былі напісаны на палатне[31]. А апостальскі чын хваснянскай царквы Гарадзецкага дэканата (1822 г.), наадварот, складаўся з дзвюх шасціфігурных кампазіцый: „A nad namiestnemi obrazami dwie blaty (...) na których 12 Apostołow”[32]. На жаль, да цяперашняга часу прыклады такой шматфігурнай кампаноўкі не захаваліся.

Аднак да нас дайшло даволі шмат твораў, дзе постаці змешчаны папарна. У НММ РБ захоўваюцца абразы „Апосталаў”, выяўленыя ў 1918 г. ва Успенскай царкве (1767 г.) вёскі Юрцава Аршанскага р-на Віцебскай вобл.[33] Творы, паводле атрыбуцыі Альберта Іпеля, датуюцца перыядам да 1700 года[34]. Тая акалічнасць, што абразы былі напісаны раней за час будаўніцтва храма, сведчыць пра іх лёс: яны былі перанесены або са старой царквы, на месцы якой узвялі новую, або — з нейкай іншай, магчыма — суседняй.

У вопісе храмавой маёмасці за 1822 г. (гэта адзіны дакумент па юрцаўскай царкве, які ўдалося знайсці) выявы Апосталаў не згадваюцца, а адносна іканастаса адзначана, што яго няма[35]. Такім чынам, разглядаемыя абразы патрапілі ў храм паміж 1822 і 1918 гг. Гэта ў пэўнай ступені з'яўляецца не зусім характэрным, паколькі асноўныя перамяшчэнні храмавой маёмасці адбываліся за савецкім часам (з зачыненых

[29] НГАБ, ф. 1781, воп. 26, спр. 1410: „Wizyty dekanatów: Witebskiego, Wieliżskiego, Wielaszkowskiego, Mikulinskiego i Zadźwińsko-Bieszenkowskiego za rok 1822”, арк. 98.

[30] РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 182, арк. 7.

[31] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 56: „Akta wizyty generalnej dekanatu Kobryńskiego”, 1784, арк. 40 адв.

[32] РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 183: „Akta Wiziti Generalnej (...) w dekanatach Połockim y Horodeckim (...) w roku 1822 (...) rozpoczętey, a w 1823 (...) odbytey (...)”, арк. 114-115.

[33] Малюнак 8-9. *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 60, 61.

[34] Там жа.

[35] РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 185: „Wizyty dekanatu Smolańskiego i Orszańskiego za 1822 rok”, арк. 66 адв.

або прыстасаваных пад склады ці клубы цэркваў начынне перавозілася ў дзеючыя цэрквы). Магчыма, „Апосталы” ў Юрцава патрапілі пад час Першай сусветнай вайны з нейкага разбуранага суседняга храма.

Аднак верагодны і іншы варыянт: пасля скасавання уніі ў 1839 г. і пераводу храмаў у праваслаўе паўсюдна ўладкоўваліся іканастасы (дзе іх не было). Для гэтага маглі быць выкарыстаны і старыя абразы з ранейшых, некалі існуючых, а пасля разабраных, іканастасаў. Па ўсёй верагоднасці, разглядаемыя іконы для гэтых мэт былі перавезены з нейкага іншага храма (дзе, магчыма, іканастас быў зроблены новы і патрэбы ў старых абразах не было). Неабходна адзначыць, што ўсё гэта на дадзеным этапе даследавання можа быць выказана толькі ў якасці версій, якія, з-за адсутнасці гістарычных крыніц, пакуль не могуць быць пацверджаны. Адносна названых помнікаў таксама трэба падкрэсліць, што гэта — нешматлікія з дайшоўшых да нас абразоў „Апосталаў” XVII ст. Пераважная большасць уведзеных у навуковае карыстанне твораў, якія знаходзяцца ў асноўным у музейных зборах, датуюцца XVIII ст. Магчыма, у храмах дзесьці яшчэ захаваліся апостальскія выявы XVII ст., аднак гэта вымагае асобнага вывучэння.

Названыя парныя выявы ствараюць і пэўныя складанасці ў вызначэнні прадстаўленых на іх постацей. Так, у альбоме *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стст.* аўтар-складальнік Надзея Высоцкая называе іх як „Пётр і Варфаламей”, „Павел і Іаан”[36]. Такое ж азначэнне прыводзіцца ёй і ў каталогу старажытнага тэмпернага жывапісу са збораў НММ РБ[37], і ў альбоме *Жывапіс Беларусі XII-XVIII стст.*, дзе надрукаваны адзін з двух названых абразоў[38]. Аднак у больш позніх публікацыях разглядаемыя парныя выявы прыводзяцца з новай удакладненай атрыбуцыяй. Так, у каталогу выставы *Православная икона России, Украины, Беларуси*, якая адбылася ў НММ РБ у 2008 г., абразы фігуруюць пад найменнямі „Сімон і Філіп”, „Фама і Варфаламей”[39]. Тут жа падаецца і ўдакладненая дата — канец XVII ст.

У МСБК маюцца і парныя абразы Апосталаў з іншага рэгіёна Беларусі — з Браслаўшчыны[40]. У музей патрапілі чатыры творы, але магчыма, іх было шэсць. Невядомае і паходжанне абразоў. У кнізе

[36] *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 60, 61.

[37] *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў...*, с. 86-89, іл № 28-29.

[38] *Жывапіс Беларусі XII-XVIII стагоддзяў*, аўтар тэксту і складальнік Н. Ф. Высоцкая, Мінск 1980, іл. № 65.

[39] *Православная икона России, Украины, Беларуси* [электронный ресурс]: виртуальная версия выставки „Православная икона России, Украины, Беларуси” в Национальном художественном музее 30 сентября — 9 ноября 2008 г., Минск 2009, 1 электрон. опт. диск (CD-ROM).

[40] Малюнак 10-13. МСБК, інв. №: КП 6461-КП 6464.

паступленняў адзначана, што яны захоўваліся ва Успенскай царкве Браслава на гарышчы[41]. Верагодна, што туды яны былі перанесены за савецкім часам з нейкага зачыненага ў ваколіцах храма. Тым больш, што гэты храм быў пабудаваны ў 1897 годзе[42], а абразы датуюцца другой паловай XVIII ст. Трэба адзначыць, што ў XVIII ст. у Браславе і ў суседніх населеных пунктах праваслаўных цэркваў не было, а гэта значыць — што парныя апостальскія выявы ў другой палове XVIII ст. (а гэтым перыядам датуюцца абразы) былі напісаны для ўніяцкага іканастаса.

З апісаннямі храмаў Браслаўшчыны нам вядомы толькі адзіны дакумент, які захоўваецца ў Люблінскім дзяржаўным архіве, і асвятляе стан уніяцкіх цэркваў на 1789 г. Паводле гэтай крыніцы, у грэка-каталіцкай царкве Браслава іканастаса не было[43]. Не згадваюцца таксама абразы „Апосталаў" на сценах храма. Гэта наводзіць на думку пра тое, што ва Успенскую царкву, адкуль творы патрапілі ў музей, яны былі перанесены з нейкай іншай бажніцы наваколля. Акрамя парафіяльнага ўніяцкага храма, у гэты час у Браславе існаваў базыльянскі кляштар. Звесткі пра яго інтэр'ер занатаваны ў пратаколе праверкі за 1817 г.

У гэтай рускамоўнай крыніцы, якая захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, падрабязнага апісання іканастаса няма, аднак усё ж адзначаецца яго наяўнасць: „Кроме большого алтаря, в котором под тайнохранилищем находится икона чудотворной Богоматери и с которым соединяется иконостас, с отменным вкусом украшенный, находятся четыре боковые деревянные резной работы алтаря, местами покрашенные или позолоченные"[44]. З дадзенага апісання вынікае, што ў кляштарным храме знаходзіўся галоўны алтар, 4 — бакавыя і іканастас, які нейкім чынам злучаўся з галоўным алтаром. Праўда не зусім зразумелай застаецца гэтая канструкцыя, аднак на дадзены момант нас больш цікавіць склад іканастаса. У дакуменце ён не зафіксаваны, аднак з вялікай верагоднасцю можна сцвярджаць, што абразы „Апосталаў" у ім былі. Праўда не вядома, ці былі яны

41 Там жа.

42 А. М. Кулагін, *Праваслаўныя храмы на Беларусі: энцыклапедычны даведнік*, Мінск 2001, с. 25-26.

43 APL, ф. ChKGK, спр. 143: „Akta wizyty generalnej Diecezyi Polsko-Połockiej", 1789-1790, с. 1-2.

44 НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 41257: „Акты Генеральной провинциальной визиты монастырей базилианского ордена Литовско-Виленской метрополитской греко-униатской епархии, в следствие указа римско-католической духовной коллегии 2-го департ. 22 февраля 1817 года произведенной за 1819 год", арк. 41 адв. — 42.

парнымі, ці адзіночнымі, ці нейкімі іншымі. Нельга з упэўненасцю казаць і пра тое, што менавіта яны зараз захоўваюцца ў МСБК.

Пэўнае святло на ўсю гэтую гісторыю з браслаўскімі парнымі абразамі „Апосталаў” пралівае гісторыя храмаў мястэчка. Як адзначаюць даследчыкі, базыльянскі манастыр разам з усім начыннем згарэў у 1832 г. Ацалеў толькі цудадзейны абраз „Божай Маці”, які пасля пажару быў уладкаваны ў алтары мясцовага каталіцкага касцёла, дзе і знаходзіцца па цяперашні час[45]. Навукоўцы, аднак, робяць агаворку: „паводле падання”. Не вядома дакладна, ці сапраўды такі трагічны лёс напаткаў усе мастацкія помнікі, якія захоўваліся ў кляштары, аднак, верагодна, што ацалелыя рэчы, акрамя багародзічнага абраза, так і засталіся невядомымі. Адсюль вынікае, што парныя „Апосталы”, пра якія ідзе размова, паходзяць не з кляштарнай царквы Браслава.

Значыць, ва Успенскі храм мястэчка яны патрапілі з нейкай іншай бажніцы наваколля. Паводле згаданай вышэй крыніцы 1789 г., у Браслаўскім уніяцкім дэканаце з усіх 18 парафіяльных цэркваў (а акрамя іх былі яшчэ і прыпісныя капліцы) іканастас быў толькі ў трох, у адной з якіх — аднаярусны (а таму не вымагае разгляду). Дзве другія царквы знаходзіліся ў мястэчку Друя[46]. Перш чым мы пачнем іх разгляд, неабходна адзначыць, што ў дадзеным дакуменце акрамя Браслаўскага дэканата апісваюцца храмы і іншых грэка-каталіцкіх царкоўна-адміністрацыйных адзінак: Бабыніцкага, Лепельскага, Галубецкага, Барысаўскага, Чашніцкага, Чарэйскага, Цяцерынскага дэканатаў і Курляндыі. Аднак пераважна гэтыя цэрквы былі без іканастасаў. У адзінкавых бажніцах яны, праўда, былі, аднак мелі толькі адзін чын. А ў некаторых храмах, напрыклад, у Экімані ці Вялікіх Дольцах[47], былі іканастасы ў некалькі чыноў, аднак гэтыя мясціны знаходзяцца вельмі далёка ад Браслава і абразы адтуль, фактычна, не маглі быць перавезены ва Успенскую царкву раглядаемага намі мястэчка.

Такім чынам, разгляду вымагаюць дзве царквы ў Друі. Адна з іх, Спасаўская, мела іканастас у тры чыны. У першым знаходзіліся чатыры мясцовыя абразы з менсамі, у другім — шэсць абразоў Апосталаў, а сёмы — „Дэісус”, у трэцім — невялікія выявы Патрыярхаў і Прарокаў: „Konostas z Carskiemi Wratami, dwoje sywernemi drwiami. Obrazow namiestnych 4 (...) W 2gie kondyg. Obrazow 7. SS Apostołow, a siodmy Deisus, nad temi obrazy małe SS. Patryarchow i Prorokow (...)”[48]. Хоць

[45] К. Шыдлоўскі, *Браслаўскі Прачысценскі манастыр*, [у:] *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя*. У 2 т., т. 1, Мінск 2005, с. 343.

[46] APL, ф. ChKGK, спр. 143, с. 7, 9.

[47] Там жа, с. 101, 137.

[48] Там жа, с. 7.

у дадзеным выпадку і не адзначаецца, што Апосталы на абразах былі прадстаўлены папарна, аднак згадванне пра іх проста як пра „Апосталаў", без удакладненняў, дазваляе сцвярджаць, што яны былі намаляваныя ўсе ў поўным складзе. А паколькі твораў з іх выявамі было шэсць, то, натуральна, яны былі скампанаваны па два.

У царкве Святога Духа таго ж мястэчка таксама быў іканастас. Праўда, на жаль, не пералічваюцца абразы яго другога чыну. Адзначаецца толькі, што іх шэсць[49]. Магчыма гэта былі парныя выявы Апосталаў. Але ў гэтым выпадку атрымліваецца, што паміж імі не было цэнтральнага абраза, якім, звычайна з'яўляўся „Архірэй". Так ці інакш, але на дадзены момант адносна парных абразоў Апосталаў з МСБК можна сказаць наступнае: яны былі напісаныя да 1789 г. і першапачаткова знаходзіліся ў адным з храмаў Друі, адкуль пасля патрапілі ва Успенскую царкву ў Браславе.

Цікава, што нашы высновы, зробленыя на аснове гістарычных крыніц, падмацоўваюцца і іншымі звесткамі. Так, Анатоль Кулагін у энцыклапедычным даведніку *Праваслаўныя храмы Беларусі* пры апісанні браслаўскай Успенскай царквы адзначае, што ў ёй знаходзяцца абразы XVIII і XIX стст., набытыя з зачыненай царквы ў гарадскім пасёлку Друя (праўда, не гаворыцца, з якой менавіта). Сярод іх помнікі XVIII ст.: „Святы Мікола", „Апосталы", „Дабравесце", „Пакланенне вешчуноў", „Стрэчанне", „Успенне"[50]. Верагодна, выявы „Апосталаў" — гэта пяты і шосты абразы, якія не патрапілі ў МСБК, так як у названай установе захоўваюцца чатыры творы.

Астатнія згаданыя тут абразы паходзяць, мяркуючы па звестках з гістарычных дакументаў, з абодвух друйскіх храмаў. Так, на 1789 г. у Спасаўскай царкве знаходзілася выява „Нараджэнне Хрыстова", якая, відавочна, была прадстаўлена ў рэдакцыі „Пакланенне вешчуноў". Абразы „Святы Мікола" былі ў абодвух храмах. А вось творы „Дабравесце", „Стрэчанне", „Успенне" пры апісанні друйскіх цэркваў не згадваюцца, аднак ёсць падставы меркаваць, што яны ўваходзілі ў лік тых шасці абразоў, якія знаходзіліся ў другім чыне іканастаса ў царкве Св. Духа[51]. Нагадаем, што гэтыя творы ў візітацыйным акце не апісаныя, а толькі адзначаецца іх колькасць. Тры названыя абразы маюць выявы царкоўных святаў, а таму, магчыма, верхні рад гэтага двух'яруснага іканастаса быў не апостальскі, як у большасці выпадкаў, а — святочны.

49 Там жа, с. 9-10.
50 А. М. Кулагін, *Праваслаўныя храмы на Беларусі...*, с. 26.
51 APL, ф. ChKGK, спр. 143, с. 7, 9.

Акрамя таго, што ў дадзеным выпадку архіўныя крыніцы дапамаглі прасачыць гісторыю твораў, яны, у некаторай ступені, дазваляюць удакладніць і час напісання абразоў. Так, на дадзены момант апостальскія выявы датаваны другой паловай XVIII ст., аднак, відавочна, што яны былі створаны да 1789 г. Такім чынам, перыяд іх магчымага напісання на адно дзесяцігоддзе звужаны і яго можна акрэсліць як 1750-1780-я гады.

Архіўныя крыніцы таксама паспрыялі атрыбуцыі і іншых твораў: абразоў з апостальскага чыну іканастаса Пакроўскай царквы вёскі Андронава Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл. У МСБК захоўваюцца дзве парныя выявы Апосталаў і ікона „Архірэй”[52]. Перыяд стварэння гэтых абразоў, што адлюстравана ў кнізе паступленняў названай установы, вызначаны шырока — XVIII стагоддзе[53]. Пазней, пры публікацыі помнікаў у альбоме, было прыведзена датаванне сярэдзінай XVIII стагоддзя[54]. Аднак візітацыйныя акты дазваляюць яшчэ больш звузіць храналагічныя межы.

У XVIII ст. андроўнаўская царква ўваходзіла ў склад Кобрынскага дэканата Брэсцкай дыяцэзіі. З апісаннямі гэтага храма нам удалося выявіць два дакументы: за 1759 і 1784 гг., якія захоўваюцца ў Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве[55]. У першым з іх гаворка ідзе пра царкву Сашэсця Святога Духа на Апосталаў[56], у другім — Апекі Божай Маці[57]. У найбольш ранняй з названых візіце адзначаецца, што царкоўны будынак, які быў узведзены даволі нядаўна, за чатыры гады да праверкі моцна пацярпеў падчас віхру: ветрам была зруйнавана большая частка. Набажэнства праводзілася ў бабінцы, у якім і былі ўладкаваны алтары. Пры чым відавочна, што яны былі зроблены на „хуткую руку”: галоўны алтар уяўляў сабой абраз „Архірэя” з прымацаванымі да яго з абодвух бакоў створкамі Царскай Брамы: „jeden (ołtarz — Г. Ф-С.) po prawej ręce na mensie (...) jest obraz Archijereia po bokach D[rz]wiczkami Carskiemi obłożony (...)”[58]. Уверсе над гэтай канструкцыяй знаходзіліся тры абразы: „Богаяўленне”, „Божая Маці”, „Ян Багаслоў”.

Акрамя пералічаных былі і іншыя выявы ў бабінцы андронаўскай царквы, сярод якіх згадваюцца парныя абразы: „Марк і Ян”, „Фама і Варфаламей”, „Мацей і Павел”, „Марк і Піліп”, „Лука і Якуб”[59]. На

[52] Малюнак 14-16.
[53] МСБК, інв. №№: КП 87, 89, 90.
[54] *Музей старажытнабеларускай культуры*: альбом, с. 83-85.
[55] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48 і 56.
[56] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 103.
[57] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 56, арк. 43.
[58] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 103.
[59] Там жа.

жаль, у дакуменце не пазначаецца матэрыял, на якім напісаны пералічаныя творы. Аднак нягледзячы на гэта, з вялікай доляй упэўненасці можна сцвярджаць, што ў візіце 1759 г. апісваюцца менавіта тыя абразы, якія і захаваліся па сённяшні дзень.

Пацвярджэннем гэтаму з’яўляецца і тая акалічнасць, што ў крыніцы за 1784 г. таксама згадваюцца гэтыя ж іконы. Паводле візіты 1784 г. андронаўскі храм меў найменне „Апекі Божай Маці” (Пакрова). Верагодна, пасля таго, як ён быў адбудаваны, яго нанова асвяцілі ўжо ў гонар Багародзіцы. У ім у гэты час быў 31 абраз, для 17-ці з якіх сюжэт і месца размяшчэння не пазначаны[60]. Верагодна, яны віселі на сценах. Пра гэтыя творы гаворыцца, што яны „różnego malowania”. Акрамя іх у галоўным і бакавых алтарах былі змешчаны два абразы „Божай Маці”, „Пётр”, „Павел”, „Троіца”, „Ісус Хрыстос”. У гэты час у царкве існаваў і іканастас, пра які адзначана, што ён стары, а ў ім — выявы Архірэя, Мікалая і „Apostolskich podwoynych pięć”[61].

З гэтага запісу вынікае, што тыя ж парныя абразы, якія згадваліся ў візіце 1759 г., працягвалі захоўвацца ў храме, і ўжо на 1784 г. былі ўсталяваны ў іканастасе. Відавочна, што некалі раней яны там і знаходзіліся да зруйнавання царквы ветрам. Гэтая думка пацвярджаецца і тым, што іканастас у 1784 г. згадваецца як стары[62]. Паколькі ў апісанні 1759 г. ён не фігуруе, дык гэта значыць, што яго ўладкавалі пазней за гэты год пасля адбудовы храма. Калі б усталёўвалі нейкую новую канструкцыю, дык, натуральна, што ў візіце 1784 г. гэта было б адзначана. А так, па ўсёй верагоднасці, паставілі той іканастас, які некалі знаходзіўся ў царкве да заняпаду будынка. Відаць, што пасля зруйнавання храма яго прыбралі, а іканастасныя абразы развесілі па сценах бабінца. Пасля ўзвядзення новага будынка паміж 1759 і 1784 гг. яго зноў уладкавалі ў царкве разам з ранейшымі іконамі.

Гэта дазваляе ўнесці ўдакладненне ў дату стварэння помнікаў: яны былі выкананы да 1759 г. Улічваючы тое, што за чатыры гады да гэтай праверкі царква была моцна пашкоджана ўраганам, а абразы былі ўладкаваныя ў ацалелым бабінцы, дык адсюль вынікае, што яны былі напісаны да 1755 г. Тая акалічнасць, што храм быў узведзены незадоўга да гэтага, дазваляе выказаць здагадку, што менавіта для новага царкоўнага будынка і быў змайстраваны іканастас, для якога і пісаліся абразы. Так, па ўсёй верагоднасці, творы былі выкананы да 1750 года, а значыць — іх можна датаваць першай паловай XVIII ст. Гэта істотным чынам звужае магчымыя храналагічныя межы, пакаль-

[60] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 56, арк. 43 адв.
[61] Там жа.
[62] Там жа.

кі дагэтуль некаторыя абразы былі атрыбутаваны проста XVIII стагоддзем[63].

Яшчэ больш звузіць перыяд стварэння дазваляе параўнанне з абразом „Святы Юрый" з Брэстчыны (абраз быў апублікаваны і прааналізаваны ў кнізе *Іканапіс Заходняга Палесся XVI-XIX стст.*, дзе, аднак, не было пазначана яго дакладнае месца бытавання[64]), які мае надпіс з датай — 1729 г. Гэты твор стылістычна вельмі падобны да разглядаемых абразоў з апостальскага чыну іканастаса і, верагодна, быў выкананы тым жа майстрам[65], што дазваляе датаваць і андронаўскія абразы 1720-1740 гадамі.

Акрамя таго, што пратаколы візітацый андронаўскай царквы дазволілі звузіць храналагічныя межы ў атрыбутаванні помнікаў, яны таксама даюць магчымасць дакладна вызначыць персанажы на Апостальскіх абразах. Трэба адзначыць, што паводле кнігі паступленняў МСБК, для аднаго абраза былі вызначаны персанажы Пётр і Павел, для другога быў проста зроблены запіс „выявы Апосталаў"[66]. Пазней у друкаваных выданнях для абодвух абразоў у подпісах пазначалася „Апосталы"[67], што ў цэлым больш правільна, паколькі для першага з іх запіс у кнізе паступленняў быў зроблены памылкова.

Прычына такіх недакладнасцей тлумачыцца тым, што часам для беларускіх абразоў Апостальскага і Прарочага чыноў даволі складана вызначыць персанажы, паколькі існуюць шматлікія варыянты трактоўкі іх вобразаў. Напрыклад, атрыбутамі Апостала Пятра з'яўляюцца кніга і ключ, аднак яго маглі маляваць з крыжам ці рыбай у руцэ. Кніга таксама з'яўляецца атрыбутам і Варфаламея, але акрамя яе — нож і садраная скура[68]. Увогуле ў айчынным іканапісе вядомы прыклады, калі некалькі Апосталаў маляваліся толькі з кнігай у руцэ. А па іх знешнім абліччы таксама даволі складана ўстанавіць, хто ёсць хто[69].

Але ў выпадку з разглядаемымі андронаўскімі помнікамі гэта магчыма здзейсніць пры дапамозе гістарычных крыніц. Так, у візіце за 1759 г. дакладна зафіксаваныя ўсе Апостальскія выявы, з пазначэн-

[63] Г. А. Флікоп, *Пратаколы візітацый уніяцкіх храмаў як крыніца для атрыбуцыі помнікаў іканапісу (на прыкладзе абразоў Пакроўскай царквы в. Андронава Кобрынскага р-на Брэсцкай вобл.)*, [у:] *Дакументальная спадчына Беларусі XIV-XX стагоддзяў: матэрыялы навук.-практ. канфер., прысвечанай 75-годдзю НГАБ (Мінск, 26 чэрвеня 2013 г.)*, Мінск 2014, с. 142-154.

[64] *Іканапіс Заходняга Палесся XVI-XIX стст.*, В. Ф. Шматаў, Э. І. Вецер, М. П. Мельнікаў і інш., Мінск 2002, с. 195.

[65] Малюнак 17.

[66] МСБК, інв. №№ КП 89, 90

[67] *Музей старажытнабеларускай культуры: альбом*, с. 83-85.

[68] *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў...*, с. 87.

[69] Там жа, с. 145-146.

нем іх персанажаў. Трэба сказаць, што гэта адзінае (!) апісанне храма (а намі апрацаваны дакументы па 2000 уніяцкіх цэркваў), дзе пазначаны постаці. Ва ўсіх іншых выпадках толькі адзначалася: „Архірэй і выявы Апосталаў”, або „12 Апосталаў” альбо радзей „6 абразоў з парнымі выявамі Апосталаў” і г.д. У апісанні андронаўскай царквы такія падрабязныя звесткі прыведзены, відаць, па той прычыне, што гэтыя іконы, прызначаныя для іканастаса, былі развешаныя па сценах. У іншых цэрквах яны былі ўладкаваны ў іканастасе, дзе ім і належала быць, таму пры іх апісанні візітатары толькі адзначалі наяўнасць Апостальскага чыну, без удакладненняў.

А вось у візіце андронаўскай царквы дакладна пералічваюцца ўсе абразы, якія віселі на сценах. Да іх ліку належаць пяць парных выяў Апосталаў. Два з гэтых абразоў на цяперашні момант і захоўваюцца ў МСБК: „Марк і Ян”, „Мацей і Павел”. Вызначыць прадстаўленых на іконах персанажаў і дапамагла згаданая крыніца. Справа ў тым, што на кожным з двух абразоў паводле атрыбутаў і абліччаў магчыма было ўстанавіць з дакладнасцю па адным персанажы.

На першым з названых — гэта постаць справа, прадстаўленая з чашай у руках, з якой выпаўзае змяя. Менавіта гэтыя дэталі, а таксама малады безбароды твар уласцівы толькі аднаму з Апосталаў — Яну. Тое, што ў візіце згадваецца парны абраз „Марк і Ян” і дазваляе выказаць меркаванне, што другі персанаж, прадстаўлены на абразе побач з Янам — Марк. І, сапраўды, евангелле ў яго руках і тыпаж не супярэчаць гэтаму. Аднак з такімі ж рысамі і атрыбутамі мог быць паказаны і Фадзей, пра што сведчаць прыклады з беларускага іканапісу (абраз з іканастаса шарашоўскай царквы Пружанскага р-на)[70]. Такім чынам, згадванне ў пратаколе праверкі пэўнай іконы дапамагло дакладна вызначыць прадстаўленых на ёй персанажаў.

Тое ж самае датычыцца і другога твора, на якім адной з постацей (правай) з'яўляецца Павел, пра што сведчыць кніга і меч у яго руках. У дакуменце 1759 г. згадваецца парны абраз „Мацей і Павел”, што дазваляе ўстанавіць другога персанажа на іконе[71]. Разгорнутая кніга і будаўнічы інструмент не супярэчаць гэтаму, але, як адзначалася вышэй, з такімі ж дэталямі маглі быць прадстаўлены і некаторыя іншыя Апосталы. Такім чынам, для двух апостальскіх абразоў удалося вызначыць прадстаўленыя на іх персанажы.

Вяртаючыся да пытання пра кампаноўку фігур на абразах апостальскага чыну варта прывесці цікавы прыклад. Даволі рэдкі спосаб размяшчэння постацей выкарыстаў майстар для царквы ў Бездзежы (Драгічынскі

[70] Там жа, с. 145.
[71] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 104.

р-н Брэсцкай вобл.). Выявы Апосталаў тут змешчаны на чатырох палотнах: на двух — па чатыры, і яшчэ на двух — па два[72]. Такая кампаноўка фігур з'яўляецца даволі арыгінальнай і вядомых аналагаў сярод захаваных помнікаў мала. Стварэнне разгорнутай гарызантальнай кампазіцыі стала магчымым дзякуючы выкарыстанню ў якасці асновы твораў палатна. Менавіта гэты матэрыял дазваляе рабіць абразы любых памераў і фарматаў, што не так лёгка пры выкарыстанні дошак.

Даследчыкамі гэтыя абразы датуюцца першай паловай XIX ст. На жаль, візітацыйных актаў з апісаннямі бездзежскай царквы выявіць не ўдалося. Аднак у зводным дакуменце па Літоўскай грэка-каталіцкай епархіі за 1837 г., дзе сістэматызаваны звесткі пра ўсе храмы гэтай вялікай царкоўна-адміністрацыйнай адзінкі, адзначаецца, што ў храме Бездзежа іканастас існаваў спрадвеку[73]. Гэта аднак не дазваляе вызначыць дату стварэння абразоў, бо ў старую канструкцыю маглі ўсталёўвацца новыя выявы. Пры чым гэта магло быць як і ў перыяд уніі, так і пасля пераводу царквы ў праваслаўе. Выяўленчыя асаблівасці твораў сапраўды сведчаць пра тое, што пісаліся яны недзе да сярэдзіны XIX ст. Таму на дадзены момант складана ўстанавіць іх канфесійную прыналежнасць.

А вось пра іншыя абразы, дзе Апосталы скампанаваны такімі ж групамі як на бездзежскіх творах, дакладна вядома, што яны належаць да грэка-каталіцкай іканапіснай спадчыны. Гэта датычыцца выяў іканастаса Успенскага сабора Жыровіцкага манастыра. Іканастас усталёўваўся ў 1736-1737 гг., відавочна тады ж і былі напісаны абразы для яго[74]. У дадзеным выпадку неабходна акцэнтаваць увагу яшчэ і на тым, што фактычна ў сярэдзіне XVIII ст. у базыльянскім кляштары інтэр'ер храма захоўваў сваё грэчаскае аблічча.

Абразы пад час перабудовы іканастаса ў 2009 г. патрапілі ў Нацыянальны мастацкі музей РБ, дзе былі адрэстаўраваны і некаторыя „экспанаваліся" на віртуальнай выставе „Адкрыцці беларускіх рэстаўратараў 2010"[75]. Сярод іх дзве групавыя выявы Апосталаў. На адной прадстаўлены чатыры персанажы: „Сымон Кананіт, Варфаламей, Якаў Алфееў і Ян", на другой — два: „Павел і Якаў Завядзееў"[76]. Відавочна, што і астатнія два абразы Апостальскага чыну мелі адпаведную кампаноўку фігур: чатыры і дзве.

[72] Малюнак 18-21. *Музей старажытнабеларускай культуры: альбом*, с. 135-137.

[73] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 4: „Ведомость об устройстве церквей Литовской греко-католической епархии 1837 года", арк. 6 адв.

[74] П. Яницкая, *Открытия белорусских рестовраторов 2010. Виртуальная выставка* [электронный ресурс]: http://www.artmuseum.by/ru/vyst/virt/otkryitiya-belorusskix-restavratorov-2010

[75] Там жа.

[76] Малюнак 22-23.

Акрамя выяў Апосталаў у гэтым жа ярусе іканастаса паміж імі, як правіла, знаходзіўся і абраз „Архірэй”, які быў цэнтрам кампазіцыі і адначасова воссю сіметрыі. Згадкі пра такую выяву фігуруюць у апісаннях шматлікіх грэка-каталіцкіх дэканатаў. Так, менавіта ўпамінанне пра ікону „Archijerey” ёсць у протаколах розных цэркваў Пружанскага, Кобрынскага, Палескага, Камянецкага, Уладаўскага дэканатаў за 1759 г.[77], Брэсцкага — за 1773 г.[78], Убарцкага, Петрыкаўскага, Мазырскага — за 1777-1778 гг.[79], Кобрынскага і Бельскага — за 1784 г.[80], Бельскага і Мельніцкага — за 1797 год[81].

Згадкі пра абраз „Хрыста” паміж выяў Апосталаў фігуруюць у дакуменце 1784 г., у якім прадстаўлены пратаколы праверкі Бабруйскага, Глускага, Рагачоўскага дэканатаў: „12 Apostołow z Panem Jezusem”[82]. Тое ж самае датычыцца і апісанняў Глускага дэканата за 1791 г.[83] і Навагрудскага — за 1796 год[84]. Так, звесткі пра такі абраз фігуруюць у візітах некалькіх цэркваў. Па адным храме, дзе сярод апостальскага чыну знаходзілася (ва ўсялякім разе — згадваецца ў дакументах) выява Хрыста, было ў Лідскім дэканаце ў 1732 г.[85] і ў Запалянскім — у 1822 годзе[86].

Абраз „Zbawiciela” ў цэнтры другога яруса іканастаса зафіксаваны ў Глускім і Рагачоўскім дэканатах у 1792 годзе[87]. Сустракаецца і яшчэ адзін тэрмін, для абазначэння галоўнага абраза алтарнага чыну. Так, у некалькіх цэрквах Смалянскага і Аршанскага дэканатаў у 1822 г. згадваецца „Мелхісэдэк”[88]. А ў апісаннях Браслаўскага, Чашніцкага, Барысаўскага, Чарэйскага, Цяцерынскага і іншых дэканатаў за 1789 г. выкарыстоўваецца тэрмін „Дэісус”: „W 2gie kondygnacyi obrazow 7:

77 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48.

78 LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 50.

79 НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 41240: „Візіты Тураўскага, Убарцкага, Мазырскага, Петрыкаўскага дэканатаў Тураўскай епархіі”, 1777-1787, 284 арк.

80 ЛДГА, ф. 634, воп. 1, спр. 51: „Akta wizytacyj cerkwi dekanatu Bielskiego”, 1784, 67 арк.; там жа, спр. 52: „Akta wizyty dekanatu Kobryńskiego”, 1784, 45 арк.

81 ЛДГА, ф. 634, воп. 1, спр. 55: „Akta wizyt generalnych cerkwi dekanatów Bielskiego, Drohiczynskiego, Mielnickiego”, 1797, 85 арк.

82 НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 41241, арк. 46.

83 НГАБ, ф. 1299, воп. 1, спр. 2: „Księga wizyt rocznych dekanatu Hłuskiego”, 1791, 22 арк.

84 ЛДГА, ф. 605, воп. 1, спр. 1243: „Wizyty dziekańskie dekanatu Nowogrodskiego...”, 1795-1810, 100 арк.

85 РГИА, ф. 823, воп. 3, спр. 518: „Wizyta cerkwi w dekanatach Lidzkim y Oszmianskim w roku 1732 (...) zaczęta”, 18 арк.

86 РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 182.

87 НГАБ, ф. 1245, воп. 1, спр. 1: „Akta wizyty generalney surrogacyi Poleskiey dekanatu Rohaczewskiego”, 1792, 29 арк.; там жа, ф. 1299, воп. 1, спр. 1: „Akta wizyty generalney surrogacyi Poleskiey dekanatu Hłuskiego”, 1792, 31 арк.

88 РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 185: „Wizyty dekanatu Smolańskiego i Orszańskiego za 1822 rok”, 95 арк.

SS. Apostołow, a siodmy — Deisus”[89]. Падкрэслім, што гэта адна з нешматлікіх крыніц, дзе тэрмін „Дэісус” выкарыстоўваецца не ў значэнні „іканастас”, як у большасці выпадкаў, а для абазначэння сюжэта абраза, што адпавядае і сучаснай тэрміналогіі. Такое ж слова ў гэтым жа значэнні выкарыстана і ў дакуменце 1822 г. з апісаннямі некалькіх уніяцкіх дэканатаў Полацкай епархіі[90].

З усіх вышэйпрыведзеных прыкладаў напрошваюцца дзве высновы. Па-першае, у пераважнай большасці ўніяцкіх цэркваў у цэнтры апостальскага чыну іканастаса знаходзілася хрысталагічная выява. Па-другое, гэтая выява, хоць і абазначаецца пяццю рознымі тэрмінамі („Архірэй”, „Хрыстос”, „Збавіцель”, „Мелхісэдэк”, „Дэісус”), аднак, па ўсёй верагоднасці, у гэтых выпадках гаворка ідзе не пра розныя іканаграфічныя схемы, а пра розныя найменні: з вышэйпрыведзеных дакументаў бачна, што адзін візітатар выкарыстоўваў ва ўсіх выпадках тэрмін „Zbawiciel”, другі — „Pan Jezus” і г.д.

Хаця дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў некалькіх крыніцах паралельна выкарыстоўваюцца розныя тэрміны. Так, у візіце Кобрынскага дэканата за 1802 г. у апісаннях трох цэркваў фігуруе — „Архірэй”, а ў трох іншых — „Збавіцель”[91]. Гэта наводзіць на думку, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра розныя іканаграфічныя зводы. Тое ж датычыцца і Цяцерынскага дэканата, дзе ў 1822 г. у апостальскіх чынах дзвюх цэркваў знаходзіліся абразы „Архірэя”, а ў адной — „Збавіцеля”[92].

Разнастайнасцю вылучаюцца і тэрміны, выкарыстаныя ў візіце Віцебскага, Веліжскага, Веляшкоўскага, Мікулінскага, Задзвінска-Бешанковіцкага дэканатаў за 1822 г. Так, у крыніцы фігуруюць згадкі і пра абразы „Збавіцеля” ў цэнтры апостальскага чыну, і „Ісуса Хрыста”, і „Дэісуса”[93]. Цалкам верагодна, што ў дадзеным выпадку гаворка ідзе пра розныя іканаграфічныя зводы. Справа ў тым, што логіка візітатараў і тэрміналогія, якой яны карысталіся ў пачатку XIX ст. вельмі набліжаны да сучаснай, чаго нельга сказаць пра правяраючых і іх лексікон у другой палове XVIII ст.

Так, калі ў пэўным дакуменце выкарыстоўваўся нейкі адзін тэрмін у дачыненні да цэнтральнага абраза апостальскага чыну іканастасаў розных храмаў, то ён, па ўсёй верагоднасці, указваў не на нейкі іка-

[89] APL, ф. ChKGK, спр. 143, с. 7.
[90] НГАБ, ф. 1781, воп. 26, спр. 1410.
[91] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 56: „Akta wizyty generalnej dekanatu Kobryńskiego”, 1802, 83 арк.
[92] РГИА, ф. 824, воп. 2, спр. 186: „Akta wizyty generalney greko-unickich (...) cerkwiow dwoch dekanatow Ciecierzynskiego i Czereyskiego w roku 1822”, 168 арк.
[93] НГАБ, ф. 1781, воп. 26, спр. 1410.

награфічны тып выявы Хрыста, а — на слоўнікавы запас візітатара. Аднак калі адзін і той жа правяраючы ў апісаннях розных храмаў выкарыстоўваў розныя найменні, то, магчыма, гэта сведчыць і пра розную кампазіцыю твораў. Так ці інакш, але ў пераважнай большасці выпадкаў у цэнтры апостальскага чыну знаходзілася, што было каланічным прынцыпам, выява Ісуса Хрыста.

Праўда і ў дадзенай сітуацыі былі выключэнні. З архіўных крыніц вядома, што пасярод „Апосталаў" у іканастасе катасіцкай Юраўскай царквы Мазырскага дэканата ў 1820 г. знаходзілася „Укрыжаванне"[94]. Хаця неабходна адзначыць, што ў гэтым храме іканастас быў двух'ярусны і акурат завяршаўся апостальскім чынам. Верагодна, цэнтральная яго выява адначасова служыла і навершам: у шматлікіх выпадках уверсе іканастаса змяшчалася выява „Укрыжаванне", праўда, часцей яна была прадстаўлена скульптурамі.

Сярод захаваных твораў, якіх некалькі знаходзілася ў цэнтры апостальскага чыну ўніяцкага іканастаса, варта яшчэ раз узгадаць выяву „Дэісус" з царквы вёскі Андронава Кобрынскага дэканата, якая ўпаміналася вышэй, калі гаворка вялася пра парныя абразы „Апосталаў"[95]. Гэты твор, нагадаем, захоўваецца ў МСБК і з'яўляецца помнікам другой чвэрці XVIII ст.[96] Трэба адзначыць, што ў візітацыйных актах гаворка ідзе пра ікону „Архірэя"[97], аднак наяўны твор усё ж сведчыць пра тое, што цэнтральным абразом апостальскага чыну іканастаса андронаўскай царквы быў — „Дэісус". Адрозненне паміж гэтымі іканаграфічнымі зводамі заключаецца ў тым, што на „Дэісусе" акрамя Ісуса Хрыста, які сядзіць на троне, прадстаўлены паабапал яго Божая Маці і св. Ян у малельных жэстах, што і вызначыла назву такой кампазіцыі: „Дэісус" з грэчаскай мовы — „маленне". А сюжэт „Архірэй" прадстаўлены толькі адным персанажам: Ісусам Хрыстом, які сядзіць на троне ў архірэйскім аблачэнні.

У каталогу *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стст*. Н. Высоцкая, пры аналізе абраза „Дэісус" з вёскі Хацiслаў Маларыцкага р-на Брэсцкай вобл. згадвае і іншыя вядомыя ёй прыклады распаўсюджання дадзенага сюжэта ў беларускім іканапісе[98]. Так, даследчыца называе помнікі з вёсак Брэсцкай вобласці — Альгомель, Антопаль, Бездзеж, Вялікае Малешава, Гарадная, Мышыцы, Рубель, Сцяпанкі;

[94] НГАБ, ф. 136, воп. 1, спр. 41244: „Візіты цэркваў Лідскага, Мазырскага, Рэчыцкага дэканатаў", 1792-1803, арк. 42 адв.

[95] Малюнак 24.

[96] МСБК, інв. № КП 87.

[97] LVIA, ф. 634, воп. 1, спр. 48, с. 103; там жа, спр. 52, арк. 43 адв.

[98] *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў...*, с. 79, іл. № 24.

Магілёўскай вобл. — Басценавічы. Некаторыя з гэтых твораў зараз знаходзяцца ў НММ РБ.

Так, цікавасць уяўляе абраз, вывезены ў музей з вёскі Альгомель, які паходзіць з вёскі Малешава на Століншчыне. На ім прадстаўлены сюжэт „Дэісус". Твор датуецца сярэдзінай XVIII ст.[99], пры чым цікава, што ўверсе на абразе змешчаны надпіс кірыліцай „Архиерей Велики". Гэта таксама ў пэўнай ступені пацвярджае думку пра тое, што не заўсёды ў гістарычных крыніцах выкарыстанне тэрміна „Архірэй" адпавядала менавіта такому ж іканаграфічнаму зводу. Часам пад такім найменнем фігуравала выява „Дэісус". Тое ж, відавочна, датычыцца і згадак у гістарычных крыніцах пра выявы „Хрыста", „Збавіцеля", „Мелхісэдэка", якія маглі з'яўляецца абазначэннем аднаго і таго ж сюжэта, а выбар тэрміналогіі залежаў ад ведаў і слоўнікавага запасу візітатара.

А прыкладам выявы „Архірэя" ў апостальскім чыне з'яўляецца захаваны твор з шарашоўскай царквы Пружанскага дэканата[100]. Гэты абраз, як і іншыя выявы іканастаса, знаходзіцца цяпер у НММ РБ[101]. Абраз мае значна большыя памеры за іконы Апосталаў, пасярод якіх ён усталяваны, што падкрэслівае яго сэнсавае значэнне ва ўсёй гэтай сакральнай канструкцыі[102]. Звяртае на сябе ўвагу і кампазіцыя названага твора, якая складаецца з дзвюх частак: унізе змешчана выява „Божая Маці Прадвесце", а ўверсе — названая вышэй — „Архірэй". Праўда, трэба адзначыць, што творы напісаны на розных дошках, а злучаны разам яны падрамнікам[103].

Гэты абраз адначасова з'яўляецца сярэднікам двух іканастасных чыноў: святочнага (ніжэйшы) і апостальскага (вышэйшы). Але, як адзначаюць даследчыкі з адрасаваннем да архіўных крыніц XIX ст. (на якія, праўда, спасылка не прадстаўлена), раней багародзічная выява была цэнтрам прарочага чыну, а пасля з пераабсталяваннем іканастаса яна стала сярэднікам святочнага яруса.

Памеры абраза — 189 х 103,5 см. Трэцюю частку яго вышыні займае ніжняя выява, дзве трэці — верхняя. Такім чынам, „Архірэй" (без уліку кампазіцыі „Божая Маці Прадвесце") у вышыню мае прыблізна 120 см, тады як вышыня дошак з выявамі Апосталаў паабапал яго

[99] *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 120.

[100] Малюнак 25.

[101] *Праваслаўны свет. Вобраз Хрыста ў іканаграфіі краін Усходняй Еўропы з музеяў Беларусі, Расіі, Сербіі, Украіны. Да 1025-годдзя Хрышчэння Русі. Каталог выставы*, Мінск 2015, іл. № 57.

[102] *Іканапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў*, іл. № 130.

[103] Там жа.

прыблізна 100 см[104]. Гэты прыклад дае ўяўленне пра кампазіцыю не дайшоўшых да нашага часу іканастасаў: цэнтральныя абразы, відавочна, былі большых памераў і служылі не толькі воссю сіметрыі, а і сэнсавым стрыжнем.

Абагульняючы вышэйсказнае адносна апостальскага чыну ўніяцкіх іканастасаў, неабходна падкрэсліць некалькі момантаў. Па-першае, менавіта гэты чын найчасцей быў верхнім у двух'ярусных іканастасах, за выключэннем нешматлікіх прыкладаў, калі над мясцовымі абразамі знаходзілася выява Божых Святаў. Таксама ён прысутнічае і ў большасці шмат'ярусных іканастасаў.

Па-другое, у большасці выпадкаў Апосталы былі прадстаўлены ў поўным складзе — 12 постацей, аднак гэта не азначае, што столькі ж было і абразоў. Найчасцей персанажы кампанаваліся па два ці па тры на адной кампазіцыі, аднак ёсць прыклады, вядомыя па гістарычных крыніцах, калі на адным палатне было 6 Апосталаў. Захаваныя помнікі прадстаўляюць розныя варыянты размяшчэння фігур. Так, у апостальскім чыне магло быць па два абразы з двума Апосталамі і па два — з чатырма.

Такім чынам, прыведзеныя прыклады захаваных помнікаў і звесткі з архіўных крыніц сведчаць пра тое, што апостальскі чын уніяцкіх іканастасаў мог мець не толькі дванаццаць выяў, што было кананічным, а часам меў дзве, чатыры ці пяць. Таксама былі выпадкі, калі разглядаемы ярус складаўся з аднаго абраза Архірэя. Хаця, трэба падкрэсліць, такія прыклады з'яўляюцца даволі рэдкімі. Найчасцей, усё ж, у візітацыйных актах было адзначана: „12 Apostołow". Але неабходна падкрэсліць, што неабавязкова гэтая лічба супадала з колькасцю абразоў. Разуменне гэтай асаблівасці важнае пры падліку ікон у кожнай царкве і пры абагульненні гэтых дадзеных па дэканатах.

Што датычыцца цэнтральнага абраза гэтага чыну, то найчасцей гэта была выява „Архірэй" або „Дэісус". У архіўных крыніцах акрамя гэтых двух тэрмінаў фігуруюць і іншыя для яе абазначэнні, аднак верагодна, што і ў тых выпадках гаворка ўсё ж ідзе пра адзін з двух названых іканаграфічных зводаў.

Помнікі ўніяцкага мастацтва з выявамі „Апосталаў" на сённяшні час захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі старажытнабеларускай культуры Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, а таксама ў некаторых праваслаўных храмах (пераважна, на Брэстчыне), якія калісьці былі ўніяцкімі. Праведзенае даследаванне паспрыяла пераатрыбутаванню твораў з музейных збораў.

[104] *Тэмперны жывапіс Беларусі XV-XVIII стагоддзяў...*, с. 79, іл. № 24.

Так, для абразоў „Апосталаў” з вёскі Шарашова, якія захоўваюцца ў НММ РБ, было перагледжана датаванне: замест ранейшага — другая палова XVIII ст., было прапанавана новае — да 1725 г. Для помнікаў, вывезеных у МСБК з браслаўскай царквы, былі на адно дзесяцігоддзе звужаны храналагічныя межы іх напісання (замест „др. пал. XVIII ст.” — „да 1789 г.”), а таксама прасочаны лёс твораў з устанаўленнем найбольш верагоднага іх першапачатковага месца бытавання — г. п. Друя. Для групы абразоў з вёскі Андронава Кобрынскага р-на, якія зараз знаходзяцца ў МСБК, акрамя ўдакладнення часу выканання, з дакладнасцю былі вызначаны персанажы на кожным з парных апостальскіх абразоў.


**Summary**

**The Holy Apostles row in Belarusian Orthodox iconostases in the period between the 17th century and the 1830s – curiosities and problems with identification of surviving relics**

A distinct feature of ancient Belarusian iconostasis is the Holy Apostles row, which at certain stage emerges as a part of this sacral structure to replace the Deesis row. Belarusian researchers attribute the existence of this tier to Uniate tradition, and its formation period is estimated to have begun early in the 17th century. The question of how the Apostolic row originated still remains open. However, its very existence continues to be a characteristic feature of Belarusian iconostasis (both Uniate and Orthodox) of the 17th, 18th, and even 19th centuries.

The key issues discussed in the article are related to the very presence of the row in Uniate iconostasis, the number of icons, and its central image. The historical sources for the study are inventories and protocols of visits to the Uniate churches in the analyzed period. These documents are kept in the National Historical Archive of Belarus in Minsk, Lithuanian State Historical Archive, Russian State Historical Archive in St. Petersburg, and Lublin State Archive.

The artefacts of icon-painting, which were once part of Apostolic row, are now stored mostly at the Museum of Ancient Belarusian Culture in the Center for Belarusian Culture, Language and Literature Research of the National Academy of Sciences of Belarus, at the National Art Museum of the Republic of Belarus, as well as at some former Uniate churches. This study results in attribution, or reattribution of the icons from the Museum collection. It furthermore, specifies the date of origin, determines their original location, and identifies the depicted figures. It is the first time that some icons have been used here for scientific purposes.



**Streszczenie**

**Rząd apostolski w ikonostasach cerkwi greckokatolickich na Białorusi w XVII — pierwszych trzech dekadach XIX w.: osobliwości badawcze i problemy atrybucji ocalałych zabytków**

Szczególną cechą charakterystyczną starodawnych ikonostasów białoruskich jest obecność w nich rzędu apostolskiego, który na pewnym etapie pojawił się w układzie tej sakralnej konstrukcji i zamienił rząd III — Grupę Deesis. Badacze białoruscy wiążą obecność tego rzędu z tradycją unicką, a czas jego ukształtowania się określają na początek XVII w. Problem genezy rzędu apostolskiego pozostaje więc otwarty, jednak widoczne jest to, że mianowicie jego obecność stanowi charakterystyczną cechę białoruskich (zarówno unickich, jak i prawosławnych) ikonostasów w XVII, XVIII i nawet w XIX ww.

Artykuł poświęcony jest rzędowi apostolskiemu w ikonostasach cerkwi greckokatolickich na Białorusi w XVII — pierwszych trzech dekadach XIX w. Podstawowe problemy poruszone w artykule dotyczą obecności przedmiotowego rzędu w ikonostasach unickich, ilości obrazów w nim i w jego środkowej części. Źródłami historycznymi wykorzystanymi przy badaniu tematu są protokoły wizytacji cerkwi unickich i inwentarze z XVIII — początku XIX w. Dokumenty te przechowywane są w Narodowym Historycznym Archiwum Białorusi w Mińsku, w Litewskim Państwowym Archiwum Historycznym w Wilnie, w Rosyjskim Państwowym Archiwum Historycznym w Petersburgu i w Archiwum Państwowym w Lublinie.

Zabytki ikonograficzne, wchodzące niegdyś w skład rzędu apostolskiego, obecnie przechowywane są przeważnie w Muzeum Starożytnej Kultury Białoruskiej Centrum Badań Kultury, Języka i Literatury Białoruskiej Narodowej Akademii Nauk Białorusi, w Narodowym Muzeum Sztuki Republiki Białoruś oraz w niektórych cerkwiach prawosławnych, będących wcześniej unickimi. W wyniku badania dokonano atrybucji (lub ponownej atrybucji) ikon ze zbiorów muzealnych: uściślono czas ich powstania, ustalono początkową lokalizację, określono postacie na obrazie. Niektóre ikony, będące przedmiotem badania, do obiegu naukowego zostały wprowadzone po raz pierwszy.

**Halina Flikop-Swita** — dr, historyk sztuki, pracownik naukowy Centrum Badań Kultury, Języka i Literatury Białoruskiej Narodowej Akademii Nauk Białorusi. W 2014 r. obroniła pracę doktorską „Мастацкія і іканаграфічныя асаблівасці іканапісу грэка-каталіцкіх храмаў Беларусі XVII — першай паловы XIX ст.”. Autorka około 50 publikacji naukowych. Zainteresowania badawcze: ikonopisarstwo Białorusi.

**Аляксандр Ланеўскі**
(Кракаў)

# Рэвалюцыйны тэрарызм у Гродне на пачатку XX стагоддзя на прыкладзе Баявой арганізацыі Польскай сацыялістычнай партыі*

*Vi et armis*

Тэма рэвалюцыйнага тэрарызму з’яўляецца вялізным і комплексным пытаннем, якое патрабуе грунтоўных даследаванняў. На жаль, сярод сучасных беларускіх гісторыкаў гэтая тэма непапулярная, у Беларусі не толькі не хапае свежых даследаванняў, нават фактаграфічных, але перш за ўсё няма спроб пераасэнсавання такіх тэрмінаў як „тэрор” ці „рэвалюцыя”. Можна зарызыкаваць тэзіс аб тым, што выкарыстанне тэрарыстычных метадаў барацьбы для Беларусі з’яўляецца гістарычным фактам. У сваім артыкуле мы закранем толькі некаторыя аспекты рэвалюцыйнага тэрарызму і рэвалюцыянераў, звязаных з Гроднам і Гродзенскай губерняй. У першай частцы мы паспрабуем акрэсліць пастаноўку пытання, у другой — зарысаваць агульную карціну, звязаную з рэвалюцыйнай дзейнасцю польскіх сацыялістаў.

Звяртаючыся да праблемы тэрору, натуральна ўзнікаюць пытанні адносна актуальнасці ці абгрунтаванасці гэтага метаду палітычнай барацьбы. Сярод такіх пытанняў можна пералічыць наступныя: ці можам мы гаварыць аб традыцыі стасавання сродкаў тэрору з боку насельніцтва нашай краіны? Гэтае пытанне становіцца тым больш актуальным у сувязі з сучаснай палітычнай сітуацыяй на Беларусі і спробах апазіцыйных сіл змяніць уладу і грамадска-палітычны строй краіны. Ці магчыма ў нашых умовах мірная трансфармацыя? Ці „Плошча” павінна адмаўляцца ад выкарыстання насілля? Ці ўрокі „Еўрамайдана” і сілавога супрацьстаяння грамадства і ўлады можна пераасэнсаваць, гледзячы на даволі багатую і разнастайную гісторыю рэвалюцыйнага тэрарызму ў Расійскай Імперыі? Мы не ў стане выразна правесці мяжу паміж тым, дзе пачынаецца тэрор дзяржавы, а тым, дзе адбываюцца т.зв. дэмакратычныя механізмы выконвання ўлады. Дагэтуль мы адназначна не можам ацаніць ролю тэрарызму

* Артыкул з’яўляецца дапрацаванай версіяй рэферата „Рэвалюцыйны тэрарызм у Гродне на пачатку XX стагоддзя”, які быў агучаны падчас IV Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі ў Коўне (3-5 X 2014 г.). Для альманаха „Горад Святога Губерта” аўтар рыхтуе другую частку матэрыялу, якая будзе прысвечана дзейнасці гродзенскіх анархістаў і эсэраў-максімалістаў.

і выкарыстоўвання сродкаў насілля рэвалюцыянерамі. Таму нам падаецца, што калі рэвалюцыйны тэрарызм з’яўляецца гістарычным тэрмінам, то не толькі філосафы, сацыёлагі ці палітолагі, не кажучы пра палітыкаў ці публіцыстаў, але таксама гісторыкі павінны прабаваць адказваць на пытанні аб сэнсе і актуальнасці рэвалюцыйнага тэрарызму сёння.

Не будзе перабольшваннем тэзіс аб тым, што ў нашыя дні мы бачым крайнюю палітызаванасць, паспешную пераацэнку каштоўнасцей, перш за ўсё з боку публіцыстаў і палітыкаў, якія слаба разбіраюцца ў тэме. Але нават сярод навукоўцаў можна заўважыць апалагетыку царскай Расіі, якая ідзе побач з прамым абвінавачваннем рэвалюцыянераў ва ўсіх смяротных злачынствах, якія адпавядаюць за лёс Расіі і рэгіёна ў XX ст. Яскравы прыклад — прафесар Валеры Чарапіца[1] з Гродна. Безумоўна, пераасэнсаванне каштоўнасцей патрэбна, але ці коштам падмены ярлыка святых змагароў на катаў і злачынцаў?[2] Мы падзяляем меркаванне, што гісторык павінен выступаць з пазіцый не толькі пракурора, але і адваката, і калі не ўдасца апраўдаць, то прынамсі зразумець абодва бакі барыкады[3]. У гэтым кантэксце мы пагаджаемся са словамі гісторыка Рамана Гарадніцкага: „тэрор гэта факт гісторыі, таму як кожны факт — ён неадназначны”[4].

Пісаць пра рэвалюцыйны тэрарызм складана не толькі па прычынах маральных ацэнак, але таксама ў сувязі з малым распрацаваннем у гістарыяграфіі. Калі разглядаць савецкую гістарыяграфію, то можна заўважыць не толькі тэндэнцыйны падыход да рэвалюцыйнага тэрарызму левых партый і груп, але таксама адсутнасць грунтоўнага і ўсебаковага аналізу данай праблематыкі[5]. Трэба адзначыць, што пер-

[1] В. Н. Черепица, *Звенья единой цепи: Большие и малые события в истории Гродненщины XIX-XX столетий*, Гродно 2009, с. 51-72; гэты ж, *Гродненский исторический калейдоскоп: очерки истории, историографии и источниковедения*, Гродно 2014, с. 315-355.

[2] О. В. Будницкий, *Терроризм в российском освободительном движении: идеология, этика, психология (вторая половина XIX-начало XX в.)*, Москва 2000, с. 16.

[3] Там жа, с. 25-26.

[4] Р. А. Городницкий, *Боевая организация партии социалистов-революционеров 1901-1911*, Москва 1998, с. 4.

[5] Параўнай: С. Агурский, *Очерки по истории революционного движения в Белоруссии (1863-1917)*, Минск1928; Л. Н. Майзель, *1905-1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей*, Мінск 1934; Е. П. Лукьянов, А. И. Воронова, *Революция 1905-1907 гг. в Белоруссии*, Минск 1954; Н. В. Каменская, *Первая русская революция 1905-1907 гг. и революционное движение в Белоруссии*, Минск 1975; А. С. Король, *Большевики Белоруссии в революции 1905-1907 годов*, Минск 1986; *Революционное движение в Белоруссии 1905-1907 гг. Документы и материалы*, Минск 1955, і інш.

шай сучаснай тэрарыстычнай палітычнай арганізацыяй даследнікі лічаць расійскую партыю „Народная Воля”[6]. Менавіта ад часу яе дзейнасці мы можам гаварыць пра сучасны палітычны тэрарызм[7]. Карані расійскага рэвалюцыйнага тэрарызму шукаюць у поглядах анархіста Міхаіла Бакуніна ці дзейнасці Сяргея Нячаева, аўтара брашуры-статута *Катехизис революционера* (1869)[8].

Розныя аспекты рэвалюцыйнага тэрарызму (у тым ліку архіўныя матэрыялы)[9] у апошнія дзесяцігоддзі былі разгледжаны і пабачылі свет у нашых суседзяў: Польшчы[10], Расіі[11] і Украіне[12]. Трэба адначаваць, што і ў айчыннай гістарыяграфіі пачалі з’яўляцца манаграфіі

[6] Гл.: Н. Троицкий, *Безумство храбрых. Русские революционеры и карательная политика царизма 1866-1882 гг.*, Москва 1978; сайт, прысвечаны партыі „Народная Воля”: http://narodnaya-volya.ru/ (доступ 10 II 2015).

[7] А. Гейфман, *Революционный террор в России 1894-1917*, Москва 1997, с. 13.

[8] С. Г. Нечаев, *Катехизис революционера*, [w:] *Революционный радикализм в России: век девятнадцатый. Документальная публикация*, ред. Е. Л. Рудницкая, Москва 1997, с. 244-248.

[9] *„Кровь по совести”. Терроризм в России: Документы и биографии*, предисл., сост., примеч. О. В. Будницкий, Ростов-на-Дону 1994; *История терроризма в России в документах, биографиях, исследованиях,* автор-составитель О. В. Будницкий, Ростов-на-Дону 1996; *Женщины-террористки в России: Бескорыстные убийцы*, сост., вступит. ст. и примечания О. В. Будницкий, Ростов-на-Дону 1996; *Политическая полиция и политический терроризм в России (вторая половина XIX — начало XX в.): сборник документов,* ред. Г. А. Бордюгов, Москва 2001.

[10] J. Pająk, *Organizacje bojowe partii politycznych w Królestwie Polskim 1904-1911*, Warszawa 1985; R. Górski, *Polscy zamachowcy — droga do wolności*, Kraków 2008; W. Potkański, *Terroryzm na usługach ugrupowań lewicowych i anarchistycznych w Królestwie Polskim do 1914 roku*, Warszawa 2014; W. Lada, *Polscy terroryści*, Kraków 2014. Цікавай кнігай, якая кранае сучасны левы тэрарызм, з’яўляецца кніга ўругвайскай журналісткі Ізабэлі Пізано: I. Pisano, *Ja, terrorysta. Rozmowy ze współczesnym katem*, Warszawa 2005 (пераклад з іспанскай мовы: I. Pisano, *Yo terrorista. Hablan los protagonistas*, Plaza & Janés 2004).

[11] О. В. Будницкий, *Терроризм...*; А. А. Бакаев, *Отечественная историография политического терроризма в Российской империи начала XX века*, Москва 2005; В. Б. Петухов, *Серебряный век русской культуры и терроризм*, Ульяновск 2006; „Исторический Вестник” 2012, т. 2 (149): *Терроризм в России в начале XX в.*; Л. Г. Прайсман, *Террористы и революционеры, охранники и провокаторы,* Москва 2001; М. А. Носкав, *Российский терроризм начала XX века в общественном восприятии. Автореферат диссертации на соискание ученой степени кандидата исторических наук*, Москва 2011.

[12] *Політичний терор і тероризм в Україні. XIX-XX ст. Історичні нариси*, Д. В. Архієрейський, О. Г. Бажан, Т. В. Бикова та ін. Відповід. ред. В. А. Смолій, Київ 2002; О. М. Лебеденко, *Тероризм в Україні під час революції 1905-1907 рр.*, [у:] *Проблеми історії України XIX — початку XX ст.: Зб. наук. пр. 2008*, вип. 15, с. 73-79; В. Савченко, *Анархисты-террористы в Одессе (1903-1913)*, Одесса 2006 і інш.

і артыкулы, якія развіваюць даследаванні ў галінах гісторыі рэвалюцыі 1905-1907 гг. і гісторыі палітычных плыняў на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў пачатку XX ст., у якіх закранаецца тэма тэрору[13].

У сваім даследаванні мы карысталіся метадалогіяй гісторыі сацыяльна-палітычных рухаў, дапаўняючы яе метадалогіяй гісторыі ідэі. Да асноўных крыніц, перш за ўсё трэба аднесці ўспаміны дзеячаў Польскай сацыялістычнай партыі ў Гродне, а таксама архіўныя дакументы і вядомыя даследаванні навукоўцаў[14].

„Рэвалюцыйны тэрарызм", паводле класічнай дэфініцыі Джэйкаба Хардмана, гэта „метад ці тэорыя, якая абгрунтоўвае метад, дзякуючы якому арганізаваная група ці партыя імкнецца дасягнуць абвешчаныя ёю мэты пераважна праз сістэматычнае выкарыстанне насілля. Тэракты кіруюцца супраць людзей, якія як асобы, агенты ці прадстаўнікі ўлады перашкаджаюць у дасягненні мэт гэтай групы". Аграрны і фабрычны тэрарызм гэта дадаткі да агульнай праграмы рэвалюцыйнага тэрору[15]. Іншымі словамі, тэрор рэвалюцыянераў можна разглядаць як сацыяльна-палітычную барацьбу, у якую ўваходзяць сістэматычнае і арганізаванае выкарыстанне насілля з мэтай вырашэння грамадскіх і палітычных праблем праз дэстабілізаванне апарату адміністрацыі, усеагульнага застрашвання і г.д.

13 В. В. Сергеенкова, *Проблема терроризма в теории и практике российского революционного движения*, „Працы гістарычнага факультэта БДУ: навуковы зборнік", 2009, вып. 4, с. 309-316; яна ж з'яўляецца аўтаркай праграмы спецкруса *Терроризм в теории и практике российских революционных организаций*, Минск 2011; А. Киселев, *Бомба для генерал-губернатора. Революционный террор и чиновники МВД белорусских губерний в 1905-1907 годах*, «Беларуская думка», 2008, № 6, с. 48-53; Л. А. Давыдова, *Организации союза социалистов-революционеров (эсеров) максималистов в межреволюционный период (1908-1914 гг.) на территории белорусских губерний*, „Вестник Полоцкого государственного университета. Серия А: Гуманитарные науки", 2013, № 1, с. 58-62; Л. Л. Давыдова, *Террористическая деятельность союза социалистов-революционеров (эсеров) максималистов на территории белорусских губерний в начале XX века* „Вестник Полоцкого государственного университета. Сер. А: Гуманитарные науки", 2012, № 1, с. 65-70.

14 W. Laquerr, *Voices of Terror: Manifestos, Writings and Manuals of Al Qaeda, Hamas, and Other Terrorists from Around the World and Throughout the Ages*, Reed Press 2004; (ed.), *The Terrorism reader:*, New American Library 1978; *Origins of Terrorism*: *Psychologies, Ideologies, Theologies, States of Mind*, Woodrow Wilson Center Press 1990; A History of Terrorism, Transaction Publishers 2011; L. Pellicani, *Revolutionaty Apocalipse: Idealogical roots of terrorism*, London 2003; A. Гейфман, *Революционный...*; *Terrorism: Critical Concepts in Political Science*, David Rapoport (ed.), Routledge 2006.

15 J. B. S. Hardman, *Terrorism*, [in:] *Encyclopedia of Social Sciences*, vol. 14, New York 1930, s. 575.

На мяжы XIX-XX ст. хваля рэвалюцыйнага тэрору захапіла Расійскую Імперыю, кульмінацыя якога прыйшлася на падзеі Першай рускай рэвалюцыі 1905-1907 гг. Не толькі нацыянальныя, але і класавыя антаганізмы, і, увогуле, недзеяздольнасць улады ў вырашэнні надзённых праблем прывялі да масавага кровапраліцця. На тэрыторыі сучаснай Беларусі найбольш актыўныя дзеянні рэвалюцыянераў-тэрарыстаў адбываліся ў Паўночна-Заходнім краі, у якім знаходзілася Гродзенская губерня са сталіцай у Гродне. Яшчэ ў 1901 г. кіраўнік гродзенскай жандармерыі Беляноўскі пісаў, што ў рэгіёне нарастае рабочы рух і сацыялістычная агітацыя, асабліва ў Беластоку, Гродне і Крынках. Сярод сацыялістаў пераважалі габрэі, трошкі было палякаў і практычна адсутнічаў праваслаўны элемент[16]. У Гродзенскай губерні за 1895-1904 гг. адбылося каля 200 забастовак. Гэтая лічба значна перавышала іншыя прамысловыя цэнтры як Масква, Пецярбург ці Варшава. У дадатку геаграфічнае палажэнне спрыяла таму, што тут фармаваліся паралельна расійскія і польскія сацыялістычныя арганізацыі[17].

Сярод рэвалюцыйных аб'яднанняў, якія ў сваёй ідэалогіі і палітычнай практыцы выкарыстоўвалі тэрарыстычную рыторыку і метады барацьбы, можна пералічыць Партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў (эсэраў), Саюз сацыялістаў-рэвалюцыянераў-максімалістаў, Польскую сацыялістычную партыю (Polska Partia Socjalistyczna), а таксама разнастайныя арганізацыі анархістаў — „Чёрное Знамя”, „Буревестник”, Гродненская группа анархистов-коммунистов, Боевой летучий отряд анархистов-коммунистов „Бунтарь”, а таксама гібрыдныя напаўбандыцкія групы „Чёрный ворон” „Самооборона” і іншыя, якія пачалі масава з'яўляцца падчас заканчэння рэвалюцыі. Дзейнасць анархісцкіх груп у Гродне, чальцы якіх былі пераважна габрэйскага паходжання, была звязана не толькі з актыўным распаўсюджваннем ідэй Міхаіла Бакуніна і Пятра Крапоткіна ў Расійскай Імперыі, але таксама непасрэдна з блізкасцю Беластока — адной са „сталіц расійскага анархізму”. Гэты „Манчэстэр Поўначы” з вялікай колькасцю пралетарыяту (перш за ўсё ў галіне ткацтва) быў асноўным прамысловым цэнтрам у рэгіёне, а таксама галоўным асяродкам рэвалюцыйнага руху, у тым ліку тэрарызму левага накірунку. Больш таго, вядомыя сваімі гучнымі акцыямі эсэры-максімалісты менавіта Беласток лічылі „радзімай сваёй тэорыі”[18].

[16] *Źródła do dziejów klasy robotniczej na ziemiach polskich*, t. III: *Królestwo Polskie i Białostocczyzna*, cz. 1: *1901-1904*, red. S. Kalabiński, Warszawa 1968, s. 515.

[17] P. Korzec, *Pół wieku dziejów ruchu rewolucyjnego Białostocczyzny: (1864-1914)*, Warszawa 1965, s. 116.

[18] М. М. Энгельгардт, *Взрыв на Аптекарском острове*, [у:] О. В. Будницкий, *История...*, с. 253-256.

Акрамя Беластока гродзенскія барацьбіты падтрымлівалі сувязь з „ачагамі рэвалюцыі”, сярод якіх былі Адэса, Варшава, Екацерынаслаў, Санкт-Пецярбург і іншыя. Побач з масавымі дэманстрацыямі, распаўсюджваннем лістовак і літаратуры, пастаяннай агітацыяй на „біржах” і эканамічнымі стачкамі, якія прапагандавалі сацыял-дэмакраты, рэвалюцыянеры карысталіся такімі метадамі як экспрапрыяцыі, сабатаж, запалохванне, шантаж і забойствы. Незалежна ад рознай тэарэтычнай падбудовы для практыкі тэрору і ўласнай палітычнай афарбоўкі часта менавіта акцыі прамога дзеяння аб’ядноўвалі чальцоў розных фракцый у адзіным рэвалюцыйным фронце. Цікавы прыклад меў месца ў Мінску, калі на Віктара Зелязея, на мінскай кватэры якога адбыўся II з’езд БСГ у 1906 г., трапіла Мінскае губернскае жандарскае ўпраўленне. Здарылася гэта падчас назірання за анархістам Беркам Энгельсонам, адным з лідараў беластоцкіх анархістаў[19]. У сваю чаргу адзін з найбольш яскравых тэрарыстаў і прапагандыстаў анархісцкага руху ў Расійскай Імперыі на пачатку XX ст. Юда Гросман ездзіў у Варшаву дамаўляўцца з ППС аб тэракце, накіраваным супраць генерал-губернатара Георгія Скалона[20]. На працягу ўсіх трох расійскіх рэвалюцый можна было аднатоўваць „абмен” удзельнікамі паміж рознымі рэвалюцыйнымі групамі. Больш таго, у ссылках і турмах партыйная прыналежнасць часта не адыгрывала той ролі, якая надавалася ёй на волі. Агульна кажучы, рэвалюцыянераў аб’ядноўвалі прынамсі дзве плоскасці: ідэі левага накірунку і барацьба з царызмам. Натуральным чынам побач з сумеснымі забастоўкамі, дэманстрацыямі і агітацыйнай дзейнасцю разгортвалася палітычная практыка рэвалюцыйнага тэрарызму.

Тэрор змагары з царызмам ажыццяўлялі ў адносінах да чыноў гарадской паліцыі і вайскоўцаў, буйных землеўладальнікаў, буржуазіі, фабрыкантаў, правакатараў і здраднікаў рэвалюцыі. Напрыклад, у перыяд з 12 сакавіка 1906 г. па 6 красавіка 1907 г. у Гродзенскай губерні забілі 10 і паранілі 13 чыноў Міністэрства ўнутраных спраў. Палажэнне аб узмоцненай ахове ў красавіку 1905 г. прынята ў сувязі з „прыймаючымі масавы характар замахамі на службовых асоб, пры садзейнічанні вулічнага натоўпу”[21].

Шэраг даследчыкаў падкрэслівае факт, што большасць тэрарыстаў была маладая і неадукаваная. Польскі даследчык гісторыі габрэяў

[19] С. І. Бусько, *Палітычны кантроль над беларускім нацыянальным рухам у Расійскай імперыі ў пачатку XX ст.*, „Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб.”, 2011, вып. 6, с. 14.

[20] И. Гроссман-Рощин, *Думы о былом (Из истории белостоцкого, анархического, „чернознаменского” движения)*, „Былое”, 1924, № 27-28, с. 181-182.

[21] А. Киселев, *Бомба...*, с. 49

Адам Маркоўскі піша, што „чалавек-машына з такой жа лёгкасцю ткаў матэрыял, як і кідаў бомбы”[22]. Цяжкія варункі працы і адсутнасць перспектыў развіцця ўплывалі на радыкалізацыю маладзёнаў. Можна ўзгадаць, што кіраўнік гродзенскай жандармерыі ў спецыяльнай справаздачы з 8 снежня 1905 г. дакладваў у Дэпартамент паліцыі аб існаванні 55 беластоцкіх анархістаў, 57 эсэраў, 56 чальцоў неідэнтыфікаванай „Баявой арганізацыі”, з якіх 90 адсоткаў былі ва ўзросце 17-23 гадоў.

Паводле слоў расійскага рэвалюцыйнага гісторыка і дзеяча Уладзіміра Бурцава „тэрарыстычная барацьба ідэйна выхоўвала расійскае грамадства”[23]. Трэба адзначыць, што незалежна ад агульнарасійскага характару і падабенства кірункаў тэрарызму пачатку XX ст., кожная рэвалюцыйная плынь мела ўласныя праграмныя ўстановы, уласныя ідэалагічныя і этычныя падмуркі. Алег Будніцкі адасабляе тэрарызм рэвалюцыянераў нацыянальна-вызваленчага накірунку (ППС) у асобную групу, якая мела ўласную спецыфіку, псіхалогію і ідэалогію барацьбы[24]. Тым больш што сярод нацыянальных меншасцей — палякаў і габрэяў — было вельмі шмат рэвалюцыянераў-тэрарыстаў. Менавіта польскім рэвалюцыянерам-тэрарыстам з Баявой арганізацыі Польскай сацыялістычнай партыі (БА ППС) будзе прысвечана далейшая частка артыкула[25].

Польская сацыялістычная партыя была заснавана ў лістападзе 1892 г. у Парыжы. У Гродне актывізацыю польскіх сацыялістаў можна датаваць 1894 годам[26]. Дзеяч ППС, аўтар важных для нас успамінаў,

[22] A. Markowski, *Sojusz biedy i ciemnoty, czyli rzecz o problemach społecznych robotników żydowskich na Białostocczyźnie na przełomie XIX i XX wieku*, [w:] *Żydzi i judaizm we współczesnych badaniach polskich*, red. K. Pilarczyk, t. IV, Kraków 2008, s. 178.

[23] Цытата за: О. В. Будницкий, *История...*, с. 14.

[24] О. В. Будницкий, *Терроризм...*, с. 13

[25] Тэрарыстычныя тэндэнцыі выказвалі і некаторыя ранейшыя польскія сацыялісты з партый Вялікі пралетарыят (1882-1886) і Другі пралетарыят (1889-1893). Падрабязней гл.: W. Potkański, *Terroryzm na usługach…*, s. 62-68.

[26] Пра сацыялістычны рух на Гродзеншчыне гл.: Ю. Кітурка, *Гарадзенская арганізацыя ППС у 1890-1900-я гг.*, „Гістарычны альманах”, 2000, т. 3. с. 164-176; А. У. Паўшок, *Дзейнасць польскіх палітычных партый сярод рабочых у гродзенскай губерні ў канцы XIX — пачатку XX ст.*, [у:] *Гарады Беларусі ў кантэксце палітыкі, эканомікі, культуры: зборнік навуковых артыкулаў*, І. П. Крэнь, І. В. Соркіна (адк. рэдактары). Гродна 2007, с. 166-170; Н. У. Паўлючэнка, *Грамадска-палітычнае жыццё г. Гродна ў 1905-1907 гг.*, [у:] *Гродна і гродзенцы: дзевяць стагоддзяў гісторыі (да 880-годдзя горада). Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі*, Гродна 2008, с. 258-265; Д. В. Скивицкий, *Возникновение первых польских социалистических партий и их деятельность на территории Беларуси до начала первой русской революции*, [у:]

Браніслаў Шушкевіч сярод заснавальнікаў пералічвае Пятра Шумава „Балеслава” і Сяргея Галюна, якія пасля арышту ў 1894 г. заснавалі сацыялістычную групу, складзеную пераважна з габрэйскай інтэлігенцыі. Сярод яе дзеячаў можна пералічыць Дзем’яновіча, Бэка, Мятэліцу і іншых[27]. Вядомы сацыялістычны дзеяч Леан Васілеўскі на гэты конт пісаў, што акрамя Беластока і Варшавы, дзе габрэйская арганізацыя ППС абапіралася выключна на рабочых, з поспехам канкуравала з усё больш магутным Бундам, пашыраліся габрэйскія ўплывы ППС у Літве — у Вільні і Гродне. У горадзе над Нёманам габрэйская арганізацыя ППС нават атрымала перавагу[28]. У 1896 г. група складалася з 10 рабочых, сярод якіх быў Мойша Собаль, у якога размяшчалася нелегальная бібліятэка.

Масавы рэвылюцыйны і нацыянальна-вызваленчы рух пад эгідай ППС пачаўся ў 1898-1900 гг. Акрамя Шумава ў склад Гродзенскага рабочага камітэта ўваходзілі Васіль Фрэйман „Цале”, расійскі настаўнік Томасан, адвакаты Ключэўскі і Гедройц, Давід Вайс, лекар Саламон Фрыдберг, настаўніца Кейла Лапін, Голда Кавенокі і яе муж Саша Вікер. Сярод прадстаўнікоў габрэйскага пралетарыяту, які быў арганізаваны ў 8 колах (50-60 чалавек) былі м.інш. „найбольш здольны і найбольш разумны арганізатар” рахункавод Барыс Гец, Файвель Сольц, слесар Ліпе Фарбэр[29]. Паводле слоў Мойшы Вайнера, габрэйскі пралетарыят і руская інтэлігенцыя вабіла ў шэрагі ППС па „чыста гуманітарнай прычыне і грамадзянскім абавязку”. Важным было таксама імкненне да праўды, якая заключалася ў тым, што польскі народ пазбавілі „свабоды і незалежнасці”[30]. У 1901 г. ППС заснавала друкарню, а ў 1902 г. адбылася першая дэманстрацыя на 1 траўня[31]. У тым самым годзе была створана ППС на Літве, з цэнтрам у Гродне.

*Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX — пачатак XXI ст.). Матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (Гродна, 23-24 кастрычніка 2008 г.)*, І. І. Коўкель (адк. рэд.), Гродна 2009, с. 75-82; Н. А. Иващенко, *Выступления трудящихся Гродненской губернии в 1905-1907 годах и зарождение профсоюзного движения*, там жа, с. 116-121 і інш.

27 M. Wajner („Zejdke”), „Niepodległość”, 1934, t. IX, z. 9 (21), s. 222; B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898-1910*, „Niepodległość” 1937, t. XVI, z. 1 (42), s. 513-514.

28 L. Wasilewski, *Zarys dziejów Polskiej Partii Socjalistycznej. W związku z historią socjalizmu polskiego w trzech zaborach i na emigracji*, Warszawa 1925, s. 82.

29 A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki socjalistyczno-niepodległościowej w Grodnie*, „Kronika Ruchu Rewolucyjnego w Polsce”, 1935, nr 4, s. 211-212; M. Wajner („Zejdke”), „Niepodległość”, 1934, t. IX, z. 9 (21), s. 223.

30 M. Wajner („Zejdke”), „Niepodległość”, 1934, t. IX, z. 9 (21), s. 228.

31 Адзначалася таксама свята 1 сакавіка — дзень смерці народавольцаў падчас замаху на цара Аляксандра II у 1881 годзе.

Найвялікшым прамысловым аб’ектам у Гродне была тытунёвая фабрыка Шарашэўскага, якая давала працу каля 1500 чалавек, а таксама фабрыкі пераплётчыкаў Харына і Лангбарда (Нёманская) і Вейсбрэма. Менавіта на фабрыцы Шарашэўскага ў 1898 г. адбылася першая сумесная забастоўка ППС і Бунда. З цягам часу арганізацыя павялічваецца, да яе далучаюцца новыя асобы, сярод якіх прыбыўшы з Варшавы шавец Ян Сівэк, Францішак Грабоўскі, агітатар і прафсаюзны дзеяч Францішак Эйдукевіч „Марцэль” і шэраг іншых. Пашыраецца агітацыйная работа, у кватэры Хуга Кавальскага па вул. Тэлеграфнай размяшчаюцца легальная і нелегальная бібліятэкі. Распаўсюджваецца літаратура і прэса, у тым ліку органы ППС „Robotnik” (Рабочы), „Przedświt” (Досвітак) і іншыя. Акрамя фабрычных забастовак у горадзе адбываліся шэсці і дэманстрацыі. Сярод іх можна выдзеліць шэсце ў дзень пахавання доктара і грамадскага дзеяча Юльяна Бянецкага (1829-1903), акцыю салідарнасці з палітычнымі зняволенымі гродзенскай вязніцы ў сакавіку 1903 г. Актыўна праводзілася агітацыйная работа ў навакольных вёсках ды мястэчках.

Пасля пачатку руска-японскай вайны гродзенскія сацыялісты далучыліся да шырокай антымілітарнай кампаніі. Падчас адной з акцый былі разарваны агітацыйныя ваенныя плакаты, вывешаныя на доўгіх кіях на вуліцы Сапёрнай (недалёка вайсковых казармаў), а таксама Грандзічскай і Сеннага рынку[32]. Ужо ў 1904 г. ППС у Гродне валодала значнай колькасцю агнястрэльнай зброі (пераважна браўнінгамі[33] і рэвальверамі сістэмы „Сміт-Весан”), якую захоўвалі на кватэры Шушкевіча па вуліцы Баніфратэрскай 30[34].

Размовы аб стварэнні баявой партыйнай структуры вяліся ад лютага 1904 г., а ўжо праз год на VII з’ездзе ППС была прынята рэзалюцыя аб яе стварэнні. Гэтая структура павінна была займацца абаронай чальцоў ППС, а таксама рыхтаваць кадры да будучага паўстання. Тады яшчэ не было гаворкі аб прымяненні запланаваных актаў супраць прадстаўнікоў улады[35]. Першыя пробы баявой сілы польскіх сацыялістаў мелі месца 13 лістапада 1904 г. на Гжыбоўскай плошчы ў Варша-

32 A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki*..., s. 216; B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 525.

33 Бельгійскі пісталет Браўнінга ўзору 1900 года (самазарадны пісталет калібра 7,65 мм з аўтаматыкай) насіў назву ад імя стваральніка Джона Мозеса Браўнінга (1855-1926). Браўнінг быў не толькі найбольш папулярнай кішэннай зброяй рэвалюцыянераў таго часу, але і найбольш зручным і надзейным у параўнанні з цяжкім маўзерам. З браўнінга ў 1911 годзе быў забіты Данілам Багровым прэм’ер-міністр Расіі Пётр Сталыпін. Праўдападобна, што менавіта з гэтай зброі Фані Каплан страляла ў Леніна.

34 B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 527.

35 W. Potkański, *Terroryzm na usługach*…, s. 254-256.

ве. Тады пад кіраўніцтвам Стэфана Акшэі адбылася збройная абарона дэманстрацыі. У сваю чаргу гродзенская баявая дружына ППС бярэ свой пачатак у красавіку 1905 г. На пачатку было 8 габрэяў і 4 хрысціян. Пазней у склад заканспіраванай групы з 15 чалавек уваходзілі пераважна рабочыя: Зеліковіч, Шмуль Лур'е, Саладух, Юдэль Шапіра, гарбар Элі Давід, Перэц Любоўскі, „энергічны і адважны таварыш" слесар Францішак Маслоўскі (у ППС ад 1903 г.), млынар Аляксандр Пухальскі (1885 г. нар., у ППС з 1903 г.), Францішак Кавальчук, Міхал Станіслаўчык, Дзем'янчук, Давід Кураж, Марцін Бальцэр, Юзэф Вежбалоўскі, Міхал Рудзінскі**,** Капульскі, з інтэлігентаў быў вучань 7 класа гімназіі Міхал Панкевіч „Юліуш" і тэхнік Браніслаў Шушкевіч, студэнт львоўскай палітэхнікі. У задачу групы ўваходзіла арганізацыя тэрактаў, здабыццё грошай, хуткая збройная дапамога ў выпадку пагромаў, акупацыя друкарняў[36].

Увогуле трэба дадаць, што гісторыя Баявой арганізацыі ППС мела даволі складаны лёс. Дыскусія на тэму выкарыстання тэрору адбылася яшчэ падчас парыжскага з'езда ў 1892 г. і працягвалася ў наступныя гады[37]. Практыка тэрору Польскай сацыялістычнай партыі перш за ўсё была звязана з канцэпцыямі Юзэфа Пілсудскага і Уладыслава Йодка-Наркевіча па падрыхтоўцы ўзброенага паўстання супраць Расіі[38]. Ужо падчас рэвалюцыі гэтая канцэпцыя папоўнілася ідэяй стварэння практычных груп самаабароны рабочых ці т.зв. рабочай міліцыі, якая б бараніла рабочых падчас дэманстрацый і пагромаў. У паўстанцкім кірунку ішло не толькі навучанне ваеннай справе баевікоў, але таксама актыўная прапаганда сярод жаўнераў. Не было выключэннем і гродзенскае войска, праца ў якім „развівалася выдатна", і нават мелі месца спробы рэалізаваць ідэю паўстання. Увосень 1906 г. падняліся чатыры батальёны сапёраў Гродзенскага гарнізона. Вельмі папулярны сярод жаўнераў агітатар ППСавец Матушэвіч без дазволу партыйнага камітэта склаў план паходу сапёраў і іншых часцей гарнізона са зброяй на Вільню (150 км), адтуль разам з віленскімі часцямі планавалася маршыраваць на Санкт-Пецярбург. Праз некалькі дзён ваеннае кіраўніцтва тактычна справу закрыла: некаторыя салдаты бы-

[36] M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS na terenie Grodna*, „Niepodległość", 1936, nr 2, s. 446; B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 533.

[37] Стаўленне да тэрору (побач з фарсаваннем ідэі аўтаноміі для Польскага Каралеўства ў складзе Расійскай Федэрацыі) стала адной з прычын таго, што ўлетку 1900 г. у Львове былымі дзеячамі ППС на чале з Людвікам Кульчыцкім была заснавана партыя ППС-Пралетарыят (III Пралетарыят). Сама партыя не была шматлікай і не мела значага ўплыву на работнікаў, але ёй удалося правесці некалькі тэрарыстычных акцый.

[38] W. Potkański, *Terroryzm na usługach*…, s. 70-73; 76-91; 256.

лі лёгка пакараныя, а Матушэўскі пераведзены ў Аліту[39]. Шушкевіч акрэсліў планы свайго таварыша як „фантастычныя ідэі".

Варта дадаць, што Баявая арганізацыя ППС (1904-1911) не была аднароднай структурай, мела розныя назвы і розныя арганізацыйныя формы (Гурты баявой рабочай самаабароны (красавік 1904 — люты 1905), Змоўніцка-баявая арганізацыя (люты-лістапад 1905), найбольш знаная з назвы Баявая арганізацыя ці Цэнтральная баёўка (15 верасень 1905 — чэрвень 1906), адначасова дзейнічала лакальная баявая група, падпарадкаваная Цэнтральнаму рабочаму камітэту партыі — Тэхнічна-баявая арганізацыя, якую ў чэрвені 1906 г. аб'ядналі з Баявой арганізацыяй. Колькасны падзел баевікоў складаўся перш з „дзясятак", пазней з больш заканспіраваных (часцяком з канкрэтных прафесійных груп) „пяцёрак" і напрыканцы з „шасцёрак". Таксама трэба звярнуць увагу на тое, што пасля падзелу ППС у лістападзе 1906 г. на ППС-Лявіцу і ППС-Рэвалюцыйную фракцыю большасць засталася ў лагеры „старых" на чале з Ю. Пілсудскім. „Маладыя" з РФ на з'ездзе ў Цешыне (пачатак 1908 г.) стварылі ўласныя атрады Рабочай міліцыі, а ППС-Лявіца — Партыйную міліцыю[40].

Зброя ў Гродна дастаўлялася з Прусіі, вялікую ролю ў транспарціроўцы адыграў Мец („Борух"). Арганізацыя распараджалася 20 браўнінгамі і іншымі мадэлямі рэвальвераў. Наладзіўся выраб бомбаў, якім займаўся „Стэфан". Партыйныя слесары з ліцейнай Файгольда выраблялі металёвыя капсулы даўжынёй 20-23 см з двайным дном, на адным з якіх была разьба, якая мацавала дно да іншага канца трубкі. На кожным канцы быў замацаваны жалезны „напарстак", далей шкляная трубка, якая мясцілася паміж напарсткамі і была напоўнена сернай кіслатой і алавяным стрыжнем пасярэдзіне. Капсулу напаўнялі порахам уласнай вытворчасці з дадаткам прэсаванага піраксіліну, які дастаўлялі сапёры і артылерысты. Такіх бомбаў было падрыхтавана восем. Першую з іх у лесе ў Пышках праверылі „Стэфан", Ст. Трускоўскі і Шымон Ёнас — „бомба здала экзамен".

Першы тэрарыстычны акт быў планаваны супраць паліцмайстра Генісярэцкага, якога называлі „крыніцай усякага беззаконня". Яго праследавалі Марцін Бальцар і Гжэгаж Аляксейчык, Ян Аўчарак і Шымон Ёнас і іншыя. Але некалькі разоў запар ён вяртаўся дамоў рознымі дарогамі, у выніку ад акцыі адмовіліся. Па сутнасці першым тэрарыстычным актам ППС і адначасова першым палітычным замахам у Гродне быў замах на жыццё паліцэйскага Грыкі, які асабіста ведаў шмат чальцоў партыі. Будучы адзіным інтэлігентам, выконваць заданне ўзяўся

[39] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 558-559.
[40] W. Potkański, *Terroryzm na usługach*…, s. 257-260.

Панкевіч, каб паказаць прыклад. Сацыяліст страляў у ахвяру на мосце праз Нёман. Грыку выратавала толькі тое, што калібр рэвальвераў сістэмы „Сміт-Весан" быў малы — куля затрымалася каля самой артэрыі. Сам Панкевіч здолеў збегчы. Праз некалькі дзён на Школьным падворку падстрэлілі паліцэйскага Вільчынскага. На пачатку чэрвеня, пасля смерці ў вязніцы аднаго бундаўца, пачаліся забастоўкі. На плошчы Тэатральнай (Тызенгаўза) з натоўпу ў кірунку паліцыі прагучала некалькі выстралаў. Пасля пахавання да ночы працягваўся абстрэл паліцыі і казакоў невялічкімі групамі рэвалюцыянераў. Пачалася вайна з паліцыяй. Напрыканцы ліпеня на вуліцы Траецкай рэвалюцыянеры стралялі ў Кадзіна, які прытварыўся мёртвым. Пасля таго, як сацыялісты пачалі ўцякаць, ён адчыніў агонь, аднак, беспаспяхова. У верасні на Рыбным рынку Зяльковіч кінуў бомбу ў гродзенскага „Канстанцінава"[41], але асколкам параніла толькі агента Пятроўскага[42].

Да канца 1905 г. адбылася некалькі тэрактаў з выкарыстаннем бомбаў і рэвальвераў. Паводле ўспамінаў Шушкевіча, бомбы зрабілі сваё і адыгралі станоўчую ролю. З аднаго боку паліцыя імкнулася хадзіць групамі, што было лягчэйшай мэтай для атакі, з іншага — рабочыя пачулі сабе паўнавартаснымі ігракамі рэвалюцыі, якія могуць браць рэванш. Гэта мела вельмі важнае агітацыйнае значэнне. Пры тым Міхал Панкевіч не ўкрываў, што бомбы ўзрываліся гучна, але пашыралі толькі жах, не робячы сур'ёзнай шкоды[43]. Бомбы адлівалі на фабрыцы Язерскага і Янкоўскага. Менавіта там у кастрычніку 1906 г. адбыўся ператрус. Казакі, якія нічога не знайшлі, пачалі біць рабочых нагайкамі, у выніку Вяжбіцкаму выбілі вока[44].

Пасля абвяшчэння царскага маніфесту ў кастрычніку 1905 г. шмат рабочых пакінулі месцы працы і падаліся на Парадную плошчу. Каб дапамагчы чыноўнікам выйсці з працы з Акружнога суда, скарбовай палаты і губернскай друкарні, ППСаўцы паразлівалі смярдзючыя і слёзатачывыя вадкасці. Падчас вялікай дэманстрацыі на плошчы адзін з дэманстрантаў ударыў салдата і толькі дзякуючы іншым дэманстрантам не палілася кроў[45].

41 Варшаўскага прыстава царскай паліцыі Нікалая Канстанцінава, які адпавядаў за рэпрэсіі ў дачыненні работнікаў, асабліва яўрэйскага паходжання, 14 траўня 1906 г. на скрыжаванні вуліц Свентакшыскай і Маршалкоўскай у Варшаве забіў баявік ППС Борух Шульман.

42 B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 534-535, 537; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki...*, s. 219-220; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 448-449.

43 M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 449.

44 A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki...*, s. 224-225; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 450.

45 B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 542-543.

Не дайшло да кровапраліцця, якое магло адбыцца ў Гродне ў лістападзе 1905 г. па прычыне габрэйскіх пагромаў, справакаваных чарнасоценнымі актывістамі, паліцыяй і войскам. У тагачаснай імперыі Раманавых найвялікшыя пагромы мелі месца ў Кішынёве (1903), Адэсе (1905), Гомелі (1906), Седльцах (1906) і двойчы (1905, 1906) у Беластоку[46]. У Гродне, дзякуючы актыўнай мабілізацыі насельніцтва, былі створаны габрэйскія і хрысціянскія рабочыя групы самаабароны, якія былі ўзброены ў рэвальверы і нагайкі з алавянымі шарамі. Мілітарызаваныя групы самаабароны дзейнічалі ў розных гарадах і былі падрыхтаваны да радыкальных акцый[47]. У адной з лістовак польскія рэвалюцыянеры пісалі: „Таварышы! У выпадку якіх-небудзь правакацый чэрні супраць габрэяў, давайце разам узброеныя выхадзем на вуліцы, каб сілай даць адпор атакам гэтых подлых шакалаў, каб абараніць тых, з якімі разам змагаліся і будзем змагацца за свабоду і шчасце. Прэч з разбойнікамі! Хай жыве свядомасць!”[48].

Сітуацыю з пагромамі каментавала вядомая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, якая ў той час жыла ў Гродне. Яна была навочнай сведкай шматлікіх рэвалюцыйных падзей у горадзе. У адным з пісем да вядомага польскага лекара Ігнація Бараноўскага яна напісала: „У Гродне побач з іншымі гарадамі пераважае неспакойная атмасфера. Я бываю сведкай адбываючыхся пад маімі вокнамі бурных сцэн, якія адзначаюцца бязлітаснасцю і грубасцю неўтаймаванай рэвалюцыйнай стыхіі. Учарашні дзень мы пражылі пад пагрозай габрэйскіх пагромаў, якія, на шчасце, дзякуючы сумесным высілкам розных грамадскіх груп, былі прадухілены. Ці назаўжды? Ці надоўга? Няма ніякай пэў-

[46] Гл.: *Государственная Дума: Созыв 1-й. Стенографические отчеты*, Санкт-Пецярбург 1906, т. 2, с. 952-961, 1583-1603, 1623-45, 1775-91, 1806-44, 1828-29; П. А. Столыпин, *Переписка*, Москва 2007; С. М. Галай, *Еврейские погромы и роспуск 1-й Государственной думы в 1906 г.*, „Вопросы истории”, 2004, № 9, с. 23-42; P. Korzec, *Pogrom białostocki w 1906 r. i jego polityczne reperkusje*, „Rocznik Białostocki”, 1962, t. III, s. 149-182; A. Dobroński, *Pogrom białostocki 1906 r. w świetle prasy polskiej*, „Białostocczyzna”, 1991, nr 4 (24), s. 13-16; A. Markowski, *Pogromy, zajścia, ekscesy. Zbiorowe akty przemocy przeciwko Żydom w Białymstoku pierwszych dekad XX wieku*, „Studia Judaica”, 2011, t. 14, nr 1 (27), s. 23-44. Расійскі пісьменнік Аляксандр Салжаніцын у беластоцкім пагроме абвінавацiў анархістаў. Паводле яго пагром быў рэакцыяй улады на падрыхтоўку анархістамі збройнага паўстання, А. Солженицын, *200 лет вместе 1795-1995*, Москва 2001, с. 222.

[47] Напрыклад, групы самаабароны ў Індуры на столькі запалохалі жыхароў, што лідары жыдоўскай супольнасці звярнуліся да ўлады з просьбай аб абароне, а таксама выдалі месца, дзе група самаабароны трымала зброю. А. Гейфман, *Революционный*..., с. 150.

[48] International Institute of Social History (далей: IISH), Algemeyner Yidisher Arbeyter Bund Collection, Inv. 178 A.

насці. Таксама няма сярод тутэйшага грамадства ніякага пагаднення, ніякага клею, які б з агульнага цела рабіў бы адзіную стралу, кіруючуюся да адной мэты. Разрозніліся і мэты, і жаданні (...)”[49]. Цікава, што стаўленне выдатнай літаратаркі да рэвалюцыі было неадназначным. З аднаго боку яна крытыкавала атэізм, касмапалітызм, падрыў традыцыйных сямейных каштоўнасцей і рэвалюцыйную практыку, аднак рэзервавала месца для пазітыўных ідэалаў рэвалюцыі: „Асновы сацыялізму маюць у сабе элементы праўды, справядлівасці, літасці (...). Аднак сталы розум не можа пагадзіцца на шляхі, па якіх ён кіруецца да сваіх мэт”[50]. Ажэшка таксама мела некаторыя сувязі і з ППС. Стараючыся адукаваць рабочыя масы, аўтарка *Над Нёманам* перадавала польскую літаратуру для рабочых праз чальца ППС Давіда Перэльмутара „Лялькү” (які ў сваю чаргу навучаў габрэйскі пралетарыят польскай мове, а таксама папулярызаваў польскія рэвалюцыйныя песні „Warszawianka”, „Czerwony Sztandar” і іншыя)[51]. Аднак, да самога тэрору рэвалюцыянераў пісьменніца ставілася безумоўна негатыўна.

Трэба звярнуць увагу на факт, што непадалёк дому Элізы Ажэшкі знаходзілася „біржа” ППС — месца масавых сходак і рэвалюцыйнай агітацыі[52]. Іншая „біржа”, сумесная з іншымі партыямі, знаходзілася на Параднай плошчы[53]. У Паўночна-Заходнім Краі „біржы” (вуліца, набярэжная ці сквер) мелі вельмі важнае арганізацыйнае і прапагандысцкае значэнне. Грыгоры Нястроеў, адзін з лідараў эсэраў-максімалістаў адзначаў, што гэта былі месцы, дзе аратары з розных партый са стала, пастаўленага пасярэдзіне вуліцы інфармавалі рабочых пра агульную сітуацыю ў справах 1905 года”. Ён таксама дадаваў, што пра біржы ствараліся легенды[54]. Іншы дзеяч Саюза эсэраў максімалістаў Юзэф Жук-Жукоўскі (Ян Сцяпняк) успамінаў пра „біржу” ў Слоніме як пра „імправізаваны вулічны клуб”, дзе можна было канспіратыўна сустрэцца, перадаць літаратуру ці набыць зброю[55]. Польскі даследнік рабочага руху Павел Кожэц параўноўваў іх з месцамі спатканняў рэ-

[49] *List E. Orzeszkowej do Ignacego Baranowskiego z 6 XI 1905*, [w:] *Listy Elizy Orzeszkowej*, t. II: *Do literatów i ludzi nauki*, cz. II, oprac. L. Świderski, Warszawa — Grodno 1938, s. 96-97.

[50] *List E. Orzeszkowej do Kazimierza Zdziechowskiego z 21 III 1905*, tamże, s. 113.

[51] A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki…*, s. 214; M. Wajner („Zejdke”), „Niepodległość” 1934, t. IX, z. 9 (21), s. 230.

[52] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 530.

[53] Tamże, s. 554. Менавіта там 28 жніўня 1906 г. эсэрамі-максімалістамі быў забіты падпалкоўнік Н. Грыбаедаў. Рэвалюцыянерам удавалася схавацца ў натоўпе габрэйскай моладзі. Пасля гэтага здарэння паліцыя забараняла збірацца вялікімі групамі. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 366, воп. 1, спр. 91, арк. 159-161.

[54] Г. Нестроев, *Из дневника максималиста*, Париж 1910, с. 36.

[55] А. Левандовский, *На заре жизни*, „Каторга и ссылка”, 1931, кн. 4 (77), с. 106-107.

валюцыйных партый, „якія сталі на той момант асноўнай формай арганізацыйнай сувязі”[56].

Падчас акцыі школьнікаў у Каралеўстве Польскім супраць расійскіх школ[57] у Гродне таксама арганізаваўся сход. Вучні занялі Народны дом на вуліцы Брыгідскай. Некалькі асоб забарыкадаваліся ў будынку, калі прыехаў Генісарэцкі з казакамі. Тады Барыс Дз'яканаў з браўнінгам прыгразіў вядучаму перамовы Генісарэцкаму, што заб'е яго, калі ў будынак уварвуцца казакі. Дзякуючы таму, што сярод вучняў былі сыны губернатара Асаргіна, улада адступіла[58].

У снежні пасля хвалі рэпрэсій і арыштаў актывізавалася баявая група. Быў здзейснены напад на алкагольную краму ў Ласосне. Удзел бралі Маслоўскі, Пухальскі, Станіслаўчык, Зелiковіч, Шапіра, Гдалі Капульскі, Лур'е. Было экспрапрыявана 180 рублёў. Прыкметна тое, што акцыя мела на мэце падняць баявы дух рабочых і паказаць, што барацьба працягваецца — так напісалі ў лістоўцы ППСаўцы. Паводле ўспамінаў Шушкевіча менавіта тады з'явіліся у горадзе і „маладыя эсэры” (максімалісты), якім удалося выканаць некалькі ўдалых тэрактаў. У траўні 1906 г. у казацкага есавула Сцяпанава кінулі бомбу, але той ацалеў і неўзабаве з'ехаў з Гродна. 28 жніўня адбылася атака на палкоўніка Грыбаедава, які праз некалькі дзён павінен быў быць пераведзены ў Саратаў. 1 верасня 1906 г. кінулі бомбу ў прыстава Сачка, якая забіла і параніла некалькі чалавек. Сам Сачок застаўся жывы. 23 лістапада 1906 г. у Рыначным завулку ў доме Левіта быў выкрыты падпольны склад: 4 кнотавыя бомбы, 5 скрыняў баявых патронаў, пашпартныя бланкі і пракламацыі[59]. Калі верыць успамінам польскіх сацыялістаў, пралетарыят нават думаў, што акцыі былі здзейснены Баявой арганізацыяй. Тое, што эсэры не ўваходзілі ў канфлікт з ППС, а толькі павялічвалі хаос сярод уладаў, было пазітыўна прынята польскімі рэвалюцыянерамі ў Гродне. Па словах ППСаўцаў, гэтыя ўдалыя акцыі былі здзейснены таму, што Баявая арганізацыя ППС стварыла

56 P. Korzec, *Pół wieku*..., s. 283.

57 Акрамя патрабаванняў увядзення польскай мовы навучання, лібералізацыі ўмоваў навучання, ставіліся пастулаты стварэння школьнага самакіравання, доступу да школ габрэйскай моладзі, свабоду школьных згуртаванняў, ліквідацыі юрыдычнай розніцы паміж дзяўчатамі і хлопцамі, абавязку агульнай пачатковай школьнай адукацыі для ўсіх. Гл.: *Odezwa postępowej młodzieży szkół średnich Królestwa Polskiego w sprawie strajku szkolnego, Warszawa, luty 1905*, [w:] *Rewolucja 1905-1907 na ziemiach polskich*, opr. Paweł Korzec, Warszawa 1958, s. 11-13.

58 B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 545-546.

59 В. Швед, *Губернскі Гродна. Аповяды з гісторыі горада (канец XVIII ст. — пачатак XX ст.)*, Гродна 2002, с. 150.

ў горадзе рэвалюцыйную атмасферу і ўзаемадзейнічала з эсэрамі. Шушкевіч дадае, што некалькі тэрактаў былі рэалізаваны ў сціплым узаемадзеянні абедзвюх партый[60]. Разважаючы на конт этыкі і псіхалогіі рэвалюцыянераў з БА ППС, цяжка не закрануць аднаго важнага моманту, які тычыцца розніцы паміж актамі польскіх і расійскіх рэвалюцыянераў. Акт польскага тэрарыста быў планаваны не як самаахвярнасць расійскіх эсэраў, але як эфектыўныя акцыя з мэтай ліквідацыі ворага і бяспечнага адыходу з месца здарэння[61]. У польскай версіі рэвалюцыйнага тэрарызму не было нігілісцкай традыцыі. Сам Пілсудскі падчас рэвалюцыі выказваўся, што „не сушыў сабе галавы для тэарэтычнага абгрунтавання патрэбнасці тэрору і для знаходжання ў тэорыі месца для перавагі тэрору”[62]. У практыцы, і польскім, і расійскім рэвалюцыянерам не перашкаджалі адрозненні ідэйнага плана, што праяўлялася ў сумесных актах тэрору.

Аднак, унутры арганізацыі былі рознагалоссі па шэрагу пытанняў. У верасні 1906 г. адбылася канферэнцыя, падчас якой абмяркоўваўся байкот Дзяржаўнай Думы. У дадатку Цэнтральны рэвалюцыйны камітэт ППС прыняў рашэнне аб спыненні дзейнасці баявых груп. Гродзенскія сацыялісты вырашылі пакінуць БА (супраць быў толькі Эйдукевіч)[63].

Па прычынах недахопу лістовак БА дапамагала пры нелегальных акупацыях друкарняў і начных друкаваннях лістовак. У лістападзе 1905 г. у друкарні Крамкоўскага (6 разоў), часцяком друкавалі ў Юхневіча і Давіда Мейлаховіча (10 і 15 разоў), Зэндэль Мейлаховіч (2 разы). У акцыях прымалі ўдзел Станіслаўчык, браты Руткоўскія, Кандрашук „Монтэк”, Маслоўскі, Кавальчык, Вежбалоўскі, Зеліковіч, Лур’е, Саладух, Капульскі, Ротштэйн, Пухальскі, Шварц, Кураж, Шапіро, Бальцэр. „Душой акцый” у друкарнях быў Міхал Рудзіньскі. Падчас падобных акупацый баевікам удавалася друкаваць па некалькі тысяч, а часам больш за дзясятак тысяч лістовак[64].

На пачатку лютага чальцы ППС напалі на гарэлачную краму ў вёсцы Капліца (4 км ад горада), забіраючы з касы больш за сто рублёў. Падчас акцыі работнік „Фелікс”, які застаўся на варце, спалохаўся і ўцёк. Праз гэта яго вылучылі з баёўкі. Пазней у вёсцы Капцёўка (12 км ад Гродна) пад’ехалі на фурманках, перарэзаўшы тэлефонныя

[60] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 548, 556-557.
[61] W. Potkański, *Terroryzm na usługach…*, s. 293.
[62] Цытата за: W. Potkański, *Terroryzm na usługach…*, s. 297.
[63] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 553.
[64] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 554 ; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 447; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki…*, s. 223.

правады, узялі каля 800 рублёў. Першая падобная акцыя мела месца яшчэ ў 1903 г., калі Фіялкоўскі, Зінява, Іванішэўскі і Пушкевіч разбілі некалькі бутэлек гарэлкі, кідаючы камень завернуты ў лістоўку супраць фінансавання рабочымі вайны[65].

Акрамя здабычы грошай рэвалюцыянеры імкнуліся да запалохвання і помсты за дзейнасць улады, каб дэмаралізаваць службы. Не заўжды гэта ўдавалася, як у выпадку з планам забіць ротмістра Башынскага, якога вельмі не любілі ў горадзе. 8 красавіка Зеліковіч падстрэліў каля гарнізоннага касцёла (Фара Вітаўта) паліцэйскага Кромера. 21 (8) траўня па вуліцы Маставой і Мяшчанскай Перэц Любоўскі і Шэпшаль Фінкер (Фітнер?) стралялі ў прыстава Шукайлу, але забілі паліцэйскага Казла, які ішоў разам з ім. У сувязі з гэтым была надрукавана заява. У жніўні кравец Нохім, Майжэш Нёманскі і Саладух кінулі бомбу ў паліцэйскіх, якія сядзелі ў скверы на вул. Дамініканскай. У выніку быў паранены прыстаў Рашкоўскі і забіты мінак. Праз некалькі тыдняў на Параднай плошчы падчас разгону „біржы" быў забіты паставы Карпук[66].

Экспрапрыяцыі былі вельмі папулярным сродкам барацьбы, які выкарыстоўвалі БА, анархісты і эсэры, у той час як Бунд крытыкаваў гэты метад. Напрыклад, у верасні 1905 г. гродзенскі камітэт Бунда распаўсюджваў лістоўку, у якой адмаўляўся ад дзейнасці экспрапрыятараў („хуліганаў"), выступаўшых ад імя партыі[67]. Напрыканцы жніўня планаваўся напад на касу Акружнога суда з мэтай экспрапрыяцыі 20 тыс. рублёў. Каардынаваў акцыю чыноўнік гэтага ж суда Аляксандр Сянкевіч, Маслоўскі, Г. Капульскі, Кураж, Станіслаўчык, Вежбалоўскі, Саладух, Шапіра, Кавальчук. На жаль рэвалюцыянераў, падчас акцыі прачнуўся дворнік Блоцкі, які п'яным заснуў у буфеце, і падняў трывогу. Змагары з самадзяржаўем хутка пакінулі будынак суда[68].

Улетку 1906 г. у 26 артылерыйскай брыгадзе пачаўся бунт у сувязі з дрэннымі варункамі харчавання. Каб супакоіць салдат, быў прысланы 102 полк пяхоты, але падчас агітацыйных прамоваў Цвяткова і Менеса частка пяхоты далучылася да бунтаўшчыкоў. Раззброіць артылерыстаў удалося толькі ўначы, калі тыя спалі і былі акружаныя 103 палком пяхоты. Цвяткову і Менесу прысудзілі 12 і 10 гадоў катаргі адпаведна. Падчас суда Цвяткоў сказаў, што Мікалай II не працягне

[65] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 556; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki...*, s. 216; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 448.

[66] M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 449; B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 556.

[67] Ulotka *Ко всем*, IISH, Algemeyner Yidisher Arbeyter Bund Collection, Inv. 29.

[68] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS…*, s. 557; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS…*, s. 448; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki…*, s. 224.

на троне 12 гадоў, таму з катаргі ён вернецца раней. За гэтую крамолу сацыялісту прысудзілі смяротнае пакаранне. Таварышы па партыі вырашылі дапамагчы Цвяткову ўцячы. У булках яму перадалі тытунь і картку з інструкцыяй. Цвяткову ўдалося збегчы, кінуўшы ў вочы вартаўнікоў тытунь. Хутка ён з'ехаў у ЗША[69].

19 лістапада 1906 г. у Ласосне зранілі ўладальніка млына Рышарда Ягалкоўскага, які здзекаваўся з рабочых. У акцыі ўдзельнічалі анархіст Нохім, кравец і Мойжэш Камашнік „Нёманскі". У выніку былі арыштаваны баевікі ППС Францішак Маслоўскі, Аляксандр Пухальскі[70] і Юзэф Вежбалоўскі. Першыя пачулі прысуды пажыццёвай і 15-гадовай катаргі адпаведна. Пазней Маслоўскага[71] забілі ў Арле падчас уцёкаў, а Пухальскі загінуў на катарзе. Вежбалоўскі трапіў на 7 месяцаў у гродзенскую вязніцу. Па словах Шушкевіча, асобы з ППС, якія не кансультавалі акцыі з партыяй, „падарвалі дысцыпліну арганізацыі"[72].

У 1907 г. першая расійская рэвалюцыя перажывала сваю апошнюю фазу. У сувязі з рэакцыяй і арыштамі найбольш актыўных рэвалюцыянераў і кіраўнікоў, напрыканцы 1907 г. гродзенская арганізацыя перастала існаваць[73].

Такім чынам, можна зрабіць некаторыя высновы. Гродзенская баёўка не здзейсніла ніводнай вялізнай экспрапрыяцыі, не забіла ніводнага ўплывовага прадстаўніка ўлады, не выклікала масавага ўзброенага паўстання. Тым не менш, яе актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе ў Гродне меў важнае значэнне, а непасрэдны ўдзел у стварэнні габрэйскай самаабароны з'яўляецца пазітыўным акцэнтам дзейнасці гэтай структуры ў Гродне. У той жа час можна сказаць, што цягам двух гадоў свайго існавання БА ППС у Гродне была даволі актыўнай тэрарыстычнай групай. Адзначым, што Гродна было найбольш высунутай на ўсход пляцоўкай польскіх рэвалюцыянераў-тэрарыстаў. Менавіта БА стала першай тэрарыстычнай структурай у гродзенскім рэвалюцыйным руху. Практыка баёўкі ППС канцэнтравалася на некалькіх асноўных кірунках: палітычныя забойствы, экспрапрыяцыі і акупацыя друкарняў ды былі дапаўненнем да асноўнай партыйнай дзейнасці па арганізаванні пралетарыяту, яго агітацыі і адукавання.

[69] A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki*..., s. 222-223; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS*…, s. 450.

[70] Аляксандр Пухальскі (1885) — чалец ППС ад 1903 г., млынар.

[71] Францішак Маслоўскі (1857-1913) — чалец ППС ад 1903 г., слесар.

[72] B. Szuszkiewicz, *Organizacja grodzieńska PPS*…, s. 554; M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS*…, s. 450; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki*…, s. 225.

[73] M. Pankiewicz, *Działalność bojowa PPS*..., s. 450; A. Puszkiewicz, *Z dziejów walki*…, s. 226.

Тэрарыстычныя метады былі накіраваны не толькі на грамадска-палітычныя змены ў Расійскай Імперыі, але перш за ўсё — на звяржэнне царызму і здабыццё незалежнасці. У гэтым кантэксце даволі цікавымі і важнымі з'яўляюцца разважанні польскіх даследнікаў рабочага руху Станіслава Калябіньскага і Фелікса Тыха, якія канцэнтраваліся вакол пытання аб характары рэвалюцыі 1905 г. для палякаў. Ці было гэта чацвёртым паўстаннем (пасля Польскага паўстання 1794 г., Паўстання ў Царстве Польскім, Беларусі і Літве 1830-1831 гг. і Паўстання ў Польшчы, Літве і Беларусі 1863-1864 гг.) ці першай рэвалюцыяй[74]? Падаецца, што для ППСаўцаў падзеі 1905-1907 гг. мелі і адно, і другое вымярэнне.

Падчас заняпаду рэвалюцыі, калі ППС заканчвала сваю баявую эпапею, у Гродне дзейнічалі баевікі іншых рэвалюцыйных груп. Максімалісты, анархісты ды змешаныя гібрыдныя групы былых ідэйных змагароў з царызмам працягвалі пісаць хроніку рэвалюцыі, пакідаючы ўласны след у гісторыі горада.

**Summary**

**Combat Organisation of the Polish Socialist Party as an example of revolutionary terrorism in Grodno at the beginning of the 20th century**

The article is devoted to the operations of Combat Organisation of the Polish Socialist Party around the time of the 1905 revolution. The first part describes the state of research into revolutionary terrorism in Imperial Russia. The author emphasises the fact that there is no large-scale research on this subject in Belarusian historiography. He further outlines the origin and character of the organisation. Additionally, he discusses the chronology, targets, and methods of Polish revolutionaries fighting in the Grodno paramilitary unit, such as political assassinations, expropriation, disseminating propaganda leaflets. The author enumerates the terrorist operations together with the revolutionaries' names, and he demonstrates how they were associated with other paramilitary units in Grodno – the Socialist Revolutionary Party fighters. What is more, the article summarizes the ideology, organizational structure, and national background of the activists.

**Streszczenie**

**Terroryzm rewolucyjny w Grodnie na początku XX wieku na przykładzie Organizacji Bojowej Polskiej Partii Socjalistycznej**

Artykuł poświęcony jest działalności Organizacji Bojowej PPS w Grodnie w okresie rewolucji 1905 roku. W pierwszej części przedstawiony został stan badań nad problematyką terroryzmu rewolucyjnego w Imperium Rosyjskim. Autor zwraca uwagę na brak szerszych i głębszych opracowań tematyki terroryzmu rewolucyjnego w historiografii białoruskiej. W dalszej części autor szkicuje genezę i ogólny charakter OB PPS. W ujęciu chronologicznym i tematycznym omawia różnorodne formy działalności terrorystycznej grodzieńskiej bojówki (morderstwa polityczne, wywłaszczenia, okupowanie drukarni) stosowane przez polskich rewolucjonistów na początku XX wieku. Podając przykłady akcji

[74] S. Kalabiński, F. Tych, *Czwarte powstanie czy pierwsza rewolucja: lata 1905-1907 na ziemiach polskich*, Warszawa 1969.

terrorystycznych wraz z nazwiskami wykonawców, autor zwraca uwagę na powiązania OB PPS w Grodnie z innymi organizacjami terrorystycznymi („młodymi eserowcami"). Ponadto w artykule został przybliżony aspekt ideowy, formy organizacji i skład narodowościowy grodzieńskich bojówkarzy z ramienia PPS.

**Aleksander Łaniewski** — doktor nauk humanistycznych w zakresie historii, członek Fundacji Historii Społecznej. Zainteresowania naukowe: polska myśl anarchistyczna; białoruski, polski i rosyjski ruch anarchistyczny w XX wieku; problematyka pamięci w ruchu anarchistycznym; pamięć i polityka historyczna na Białorusi.

**Рыгор Лазько**
(Гомель)

## 1914-1917: аптымістычная трагедыя Беларусі

У Расійская імперыі 1913 год праходзіў пад знакам святкавання 300-годдзя дынастыі Раманавых. Створаны дзеля правядзення свята юбілейны камітэт атрымаў задачу пераканаць Мікалая II ў лаяльнасці народа да манархіі шляхам „арганізацыі бурнай радасці народных мас" у сувязі з юбілеем. Задача была паспяхова выканана, цар быў задаволены[1]. Але не прайшло і чатырох год, як гэты ж народ адвярнуўся ад манархіі, дазволіўшы бастуючым рабочым Петраграда і салдатам сталічнага гарнізона скінуць яе. Хутка выяснілася, што рускі народ быў не гатовы прыняць і рэспубліканскую форму дзяржаўнасці: ён не падтрымаў яе ў барацьбе з імперыялістычнымі сапернікамі Расіі, а ў рэшце рэшт у выніку крывавай грамадзянскай вайны пагадзіўся на ўсталяванне ў краіне жорсткай левардыкальнай дыктатуры — бальшавіцкай. Такім чынам, ён атрымаў „найбольш нацыянальны рускі ўрад", — як пісаў умераны рускі кансерватар У. А. Маклакоў, — урад, які адпавядаў народу тым, што „загадваў і даваў радасць паслушэнства", але неразрыўна з гэтым ствараў і для народа магчымасць загадваць. У выніку „ранейшыя рабы адчулі сябе панамі..."[2]. Выхаду з круга аўтарытарнага палітычнага развіцця не адбылося.

Схематычна прадстаўлены намі кругабег палітычнага развіцця Расіі ад адной формы аўтарытарнасці да другой, праз этапы адкідвання дэмакратычнага рэспубліканскага ладу і грамадзянскай вайны, набіраючы сілу стыхіі, вырваўся за межы палітыкі, ахапіў усе сферы грамадскага жыцця і ўключыў працэс „разбягання" народаў Расіі ад цярпеўшага крызіс імперскага цэнтра. У канцы 1917 г. гэты мнагапланавы расійскі крызіс дасягнуў істотнага рубяжа ў сваім развіцці, выявіўшы варыянтнасць, альтэрнатыўнасць яго пераадолення на тэрыторыі карэннай Расіі і на яе нацыянальных ускраінах. Следам за акупаванымі Германіяй тэрыторы-

[1] А. А. Искендеров, *Российская монархия: реформы и революция*, „Вопросы истории", 1993, № 3, с. 88, 94-98.

[2] Цыт. па тэксце выступлення Алега Будніцкага за „круглым сталом" у Інстытуце Расійскай гісторыі РАН 15.03.2007 г., „Отечественная история", 2007, № 5, с. 28-29. Да гэтай ацэнкі, якую падтрымлівае Будніцкі, дабавім, што яна не выключэнне ў рускай палітычнай думцы XX ст. Гл., напрыклад: Г. П. Федотов, *Трагедия интеллигенции*, [у:] Г. П. Федотов, *О России и русской философской культуре*, Москва 1990, с. 440; *Война и общество в XX веке: В 3 кн.*, кн. 1: *Война и общество накануне и в период Первой мировой войны*, Москва 2002, с. 556-557, 586.

ямі Польшчы, Прыбалтыкі пазарасійскія мадэлі пераадолення крызісу складаліся і ў іншых нацыянальных раёнах у выглядзе праграм выхаду гэтых раёнаў са складу Расіі. Калі паспрабаваць прасачыць уплыў расійскага крызісу на Беларусь, то варта пачаць са сцвярджэння, што менавіта ў гэтым годзе ўпершыню за многія гады гістарычны працэс накрэсліў перад беларускім народам асобны ад расійскага варыянт гістарычнага развіцця. Узнікшая сітуацыя ўжо вызначана беларускім гісторыкам як „час выбару”[3], і да гэтай слушнай ацэнкі застаецца толькі дадаць, што працэс гістарычнага выбару беларусаў набыў хвалепадобны, дыскрэтны характар, і зацягнуўся на некалькі год. Наш артыкул абмежаваны першым яго этапам, які завяршыўся на рубяжы 1917-1918 гг.

Разглядаючы ўплыў на беларускую супольнасць расійскага крызісу перыяду Першай сусветнай вайны, варта звярнуць увагу на заклік Станіслава Рудовіча адысці ад спрошчанага погляду на гэту вайну як толькі на паскаральніцу расійскай рэвалюцыі 1917 г. Неабходна імкнуцца да асэнсавання таго, „як у разбуральным хаосе вайны і рэвалюцыі крышталізавалася стваральная ідэя нацыянальнага самасцвярджэння беларускага народа”[4]. Працягваючы гэту думку, асмелімся сцвярджаць, што вайна для беларускага народа хоць і была трагедыяй, але трагедыяй аптымістычнай. У ходзе яе ўзнікла не толькі неабходнасць, але і прынцыповая ажыццявімасць для беларускага народа гістарычнага рыўка ад стану „рэчы ў сабе” да стану гаспадара свайго краю і свайго лёсу ў ім. Менавіта дзеля таго, перш за ўсё, каб зразумець неабходнасць і адначасова прынцыповую магчымасць такога рыўка, беларускім гісторыкам неабходна з максімальнай паўнатой прасачыць уздзеянне на Беларусь расійскага крызісу 1914-1918 (і некалькіх наступных) гадоў як сістэмнага складанага фактару фарміравання новых якасцей беларускага народа, уключаючы і яго здольнасць да ўласнай дзяржаватворчасці. А прасачыць *з максімальнай паўнатой* азначае ўлічыць усе істотныя кампаненты гэтага глыбокага крызісу, разам з яго маральным складнікам, што з рознай сілай выяўляўся ва ўсіх слаях расійскага грамадства і разам з іншымі кампанентамі стымуляваў дынамічны, хоць і не прамалінейны, дэфармаваны іншымі фактарамі, працэс самавызначэння беларускага народа, уключаўшы і варыянт яго аддзялення ад расійскай дзяржавы.

Рашэнне гэтай прафесіянальнай задачы абумоўлена неабходнасцю пераадолення беларускімі гісторыкамі ментальных *табу*, якія фармі-

[3] С. Рудовіч, *Час выбару: Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе*, Мінск 2001.

[4] С. Рудовіч, *Беларусь у Першай сусветнай вайне і рэвалюцыі 1917 г.: Актуальныя праблемы даследаванняў*, [у:] *Гісторыя, якой няма ў падручніках*, Мінск 2002, с. 78.

раваліся на працягу многіх дзесяцігоддзяў, і прымушалі глядзець на рускі народ як на бездакорнага старэйшага брата. Аднак гэтаксама, як вопыт Першай сусветнай вайны за некалькі год разбіў ідэалагему аб трыадзіным рускім народзе ў свядомасці беларусаў, так добрасумленнае і ўсебаковае даследаванне гэтага вопыту разбівае звязаныя з вайной стэрэатыпы, уключаючы і стэрэатып аб яе гераічным характары для рускага народа і супадзенні яго інтарэсаў у гэтай вайне з інтарэсамі іншых усходнеславянскіх народаў. З улікам існуючай у беларускай гістарыяграфіі сітуацыі важна якраз тое, што пераадоленню такіх стэрэатыпаў спрыяюць дасягненні расійскай гістарычнай навукі апошніх гадоў, забяспечаныя не ў апошнюю чаргу на аснове антрапалагічнага падыходу да вывучэння Першай сусветнай вайны і ўвядзення ва ўжытак новых крыніц, у прыватнасці салдацкіх лістоў з фронту і іншых. Матывацыяй аўтара гэтага артыкула з'яўляецца імкненне ўнесці сваю кроплю ў рэчышча даследавання ўплыву на Беларусь катастрафічна паскоранага вайной расійскага крызісу. Яго задача заключаецца ў тым, каб акцэнтаваць асобныя накірункі гэтага ўплыву, меўшыя істотнае значэнне для фарміравання сітуацыі гістарычнага выбару Беларусі.

Беларусь як Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі была такім яе геапалітычным рэгіёнам, дзе крызіс расійскай дзяржаўнасці ў гады вайны праявіўся найбольш глыбока і ўсёабдымна, ахапіўшы ўсе сферы дзяржаўнага і сацыяльнага жыцця, паставіўшы на мяжу нацыянальнай катастрофы гістарычнага гаспадара гэтага краю — беларускі народ. Такія маштабы расійскага крызісу на беларускай зямлі былі абумоўлены, па-першае, тым, што Беларусь на некалькі год (з восені 1915 да канца 1917 г.) пераўтварылася ў эпіцэнтр крывавай барацьбы Расійскай дзяржавы з яе наймацнейшым сапернікам — Германіяй, і ў гэтай якасці мусіла несці ўсе ахвяры гэтай барацьбы, значна пераўзыходзіўшыя ахвяры, выпаўшыя на долю іншых рэгіёнаў імперыі. Па-другое, маштабы крызісу ў Паўночна-Заходнім краі вызначаліся неадпаведнасцю традыцыйна-імперскага ідэалагічнага абгрунтавання мэтаў вайны („за Веру, Царя и Отечество") нацыянальным, рэлігійным і сацыяльным рэаліям поліэтнічнага, шматканфесійнага, калісьці забранага той жа Расіяй краю. Па гэтых прычынах няздольнасць Расійскай дзяржавы даць эфектыўныя адказы на выклікі, пастаўленыя першай у гісторыі свету татальнай вайной[5], тут, на беларускай зямлі, выявілася з надзвычайнай сілай. Як татальная вайна, першая сусветная стала вайной узброеных нацый, хоць апошні тэрмін, як убачым

[5] Не ўсе гісторыкі згаджаюцца з тым, што яна мела гэты характар па ўсіх сваіх параметрах. Гл.: П. Э. Магареев, *Первая мировая как тотальная война*, [у:] „Новая и новейшая история", 2004, № 4, с. 3-16.

далей, мала адпавядаў узроўню кансалідацыі рускага народа. Аднак несумненна тое, што за час знаходжання Беларусі ў складзе Расійскай імперыі ўпершыню на яе тэрыторыі ў амаль што двухмільённай масе рускага войска, няспынна і па розных каналах звязанага з глыбокім тылам, быў прадстаўлены сам яго вялікасць рускі народ з дасягнутым ім да таго часу ўзроўнем матэрыяльнага і духоўнага развіцця. Ментальна-псіхічныя якасці пасланага на вайну рускага народа, не меней, чым матэрыяльныя фактары, сталі важным складнікам няздольнасці Расіі супрацьстаяць яе моцным заходнім праціўнікам і абумовілі яе паражэнне не толькі як дзяржавы, але і як пэўнага тыпу цывілізацыі. А гэтая няздольнасць, у сваю чаргу, стала важным фактарам паскарэння цэнтрабежных тэндэнцый у шматнацыянальнай Расійскай імперыі і пачатку яе распаду па нацыянальных межах.

У якасці аднаго з першых накірункаў уздзеяння расійскага крызісу на Беларусь склалася ўсведамленне яе насельніцтвам неэфектыўнасці расійскага войска як абаронцы краіны і ашаламленне, выкліканае прымяненнем ім негуманных спосабаў барацьбы з праціўнікам, спосабаў жорсткіх і разбураючых матэрыяльныя асновы існавання карэннага народа. Як вядома, к зыходу першага года вайны рускія войскі на беларуска-польскім накірунку саступілі праціўніку вялізную тэрыторыю „Царства Польскага”, адышлі на тэрыторыю Беларусі, дзе пасля ліквідацыі Свянцянскага прарыву германцаў фронт стабілізаваўся на доўгія два з паловай гады. Ужо вынікі першага года вайны выявілі вялікае тэхніка-эканамічнае і арганізацыйнае адставанне Расіі ад яе еўрапейскіх праціўнікаў, перш за ўсё ад Германіі, і засведчылі яе няздольнасць эфектыўна выкарыстаць свае відавочныя перавагі ў людскіх і ў шэрагу відаў сыравінных рэсурсаў. На мяжы 1916-1917 гг. шматлюдная Расійская дзяржава сутыкнулася з крызісам людскіх рэсурсаў для войска, з якім не здолела справіцца да канца вайны[6]. Адной з прычын гэтага крызісу былі вялікія страты ў першыя гады вайны. Толькі ў летнюю кампанію 1915 г. руская армія страціла забітымі і параненымі 1 410 тыс. чалавек — у сярэднім па 235 тыс. чалавек за месяц. Палоннымі ў тую ж кампанію яна страціла амаль 1 млн. чалавек, у сярэднім па 160 тыс. чалавек за месяц. У 1916 г. страты таксама былі вялікімі: за год яны перавысілі 2 млн. чалавек забітымі і параненымі і 344 тыс. палоннымі[7]. Але і самі гэтыя страты, будучы адной з прычын крызісу людскіх рэсурсаў, адначасова з'яўляліся вынікам

[6] Л. М. Гавриков, В. В. Кутузов, *Истощение людских ресурсов русской армии в 1917 г.*, [у:] *Первая мировая война*, Москва 1968, с. 155, 157.

[7] Н. Н. Головин, *Военные усилия России в мировой войне*, Москва 2001, с. 307, 330. Аналіз агульных страт Расіі ў параўнанні са стратамі праціўнікаў гл.:

адсталасці Расіі, якая выяўлялася ў недастатковым узроўні матэрыяльнага забеспячэння войск, у вялізным бюракратычным наросце на дзеючай арміі і ў нездавальняючай эфектыўнасці кіравання войскамі. Гэтыя прычыны няўдач расійскага войска, якія прывялі вайну на тэрыторыю Беларусі, не былі сакрэтам і для беларускіх сялян: „Няўжо ж нашы не здзержаць яго (немцаў — Р. Л.). Столькі ж народу пабралі са ўсёй Расіі, — запісваў адзін з назіральнікаў у Ігуменскім павеце. — Але ж снарадаў няма, кажуць, і начальства ўзяткі бярэ і прадае крэпасці і планы. У нас заўсягды так, — гаварылі сяляне. — Таперача снарадаў няма; а што рабіла начальства да вайны і ў час вайны — ганяла налогі, акцызы, толькі глядзела, як бы гэта апошнюю капейку з мужыкоў здзерці. А начальства многа...”[8].

„Пабралі з усёй Расіі” за гады вайны, акрамя кадравай арміі, якая складала 1,4 млн. чалавек, 5,6 млн. падрыхтаванага рэзерву і 10,6 млн. прызыўнікоў іншых разрадаў, якімі папаўнялі панесеныя страты[9]. Папаўненні, аднак, не прывялі да павышэння баяздольнасці войск. Наадварот. Пасля стабілізацыі фронту на тэрыторыі Беларусі дрэнна забяспечаныя і неадпаведна падрыхтаваныя рускія войскі не здабылі тут ні адной перамогі, усе праведзеныя імі наступальныя аперацыі заканчваліся паражэннямі з вялікімі матэрыяльнымі і людскімі стратамі. Да лета 1917 г. руская армія наогул страціла здольнасць ваяваць, аб чым сведчаць ход і вынікі апошняй яе наступальнай аперацыі. Нягледзячы на забяспечаную пры яе падрыхтоўцы значную перавагу рускіх войск, наступленне скончылася цяжкім іх паражэннем, і яно было прадвызначана яшчэ да пачатку аперацыі. Аб гэтым гавораць шматлікія факты адмовы часцей займаць зыходныя пазіцыі і адсутнасць хоць якога-небудзь імкнення развіць першапачатковы поспех з боку тых часцей, якія ўсё ж такі пайшлі ў наступленне. Некаторыя з іх адразу ж вярталіся да сваіх акопаў, як толькі сутыкаліся з праціўнікам[10]. У той жа час германскія войскі захавалі баяздольнасць, хоць і саступалі ў колькасных адносінах рускім.

А. И. Степанов, *Общие демографические потери населения России в период Первой мировой войн*, [у:] *Первая мировая война: Пролог XX века*, Москва 1999, с. 474-484.

8 *Документы и материалы по истории Белоруссии*, т. 3, Минск 1953, с. 824.

9 А. И. Степанов, *Общие демографические потери населения России в период Первой мировой войны*..., с. 481-482. Усяго ж за гады вайны, з улікам прызваных на абарончыя работы, было мабілізавана каля 20 млн. чалавек.

10 В. Н. Лигута, *810-дневное противостояние в Сморгони*, [у:] *Беларусь у гады Першай сусветнай вайны. Смаргоншчына: трагедыя, гераізм, памяць: матэрыялы міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Смаргонь, 18-19 мая 2007 г.)*, навук. рэд. А. М. Літвін, У. В. Ляхоўскі, Мінск 2009, с. 79, 80.

Правал летняга наступлення 1917 г. войск Заходняга фронту дазваляе ўбачыць іншую прычыну паражэнняў Расіі на тэрыторыі Беларусі і ў вайне наогул, больш важную, чым яе матэрыяльна-тэхнічная адсталасць. Неабходна згадзіцца з тымі расійскімі ваеннымі спецыялістамі, удзельнікамі Першай сусветнай вайны, якія бачаць такую прычыну ў неразвітасці рускага народа, які заставаўся патрыярхальным этнасам з уласцівымі для гэтай стадыі этнічнага развіцця якасцямі. Карэннае рускае насельніцтва, пісаў пасля вайны былы генерал-кватэрмайстар рускай арміі Юрый Данілаў, „галоўнай сваёй масай жыло ў цемнаце і непісьменнасці. Гэта насельніцтва было раскідана па вёсках, раз'яднанае паміж сабою вялізнымі адлегласцямі, дрэннымі камунікацыямі і пагружана з галавой у сваё цяжкае непрагляднае гаспадарчае жыццё"[11]. Такі стан матэрыяльнага існавання не спрыяў фарміраванню ў масе народа нацыянальнай свядомасці і засваенню нацыянальных інтарэсаў, а на гэтай аснове — агульнарасійскага патрыятызму. Шмат камандзіраў паведамлялі камандаванню аб адсутнасці гэтых якасцей у рускіх салдат. Удзельнік вайны генерал Мікалай Галавін цытуе шэраг такіх рапартаў: „Няма дысцыпліны, няма вывучкі, няма жадання працаваць як усведамлення абавязку, любові да радзімы, няма асноўных паняццяў аб свабодах. Поўная самаволя ў выкананні загадаў. Адна думка — хутчэй бы мір. А як сродак — нічога не рабіць...", — паведамляў камандзір 5-й стралковай дывізіі генерал Лебедзеў. „Некультурныя масы, пазбаўленыя здаровага пачуцця патрыятызму і нацыянальнага адзінства, не ўсведамляюць задач і мэт вайны, не разумеюць немагчымасці для Расіі" сепаратнага міру, — пісаў памочнік начальніка штаба Вярхоўнага галоўнакамандуючага палкоўнік Новікаў[12].

Такім чынам, перайшоўшае восенню 1915 г. да пазіцыйнай вайны расійскае войска было часткай народа, які не выпрацаваў пачуццяў нацыянальнага адзінства і супольнай адказнасці за лёс радзімы. Больш чым двухгадовае стаянне на беларускай зямлі гэтага войска выявілі таксама іншыя негатыўныя якасці рускага народа, набытыя ў ходзе гістарычнага развіцця (пры тым, што мясцовым насельніцтвам заўважаліся і станоўчыя якасці[13], якія, аднак, ва ўмовах ваеннай траге-

[11] Ю. Н. Данилов, *На пути к крушению: Очерки из последнего периода русской монархии*, Москва 1992, с. 29.

[12] Н. Н. Головин, *Военные усилия России в мировой войне...*, с. 241-242.

[13] Іх, напрыклад, неаднаразова адзначае „вольнапісаны" рускага войска беларус Максім Гарэцкі ў сваіх дакументальна-мастацкіх запісках „На імперыялістычнай вайне". Разам з тым, ён дае суровую характарыстыку маральных і культурных якасцей рускага чалавека, ускладняўшых суіснаванне з ім прадстаўнікоў іншых народаў Расіі. Гл. фрагменты гэтага твора, выразаныя са-

дыі не пераважвалі адмоўных). Пацвярджалася характарыстыка, дадзеная народу яго інтэлектуаламі, адпаведна якой рускі народ нават не асвоіў тэрыторыю сваёй дзяржавы, у адрозненне, напрыклад, ад амерыканцаў, а на абжытай зямлі не цікавіўся „сярэдняй вобласцю культуры"[14] — культуры штодзённасці, быту, міжлюдскіх адносін. Ён засвоіў нізкі ўзровень працоўнай культуры, няўменне шанаваць сваю і чужую працу, звычку жыць адным днём. Адсюль паходзіла шырока распаўсюджанае ў народзе п'янства, беларускай вёсцы да вайны амаль невядомае. Характэрныя даныя аб гэтай з'яве атрымала восенню 1915 г. Пензенскае земства, правёўшы ананімнае анкетаванне сельскіх жыхароў губерні. Яно паказала, што 21,4% апытаных мужчын і звыш 18% жанчын напіваліся „штодня п'янымі" і толькі каля 15% сялян не напіваліся да ап'янення[15]. І гэта пасля ўведзеных уладамі з пачаткам вайны абмежаванняў на выраб і продаж спіртных напояў. Як мог гэты народ (яго апранутая ў салдацкія шынялі частка) бараніць і берагчы чужую для яго зямлю, якой была беларуская, калі ён не набыў здольнасці беражліва ставіцца да сваёй айчыннай зямлі? Не мог і не бярог.

Насуперак існуючаму ў гістарычнай літаратуры стэрэатыпу, у першыя гады вайны не з бальшавікамі ішло на фронт бязладдзе, анархія — ім дарогу на фронт адкрыла толькі дэмакратычная Лютаўская рэвалюцыя — а з маршавымі ротамі, у якіх з тылу дастаўлялася ў дзеючую армію спешна падрыхтаванае, дрэнна абучанае і не жадаўшае ваяваць папаўненне. Усе крыніцы менавіта гэтую прычыну паказваюць як першую сярод вытокаў бязладдзя і дэмаралізацыі рускага войска[16]. Іншымі носьбітамі разладу і дэмаралізацыі ў дзеючай арміі былі салдаты, якія вярнуліся з водпускаў[17]. І тыя, і другія рабіліся рассаднікамі антываенных і нават паражэнскіх настрояў у войску. Ужо пасля першых няўдач на фронце ваенныя ўлады адзначалі пашырэнне такіх настрояў: „Хутчэй бы немцы ўзялі Петраград..."; „няхай Германія

вецкай цэнзурай пры падрыхтоўцы першага выдання: Т. Голуб, *Вечнае поле памяці*, „Полымя", 1993, № 2, с. 6-7.

14 Н. О. Лосский, *Характер русского народа*, [у:] Н. О. Лосский, *Условия абсолютного добра*, Москва 1991, с. 331.

15 О. Сухова, *„Кабы водку не запретили, не добыть бы нам свободы..."*, „Родина", 2014, № 8, с. 87.

16 „Кожная новая хваля разбэшчвання Арміі прыходзіла з тылу", — пісаў генерал Галавін. Н. Н. Головин, *Военные усилия России в мировой войне...*, с. 344. Гл. таксама: *Документы и материалы по истории Белоруссии*, т. 3, с. 201, 209, 225.

17 А. Б. Асташов, *Русский крестьянин на фронтах Первой мировой войны*, „Отечественная история", 2003, № 2, с. 74.

пераможа, за тым царом будзе лепей жыць”[18], і г.д. Характэрна, што іх выяўлялі тыя ж самыя салдаты-сяляне, якія падчас мабілізацыі летам 1914 г. спявалі прыпеўкі: „Мы сначала возьмём Краков, а потом уже Берлин...”. І тлумачылі, для чаго: „Налогом обведём”[19]. У святле гэтых фактаў лёгка зразумець, што Беларусь (Паўночна-Заходні край імперыі) была чужая для рускіх салдат, краем, за які нявартa было цярпець пакуты і рызыкаваць жыццём. „Мы вяцкія, тульскія, пермскія, да нас немец не дойдзе”, — так салдаты з карэннай Расіі выражалі сваё стаўленне да вайны, стаўшай для іх неспадзявана цяжкай і бессэнсоўнай.

Нежаданне ваяваць пасля летніх няўдач 1915 г. вылілася ў масавае дэзерцірства салдат з фронту, набыўшае найбольшы размах у раёнах Паўночнага і Заходняга франтоў. Па Дзвінскай ваеннай акрузе ўжо ў канцы 1915 г. штотыдзень затрымлівалася ў сярэднім 462 дэзерціры, праз год — 1479, і далей захоўвалася тэндэнцыя росту іх колькасці[20]. Няўхільна адбывалася крыміналізацыя гэтай масы. Такім чынам, не здолеўшы абараніць тэрыторыю Беларусі і яе насельніцтва ад знешняга ворага, рускае войска само стварала небяспеку для гэтага краю. Аднак яго эвалюцыя ў гэтым накірунку пачалася раней і мела не стыхійны характар. Яна пачалася з пераходу Вярхоўнага галоўнакамандавання да выкарыстання тактыкі „выпаленай зямлі” пры адступленні з Польшчы і Заходняй Беларусі летам 1915 г. Насельніцтва гэтых тэрыторый, дзе добраахвотна, хоць і пад уплывам антыгерманскай прапаганды, а дзе і гвалтам высялялася ваеннымі і грамадзянскімі ўладамі, яго маёмасць і пасевы знішчаліся, коні і буйная рагатая жывёла, транспартныя сродкі рэквізаваліся, іншыя матэрыяльныя каштоўнасці знішчаліся або вывозіліся ў тыл[21]. Гэта арганізаванае зверху вынішчэнне плёну працы многіх пакаленняў спрыяла пашырэнню стыхійнага рабаўніцтва мясцовага насельніцтва адыходзіўшымі на ўсход расійскімі вайскоўцамі. З мноства сведчанняў на гэты конт выберам назіранні ваеннага ўрача Л. Вайталоўскага, які ў верасні 1915 г. запісаў: „П’яныя палкі і дывізіі пераўтвараюцца ў банды марадзёраў і на ўсім сваім шляху ўчыняюць рабункі і пагромы”. Пры гэтым казакі, здаўна прывыкшыя глядзець на вайну як на сродак здабычы, вылуча-

[18] В. Б. Аксёнов, *Война и власть в массовом сознании крестьян в 1914-1917 годах: архетипы, слухи интерпретации*, „Российская история”, 2012, № 4, с. 141.

[19] Н. Александров, *„Мы сначала возьмём Краков, а потом уже Берлин”. Костромская деревня в начале войны*, „Родина”, 2014, № 8, с. 113.

[20] А. Б. Асташов, *Русский крестьянин на фронтах Первой мировой войны*, с. 80.

[21] М. М. Смольянинов, *Беларусь в Первой мировой войне 1914-1918 гг.*, Минск 2014, с. 95-96.

ліся найбольшай жорсткасцю. „Асабліва шалеюць казакі, — працягваў той жа аўтар. — Не шкадуючы ні полу, ні ўзросту, яны абдзіраюць да ніткі ўсе вёскі і пераўтвараюць у разваліны яўрэйскія мястэчкі”[22].

Але гэта быў толькі пачатак. Да восені 1917 г. войскі 1,5-мільённага расійскага Заходняга фронту пераўтварыліся ў сапраўдную арду, якая займалася рабаўніцтвам і пагромамі цывільнага насельніцтва, не спыняючыся перад забойствамі людзей, незалежна ад іх полу і ўзросту. „Ідзе пагалоўнае рабаўніцтва сялян на фронце”; „выразаюць сялянскія сем’і”, — з трывогай адзначалі дэлегаты Усебеларускага з’езда[23]. Усведамленне гэтай з’явы як паўсядзённай і тыповай для расійскага войска на працягу апошніх месяцаў яго знаходжання на беларускай зямлі адкрывае настолькі жудасную старонку Першай сусветнай вайны, што беларускія гісторыкі не адважваюцца пісаць аб ёй і сёння. Але гаварыць і пісаць неабходна, як ні шаблонна гэта гучыць, дзеля пазнання гістарычнай праўды — не толькі праўды аб самой „вялікай” вайне, але і аб умовах фарміравання звязанага з ёю нацыянальнага руху і беларускай дзяржаўнасці.

Часткай гэтай трагічнай праўды з’яўляецца праўда аб бежанстве — з’яве Першай сусветнай вайны, якая хоць і вывучаецца беларускімі і расійскімі гісторыкамі[24], але ўсе грані якой яшчэ не выяўлены, а маштабы недастаткова ўсвядомлены. Аб стане яе вывучэння сведчаць хоць бы істотныя, у сотні тысяч чалавек, разыходжанні ў падліках колькасці бежанцаў з Беларусі. Адпаведна з задачай артыкула мы закранем толькі тыя аспекты бежанскай праблемы, якія дазваляюць ацаніць уплыў гэтай з’явы на фарміраванне беларускай нацыянальнай свядомасці і нацыянальнага руху. Відавочна, што бежанства не ўзнікла стыхійна. Яно была вынікам адпаведнай палітыкі расійскіх улад[25], якія на пачатку вайны прапагандысцкімі сродкамі сфарміравалі ў насельніцтва ірацыянальны, выклікаўшы панічны страх вобраз

[22] Цыт. па: Е. Н. Сенявская, *„Без бабы и вина и война не нужна”: Проблема фронтовой морали в период Первой мировой войны*, [у:] *Историческая психология и социология истории*, т. 6, Москва 2013, с. 35.

[23] *Усебеларускі з’езд 1917 года: сведчанне сучасніка*, прадм. і публ. В. Скалабана, „Беларускі гістарычны часопіс”, 1993, № 1, с. 68. Вядомыя ўдзельнікам з’езда звесткі гэтага роду сёння могуць быць пацверджаны шматлікімі крыніцамі, як апублікаванымі, так і архіўнымі — даступнымі, але не запатрабаванымі беларускімі гісторыкамі. Назавем хоць бы запіскі былой сястры міласэрнасці Соф’і Фядорчанкі: С. Федорченко, *Народ на войне*, Москва 1990.

[24] З ліку апошніх прац гл.: А. Н. Курцев, *Беженство*, [у:] *Первая мировая война: Пролог XX века*, Москва 1999, с. 140-146; В. С. Утгоф, *Белорусские беженцы Первой мировой войны: автореф дис. ... кандидата историч. наук*, Санкт-Петербург 2003.

[25] Зрабіла свой унёсак і Праваслаўная царква. Гл.: *Бежанства 1915 года*, Беласток 2000, с. 95, 152, 218, 254.

наступаўшых немцаў, а затым перайшлі да гвалтоўнага высялення людзей з роднай зямлі на ўсход. Гэты шлях быў пазначаны мноствам магіл пахаваных на скорую руку дзяцей і старых. Разам з тым, асудзіўшы вялізныя масы беларусаў на фізічныя і маральныя пакуты, пераўтварыўшы для іх смерць у будзённую з'яву[26], трагедыя бежанства дала ім новы і важны вопыт, расшырыла іх кругагляд, паскорыла фарміраванне нацыянальнай свядомасці. „Вопыт бежанства стаў для беларусаў адным з самых значных за ўсю іх гісторыю, поўным найцяжэйшых выпрабаванняў, страт і, як вынік, пачаткам каласальнага, амаль што выбуховага, масавага этнасацыяльнага прасвятлення..."[27]. Апынуўшыся сярод рускіх людзей, многія тысячы беларусаў усвядомілі сваю іншасць — „знайшлі сваю нацыю"[28], як вызначыў гэты працэс Мікалай Улашчык. Прычым, на гэтую іншасць указала ім мясцовае насельніцтва, не прызнаўшае ў беларусах рускіх — ні па мове, ні па звычаях, ні па вопратцы. Але сапраўдныя праблемы пачаліся пазней, пасля першых цёплых хвілін сустрэчы бежанцаў, калі высвятлілася, што іх з'яўленне ў глыбіннай Расіі абвастрае цяжкасці з забеспячэннем мясцовага насельніцтва хлебам, жыллём, працай, і што яны нават разлічваюць на кавалак зямлі для ўтрымання сваіх сем'яў. Рускія сяляне і рабочыя, нярэдка пры падтрымцы мясцовай улады, пачалі выцясняць канкурэнтаў усімі спосабамі, даходзячы да разбурэння печаў і выдзірання вокан у іх жыллі[29]. Расійскія даследчыкі бежанскай праблемы паказалі, што такая драматычная сітуацыя склалася задоўга да прыходу бальшавікоў да ўлады[30], з палітыкай

[26] Гл.: В. Н. Белявина, *Беларусь в годы Первой мировой войны*, Минск 2013, с. 240-241.

[27] Ю. А. Лабынцев, *Повествования западнобелорусских беженцев-очевидцев о революционной России*, http://www.knizkult.narod/ru/Labyncev.htm, с. 1 [дата доступу: 17.09.2011].

[28] М. Улашчык, *Бежанства*, публ. А. Ліса; пасляслоўе В. Скалабана, „Спадчына", 2001, № 3, с. 217. Той жа працэс адлюстроўваюць іншыя крыніцы. Гл.: А. Баршчэўскі, *Малая і вялікая айчына ва ўспрыняцці беларусаў з Усходняй Беласточчыны*, [у:] *Беларусіка — Albaruthenica*, кн. 6, ч. 1, Мінск 1997, с. 298-304; М. Мушынскі, *Спадчына Якуба Коласа*, „Полымя", 1993, № 7, с. 236-238.

[29] А. Н. Курцев, *Беженцы Первой мировой войны в России (1914-1917)*, „Вопросы истории", 1999, № 8, с. 110; Н. В. Лахарева, *Судьба беженцев Первой мировой войны в Советской России (на примере Курской губернии)*, [у:] *Армия в истории России. Материалы межвузовской научной конференции*, Курск 1997, с. 79.

[30] На нашу думку, становішча бежанцаў ад пачатку не было аднолькавым у бедных, адсталых раёнах Цэнтральнай Расіі і ў заможных раёнах Паволжа і Сібіры, апроч таго, ніколі не ведаўшых прыгону. Гэтую розніцу неабходна ўсведамляць, вывучаючы ўспаміны бежанцаў, як і тое, што большасць іх аўтараў перажылі бежанства дзецьмі, а сталелі на спустошанай войнамі радзіме ў санацыйнай Польшчы. Гл.: *Бежанства 1915 года*, Беласток 2000.

якіх звязвалі пагаршэнне становішча бежанцаў асобныя беларускія гісторыкі. Па ацэнцы „Дзянніцы”, органа Белнацкама, гэта сітуацыя прымушала бежанцаў-беларусаў дамагацца вяртання на радзіму, пад уладу нямецкага шуцмана, каб толькі не існаваць далей у такіх невыносных умовах[31]. На сваю спустошаную вайной радзіму яны вярталіся ўжо іншымі людзьмі, ясна ўсвядоміўшымі, кім яны з’яўляюцца.

Што датычыць тых беларускіх сялян, якія засталіся на неакупаванай тэрыторыі Беларусі, то пасля Лютаўскай рэвалюцыі іх светапогляд і грамадскія паводзіны развіваліся больш складаным шляхам. На іх працягвалі ўплываць яшчэ даваенныя спадзяванні атрымаць зямлю за кошт „польскіх” памешчыкаў краю, хоць цяпер гэтыя спадзяванні звязваліся з абяцанымі Часовым урадам выбарамі ва Устаноўчы сход. Калі мы кінем погляд на паводзіны беларускага сялянства падчас выбараў у перадваенныя расійскія Дзяржаўныя Думы, то заўважым, што гэтыя паводзіны былі матываваныя якраз спадзяваннямі сялян і іх прадстаўнікоў у II-IV Думах на правядзенне ўрадам аграрнай рэформы, у выніку якой яны б набылі зямлю ў прыватную ўласнасць[32]. А галоўным землеўласнікам у Беларусі, як вядома, быў польскі (ці спольшчаны) памешчык. Такім чынам, беларускія сяляне аб’ектыўна і суб’ектыўна — у прамовах сваіх дэпутатаў у Думе — выступалі як саюзнікі царызму ў барацьбе з польскім землеўладаннем, дазваляючы расійскім правым маніпуліраваць сабою. Па гэтай жа прычыне дэпутаты ад сялянскай курыі з беларуска-літоўскіх губерняў выступалі супраць увядзення шырокага мясцовага самакіравання (аўтаноміі). Яны баяліся, што памешчыкі, захапіўшы ў свае рукі самакіраванне краю, не дазволяць затым правесці ў жыццё аграрную рэформу ў інтарэсах сялянства. У гэтай сітуацыі беларускай адраджэнскай інтэлігенцыі цяжка было пераканаць сялян у неабходнасці аўтаноміі для Беларусі, а расійскім чарнасоценцам, наадварот, лёгка было прадставіць адраджэнцаў у якасці інструмента „польскай інтрыгі” ў краі.

Аднак ужо ад пачатку вайны паводзіны „саюзніка” — царызму — у дачыненні да сацыяльнага антаганіста беларускіх сялян пачалі насцярожваць іх. Пад пагрозай страціць Польшчу тэрытарыяльна і ў палітычных адносінах царызм пачаў палітычную гульню з польскім памешчыцкім класам. 14 жніўня 1914 г. была абвешчана заява Вярхоўнага галоўнакамандуючага, вялікага князя Мікалая Мікалаеві-

[31] „Дзянніца”, 1918, 19 жніўня, № 25.

[32] М. Забаўскі, *Праблемы аўтаноміі беларуска-літоўскіх губерняў у перыяд выбараў і дзейнасці расійскай Дзяржаўнай думы (1906-1917 гг.)*, [у:] *Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст. У 2 кн.*, кн. 1, с. 284, 288.

ча, аб тым, што пасля вайны Расія можа прызнаць аўтаномію Польшчы ў межах Расійскай імперыі. Неўзабаве пачаліся крокі па стварэнні польскага войска, яго першыя аддзелы з'явіліся на беларускай зямлі[33]. Хоць Лютаўская рэвалюцыя скінула царызм, але пачатая ім польская палітыка на новай ідэалагічнай аснове працягвалася Часовым урадам. К восені 1917 г. быў створаны Першы польскі корпус пад камандаваннем генерала Юзафа Доўбар-Мусніцкага, дыслакаваны ў шэрагу месц Усходняй Беларусі. Сам па сабе гэты факт, магчыма, і не надта б усхваляваў беларускіх сялян, але 22 кастрычніка на з'ездзе вайскоўцаў-палякаў корпус атрымаў заданне абараняць культурную спадчыну і маёмасць мясцовага польскага насельніцтва[34]. А гэта ўжо быў замах супраць аграрнай рэформы, якой да таго часу цярпліва чакалі беларускія сяляне. З'яўленне ўзброенай сілы, гатовай абараняць інтарэсы польскіх памешчыкаў, следам за канфузным вынікам летняга „наступлення" войск Заходняга фронту, дазволіў зразумець беларускаму сялянству, што на падтрымку расійскай дзяржавы ў рашэнні зямельнага і іншых жыццёва важных для яго пытанняў разлічваць болей не даводзіцца.

Пачатак павароту ў настроях беларускага сялянства ў бок „будаўніцтва сваёй хаты" пераважна ўласнымі сіламі неабходна бачыць, на нашу думку, у двух фактах, якія адносяцца да канца лета — пачатку восені 1917 г.: у зрыве хлебнай манаполіі, устаноўленай Часовым урадам[35] (сяляне адмаўляліся карміць няздольнае абараніць краіну войска) і ў прыняцці беларускімі арганізацыямі курсу на стварэнне беларускага войска[36]. Што да першага факта, то яго лягчэй звязаць з эканамічнымі інтарэсамі сялян, як гэта робіць беларускі даследчык[37], але нельга недаацэньваць і расчаравання вяскоўцаў у абарончай палітыцы новага расійскага ўрада, якая аказалася не болей эфектыўнай, чым палітыка царскага ўрада. Больш за тое: катастрафічныя вынікі летняга „наступлення", бегства рускіх саладат з фронту, якое

33 І. И. Белякевич, *Из истории создания польских национальных формирований в составе русской армии во время Первой мировой войны*, [у:] *Первая мировая война*, Москва 1968, с. 158-169.

34 Гл.: O. Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe. 1917-1923*, Białystok 1995, s. 50.

35 І. М. Рыжанкоў, *Сялянства Беларусі ў вырашэнні грамадска-палітычных і эканамічных праблем (сакавік — кастрычнік 1917 г.): аўтарэф. дыс. ... кандыдата гіст. навук*, Мінск 2006, с. 17.

36 В. Савіцкі, *Беларускае войска: ад ідэі да спроб рэалізацыі*, „Беларускі гістарычны часопіс", 1994, № 4, с. 58.

37 І. М. Рыжанкоў, *Сялянства Беларусі...*, с. 13, 17; ён жа, *Да пытання аб удзеле сялянства Беларусі ва ўмацаванні абароназдольнасці краіны пасля перамогі Лютаўскай рэвалюцыі*, [у:] *Труды БГТУ. Серыя V: Политология, философия, история, филология*, вып. XIII, Минск 2005, с. 55-59.

неўзабаве пачалося, засведчылі, што рускі народ не хоча ваяваць за вяртанне заходніх тэрыторый сваёй дзяржавы, а новы ўрад няздольны яго прымусіць. А тым часам пры падтрымцы таго ж урада з'явіўся новы прэтэндэнт на беларускую зямлю, прадстаўлены Першым польскім корпусам і шматлікімі польскімі грамадскімі арганізацыямі як яго сацыяльнай апорай. Беларускі народ заставаўся сам на сам з гэтымі праблемамі, што і прымусіла нацыянальныя арганізацыі заняцца стварэннем беларускага войска. Першыя крокі ў адпаведным накірунку супалі з новым палітычным пераваротам у Расіі — прыходам бальшавікоў да ўлады — і далей развіваліся ў створаных гэтым пераваротам умовах.

Але названыя прычыны не вычэрпвалі матываў, пабуджаўшых беларускія арганізацыі ўзяцца за стварэнне нацыянальнага войска. На Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917 г. у ліку такіх матываў з аднолькавым перакананнем указвалася на неабходнасць не дапусціць канчатковага разарэння краю расійскім войскам, якое развальвалася, забяспечыць абарону сялян ад прыхільнай памешчыкам польскай узброенай сілы і на гатоўнасць падтрымліваць бяспеку на выпадак стыхійнага вяртання на радзіму бежанцаў[38]. Усе тры акцэнтаваныя на з'ездзе задачы вынікалі з агульнай ацэнкі нацыянальнымі арганізацыямі сітуацыі, што склалася ў Беларусі пасля трох гадоў вайны, як трагічнага выніку „расійскага бязладдзя", ад якога неабходна шукаць паратунак. Войска як адзін з інструментаў улады разглядалася як сродак самаабароны беларускага народа і яго выйсця з трагічнай сітуацыі, створанай імперыялістычнай вайной. Менавіта ў гэтай форме — як ідэя нацыянальнага ўратавання — беларуская нацыянальная ідэя аказалася зразумелай і хутка пашыралася ў масах у апошнія месяцы 1917 года[39].

Няўстойлівасць Расіі ў барацьбе з яе імперыялістычнымі сапернікамі, крызіс расійскай дзяржаўнасці ў ходзе вайны і пачатак яе распаду па нацыянальных швах пераўтварылі вайну ў *аптымістычную трагедыю* для беларускага народа. Аптымістычны яе кампанент зак-

[38] „Беларускі гістарычны часопіс", 1993, № 1, с. 62-69; № 2, с. 46-55; № 3, с. 61-69; № 4, с. 50-61.

[39] Прызнаем, што гэтае пытанне патрабуе спецыяльнага і больш глыбокага даследавання. Разам з тым, уплыў беларускіх нацыянальных арганізацый на сялянскія масы на мяжы 1917-1918 гг. не заслугоўвае нігілістычнай ацэнкі. У падтрымку гэтай сваёй ацэнкі прывядзем пакуль што адно назіранне сучасніка падзей, салдата-бальшавіка з Вілейшчыны, які ў пачатку студзеня 1918 г. пісаў у Выканкам Петраградскага савета, што ў яго на радзіме „многія сяляне беларусы падпарадкоўваюцца" мінскай Радзе, якая „ўжо праводзіць свае ідэі ў жыццё". *Письма во власть. 1917-1927. Заявления, жалобы, доносы, письма в государственные структуры и большевистским вождям*, Москва 1998, с. 39.

лючаўся ў тым, што яе вынікі не толькі прымушалі шукаць паратунак на шляху аддалення ад імперыі, але і стваралі шансы поспеху на гэтым шляху. Не апошнім сярод гэтых шансаў была эвалюцыя свядомасці беларускага сялянства ў нацыянальным духу, што ўпершыню ў гісторыі адкрывала перспектыву пераўтварэння беларускага руху ў масавы. У гэтай сувязі звернем увагу на тое, што адным з ініцыятараў правядзення Усебеларускага з'езда — рубежнай падзеі ў працэсе самавызначэння беларускага народа — была арганізацыя, выступаўшая ад імя беларускага сялянства — Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў. З'езд адбыўся пры падтрымцы, уключаўшай і фінансавую, мясцовых земскіх арганізацый і Сялянскага саюза[40], сяляне складалі значную частку яго ўдзельнікаў. Хоць яны займалі на з'ездзе найбольш памяркоўную і няўстойлівую пазіцыю, але здзіўляе не гэта. Уражвае іх масавы ўдзел у гэтым *нацыянальным* форуме, што яшчэ за паўгода да з'езда немагчыма было ўявіць. **Заўважым у гэтай сувязі, што на скліканы Беларускім камітэтам агульнакраёвы сялянскі з'езд у красавіку 1917 г. з'явіліся толькі 52 дэлегаты, а на Мінскім губернскім, які ў тым жа месяцы правялі бальшавікі, было прадстаўлена звыш 800 дэлегатаў ад сялян, і прайшоў ён у антыбеларускім духу**[41].

Разам з тым, канстатуючы эвалюцыю сялянства на нацыянальныя пазіцыі, неабходна ўсведамляць, што і ў той час, і на працягу наступных некалькіх год яна стрымлівалася істотнымі аб'ектыўнымі фактарамі. Гэтая эвалюцыя ішла двума геаграфічна аддзеленымі адзін ад другога патокамі — бежанскім і мясцовым — і адчувала на сабе ўплыў незавершанай барацьбы сялян за зямлю. Павольнае злучэнне двух патокаў у адзін пачалося пасля падпісання Савецкай Расіяй і Германіяй Брэсцкага міру, „на Вялікдзень", — як гаварылася ў адной з крыніц, — калі пачалі вяртацца ў Беларусь бежанцы з Расіі. Аднак праз кароткі час пасля завяршэння Першай сусветнай вайны Беларусь была зноў падзелена, на гэты раз фронтам польска-савецкай вайны, і кожны паварот польска-савецкай барацьбы зноў абвастраў зямельнае пытанне для беларускага селяніна. Аднак выпрацаванае ім да канца 1917 г. усведамленне аб „чужаніцах", на якіх нельга спадзявацца, уладкоўваючы сваё жыццё, з таго часу моцна засела ў яго свядомасці.

[40] Нацыянальны ахіў Рэспублікі Беларусь, ф. 60п, воп. 3, спр. 751, л. 22, 23.

[41] Гл.: С. Рудовіч, *Час выбару...*, с. 125-127. Істотная розніца прадстаўніцтва на гэтых з'ездах толькі часткова можа быць вытлумачана розніцай матэрыяльных рэсурсаў, якімі валодалі ініцыятары абодвух з'ездаў.

**Summary**

**1914-1917: the optimistic tragedy of Belarus**

Following World War I, Russia underwent a deep crisis of national identity and civilization. Among others, the war resulted in the flight of the subjugated states from the imperial center. For a long time Belarus, a north-western state within the Russian Empire, became a center of bloody warfare as the Belarusian people were forced to fight for somebody else's cause. The two million Russian *Christian Orthodox* soldiers of the Russian Western Front became the catalyst of the Belarusian crisis as in the autumn of 1917 they continued the pogroms of civilians, killing local population regardless of sex or age. The atrocities were reported by the delegates to the Belarusian Congress in December 1917. Belorusian people faced a national disaster.

In such circumstances war became an optimistic tragedy for Belarusians, bringing hopes of successful liberation and departure from the Empire. One of the positive transformations demonstrated here is the nationalist thought evolving among local peasantry. The idea of independence was spreading fast in the closing months of the year 1917, and for peasants it took the form of a more 'tangible' creed – *building one's own household*. This evolution facilitated the grass-roots process of forming national identity, and, with the help of national organizations, it led to the emergence of Belarusian Congress. Some factors, however, hindered this long awaited transformation. For example, the Belarusization effort, whose aim was to include both local and displaced peasant groups, was geographically dispersed, and this lessened its impact significantly. Finally, such limiting factors effectively undermined a historic chance for autonomy. Consequently, for years to come Belarus has witnessed historical indecision.

**Streszczenie**

**1914-1917: tragedia optymistyczna Białorusi**

Pierwsza wojna światowa przyniosła Rosji wielowektorową katastrofę państwowości i cywilizacji rosyjskiej. Jednym ze składników tej katastrofy była ucieczka narodów niepaństwowych od imperialnego centrum. Białoruś jako Kraj Północno-Zachodni Imperium Rosyjskiego na dłuższy czas przekształciła się w epicentrum krwawej walki, a naród białoruski zmuszony był ponosić ofiary w imię nie swojej sprawy. Pobyt na ziemi białoruskiej prawie dwumilionowego rosyjskiego *prawosławnego* wojska nie służył Białorusinom, ponieważ jako atrybut władzy stało się ono przedmiotem kryzysu rosyjskiego, a jako cząstka narodu rosyjskiego – jego podmiotem, rozsadnikiem na ziemi białoruskiej kryzysu. Jesienią 1917 r. wojsko rosyjskiego Frontu Zachodniego zwyczajowo zajmowało się rabowaniem i pogromami ludności cywilnej, nie wzdragając się od zabójstw ludzi niezależnie od ich płci i wieku. „Trwa powszechne rabowanie chłopów na froncie"; „wyrzynają rodziny chłopskie" – z trwogą podkreślali delegaci Zjazdu Wszechbiałoruskiego w grudniu 1917 r. Naród białoruski – historyczny gospodarz kraju – znalazł się na granicy katastrofy narodowej.

W takiej sytuacji wojna dla narodu białoruskiego stała się *tragedią optymistyczną*, ponieważ nie tylko zmuszała do szukania ratunku na drodze oddalenia się od imperium, ale również dawała szanse odniesienia sukcesu w tej sprawie. Jedną z ważniejszych szans była ewolucja świadomości chłopstwa białoruskiego w duchu narodowym. W konkretnej sytuacji ostatnich miesięcy 1917 r. białoruska idea narodowa stała się zrozumiała dla chłopstwa i szybko rozpowszechniała się w jego masach jako idea ocalenia narodu przed okropnościami wojny i bezładem, a w obrazowej, mentalnie bardziej bliskiej chłopom formie – jako idea *budownictwa własnej chaty*. Dzięki ewolucji dokonało się przyśpieszenie procesu kształtowania się mas ludowych jako bazy ruchu narodowego, przy wsparciu organizacji narodowych przez chłopstwo udało się zorganizować reprezentatywny Zjazd Wszechbiałoruski, który wyraził wolę posiadania swojej państwowości przez naród

białoruski. Jednak ten proces od samego początku był osłabiony przez szereg czynników, w szczególności przez geograficzne oddalenie dwóch nurtów *białorutenizacji* chłopstwa – lokalnego i uchodźczego. Uwarunkowania te w istotny skomplikowały realizację danej przez historię szansy oddzielenia się od imperium i stworzenia własnego państwa. W efekcie proces historycznego wyboru Białorusinów przeciągnął się na wiele lat.

**Ryhor Łaźko** — prof. dr hab., profesor Katedry Historii Powszechnej Homelskiego Uniwersytetu Państwowego im. Francyska Skaryny.

**Алена Ізергіна**
(Полацк)

## Дзейнасць гмінных улад на тэрыторыі Віленскай адміністрацыйнай акругі ў 1922 г.

У выніку польска-савецкай вайны на тэрыторыі Заходняй Беларусі ствараліся польскія органы кіравання і самакіравання ў адпаведнасці з прынятым адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам краіны: ваяводствы, якія складаліся з паветаў, паветы з гмін, гміны — з грамад[1]. Паўночна-ўсходняя частка дзяржавы была падзелена на 4 ваяводствы: Беластоцкае, Навагрудскае, Палескае і Віленскае[2].

На Віленшчыне цывільная адміністрацыя была ўсталявана пазней за астатнія ваяводствы, а прычынай гэтага была частая змена дзяржаўных улад у 1918-1922 гадах. У красавіку 1919 г. Вільня і віленская акруга (фармальна створаная ў чэрвені) былі падпарадкаваны польскай дзяржаве. У выніку баявых дзеянняў у ліпені 1920 г. Віленшчыну заняла Чырвоная Армія. 12 ліпеня 1920 г. была падпісана дамова паміж Літвой і савецкім урадам, згодна якой Вільня і Віленшчына сталі належаць Літве[3]. У замен Літоўская дзяржава пагадзілася на рух савецкіх войск па тэрыторыі сваёй краіны.

Паводле ўмоў падпісанага 7 кастрычніка 1920 г. Сувалкаўскага дагавору паміж Польшчай і Літвой Віленшчына лічылася тэрыторыяй Літвы. Але адначасова аператыўная група „Беняконі” пад камандаваннем генерала Люцыяна Жалігоўскага 8 кастрычніка заявіла аб выхадзе з падпарадкавання польскага галоўнага камандавання. Група, у склад якой уваходзілі 1-я Літоўска-беларуская дывізія генерала Р. Радкоўскага і група маёра Мар’яна Зындрам-Касцялкоўскага, заняла Вільню і пачала рухацца ў напрамку Коўна. У ходзе наступлення войскі Жалігоўскага дасягнулі мястэчка Кейданы ў цэнтры Літвы. У выніку ўмяшання Кантрольнай камісіі Лігі Нацый 29 лістапада было заключана перамір’е; на тэрыторыі, занятай часцямі Жалігоўскага,

[1] А. І. Борка, *Мясцовыя органы кіравання і самакіравання ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.)*, Гродна 2011, с. 85.

[2] У. Ф. Ладысеў, *Заходняя Беларусь у складзе Польшчы*, [у:] *Гісторыя Беларусі. У 2 ч.*, ч. 2: *XIX-XX стагоддзі: Курс лекцый*, рэд. кал.: П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш., Мінск 2002, с. 396.

[3] W. Kozyra, *Polityka administracyjna władz polskich na Ziemiach Wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej w latach 1918-1926*, „Annales Universitatis Mariae Curie-Skłodowska. Sectio F”, 2005, vol. LIX, s. 423.

арганізоўвалася незалежная адміністрацыйная адзінка, якая атрымала назву Сярэдняя Літва[4].

20 лютага 1922 г., пасля няўдалых польска-літоўскіх перамоў, сейм Сярэдняй Літвы прыняў пастанову пра далучэнне яе да Польшчы. Варшаўскі сейм прыняў рашэнне аб далучэнні гэтых тэрыторый да Польскай дзяржавы 24 сакавіка 1922 г., а 6 красавіка гэта ж года быў зацверджаны закон, згодна якому на тэрыторыі Віленшчыны ўсталявана адміністрацыя другой інстанцыі на правах ваяводства — Віленская зямля (Ziemia Wileńska)[5]. У склад Віленскай зямлі ўвайшлі наступныя паветы: Віленскі (складаўся з 19 гмін), Ашмянскі (9 гмін), Свянцянскі (20 гмін), Браслаўскі (9 гмін), Дзісненскі (23 гміны), Дунілавіцкі (15 гмін) і Вілейскі (18 гмін)[6]. У дадзеным артыкуле будзе разгледжана дзейнасць гміннага кіраўніцтва на тэрыторыі Віленскай адміністрацыйнай акругі ў 1922 г. па наступных крытэрыях: кадравы склад; адукаванасць службоўцаў; матэрыяльная база; развіццё школьнай справы; пытанні бяспекі. Галоўнай крыніцай даследавання пытання з'яўляюцца справаздачы кіраўніцтва староставаў і гмін, рэвізійных органаў Віленскай зямлі, пратаколы пасяджэнняў старшынь органаў самакіравання, у якіх зафіксаваны стан спраў на 1922 г. Храналагічныя перыяд даследавання — 1922 г. — абумоўлены ўключэннем Віленскай зямлі ў склад польскай дзяржавы і фарміраваннем на дадзенай тэрыторыі польскай адміністрацыі.

### 1. Кадравы склад

У склад гміны ўваходзілі грамады, якія маглі аб'ядноўваць некалькі населеных пунктаў (хутар, невялікая вёска) альбо адна вёска ўтварала грамаду. Грамады ўзначальвалі солтысы, якія з'яўляліся выканаўчым яе органам[7]. У гмінную адміністрацыю ўваходзілі войт і гмінная ўправа, якая складалася з намесніка войта і двух альбо трох засядацеляў. Засядацелі выбіраліся гміннаю радаю, у склад якой уваходзіла 10-15 радцаў[8]. Гмінныя рады абіраліся самім вясковым насель-

[4] Э. Гімжаўскас, *Беларускі фактар пры фарміраванні літоўскай дзяржавы ў 1915-1923 гг.*, Смаленск 2013, с. 149.

[5] Internetowy System Aktów Prawnych [Электронны рэсурс]. Ustawa z dnia 6 kwietnia 1922 r. o objęciu władzy państwowej nad Ziemią Wileńską. Рэжым доступу: http://isap.sejm.gov.pl/DetailsServlet?id=WDU19220260213

[6] Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў (далей: ЛЦДА), ф. 51, воп. 15, спр. 357, арк. 3-4.

[7] В. А. Круталевіч, І. А. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі (1917-1945 гг.)*, Мінск 2000, с. 206.

[8] А. І. Борка, *Мясцовыя органы ўлады і самакіравання на тэрыторыі Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.)*, [у:] *Заходні рэгіён вачыма гісторыкаў, краязнаўцаў: зборнік навуковых артыкулаў*, рэдкалегія: І. П. Крэнь, У. І. Навіцкі, В. А. Белазаровіч (адк. рэдактары), Гродна 2006, с. 157.

ніцтвам, выбары ў якія праходзілі ў два этапы. Спачатку ў асобных акругах сяляне вылучалі саміх выбаршчыкаў, а апошнія выбіралі членаў гміннай рады. Галасаванне адбывалася паводле спісаў кандыдатаў. Але былі выпадкі, калі староства парушала правы мясцовага насельніцтва. У адпаведнасці з тэкстам скаргі ў Міністэрства ўнутраных спраў насельніцтва Новапагосцкай гміны Дзісненскага павета, у якой жыхары прасілі назначыць абраную імі раду замест назначанай старостам 20 мая 1922 г. Са звароту: „Jeżeli Starostwo tak samowładno, to dlaczego było prowadzić wybory”[9].

Падставай для змены войта магла стаць яго сувязь з бальшавікамі. Так, у Вярхнянскай гміне Дзісненскага павета замест выбранага войта Вярцінскага старостам быў назначаны Башко. Матывамі змены войта стаў ліст, які пацвярджаў сувязь Вярцінскага з бальшавікамі[10].

Для дзейнасці адміністрацыі вялікае значэнне мела назначэнне на дзяржаўныя пасады дасведчаных людзей, якія мелі адукацыю і былі кампетэнтнымі ў справах, якімі займаліся. Так, напрыклад, праца гміннага апарату была арганізавана добра ў Апескай гміне Браслаўскага павета, дзе пасаду займаў „былы пасол Віленскага сейму Казімір Талапін (...) у справах парадак, неадпаведнасцей не знойдзена”[11].

У большасці выпадкаў пасады гмінных службоўцаў займалі людзі, якія мелі ўзровень адукацыі вышэйшы ў адрозненні ад мясцовага насельніцтва. І таму часам на дзяржаўныя пасады былі назначаны былыя расійскія адміністрацыйныя службоўцы і палякі. Так, напрыклад, у Дрысвяцкай гміне Браслаўскага павета войтам быў выбраны былы расійскі пісар Гісіш[12], а ў Рымжанскай гміне пасада сакратара была замацавана за былым расійскім пісарам Лінскім[13]. У Дукштанскай гміне на пасаду войта абраны Шыпіла, паляк, які „праводзіў палітыку не выразную”. Пісарам гэтай гміны таксама быў паляк з Сандамірскага павета Зранскі, які „4 гады быў памочнікам пісара (...). Селянін, слаба арыентуецца ў справах”[14]. Неадпаведнасць узроўню адукацыі займаемай пасадзе службоўцаў атрымлівала негатыўную адзнаку з боку мясцовага насельніцтва і, адпаведна, насельніцтва без павагі ставілася да адміністрацыі.

Нізкая ступень адукаванасці дзяржаўных працаўнікоў была не толькі на ўзроўні гмінных рад, але і павета. Так, падчас люстрацыі Браслаўскага староства высветлілася, што з боку старасты не была

[9] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 684, арк. 85 адв.
[10] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 71, арк. 10.
[11] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 15.
[12] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 10 адв.
[13] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 9.
[14] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 8.

праведзена адпаведная праца ў пытаннях арганізацыі палітычнай, дэмаграфічнай дзейнасці; войты прыступілі да працы без прысягі. Таксама зафіксаваны выпадкі адсутнасці гміннага статута, прычым „войты выражалі вялікае здзіўленне пра неабходнасць наяўнасці і дзеяння статута”[15].

Для працы гміны вялікае значэнне мела своечасовае атрыманне карэспандэнцыі. Інфармацыйная недасведчанасць з’яўлялася прычынай не выканання пастаноў, несвоечасовага вырашэння пытанняў. У адпаведнасці са справаздачай рэвізіі Браслаўскага павета „пошта функцыянуе фатальна, лісты і газеты невядома дзе знікаюць. Тэлефоны не адпавядаюць указаным, дзейснасць знайсці складана: станцыя найчасцей не супадае, а размовы не чуваць”[16].

Для павышэння ўзроўню адукаванасці дзяржаўных службоўцаў Дэпартаментам асветы і Дэпартаментам унутраных спраў у верасні 1921 г. былі арганізаваны двухмесячныя курсы[17]. У 1922 г. праз Браслаўскае староства было арганізавана навучанне для войтаў і гмінных пісараў з усяго павета. Падчас тыднёвага навучання войтаў і пісараў былі разгледжаны наступныя пытанні: „Сутнасць і мэты самаўрада” — 2 гадзіны, „Справаводства і бухгалтэрыя гміны” — 8 гадзін, „Прыходна-расходная каса” — 2 гадзіны, „Кааператывы гміны” — 3 гадзіны, „Пачатковыя школы” — 3 гадзіны, „Пазашкольная асвета” — 2 гадзіны, „Сацыяльная апека” — 2 гадзіны, „Санітарная служба гміны” — 2 гадзіны, „Камасацыя і аграрная рэформа” — 2 гадзіны, „Утрыманне дарог і мастоў” — 1 гадзіна, „Адбудова і пажарная справа” — 2 гадзіны [18].

Аналізуючы матэрыялы Літоўскага цэнтральнага гістарычнага архіва (г. Вільня) і Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна, усе вышэйпералічаныя дысцыпліны з’яўляліся адначасова і колам дзейнасці гміннай адміністрацыі (зацвярджэнне бюджэту гміннай управы на год; выплата падаткаў насельніцтвам; пабудова дарог, мастоў; стан населеных пунктаў і правядзення адпаведных мерапрыемстваў для іх паляпшэння; ахова тэлеграфна-тэлефоннай сувязі; пытанні санітарнай службы; развіццё школьнай справы на тэрыторыі падначаленай гміне[19],[20]). Такім чынам, курсы былі накіраваны на практычнае навучанне службоўцаў іх абавязкам і канкрэтнае ўказанне на выкананне

[15] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 71, арк. 16.
[16] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 71, арк. 17.
[17] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 706, арк. 3.
[18] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 139.
[19] ЛЦДА, ф. 51, воп. 1, спр. 18, арк. 26, 30.
[20] Занальны дзяржаўны архіў г. Маладзечна (далей: ЗДАМ), ф. Р-56, воп. 1, спр. 2, арк. 15.

галоўных накірункаў дзейнасці. Разгляд пытання „Сутнасць і мэты самаўрада" з'яўляўся неабходнасцю рэаліяў жыцця ў 1922 г., так як да гэтага часу насельніцтва выконвала абавязкі і жыло ў іншых дзяржавах (часам не паспявала сачыць за зменамі ўлад). Перш за ўсё неабходна было растлумачыць самім службоўцам, што значыць самакіраванне і яго задачы. Менавіта войт і пісар былі галоўнымі людзьмі ў гміне, бо ад іх у значнай ступені залежылі адносіны мясцовага насельніцтва да дзяржаўных улад. Таму з боку польскай дзяржавы пытанню адміністрацыйнага апарату надавалася вялікая ўвага.

**2. Матэрыяльнае пытанне**

У гады Першай сусветнай і польска-савецкай войнаў беларускія землі пацярпелі вялікія чалавечыя страты, у крызісным становішчы аказаліся прамысловасць і сельская гаспадарка. Падчас ваенных дзеянняў кожны з бакоў імкнуўся атрымаць карысць і сродкі для існавання сваёй арміі — практыкаваліся рэквізіцыі. Акрамя таго быў знішчаны і жыллёвы фонд. Такім чынам весці размову пра спецыяльна пабудаваныя гмінныя ўправы, школы, паліцэйскія пастарункі немагчыма. У большасці выпадкаў гміннае кіраўніцтва размяшчалася ў адной палове хаты, а пастарунак у другой. Такое становішча было зафіксавана ў Мікалаеўскай гміне Дзісненскага павета[21] і Рымжанскай Браслаўскага павета[22]. Былі выпадкі, калі пад гмінную ўправу прыстасавалі былы касцёл — „адзіны будынак, які захаваўся ў м. Відзы"[23]. Сакратар Крэўскай гміны Ашмянскага павета ў сваёй справаздачы пазначыў, што мясцовае насельніцтва ў цяжкім матэрыяльным становішчы, таму адбудова адбываецца вельмі павольна, перашкодай з'яўляецца дрэнны стан шляхоў зносін[24]. Дрысвяцкая гміна падчас вайны была моцна пашкоджана, будынкаў для людзей не хапала, людзі жылі ў акопах[25]. Часам у гміннай управе адсутнічала мэбля — „шафаў няма, дакументы без парадку ляжаць на падаконніку, стале"[26].

Адной з крыніц даходу гмін былі падаткі. Так, згодна лісту аддзела самаўрада Свянцянскага павета да пана дэлегата ўрада Віленскай зямлі ўправа Лынтупскай гміны звярталася да кантрольных органаў з просьбай павысіць стаўкі зямельнага падатку, а менавіта: землі 1-й катэгорыі — да 500 марак ад дзесяціны, землі 2-й катэгорыі — да 300 марак[27].

[21] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 52.
[22] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 9.
[23] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 6.
[24] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 93.
[25] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 10 адв.
[26] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 8.
[27] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 708, арк. 101.

Памер падатку кантраляваўся з боку дзяржавы. Згодна лісту саюза дробнай шляхты Віленскай зямлі „гмінныя рады назначылі высокія падаткі, не ўлічваючы правы насельніцтва. Галоўным чынам на землях былой Сярэдняй Літвы"[28]. Былі адрозненні ў памеры плацяжу падаткаў у розных паветах, але існавала агульнае патрабаванне — зямельны падатак не можа перавышаць 100% дзяржаўнага падатку[29]. У выпадку невыканання патрабаванняў войта знімалі з пасады. Так, напрыклад, быў звольнены з пасады войт Смолвенскай гміны Мілвід „за выданне неісных пунктаў падатку"[30]. Пытанне змены памеру зямельнага падатку і кошты прадуктаў першай неабходнасці вырашаліся дзяржавай. У адпаведнасці з лістом да Міністэрства ўнутраных спраў, у якім была ўказана неабходнасць павышэння падатку для ўтрымання гміннай і грамадскай адміністрацыі, пачатковых школ, згадвалася „не перавышаць 200% дзяржаўнага зямельнага падатку"[31]. Кошты на тавары першай неабходнасці і іх змена зацвярджаліся пасяджэннем камісіі, якая назначалася ў кожным павеце[32].

### 3. Развіццё школьнай справы

На тэрыторыі Заходняй Беларусі развіццё адукацыі праходзіла некалькі этапаў. Першы этап займае перыяд ад 1921 да 1926 гг., калі былі створаны адносна свабодныя ўмовы для развіцця краіны. Другі этап праходзіў з 1926 па 1939 гг., калі адбываецца змена накірунку на больш радыкальны, які суправаджаўся насаджэннем польскамоўных школ, узмацненнем працэсу паланізацыі, закрыццём навучальных устаноў з беларускай мовай навучання[33]. Так, на тэрыторыі Жаснянскай гміны падчас першага этапу развіцця адукацыі ў 1922 г. былі адчынены беларускамоўныя школы ў Слабадзе, Гулях, Дзягілях, Гарбах[34]. Сярод настаўнікаў былі і мясцовыя жыхары — працаваў настаўнікам жыхар вёскі Бакачы Уладзіслаў Гельман, які ў сваёй анкеце вызначаў наступнае: „Нарадзіўся ў 1901 годзе ў маёнтку Узла Мядзельскай гміны, веравызнанне — рымска-каталіцкае. У 1916 годзе скончыў Екацерынбургскую 3-класавую школу"[35].

Школы ўтрымліваліся з бюджэту гмінных упраў. Галоўным пытаннем для развіцця школьнай справы ў сельскай мясцовасці была на-

[28] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 708, арк. 6.
[29] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 708, арк. 6.
[30] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 13.
[31] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 708, арк. 254.
[32] ЗДАМ, ф. Р-2, воп. 1, спр. 8. арк. 30.
[33] А. М. Вабішчэвіч, *Асвета ў Заходняй Беларусі (1921-1939)*, Брэст 2004, с. 17.
[34] Літоўскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 605, воп. 10, спр. 57, акр. 7.
[35] ЗДАМ, ф. Р- 386, воп. 1, спр. 9, арк. 11.

яўнасць школьнага будынка. Школы размяшчаліся ў вясковай хаце, якая выкарыстоўвалася пад школу згодна дамове паміж гміннай адміністрацыяй і гаспадаром[36]. Звычайнай справай было, калі ў адной хаце размяшчаліся гмінная адміністрацыя і школа. Так, у Пліскай гміне Браслаўскага павета гмінная адміністрацыя займала адну палову пабудовы, а пад школу была адведзена другая[37]. Таксама ў кола дзейнасці гміннай управы ўваходзіла і забеспячэнне школ мэбляй і кнігамі. Кіраўніцтва кожнай школы пасля заканчэння навучальнага года падавала гміннай управе спіс з указаннем, што неабходна закупіць перад пачаткам новага года[38].

Пытанне развіцця школьнай справы было абумоўлена неабходнасцю павышэння ўзроўню адукаванасці насельніцтва (не толькі дзяцей, але і дарослых). Для дарослых арганізоўваліся курсы, якія фінансаваліся павятовымі ўладамі. Пачатковая адукацыя для дзяцей школьнага ўзросту была бясплатнай і абавязковай. Калі дзеці не наведвалі школу, то бацькам прадугледжвалася адміністрацыйнае пакаранне: штраф альбо зняволенне. Гэтае пытанне кантралявалася з боку гміннай адміністрацыі.

**4. Пытанні бяспекі**

У пажаранебяспечны перыяд да абавязкаў гміннай адміністрацыі дадаваліся новыя. Былі распрацаваны патрабаванні да насельніцтва, якія неабходна было выконваць для захавання бяспекі. Згодна тэксту справаздачы Свянцянскага старасты на тэрыторыі павета з пажарамі змагаліся сваімі сіламі: начныя і дзённыя варты, падрыхтоўка неабходных для тушэння пажару прыстасаванняў[39]. У выпадку пажару войт гміны выязджаў на месца з мэтай ацэнкі нанесенай шкоды, высвятлення прычын пажару. Так, 15 мая 1922 года войт Залескай гміны Ян Пачэпка выехаў у маёнтак Стары Двор для таго, каб агледзець тэрыторыю пажару[40].

Да кампетэнцыі гмінай адміністрацыі ўваходзілі пытанні прызыву ў армію. У адпаведнасці з 20 артыкулам Закона аб службовым ваенным абавязку, кожны дарослы мужчына ўносіўся ў гмінны рэестр ваеннаабавязаных пад адпаведнай лічбай з указаннем даты і месца нараджэння, імён бацькоў, месца пражывання. Але здараліся выпадкі, калі ўхіляліся ад ваеннай службы. Так, згодна тэксту люстрацыі

[36] ЗДАМ, ф. Р-56, воп. 1, спр. 30, арк. 93.
[37] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 10.
[38] ЗДАМ, ф. Р- 386, воп. 1, спр. 9, арк. 35.
[39] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 708, арк. 158, 159.
[40] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 684, арк. 84.

Рымжанскай гміны 17 маладых людзей укрываюцца ад ваеннага абавязку[41].

Да пытанняў унутранай бяспекі адносілася рэгістрацыя грамадзян па месцы жыхарства. Адміністрацыя гмін сумесна з паліцэйскімі пастарункамі, павятовай адміністрацыяй кантралявалі пытанні рэгістрацыі, праверкі людзей, якія імігравалі з іншых краін, асабліва БССР[42]. Для грамадзян, якія вярнуліся на сваё месца жыхарства з СССР, гмінная ўправа сумесна з паліцэйскім пастарункам выдавала пасведчанні, у якіх указвалася імя грамадзяніна, узрост, бацькі, веравызнанне, сямейнае становішча, месца жыхарства (былое і будучае), прычына выезду з дадзенай тэрыторыі[43]. У першыя два гады пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы людзі атрымалі права вяртацца на радзіму, хто быў вымушаны з'ехаць падчас ваенных дзеянняў Першай сусветнай вайны.

Асобным пунктам абавязкаў гміннай адміністрацыі і паліцэйскіх пастарункаў з'яўляўся кантроль за сродкамі масавай інфармацыі. Агульная мяжа з БССР — іншай краінай па палітычным развіцці — патрабавала больш пільнай увагі да друку, як аднаго з варыянтаў прапаганды камунізму на Захад. Адпаведна з боку дзяржавы прымаліся крокі дзеля падтрымання спакою і бяспекі ў межах краіны. Важнай у гэтым накірунку дзейнасці была цэнзура сродкаў масавай інфармацыі. Міністэрства ўнутраных спраў праз пошту, паліцэйскія пастарункі на розных узроўнях сачыла за перыядычным друкам. У маі 1922 года быў складзены спіс друкаваных выданняў, якія неабходна канфіскаваць. Падлягалі канфіскацыі 61 брашура і часопіс, якія мелі камуністычную прапаганду („Дзяржава і рэвалюцыя", „Камунізм і кааперацыя", „Дыктатура пралетарыяту" і іншыя)[44]. За выкананнем гэтай пастановы на месцах сачылі прадстаўнікі адміністрацыі і паліцыі.

Адносіны насельніцтва да ўлад таксама залежылі ад дзеянняў паліцыі. Так, падчас люстрацыі Дукштанскай гміны было зафіксавана, што паліцыя карысталася фурманкамі жыхароў і не плаціла за іх выкарыстанне. Камендант займаўся самадзейнасцю, рапартаў не складаў, арышты ў гміне не кантраляваліся. У зняволенні знаходзіўся Віткоўскі, пра якога не было пісьмовых сведчанняў, на што камендант паліцыі адказаў, што „памятае пра яго". Такім чынам, з-за невыканання сваіх абавязкаў адміністрацыяй людзі наракалі на ўлады, якія мелі

41 ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 9.
42 ЗДАМ, ф. Р-12, воп. 1, спр. 323, арк. 37.
43 ЗДАМ, ф. Р-2, воп. 1, спр. 155, арк. 86.
44 ЗДАМ, ф. Р-2, воп. 1, спр. 20. арк. 119.

адпаведную характарыстыку: „ад прадстаўніка ўлады толькі слова, а нас трымалі самапас”[45]. Сведчаннем бяздзейнасці паліцыі з’яўляюцца даныя люстрацыі Вярхнянскай гміны. У архіўнай справе зафіксавана, што насельніцтва гміны было здэмаралізаванае, вялікі ўплыў на настроі насельніцтва меў яўрэй Гельман, які казаў: „Паглядзіце, што за ўлада паліцыя. Я ганьбіў урад, а яна мне нічога не зрабіла, вы можаце не верыць”[46].

З боку ўлад вялікае значэнне надавалася памежным тэрыторыям, а менавіта настрою мясцовага насельніцтва. Так, насельніцтва Смолвенскай гміны, якая з’ўлялася кардонам паміж Віленскай зямлёй і Ковенскай Літвой, складалася з дробнай і малазямельнай шляхты, якая мела патрыятычны настрой у адносінах да польскай дзяржавы. Літоўскае насельніцтва на тэрыторыі гміны агітацыяй не займалася[47].

Такім чынам, у пытанні дзейнасці гмінных улад на тэрыторыі Віленскай адміністрацыйнай акругі 1922 года можна характарызаваць як пераходны перыяд, калі адбываліся не толькі змены ў органах улады, прынцыпах кіравання, але і свядомасці насельніцтва, саміх дзяржаўных службоўцаў, якія да гэтага часу жылі ў іншай дзяржаве з зусім іншымі патрабаваннямі. Зразумела, што на насельніцтва вялікі ўплыў як у матэрыяльным, так і духоўным стане аказалі ваенныя дзеянні, частая змена ўлад. Праведзеныя люстрацыі дзейнасці адміністрацыі Віленшчыны паказалі хібы ў дзейнасці мясцовых улад у 1922 годзе і сталі падмуркам для далейшага фарміравання органаў кіравання на працягу ўсяго міжваеннага перыяду. З боку польскіх улад вялікая ўвага надавалася асабоваму складу гміннага кіраўніцтва — першай дзяржаўнай інстанцыі, да якой непасрэдна звярталася насельніцтва сельскай мясцовасці для вырашэння пытанняў. Менавіта ад дасведчанасці і кампетэнтнасці службоўца залежылі стаўленне і адносіны людзей да новай улады. Для павышэння ўзроўню адукаванасці службоўцаў арганізоўваліся курсы навучання. Другасным, але значным пытаннем быў матэрыяльны аспект. Адным з накірункаў дзейнасці гмінных улад было ўтрыманне школ. Школа выконвала адукацыйную, выхаваўчую функцыі. У кола абавязкаў гміннай улады ўваходзілі пытанні пажарнага кантролю. Важным накірункам дзейнасці адміністрацыі гміны і паліцыі былі пытанні бяспекі.

[45] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 6.
[46] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 31.
[47] ЛЦДА, ф. 51, воп. 15, спр. 673, арк. 13.

**Summary**

**The activity of gmina authorities in the territory of Wilno District in 1922**

This article describes the activity of gmina authorities in 1922.The staffing, the level of education of civil servants, the material base of gminas and the organization of schooling are considered. The article analyzes security problems.



**Streszczenie**

**Działalność władz gminnych na terytorium Okręgu Wileńskiego w 1922 r.**

Artykuł dotyczy działalności zarządów gminnych w Okręgu Wileńskim w 1922 r. Autorka analizuje sprawy kadrowe administracji gminnej, wykształcenie urzędników państwowych, bazę materialną urzędów i rozwój szkolnictwa. Zwraca też uwagę na problemy bezpieczeństwa.



**Alena Iziergina** – historyk i etnolog. W 2014 r. zakończyła studia magisterskie w Połockim Uniwersytecie Państwowym (temat pracy magisterskiej: „Historia życia codziennego ludności gminy Żośno w II Rzeczypospolitej. 1921-1939"). Zainteresowania badawcze: sytuacja społeczno-gospodarcza, polityczna i religijna ludności Zachodniej Białorusi w okresie międzywojennym (1921-1939); „historia życia codziennego" jako kierunek badań historycznych; społeczne, gospodarcze, kulturalne, demograficzne aspekty kształtowania się i funkcjonowania białoruskiej grupy etnicznej na obszarze współczesnej Litwy (koniec XX – początek XXI w.).

**Тадэвуш Гавін**
(Гродна)

## Польшча ў палітыцы Савецкай Расіі і Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у 1919-1939 гадах

11 лістапада 1918 г. пасля 123 гадоў няволі Польшча набыла раней страчаную свабоду[1]. Гэта стала магчымым дзякуючы збегу шэрагу спрыяльных для яе акалічнасцей: рэвалюцыя ў Расіі і Германіі[2], паражэнне Германскай і Аўстра-Венгерскай імперый у Першай сусветнай вайне і іх распад[3].

Акрамя таго імкненне Уладзіміра Леніна выкарыстаць нацыянальныя ўскраіны Расіі ў інтарэсах пралетарскай рэвалюцыі схіліла яго і ўрад, якім ён кіраваў, абвясціць у лістападзе 1917 г. права кожнага народа на самавызначэнне[4], а ў жніўні 1918 г. ануляваць раней падпісаныя Расіяй дамовы з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй пра тэрытарыяльныя падзелы Польшчы[5].

Падпісаная 28 чэрвеня 1919 г. у Версалі мірная дамова, якая завяршыла Першую сусветную вайну, не акрэслівала ўсходнія межы маладой польскай дзяржавы. Гэта давала магчымасці ўсталявання іх або праз правядзенне мірных перамоваў, чаму перашкаджала грамадзянская вайна ў Расіі, або ў выніку вядзення баявых дзеянняў[6].

Першыя ваенныя дзеянні польскіх вайсковых фарміраванняў з наступаючай Чырвонай Арміяй адбыліся ў баях за Вільню. Пачатак баявога сутыкнення 1 студзеня 1919 г. шматлікія гісторыкі лічаць пачаткам польска-савецкай вайны[7]. У сярэдзіне лютага 1919 г. часткі

1 A. Dziurok, M. Gałęzowski, Ł. Kamiński, F. Musiał, *Od niepodległości do niepodległości. Historia Polski 1918-1989*, Warszawa 2010.

2 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Телеграмма Председателя Совета Народных Комиссаров В. И. Ленина о революции в Германии от 10 ноября 1918 года*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. I, Москва 1957, с. 564; И. Кривогуз, М. Коган, Р. Мнухина, И. Ковалёв, *Очерки истории Германии*, Москва 1959.

3 А. Бадак, И. Войнич, М. Войчек и другие, *Всемирная история: Итоги первой мировой войны*, т. 20, Москва — Минск 2002.

4 *Декларация прав народов России от 2 (15) наября 1917 года*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. I, Москва 1957, с. 14-15.

5 *Документы внешней политики СССР*, т. I, Москва 1957, с. 460; *ЦК РКП(б) — ВКП(б) и национальный вопрос*, кн. 1: *1918-1933 гг.*, сост.: Л. Гатагова, Л. Кошелева, Л. Роговая, Москва 2005, с. 6.

6 H. Batowski, *Między dwiema wojnami 1919-1939*, *Zarys historii dyplomatycznej*, Kraków 2008, s. 36-37.

7 A. Nowak, *Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919-1920*, Kraków 2010, s. 25.

і злучэнні польскага войска праводзілі паспяховыя контрнаступальныя аперацыі[8]. Такім чынам, пачаў фарміравацца пастаянны фронт рэгулярнай неабвешчанай вайны паміж Расіяй і Польшчай[9]. Варта адзначыць, што вайну пачала не Польшча. Яна была ўцягнута ў яе, абараняючы сваю незалежнасць і свабоду[10]. Усталяванне ўсходняй мяжы Польшчы ў гэтых умовах залежала ад паспяховага выніку вайны з Савецкай Расіяй[11].

Палітычныя ўлады Савецкай Расіі па пытанню будучага дзяржаўнага ладу Польшчы кансультаваліся з польскімі камуністамі, якія былі супраць стварэння незалежнай польскай дзяржавы. На іх думку, Польшча павінна была стаць часткай Савецкай Расіі — Польскай Савецкай Рэспублікай[12].

Савецкае кіраўніцтва, якое знаходзілася ў складаных умовах грамадзянскай вайны, у пытанні пазбаўлення Польшчы незалежнасці не было такім адназначна катэгарычным і радыкальным як польскія камуністы. Яно імкнулася праявіць больш гібкую палітыку, маскіруючы свае інкарпарацыйныя (захопніцкія) планы пад вербальную палітычную рыторыку. Гэта было звязана ў першую чаргу з цяжкім унутрыэканамічным станам краіны.

16 ліпеня 1920 г. у разгар польска-савецкай вайны дэлегаты Пленума ЦК Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў) прынялі рэзалюцыю па польскім пытанні. У ёй было напісана: „(...) Урачыста і афіцыйна заяўляем польскаму народу, што гарантуем яму ў якасці мяжы незалежнай Польскай Рэспублікі лінію больш выцягнутую на ўсход, чым даюць Керзан і Антанта. (...) Адкрыта заяўляем, што калі Польшча звернецца, то мы прымем прапановы пра мірныя перамовы, не адмаўляючыся ад перамоваў пра перамір'е"[13].

На падставе меркавання польскіх камуністаў і сітуацыі на савецка-польскім фронце Савет Народных Камісараў (СНК) 17 ліпеня 1920 г. выдаў Дырэктыву для Рэвалюцыйнага Савета, у якой яму прадпіс-

8 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918-1943*, Warszawa 2005, s. 28-46.

9 L. Wyszczelski, *Wojna o polskie Kresy 1918-1921. W walce o niepodległość i terytorium państwa. Walki z czerwoną Rosją, Ukraińcami i Litwinami*, Warszawa 2013, s. 144-177.

10 A. Nowak , *Strachy i Lachy. Przemiany polskiej pamięci 1982-2012*, Kraków 2012, s. 218-223; яго ж, *Ojczyzna ocalona. Wojna sowiecko-polska 1919-1920...*, s. 140.

11 *Problem granic i obszaru odrodzonego państwa polskiego (1918-1990)*, red. A. Czubiński, Poznań 1992, s. 51-61.

12 W. Kowalski, A. Skrzypek, *Stosunki polsko-radzieckie 1917-1945*, Warszawa 1980, s. 51.

13 Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (далей: РДАСПГ), ф. 17, воп. 2, спр. 31, арк. 37.

валася сканцэнтраваць усе сілы супраць Польшчы для паскарэння канчатковай перамогі ў вайне[14]. Рашэнне пра ваенныя дзеянні было прынята СНК, нягледзячы на тое, што 11 ліпеня англійскі ўрад звярнуўся да Расіі з просьбай скончыць вайну, а таксама накіраваць сваіх прадстаўнікоў у Лондан для мірных перамоваў[15].

РКП(б) на падставе Дырэктывы СНК 1920 года прыняла рашэнне, згодна з якім палітычная ўлада на захопленых Чырвонай Арміяй польскіх этнаграфічных тэрыторыях будзе арганізоўвацца польскімі камуністамі. Рэалізацыя задач, што былі пастаўлены вышэйшым партыйным кіраўніцтвам, ускладалася на Польскае бюро РКП(б), якое на сваёй нарадзе 18 ліпеня 1920 г. у Маскве рэарганізавалася і прыняло рашэнне пра выезд на польскі фронт[16]. 1 жніўня 1920 г. члены Польскага бюро РКП(б) стварылі ў Беластоку Часовы польскі рэвалюцыйны камітэт (ЧПРК) і ўзялі на сябе ўсю паўнату ўлады[17].

Галоўнай задачай ЧПРК было стварэнне Польскай Сацыялістычнай Рэспублікі Саветаў, якая павінна была гарантаваць польскаму народу мір і абарону ад „эксплуатацыі мясцовай і замежнай буржуазіі". Асноўным дакументам ЧПРК быў „Маніфест да працоўных горада і вёскі"[18], у якім гаварылася: „Надышоў час вызвалення, (....) калі ў Польшчы будзе скінуты крывавы ўрад, які ўцягнуў краіну ў злачынную вайну. З'езд народных дэлегатаў, працоўных горада і вёскі створыць Польскую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку"[19].

Гэтым планам польскіх камуністаў не наканавана было здзейсніцца. Пасля паражэння Чырвонай Арміі пад Варшавай і небяспекі за-

[14] K. Zieliński, *O polską Republikę Rad. Działalność polskich komunistów w Rosji Radzieckiej 1918-1022*, Lublin 2013, s. 133-134; S. Gregorowicz, *Tymczasowy Komitet Rewolucyjny Polski — ocena koncepcji i działalności*, [w:] *Wojna polsko-sowiecka 1920 roku. Przebieg walk i tło międzynarodowe*, red. A. Koryn, Warszawa 1991, s. 121.

[15] *Обращение Совета Народных Комиссаров РСФСР к рабочим, крестьянам и всем честным гражданам Советской России и Советской Украины от 20 июля 1920 года*, [ в:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 55-60.

[16] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polsk*i, t. 2: *1914-1939*, Londyn 1985, s. 474-477; K. Zieliński, *O polską Republikę rad. Działalność polskich komunistów w Rosji Radzieckiej...*, s. 134.

[17] N. Davies, *Orzeł biały, czerwona gwiazda. Wojna posko-bolszewicka 1919-1920*, Kraków 2011, s. 185-186.

[18] РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1300, арк. 51.

[19] Там жа, арк. 51. Больш на гэту тэму гл.: Archiwum Akt Nowych w Warszawie (далей: AAN), zespół (z.) 1297 — Tymczasowy Komitet Rewolucyjny Polski, sygn. 168/I-6; *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, red. N. Gąsiorowska-Grabowska i I. A. Chrienow, t. 3, Warszawa — Moskwa 1964, nr 126.

няцця Беластока польскай арміяй[20], ЧПРК быў вымушаны 20 жніўня 1920 г. паспешна пакінуць Беласток. Для польскіх камуністаў гэта параза з’явілася палітычным разгромам іх рэвалюцыйных сіл[21].

Бітва на Нёмане (20-28 верасня 1920 г.) была апошнім буйным баявым сутыкненнем польска-савецкай вайны і вызначыла лёс кампаніі 1920 года, падчас якой выявілася, што абодва варожыя бакі не ў стане былі да канца выканаць пастаўленыя перад імі палітычныя задачы[22]. Нягледзячы на паражэнне Савецкай Расіі ў вайне, польская армія была настолькі аслаблена, што не была гатова да далейшага вядзення зімовай кампаніі, а эканамічны стан краіны не дазваляў працягваць ваенныя дзеянні[23]. Мэты, якія ставіў перад сабой Юзаф Пілсудскі па федэратыўным уладкаванні Польшчы з Беларуссю, былі цяжка дасягальнымі так, як і наладжванне адносін на ўсходзе, у якіх Польшча, на яго чале, адыгрывала б вызначальную ролю[24].

Савецкая Расія таксама не рэалізавала сваіх планаў непасрэднага ўплыву на рэвалюцыйныя працэсы ў Польшчы і Еўропе. Чакаемыя бальшавікамі сусветная і агульнаеўрапейская рэвалюцыі не выбухнулі. Усё гэта, разам узятае, схіляла варожыя бакі да заключэння міру на кампрамісных умовах.

14 жніўня 1920 г. Польшча накіравала на перамовы ў Мінск дэлегацыю на чале з намеснікам міністра замежных спраў Янам Домбскім[25]. Праз месяц IX Усерасійская канферэнцыя РКП(б) пад кіраўніцтвам Леніна прыняла рэзалюцыю аб неабходнасці падпісання мірнай дамовы з Польшчай, і ўхваліла адрэдагаваную ім заяву Усерасійскага цэнтральнага выканаўчага камітэта (УЦВК) аб канкрэтных умовах міру[26].

[20] L. Wyszczelski, *Wojna o polskie Kresy 1918-1921...*, s. 281.

[21] *Польско-советская война 1919-1920. (Ранее не опубликованные документы и материалы)*, ред. И. И. Костюшко, т. I, Москва 1994, док. 144, с. 10-12.

[22] Падрабязней на гэту тэму гл.: Н. Какурин, *Как сражалась революция*, т. 2: *1919-1920*, ред. А. П. Ненароков, Москва 1990; L. Wyszczelski, *Niemen*, Warszawa 2008; яго ж, *Wojna polsko-rosyjska 1919-1920*, t. 1 i 2, Warszawa 2010; яго ж, *Operacja niemeńska 1920 roku*, Warszawa 2003.

[23] A. Nowak, *Czas walki z Bogiem. Kościół na straży polskiej wolności*, Kraków 2011, s. 23.

[24] Пабрабязней на гэту тэму гл.: L. Wyszczelski, *Wojna o polskie Kresy 1918-1921.*, c. 410-428.

[25] *Сообщение Народного Комиссариата Иностранных Дел РСФСР по поводу советско-польских переговоров от 13 августа 1920 года, а так же Сообщение Народного Комиссариата Иностранных Дел РСФСР по вопросу полномочий польской делегации от 13 августа 1920 года*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 129-130.

[26] РДАСПГ, ф. 44, воп.1, спр. 7, арк. 5; *КПСС в резолюциях и решениях съездов конференций и пленумов ЦК*, т. 2, Москва 1970; *Речь В. И. Ленина на IX Всерос-*

Выступаючы ў Маскве 2 кастрычніка 1920 г. Ленін казаў наконт паражэння Расіі ў вайне: „Калі б Польшча стала савецкай (...) Версальскі мір быў бы развалены. (...) Францыя не мела б тады буфера, які аддзяляе Германію ад Савецкай Расіі. Яна не мела б тарана супраць Савецкай рэспублікі"[27]. Яшчэ за два тыдні да выступлення Ленін сцвярджаў, што знішчыць гэты „таран" і „буфер" магчыма толькі ў выніку поўнай саветызацыі Польшчы[28].

Знясіленыя вайной Польшча і Савецкая Расія вымушаны былі падпісаць 18 сакавіка 1921 г. у Рызе мірную дамову паміж Польшчай з аднаго боку і РСФСР (у тым ліку і ад імя Беларускай ССР) і УССР з другога боку[29]. Згодна з умовамі гэтага дагавора скончылася польска-савецкая вайна 1919-1921 гадоў. Пасля ратыфікацыі (арт. 24) дамовы, бакі, якія падпісалі яе, абавязваліся неадкладна наладзіць дыпламатычныя стасункі[30]. Мірная дамова акрэсліла мяжу паміж Польшчай з аднаго боку і Расіяй, Беларуссю і Украінай з другога боку. Да Польшчы далучаліся тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны[31].

Абодва бакі гарантавалі поўную ўзаемную павагу дзяржаўнага суверэнітэту і ўстрыманне ад усялякага ўмяшання ва ўнутраныя справы краін-падпісантаў[32]. Пацвердзілі гатоўнасць рэалізацыі падпісанага 24 лютага 1921 г. у Рызе пагаднення аб рэпатрыяцыі[33], гарантавалі грамадзянам супрацьлеглага боку поўную амністыю за ўсе палітычныя злачынствы і правіны[34]. Савецкі бок згадзіўся выплаціць Поль-

*сийской конференции РКП(б) от 22 сентября 1920 года, а также Заявление ВЦИК по вопросу об основах соглашения между РСФСР и Польшей от 23 сентября 1920 года*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 201-206.

27 В. Ленин, *Речь на съезде рабочих и служащих кожевенного производства*, [в:] *Полное собрание сочинений*, т. 41, Москва 1981, с. 324-325.

28 В. Ленин, *Неизвестные документы 1891-1922*, Москва 1999, с. 370-389.

29 Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów...*, s. 98-116.

30 РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1285, арк. 1-8 — Записки, информации, материалы Народного Комиссариата Иностранных Дел касающихся Польши. Начато 1922 — окончено 1942; *Мирный договор между Россией Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 642.

31 Дакладнае акрэсленне мяжы гл.: *Статья 2 Мирного договора*, [в:] *Документы внешней политики СССР*, т. III, Москва 1957, с. 619-623; там жа, *Приложение № 1 к Мирному Договору*, с. 642.

32 *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 623.

33 J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, Wrocław 1998, s. 42.

34 Пад палітычнымі злачынствамі і правінамі разумеліся дзеянні, накіраваныя супраць дзяржаўнага ладу або бяспекі дзяржавы, як і ўсе дзеянні, якія былі зроблены на карысць іншага боку. Падрабязней на гэту тэму гл.: *Документы внешней политики СССР*, т. III, с. 628-629.

чы на працягу года 30 млн. залатых рублёў за ўнёсак Польшчы ў гаспадарчае жыццё Расійскай імперыі[35].

Рыжская мірная дамова мела вялікае значэнне як для Польшчы, так і для Савецкай Расіі, а таксама для міжнародных адносін у Еўропе. Дамова ў прававым парадку ўсталявала мір у той частцы еўрапейскага кантынента, у якой ён не быў вызначаны Версальскай дамовай, а таксама была кампрамісам, які дазваляў ваюючым да гэтага бакам сканцэнтравацца на вырашэнні ўнутраных дзяржаўных праблем[36].

Савецкая Расія, нягледзячы на падпісаную з Польшчай мірную дамову, не змірылася са стратай заходніх тэрыторый былой царскай імперыі, якімі тая валодала больш ста дваццаці гадоў. Гэта істотна паўплывала на польска-савецкія адносіны, якія станавіліся ўсё больш напружанымі. СССР для дэстабілізацыі становішча ў Польшчы шырока выкарыстоўваў сваіх даўніх саюзнікаў — польскіх камуністаў. Рашэнні жнівеньскага 1923 года II з'езда Камуністычнай працоўнай партыі Польшчы (КППП) па нацыянальным пытанні закладалі „бомбу" ў адзінства і тэрытарыяльную цэласнасць польскай дзяржавы. У іх гаварылася: „У барацьбе за свабоду прыгнечаных нацыянальнасцей партыя з усёй рашучасцю выступае ў абарону прынцыпу самавызначэння народаў, а таксама іх права на аддзяленне ад дзяржавы, у склад якой яны былі гвалтоўна ўключаны"[37]. Партыя выступіла за ажыццяўленне сацыялістычнай рэвалюцыі ў Польшчы, за права на самавызначэнне для Заходняй Беларусі, за аб'яднанне ўсіх беларускіх зямель у складзе адзінай Беларускай савецкай рэспублікі.

Гэтыя рашэнні сталі імпульсам для стварэння ў кастрычніку 1923 г. філіяла КППП — Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ). У склад КПЗБ увайшла таксама Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, якая мела спецыяльныя кадры для правядзення тэрарыстычных актаў[38].

Палітычнае і вайсковае кіраўніцтва Савецкай Расіі насуперак Рыжскім дамоўленасцям прыкладала ўсе намаганні, каб дэстабілізаваць унутранае становішча ў Заходняй Беларусі. Пры гэтым адначасова

[35] РДАСПГ, ф. 82, воп. 2, спр. 1285, арк. 3-8 — Имущественные и финансовые обязательства России, Украины и Белоруссии по вопросу Рижского мирного договора.

[36] P. Łossowski, *Kształtowanie się państwa polskiego i walka o jego granice (listopad 1918 — czerwiec 1921)*, [w:] *Historia dyplomacji polskiej*, red. P. Łossowski, t. 4: *1918-1939*, Warszawa 1995, s. 172.

[37] *KPP. Uchwały i rezolucje*, t. 1, Warszawa, 1953, s. 198-205.

[38] E. Mironowicz, *Historia państw świata XX wieku. Białoruś*, Warszawa 1999, s. 115; O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi od połowy XVIII do końca XX w.*, Białystok bd., s. 182.

яны рабілі ўсё магчымае для ліквідацыі антысавецкага партызанскага руху, які дзейнічаў ва ўсіх раёнах БССР. У сувязі з гэтым не былі расфарміраваны размешчаныя побач беларуска-польскай мяжы войскі Заходняга фронту[39], а бандам, што займаліся разбоем і рабаваннем на тэрыторыі Польшчы, савецкія органы ўлады дазволілі хавацца ў СССР[40].

Выбары ў Сейм у лістападзе 1922 г. цалкам адлюстравалі праблему слабасці польскай дзяржаўнасці на паўночна-ўсходніх землях Польшчы, у тым ліку і ў Вільні. Прапольскія партыі і арганізацыі набралі ў парламент толькі 20% галасоў, а 75% атрымалі сілы, якія былі варожа ці крытычна настроены ў дачыненні да Польшчы[41].

Да выбараў у польскі парламент беларускія палітыкі ў Польшчы Браніслаў Тарашкевіч і Антон Луцкевіч спрабавалі дамовіцца з польскімі ўладамі пра развіццё беларускамоўнай адукацыі і культуры. Сваё бачанне па гэтым пытанні ў сакавіку 1922 г. яны прадставілі начальніку польскай дзяржавы Юзафу Пілсудскаму і прэм'ер-міністру ўрада Антонію Панікоўскаму[42]. Але адсутнасць усялякай зацікаўленасці з боку вышэйшага польскага кіраўніцтва ў вырашэнні праблем беларускай нацыянальнай меншасці садзейнічала таму, што частка з 11 выбраных у Сейм і 3 у Сенат дэпутатаў беларусаў занялі ў дачыненні да Польшчы нелаяльную пазіцыю, а некаторыя і варожую[43].

Грэбаванне вырашэннем пытанняў беларускага насельніцтва ў Польшчы падштурхоўвала іх у рэчышча палітыкі Савецкага Саюза, якое было накіравана на аддзяленне Заходняй Беларусі ад Польшчы з наступным уключэннем яе ў склад БССР.

[39] Камандуючы войскамі Мінскага раёна Іеранім Убарэвіч у тэлеграме ад 7 ліпеня 1921 г. пісаў падначаленым войскам: „Бандытызм на тэрыторыі Мінскай губерні набыў вялікі размах. Дзеянні банд маюць арганізаваны характар, які набліжае нас да стану малой палявой вайны". Загадам Рэвалюцыйнага ваеннага савета прадпісвалася: „Жыхароў, якія не здаюць зброю і ў якіх яна будзе знойдзена, лічыць узброенымі ворагамі і расстрэльваць без суда і следства, сем'і высылаць за межы Беларусі". Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей: ДАРФ), ф. 6990, воп. 1, спр. 23, арк. 2, 6, 14, 59 — Телеграммы во ВЦИК о борьбе с бандитизмом в минском районе Белорусской ССР за период 13.02. 1922 — 4.09.1922.

[40] AAN, Urząd Wojewódzki Poleski (dalej: UWP), z. 1183, sygn. 976/1, k. 35-37 — Sprawozdanie Urzędu za lipiec 1923 r.

[41] W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 628.

[42] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*..., s. 171.

[43] AAN, Ambasada RP w Moskwie, z. 510, sygn. 161, ark. 1-2; M. Kruszyński, *Ambasada RP w Moskwie 1921-1939*, Warszawa 2010; O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi*..., s. 176-177.

Частка дэпутатаў польскага Сейма, якой кіравалі савецкія эмісары, пачала ў хуткім часе ствараць Беларускую сялянска-работніцкую граmаду. Грамада акцэнтавала сваё негатыўнае стаўленне да польскай дзяржавы[44].

З лета 1922 года ў польскіх памежных раёнах, пазіцыянуючы сябе народнымі мсціўцамі, пачалі актыўныя бандыцкія напады прафесійныя дыверсанты і тэрарысты з ліку падрыхтаваных кадравых камандзіраў Чырвонай Арміі. Савецкія тэрарысты забівалі землеўласнікаў, чыноўнікаў, ксяндзоў, праваслаўных святароў, „здраднікаў", вынішчалі польскія хутары, здзяйснялі налёты на турмы і банкі. „Паўстанцы" арганізоўвалі ў вёсках сходы, на якіх заклікалі беларускіх сялян да ўзброенага паўстання супраць Польшчы[45]. Пасля выканання задання савецкія банды з захопленымі трафеямі вярталіся на беларускі савецкі бок[46].

Асаблівую жорсткасць і нянавісць да Польшчы і палякаў праяўлялі наступныя камандзіры дыверсійных тэрарыстычных атрадаў: Кірыл Арлоўскі[47], Васіль Корж, Аляксандр Рабцэвіч і Станіслаў Ваўпшасаў[48]. Апошні даволі падрабязна, у дэталях апісаў як ён і яго людзі грабілі, палілі і забівалі тых, каго лічылі класавымі ворагамі[49].

У 1923 годзе[50] ўлады Польшчы сутыкнуліся з праблемай актыўнай дзейнасці ў Заходняй Беларусі Саюза сялянскай самаабароны, якая мела відавочную бальшавіцкую накіраванасць. Ва ўсходніх памежных раёнах Польшчы распаўсюджваліся заклікі да ўхілення ад службы ў польскім войску, байкатавання выплаты падаткаў і выканання распараджэнняў польскіх улад[51]. Таксама актыўна праводзілі антыпольскую працу і іншыя беларускія арганізацыі як палітычнай

44 Падрабязней на гэту тэму гл.: *Rewolucja hromadowska, Likwidacja Hromady*, [w:] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi...*, s. 177-178; W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski...*, s. 628.

45 А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты в XVIII-XX вв.*, Минск 2008, с. 509-516.

46 AAN, UWP, z. 1183, sygn. 976/1, ark. 36-37.

47 Кірыл Арлоўскі сам напісаў у аўтабіяграфіі, якая зараз захоўваецца ў цэнтральным архіве КДБ Беларусі: „За адзін толькі 1924 год па маёй ініцыятыве і асабіста мной было забіта больш 100 чалавек жандармаў і паноў". А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты...*, с. 515.

48 А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты...*, с. 509-516.

49 С. Ваупшасов, *На тревожных перекрестках. Записки чекиста*, Москва 1974, с. 95-139.

50 15 сакавіка 1923 г. Савет Паслоў Лігі Нацый афіцыйна прызнаў усходнюю мяжу Польшчы. Гэты факт, у выніку, паўплываў на паступовае згортванне дзейнасці беларускай узброенай апазіцыі. *Upadek białoruskiej opozycji zbrojnej*, [w:] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi...*, s. 173-174.

51 W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 628.

накіраванасці, так і культурна-асветніцкай пад уплывам бальшавікоў з СССР (БССР)[52]. Больш таго, савецкае кіраўніцтва сваю працу арганізоўвала такім чынам, каб не дапусціць супрацоўніцтва ніводнай беларускай арганізацыі з польскімі ўладамі. Варожае стаўленне беларусаў да маладой польскай дзяржавы было выклікана шэрагам і ўнутрыпалітычных фактараў — правядзенне гвалтоўнай паланізацыі і асіміляцыі беларусаў, рэлігійная нецярпімасць, якая праяўлялася ў асобных выпадках разбурэння, закрыцця і перадачы праваслаўных цэркваў Каталіцкаму касцёлу[53]. Усе гэтыя дзеянні ў дачыненні да беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы з'яўляліся парушэннямі яе абавязкаў, зацверджаных падпісаннем мірнай дамовы ў Рызе ў сакавіку 1921 года[54].

У перыяд з красавіка па лістапад 1924 г. савецкія дыверсійныя групы правялі ва ўсходняй Польшчы не менш 89 буйнамаштабных баявых аперацый. З сакавіка па травень 1925 г. — 59, у чэрвені — жніўні гэтага ж года — яшчэ 50, усяго са снежня 1924 г. па жнівень 1925 г. савецкія дыверсанты і тэрарысты правялі 199 баявых аперацый[55].

Летам 1924 г. тэрарызм і дыверсія ў Заходняй Беларусі сталі больш інтэнсіўнымі. Ноччу з 3 на 4 жніўня банда ў колькасці каля ста чалавек на чале з савецкім афіцэрам памежнікам Барышкевічам[56] напала на памежны горад Стоўбцы[57]. 24 верасня 1924 г. іншая банда пад кіраўніцтвам таксама савецкага памежніка Трафіма Каліненкі напала на цягнік, які накіроўваўся па маршруце Брэст — Лунінец. Пасля рабавання і зневажальных здзекаў над высокапастаўленымі

[52] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Białorusini w II Rzeczypospolitej*, [w:] O. Łatyszonek, E. Mironowicz, *Historia Białorusi...*, s. 167-186.

[53] Падрабязней на гэту тэму гл: W. Śleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, Warszawa 2007 s. 213-229; A. Mironowicz, *Rewindykacja prawosławnych obiektów sakralnych w II Rzeczypospolitej*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2004, nr 21; яго ж, *Kościół prawosławny na ziemiach polskich w XIX i XX wieku*, Białystok 2005.

[54] Падрабязней на гэту тэму гл.: У. Ладысеў, *Беларускае пытанне у Другой Рэчы Паспалитай. Уз'яднанне Заходняй Беларуси з БССР*, „Беларускі гістарычны часопіс", 2009, № 9, с. 3-24; T. Gawin, *O bycie Polakiem. Polacy w Białoruskiej Socjalistycznej Republice Sowieckiej 1944-1991*, Grodno — Białystok, s. 37-38.

[55] А. Колпакиди, Д. Прохоров, *Империя ГРУ. Очерки истории российской военной разведки*, кн. II, Москва 2001, с. 127.

[56] Войцех Сляшынскі ў сваю чаргу лічыць, што бандай кіраваў Кірыл Арлоўскі. W. Śleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, s. 301.

[57] Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Poczobut, *Podpalić Kresy. Wojna hybrydowa sprzed 90 lat.* Wyborcza.pl/ ALE HISTORIA, 02.03.2015; W. Pobóg-Malinowski, *Najnowsza historia polityczna Polski*, s. 629.

пасажырамі, банда бесперашкодна вярнулася на тэрыторыю савецкай Беларусі[58].

Напад на Стоўбцы, а ў большай ступені напад на цягнік пад Лунінцам прымусілі польскі ўрад прыняць рашучыя захады ў барацьбе з дыверсійна-тэрарыстычнай дзейнасцю ў памежных раёнах усходняй Польшчы. Пад уплывам генерала Уладзіслава Сікорскага, міністра ваенных спраў, польскія ўлады ўзяліся за стварэнне Корпуса аховы памежжа (КАП). Першыя арганізаваныя батальёны КАП ужо ў лістападзе 1924 г. прыступілі да аховы і абароны дзяржаўнай мяжы на ўсходзе Польшчы[59]. У выніку напады добра арганізаваных дыверсійных банд, што выпраўляліся з тэрыторыі БССР, спыніліся ў канцы 1925 г. Але разам з тым засталіся нявырашанымі шматлікія праблемы, звязаныя з усходнімі тэрыторыямі Польшчы, у тым ліку і пытанне беларускай нацыянальнай меншасці[60].

Разумеючы гэта, былы міністр замежных спраў Польшчы Леон Васілеўскі ў 1924 г. у адным са сваіх публічных выступленняў агучыў вострае пытанне: „У выпадку ўскладнення міжнароднай абстаноўкі (...), гэта значыць, у выпадку вайны, ці зможа дзяржава разлічваць на поўную вернасць тых, каго крыўдуе”. Прапанаваў у сваю чаргу замяніць унутрыпалітычны лозунг „Польшча для палякаў” на „Польшча для ўсіх грамадзян Польшчы”[61].

Частка беларускай нацыянальнай меншасці, якая знаходзілася пад уплывам савецкай прапаганды, працягвала барацьбу з маладой польскай дзяржавай[62]. У Навагрудскім ваяводстве польскія ўлады ліквідавалі беларускую арганізацыю, звязаную з Мінскам, канчатковай мэтай якой было ўзброенае паўстанне ў Заходняй Беларусі і ўз’яднанне яе з БССР. Непасрэднымі кіраўнікамі і актыўнымі ўдзельнікамі гэтай арганізацыі былі дэпутаты польскага Сейма Васіль Рагуля і Фелікс

[58] Падрабязней на гэту тэму гл.: A. Poczobut, *Podpalić Kresy. Wojna hybrydowa sprzed 90 lat.* Wyborcza.pl/ ALE HISTORIA, 02.03.2015; В. Пономарёв, *Мятежное сердце*, Минск 1987, с. 26-32.

[59] Падрабязней на гэту тэму гл.: *O Niepodległą i granice*, t. 4: *Korpus Ochrony Pogranicza 1924-1939. Wybór dokumentów*, Warszawa — Pułtusk 2001; *Kresy w oczach oficerów KOP*, opr. J. Widacki, Katowice 2005.

[60] W. Śleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej...*, s. 268-279; E. Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, s. 26-126.

[61] E. Mironowicz, *Białorusini w polityce piłsudczyków w latach dwudziestych*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2005, nr 23, s. 43; яго ж, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007.

[62] Падрабязней на гэту тэму гл.: E. Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, s. 70-125.

Галавач. Пры гэтым апошні меў цесны кантакт з Дзяржаўным палітычным упраўленнем (ДПУ) у Мінску, адкуль атрымліваў інструкцыі і грошы[63].

У пачатку 1925 г. кардынальна змянілася стратэгія так званай партызанскай барацьбы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая раней праводзілася пад кіраўніцтвам Галоўнага разведвальнага ўпраўлення Генеральнага штаба Чырвонай Арміі. Зараз жа дзейнасць разведвальна-дыверсійных груп супраць Польшчы ужо вызначалася пастановай, распрацаванай Феліксам Дзяржынскім і зацверджанай палітычным бюро ЦК УКП(б) 25 лютага 1925 г. у Маскве. Згодна з пастановай, уся рэвалюцыйна-тэрарыстычная дзейнасць спецыяльных службаў СССР пераходзіла да камуністычных партый Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны[64].

Штогод у 1925-1937 гадах ад рук тэрарыстаў КПЗБ, навучаных пад Мінскам, гінула ад 5 да 15 супрацоўнікаў польскай паліцыі і контрразведкі[65]. У сваю чаргу пытаннем масавай падрыхтоўкі дыверсантаў, тэарэтыкаў і практыкаў арганізацыі ўзброенага паўстання і забастовак займаўся таксама Камінтэрн, які праз КПП навучыў і закінуў у Польшчу толькі ў 1931-1932 гг. 56 чалавек, у тым ліку некаторыя з іх патрапілі ў польскае войска[66].

Дыверсійна-тэрарыстычная дзейнасць наводзіла цень на добрасуседскія польска-савецкія стасункі. Тым не менш, нягледзячы на гэта, Польшча на дыпламатычным „фронце" рабіла ўсё, што ад яе залежала, каб рэгулярна падпісваць з СССР двухбаковыя дамовы і пагадненні, якія паляпшалі клімат мірнага суіснавання ў сферах палітыкі, эканомікі і культуры[67]. Адным з прыкладаў такой актыўнасці Польшчы з'яўлялася падпісаная ў лістападзе 1927 года генеральная Дамова па пытанні вяртання і рээвакуацыі з СССР польскай культурнай спадчыны[68].

63 AAN, Ambasada RP w Moskwie, z. 510, sygn. 161, ark. 1-2.

64 З мэтай падрыхтоўкі для КПЗБ баевікоў і дыверсантаў у ваколіцы Мінска ў в. Лошыца была створана спецыяльная школа, якая пачала сваю працу восенню 1925 г. і рыхтавала кадры да ліквідацыі КПЗБ у 1938 г. і штогод выпускала 25-30 чалавек для рэвалюцыйна-тэрарыстычнай дзейнасці ў Польшчы. Акрамя таго рыхтавала спецыяльныя дыверсійныя групы на выпадак вайны СССР з Польшчай. А. Тарас, *Тайная война против Польши. Террор, грабежи и поджоги как форма „экспорта революции" (Западная Беларусь, 1921-1937 гг.)*, „Секретные исследования", 2007, № 24 (161), с. 12-14.

65 А. Тарас, *Анатомия ненависти. Русско-польские конфликты...*, с. 524.

66 *Коминтерн и идея мировой революции: Документы*, сост., коммент.: Я. С. Драбкин и др., Москва 1998, с. 786-788.

67 Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Kukułka, *Traktaty sąsiedzkie Polski odrodzonej*, Wrocław 1998.

68 W. Materski, *Tarcza Europy. Stosunki polsko-sowieckie 1918-1939*, Warszawa 1994, s. 179-181.

Польшча з мэтай арганізацыі сваёй палітычнай і ваеннай бяспекі імкнулася да падпісання дамовы аб неагрэсіі з СССР, працэс падрыхтоўкі і падпісання якой быў даволі складаным. 18 красавіка 1927 г. старшыня СНК СССР Аляксей Рыкаў на IV з'ездзе Саветаў заявіў, што СССР імкнецца да мірнага суіснавання са сваімі заходнімі суседзямі, але на шляху рэалізацыі гэтай задачы стаіць Польшча. Рыкаў абвінаваціў Польшчу ў жаданні ўзяць на сябе права, па якім усе перамовы СССР з Румыніяй, прыбалтыйскімі краінамі і Фінляндыяй павінны адбывацца пры яе пасрэдніцтве і дапамозе[69].

Забойства 7 чэрвеня 1927 г. савецкага пасла Пятра Войкава ў Варшаве, якое было здзейснена дзеячам рускай контррэвалюцыйнай эміграцыі Барысам Кавердам дадаткова ўскладніла савецка-польскія адносіны[70], але пры гэтым, дзякуючы дыпламатычным намаганням Польшчы, не паставіла іх на шлях далейшага развіцця канфрантацыі[71].

Польшча прыняла прапанову СССР пра хутчэйшую ратыфікацыю пакта Брыяна-Келага ад 27 жніўня 1928 г. Разам з Латвіяй, Эстоніяй і Румыніяй падпісала ў Маскве 9 лютага 1929 г. пратакол, так званы пратакол Літвінава, які пацвярджаў існуючыя ў гэтай частцы Еўропы межы і замацоўваў імкненне краін-падпісантаў да адмовы ад выкарыстання вайны ў якасці зброі нацыянальнай палітыкі[72].

Дыпламатычнай перамогай Варшавы можна лічыць польска-савецкую дамову аб ненападзе, якая была падпісана ў Маскве 25 ліпеня 1932 года[73]. Згодна з ёй пацвярджаліся суверэнітэт, узаемныя межы і тэрытарыяльная цэласнасць абодвух краін. СССР, такім чынам, прызнаў польскімі тыя тэрыторыі, што Польшча атрымала ў выніку падпісання Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. СССР і Польшча ўзялі на

[69] *Доклад Председателя Совета Народных Комиссаров А. И. Рыкова на IV съезде Советов СССР*, [в:] *IV съезд Советов. Стенографический отчёт*, Москва 1927, с. 6-30.

[70] AAN, Ambasada RP w Moskwie, z. 510, sygn. 174, ark. 1-2; S. Łopatniuk, *Konflikt polsko-radziecki na tle zabójstwa posła Wojkowa*, [w:] *Z dziejów stosunków polsko-radzieckich. Studia i materiały*, t. 9, Warszawa 1972, s. 71-83.

[71] Падрабязней на гэту тэму гл:. AAN, Ambasada RP w Moskwie, z. 510, sygn. 174, ark. 2; T. Gawin, *O bycie Polakiem...*, s. 42-43.

[72] *Протокол о введении в действие парижского договора от 27 августа 1928 года об отказе от войны в качестве орудия национальной политики (Москва, 9 февраля 1929 года)*, [в:] *Сборник действующих договоров, соглашений и конвенций, заключённых СССР с иностранными государствами*, Москва 1930, с. 8-10; *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. 5, Warszawa 1966, s. 397-399.

[73] Падрабязней на гэту тэму гл: *Документы внешней политики СССР*, т. 15: *1 января — 31 декабря 1932 г.*, Москва 1969, с. 436-439; О. Кен, *Москва и пакт о ненападении с Польшей (1930-1932)*, Санкт-Петербург 2003; J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919-1945. Od Wersalu do Jałty...*, s. 115-133.

сябе абавязак устрымлівацца ад усялякіх агрэсіўных дзеянняў адзін супраць другога, не рабіць ні прамой, ні ўскоснай дапамогі агрэсару ў выпадку нападу трэцяй дзяржавы на адзін з дагаворных бакоў[74]. 23 лістапада 1932 г. была падпісана савецка-польская канвецыя аб пагаджальнай працэдуры — перамір'і. Праз чатыры дні бакі ратыфікавалі дамову, якая абавязвала краіны-падпісанты да захавання міру, выканання пакта Брыяна-Келага, пратакола Літвінава і Рыжскай мірнай дамовы[75]. Па просьбе польскага боку дамову падпісалі на тры гады з магчымасцю працягвання яе тэрміну ў будучым яшчэ на два гады. Абмен ратыфікаванымі дакументамі адбыўся 23 снежня 1932 г. Падчас візіту міністра замежных спраў Польшчы Юзафа Бэка ў Маскву ў сярэдзіне лютага 1934 г. было вырашана тэрмін дзеяння дамовы прадоўжыць яшчэ на 10 гадоў. Пратакол па гэтым пытанні падпісалі 5 траўня таго ж года пасол Польшчы ў Маскве Юліюш Лукасевіч і народны камісар замежных спраў Максім Літвінаў. Такім чынам, дамова мела сілу да 1945 года і была прадугледжана магчымасць аўтаматычнага працягвання яе дзеяння на чарговы двухгадовы тэрмін[76].

Міжнародная абстаноўка ў Еўропе ў 1930-х гадах упэўніла польскае кіраўніцтва ў тым, што падпісаная 19 лютага 1921 г. дамова аб ваенным саюзе паміж Польшчай і Францыяй[77] не гарантуе ёй поўнай знешняй бяспекі[78]. Таму наступнай задачай польскай дыпламатыі ў такіх умовах стала падпісанне дамовы аб ненападзе з Германіяй, што адбылося 26 студзеня 1934 года[79]. Нямецка-польскае збліжэнне выклікала неспакой у Крамлі. Савецкае кіраўніцтва асцерагалася,

[74] S. Łopatniuk, *Nieznane dokumenty archiwalne z historii polsko-sowieckich rokowań o pakt o nieagresji*, [w:] *Z dziejów stosunków polsko-radzieckich*, t. 5, Warszawa 1969; яго ж, *Polsko-radziecki pakt o nieagresji (z historii polsko-radzieckiej pertraktacji)*, [w:] *Stosunki polsko-radzieckie 1917-1939. Materiały z sesji naukowej*, Warszawa 1973, s. 125-164; W. Materski, *Tarcza Europy...*, s. 246-249.

[75] Там жа.

[76] W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów...*, s. 391.

[77] Падрабязней на гэту тэму гл.: J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919-1945. Od Wersalu do Jałty...*, 101-115.

[78] У кастрычніку 1933 г. неафіцыйны пасланнік Юзафа Пілсудскага прывёз з Парыжа інфармацыю, што ў выпадку нападу Германіі на Польшчу ўлады Францыі не пачнуць мабілізацыі і не накіруюць на дапамогу войска. Адзінае, чым Францыя магла дапамагчы Польшчы, гэта ўзбраенне і боепрыпасы, а таксама камандзіраванне ў Польшчу сваіх ваенных дарадцаў. У такой палітычнай сітуацыі Пілсудскі даручыў міністру Бэку пачаць працэдуру падрыхтоўкі падпісання пакта аб неагрэсіі з Берлінам. W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów...*, s. 437.

[79] Падрабязней на гэту тэму: H. Batowski, *Między dwiema wojnami 1919-1939...*, s. 201-205; K. Lapter, *Pakt Piłsudski-Hitler. Polsko-niemiecka deklaracja o niestosowaniu przemocy z 26 stycznia 1934 roku*, Warszawa 1962, cz. II, dok. 11.

што Гітлер будзе спрабаваць уцягнуць Польшчу ў свае планы экспансіі на ўсход[80]. Пасля падпісання польска-нямецкай дамовы адносіны паміж СССР і Польшчай пачалі яшчэ больш пагаршацца. Відавочным праяўленнем гэтага стала крытычнае ў адрас Польшчы выступленне Сталіна 26 студзеня 1934 г. на XII з'ездзе УКП(б)[81]. У савецкай прэсе ўсё больш сустракаліся антыпольскія артыкулы[82]. Нічога ў гэтых стасунках не змяніла і смерць Юзафа Пілсудскага. З гэтага часу, як пісаў польскі даследчык Войцех Матэрскі, у адносінах двух краін павеяла холадам, стрыманасцю і прадузятасцю[83].

У красавіку 1937 г. Народны Камісарыят Замежных Спраў СССР патрабаваў ад Польшчы ліквідаваць тры з пяці польскіх консульстваў. Але ў выніку кампрамісу былі скасаваны толькі два — у Харкаве і Тбілісі. Тры консульствы, якія засталіся ў Кіеве, Мінску і Ленінградзе, далей працягвалі сваю працу[84].

Бясспрэчна, гістарычным фактам з'яўляецца тое, што СССР з моманту свайго ўзнікнення і да нападу на Польшчу будаваў сваю знешнюю палітыку на прынцыпах фальшывасці і крывадушнасці. На афіцыйнай геапалітычнай арэне ён выступаў за мір і міжнароднае супрацоўніцтва, а ў рэальнасці яго сапраўдная знешняя палітыка грунтавалася на прапагандзе, гвалце і экспарце рэвалюцыі, што пад кіраўніцтвам Крамля ажыццяўляў Камінтэрн[85]. Канчатковай мэтай такой палітыкі было імкненне да арганізацыі сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі. А бліжэйшай мэтай Крамля з'яўлялася прасоўванне рэвалюцыі на Захад. На шляху рэалізацыі гэтых задач стаяла маладая адроджаная польская дзяржава, якая яшчэ ў 1920 годзе зарвала планы бальшавікоў. Савецкае кіраўніцтва не змагло змірыцца з гэтым і таму ўвесь пасляваенны час выбудоўвала сваю тайную знешнюю палітыку такім чынам, каб знішчыць Польшчу і вярнуць страчаныя

80 Сапраўды, такія спробы з боку Гітлера былі, але Польшча не дазволіла ўцягнуць сябе ў гэту авантуру. Пра іх казаў прэм'ер лонданскага ўрада Арцішэўскі ў сваёй прамове да палякаў з Лондана 19 студзеня 1945 г. AAN, Zbiór komunikatów Agencji TASS, z. 1424, sygn. 327/8, ark. 29.

81 *XII съезд ВКП(б) 26 января — 10 февраля 1934 г. Стенографический отчёт*, Москва 1934, с. 17. *Документы внешней политики СССР*, т. 17, Москва 1971, док. 28, с. 85.

82 W. Materski, *Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów...*, s. 460.

83 Там жа, с. 462.

84 *Dokumenty i materiały do historii stosunków polsko-radzieckich*, t. 6: *1933-1938*, Warszawa 1967, dok. 230, s. 372; A. Wasilewski, *Polskie konsulaty na Wschodzie 1918-1939*, Warszawa 2010.

85 Падрабязней на гэту тэму гл.: У. Фостер, *История трёх интернационалов*, Москва 1959; М. Пантелеев, *Агенты Коминтерна. Солдаты мировой революции*, Москва 2005.

пасля падпісання Рыжскай дамовы заходнія землі былой Расійскай імперыі. Беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы была той сілай, на якую разлічваў Крэмль і якая павінна была дапамагчы яму ў рэалізацыі гэтай задачы[86].

Нягледзячы на сур'ёзныя пралікі польскага кіраўніцтва ў ажыццяўленні нацыянальнай палітыкі ў дачыненні да беларускай нацыянальнай меншасці (польскім беларусам), Польшча змагла супрацьстаяць планам Крамля, якія былі накіраваны на дэзінтэграцыю і распад яе ў мірны час. Напрыклад, не адбылося паўстанне ў Заходняй Беларусі, мэтай якога было далучэнне яе да БССР[87].

Адмова Польшчы ў 1939 годзе ад супрацоўніцтва з Гітлерам супраць Савецкага Саюза, а таксама палітычная сітуацыя ў Еўропе дазволілі ў выніку СССР рэалізаваць з дапамогай гітлераўскай Германіі план адрыву Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ад Польшчы.

Пакт Молатава-Рыбентропа — дамова аб ненападзе паміж СССР і Германіяй, якая была падпісана 23 жніўня 1939 г. у Маскве, з'яўлялася ўзаемным абавязкам для краін-падпісантаў аб неагрэсіі. Дамова мела дзесяцігадовы тэрмін дзеяння і ўвайшла ў сілу з моманту яе падпісання. Насамрэч, гэта быў пакт аб агрэсіі. Тайны пратакол дзяліў усходнюю Еўропу на дзве „сферы ўплыву", а яго ўмовы датычыліся непасрэдна Фінляндыі, Літвы, Эстоніі, Польшчы і Славакіі. З гэтага часу ўсе тэрытарыяльныя змены ў Еўропе павінны былі адбывацца са згоды бакоў, што падпісалі пратакол[88].

Гітлераўская Германія ў злачыннай змове з СССР здзейснілі ў верасні 1939 года ваенную агрэсію ў дачыненні да Польшчы і ажыццявілі чарговы яе падзел[89]. Мэта, якую ставіў перад сабой СССР, была

[86] AAN, UWP, z. 1183, sygn. 976/31, ark. 3.

[87] Адным з вырашальных фактараў, які стрымліваў дыверсійную дзейнасць у 1920-1925 гг., а пазней садзейнічаў падтрыманню спакою і прадухіленню антыпольскай дзейнасці ў 1926-1939 гг. з'яўлялася добра арганізаваная праца органаў бяспекі маладой польскай дзяржавы. Падрабязней на гэту тэму гл.: W. Śleszyński, *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej...*, s. 256-330.

[88] Падрабязней на гэту тэму гл.: *Восточная Европа между Гитлером и Сталином 1939-1941*, Москва 1999; *Документы и материалы кануна Второй мировой войны 1937-1939 гг., в 2 томах*, Москва 1981; А. Дюков, *Пакт Молотова-Рибентропа в вопросах и ответах*, Москва 2009; М. Мельтюхов, *Упущенный шанс Сталина. Советский Союз и борьба за Европу, 1939-1941*, Москва 2000; J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919-1945. Od Wersalu do Jałty...*, s. 267-287.

[89] A. Czubiński, *Czynniki kształtujące granice odrodzonego państwa polskiego w latach 1918-1945*, [w:] *Jałta z perspektywy półwiecza*, red. S. Nicieja, Opole 1995, s. 66.

дасягнута. Пасля гэтага ўсе намаганні саюзнікаў у распачатай вайне — фашысцкай Германіі і Савецкага Саюза — былі накіраваны на тое, каб упэўніць сусветную супольнасць, што Польшча як дзяржава ўжо не існавала і тым самым не дапусціць афіцыйнага прызнання яе ўрада ў выгнанні[90]. Тым не менш, ЗША, Англія і Францыя падтрымалі Польшчу і дапамаглі яе ўраду ў няспыннай дзейнасці, якая была накіравана на правядзенне дыпламатычных і ваенных мерапрыемстваў, што ў выніку павінна было быць выкарыстана ў барацьбе з акупантамі[91].

Тое, што Другая сусветная вайна ў верасні 1939 года пачалася ў выніку падпісання і рэалізацыі нямецка-савецкага пакта супраць Польшчы, а не ў выніку польска-нямецкага пакта супраць Савецкага Саюза было пытаннем выбару Польшчы, — лічыць амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр. Так ці інакш, вайна ўсё роўна пачалася б, але тады гэта была б іншая вайна. У гэтым сэнсе Польшча паўплывала на ход сусветнай гісторыі[92].

**Summary**

**Poland in the policy of Soviet Russia and Soviet Union in the years 1919-1939**

Soviet Union considered the terms of the Treaty of Riga disgraceful and never accepted the new Polish-Soviet border and the loss of Western Lithuania. During the interwar period, the Soviets endavoured to ignite anti-Polish sentiments, incite an upheaval, and regain the lost territory. After the failed uprising attempt, the Comintern continued to indoctrinate Belarusian minority in Western Belarus against accepting Polish identity. Such operations turned to be relatively successful as Poland in that time failed to develop a reasonable ethnic minority policy. Finally, not being able to incorporate Western Belarus into the Soviet Union during peace time, the Soviets managed to achieve their goal after the military aggression of September 17, 1939.

**Streszczenie**

**Polska w polityce Rosji Radzieckiej i ZSRR w latach 1919-1939**

Związek Radziecki warunki traktatu ryskiego uważał za haniebne i nigdy nie pogodził się ze stratą ziem Zachodniej Białorusi, które odeszły do Polski. Głównym zadaniem państwa radzieckiego w okresie międzywojennym było stworzenie warunków do działalności elementów antypolskich, które prowokowałyby niezadowolenie z polityki władz polskich i w wyniku mogłyby wywołać powstanie i odzyskać te ziemie z powrotem dla ZSRR. Po nieudanej próbie przygotowania i wywołania powstania wszystkie wysiłki propagandy radzieckiej i Międzynarodówki Komunistycznej zostały skierowane na indoktrynację przedstawicieli białoruskiej mniejszości narodowej w duchu nieuznawania

[90] J. Sobczak, *Polska w propagandzie i polityce III Rzeszy w latach 1939-1945*, Poznań 1998.

[91] J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919-1945. Od Wersalu do Jałty...*, s. 341.

[92] T. Snyder, *Przedmowa*, [w:] J. Karski, *Wielkie mocarstwa wobec Polski 1919-1945. Od Wersalu do Jałty...*, s. 14-15.

państwowości polskiej  w Zachodniej Białorusi. Takie działania realizowano w dosyć sprzyjających warunkach, ponieważ Polsce brakowało przemyślanej i rozważnej polityki wobec mniejszości narodowych. Niemniej jednak cel ZSRR – przyłączenie Zachodniej Białorusi – został osiągnięty nie w czasie pokoju, lecz w rezultacie zbrojnej agresji 17 września 1939 roku.

**Tadeusz Gawin** – doktor nauk humanistycznych w dziedzinie historii, polski działacz społeczny w Białorusi. Zainteresowania badawcze: historia polskiej mniejszości narodowej w Białorusi w XX-XXI ww.

**Мажэна Грыбоўская**
(Варшава)

# З гісторыі беларускай рэлігійнай прэсы на эміграцыі. Часопіс „Царкоўны Светач" (1951-1988)

У выніку Другой сусветнай вайны значная частка беларусаў апынулася на Захадзе. Аднак толькі нязначны адсотак з іх далучыўся да беларускага грамадска-палітычнага і культурна-асветнага жыцця на эміграцыі. Тым не менш, у пасляваенныя гады ў краінах Заходняй Еўропы, Аўстраліі і на амерыканскім кантыненце дзейнічалі арганізацыі і таварыствы, вакол якіх гуртаваліся беларускія эмігранты. Адным з галоўных цэнтраў беларускае эміграцыі былі Злучаныя Штаты Амерыкі. Беларускае жыццё на тэрыторыі ЗША разгарнулася асабліва шпарка пачынаючы з 1950-х гг., калі са Старога свету пачало прыбываць штораз больш беларусаў. Выгнаныя ваеннай завірухай з роднай зямлі, за акіянам яны знайшлі сваю новую айчыну. Неўзабаве на амерыканскім кантыненце ствараліся палітычныя і грамадскія цэнтры, дзейнічалі культурніцкія рухі, выдавалася ўласная прэса. Істотнае месца ў паўсядзённым жыцці эмігрантаў займала царква. Нічога дзіўнага, што адным з першых крокаў эмігрантаў на новым месцы быў пошук магчымасці заспакаення рэлігійных патрэб. Мусім адзначыць, што на дадзены момант гісторыя беларускага царкоўнага жыцця на чужыне належыць да найменш даследаваных праблем у гістарыяграфіі[1].

Большасць беларусаў з пасляваеннай хвалі эміграцыі, якія апынуліся на Захадзе, складалі асобы праваслаўнага веравызнання. Спецыфіка і складанасць вывучэння гісторыі беларускага праваслаўя на эміграцыі заключаецца ў тым, што вернікі-беларусы апынуліся ў юрысдыкцыі некалькіх цэркваў. Пэўную частку праваслаўных беларусаў на эміграцыі складалі вернікі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) на эміграцыі, аб стварэнні якой было абвешчана ў 1948 г. на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны. Рэч у тым, што па шэрагу як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных прычын далёка не ўсе беларускія вернікі

[1] Сярод найбольш грунтоўных прац па гэтай тэме неабходна пералічыць наступныя: І. Касяк, *З гісторыі Праваслаўнай Царквы беларускага народу*, Нью-Йорк 1956; А. Мартос, *Беларусь в исторической, государственной и церковной жизни*, Буэнос-Айрес 1966; А. Вініцкі, *Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадах*, Мінск 1994; Ю. Гарбінскі, *Беларускі рэлігійны друк на Захадзе, 1945-2005*, Нью-Йорк — Варшава 2009; A. Mironowicz, *Życie religijne prawosławnej emigracji białoruskiej po II wojnie światowej*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 2010, nr 33, s. 116-134.

маглі далучыцца да БАПЦ. Апаненты БАПЦ аб’ядноўваліся ў Беларускую праваслаўную царкву (БПЦ) у юрысдыкцыі Усяленскага патрыярхату. Прычыны падзелу ў значнай ступені мелі палітычны характар. Належыць памятаць, што пасляваенны беларускі эміграцыйны лагер быў падзелены на прыхільнікаў Рады БНР Міколы Абрамчыка і Беларускай цэнтральнай рады (БЦР) на чале з Радаславам Астроўскім. Вакол БПЦ Канстанцінопальскага патрыярхату гуртаваліся, перш за ўсё, тыя праваслаўныя беларусы, якія па палітычных прычынах апынуліся ў апазіцыі да М. Абрамчыка. У палітычным сэнсе гэтыя людзі належалі да прыхільнікаў БЦР. Паколькі „абрамчыкаўцы” былі заангажаваныя ў стварэнне і дзейнасць БАПЦ, дык прыхільнікі БЦР не маглі да яе далучыцца. У сувязі з гэтым група эмігрантаў з ліку прыхільнікаў Р. Астроўскага была вымушана шукаць іншых магчымасцей арганізацыі ўласнага царкоўнага жыцця. Пэўныя крокі ў гэтым напрамку былі зроблены ў 1950 г. Падчас з’езду беларускіх праваслаўных вернікаў, які адбыўся 23 лістапада 1950 г. у Саўт-Рыверы, быў створаны Беларускі праваслаўны царкоўны камітэт у Амерыцы. Сярод заснавальнікаў гэтага камітэта знаходзіўся а. Мікалай Лапіцкі. У якасці асноўнае мэты акрэслівалася арганізацыя царкоўнага жыцця эмігрантаў „на здаровых пачатках”[2]. На вышэйзгаданым з’ездзе была абрана ўправа камітэта, у склад якой увайшлі Уладзімер Брылеўскі (старшыня), Святаслаў Коўш, Расціслаў Завістовіч, Віктар Літаровіч, Хведар Высоцкі і Мікалай Сенька. Арганізатары вырашылі звярнуцца да экзарха канстанцінапольскага патрыярха ў Амерыцы архіепіскапа Міхаіла з просьбай аб прыняцці беларускай праваслаўнай супольнасці ў сваю юрысдыкцыю. Экзарх, які меў сваю сядзібу ў Нью-Йорку, ахвотна згадзіўся ўзяць беларусаў пад сваю духоўную апеку. Чарговым крокам беларускіх вернікаў было атрыманне ад амерыканскіх улад дазволу на дзейнасць камітэта. У выніку была атрымана згода на будову царквы і могілак, а таксама арганізацыю нядзельнай школы, місіянерскую і выдавецкую дзейнасць[3]. Патрыяршы экзарх па-бацькоўску клапаціўся пра сваіх беларускіх вернікаў. Штогод на калядныя і велікодныя святы ўладыка выдаваў архіпастырскае пасланне да беларусаў. Грэцкае духавенства супольна з беларускімі святарамі ўдзельнічала ў святочных багаслужбах. Так, напрыклад, у сакавіку 1952 г. у грэцкім мітрапаліцкім саборы ў Нью-Йорку архіепіскап Міхаіл адправіў набажэнства ў сувязі са святам 25 Сакавіка[4].

2 *Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы*, „Царкоўны Сьветач”, 1951, № 1, с. 4.

3 *Беларускі Праваслаўны Царкоўны Камітэт у Амэрыцы,* „Царкоўны Сьветач”, 1951, № 1, с. 4-5.

4 „Царкоўны Сьветач”, 1952, № 2, с. 10.

Няма сумневу, што найбольш актыўнай і шматлікай парафіяй БПЦ на тэрыторыі ЗША ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярха была парафія св. Еўфрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы, у штаце Нью-Джэрсі. З упэўненасцю можна сказаць, што мястэчка Саўт-Рывер было найбуйнейшым цэнтрам беларускай эміграцыі з-пад знака БЦР не толькі на амерыканскім кантыненце, але і ва ўсім вольным свеце. Пасялілася тут некалькі соцень беларускіх сем'яў, большасць якіх належала да праваслаўнай парафіі св. Еўфрасінні Полацкай. Варта адзначыць, што стварэнне парафіі выклікала наплыў да мясцовасці чарговых эмігрантаў беларускага паходжання. У выніку на працягу 1950-х гг. у Саўт-Рыверы паўстала своеасаблівае „беларускае мястэчка" з уласным рэлігійным цэнтрам[5]. Першым пробашчам саўт-рыверскай парафіі быў вышэйзгаданы а. Мікалай Лапіцкі. Гэты святар меў асаблівыя заслугі ў справе арганізацыі беларускага праваслаўнага жыцця на чужыне. Лапіцкі быў чалавекам адданым сваёй справе, ахвярным і працавітым душпастырам, руплівым абаронцам каштоўнасцей, якія вызнаваў[6]. 5 чэрвеня 1954 г. архіепіскап Міхаіл надаў айцу Лапіцкаму годнасць протапрэсвітара з правам нашэння мітры[7]. Беручы пад увагу цяжкае матэрыяльнае становішча беларускіх вернікаў, уладыка звольніў іх ад абавязку аплаты штогадавога епархіяльнага падатку[8]. Парафія ў Саўт-Рыверы была вельмі руплівай і энергічнай. Саўт-рыверская грамада мела значны ўнёсак у справу арганізацыі царкоўнага руху. Шпарка развівалася дабрачынная дзейнасць. Парафія сталася буйным асяродкам грамадска-культурніцкага і асветнага жыцця эмігрантаў. Значная ўвага надавалася, таксама, выдавецкай працы. Неабходна падкрэсліць, што вернікі адчувалі вялікую патрэбу друкаванага слова. У рэшце рэшт гэтае пытанне было вырашана. Пачынаючы з 1951 г. у Саўт-Рыверы выдаваўся часопіс „Царкоўны Светач", які пачаў выходзіць як орган Беларускага праваслаўнага царкоўнага камітэта ў Амерыцы. Да ўзнікнення „Царкоўнага Светача" ў значнай ступені спрычыніўся айцец Мікалай Лапіцкі. Выданне часопіса было магчымым дзякуючы ахвяраванням і сталай падтрымцы вернікаў. Неўзабаве, пасля выхаду ў свет першага нумара, рэдакцыя апелявала да чытачоў: «„Царкоўны Сьветач" выдаецца высілкам людзей добрае волі, якія з сваіх скромных заробкаў складаюць пасільную ахвяру ў наш выдавецкі фонд. Гэтая ахвярнасьць і дала нам маг-

[5] А. Гардзіенка, *Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА)*, Смаленск 2009, с. 58.
[6] J. Garbiński, J. Turonek, *Białoruski ruch chrześcijański XX wieku. Słownik biograficzno-bibliograficzny*, Warszawa 2003, s. 221-223. Гл. таксама: *Мікалай Лапіцкі. У служэньні Богу й Беларусі*, Нью-Йорк — Варшава 2005.
[7] *Дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэр*, „Царкоўны Сьветач", 1954, № 1, с. 12-13.
[8] *Добры пастыр*, „Царкоўны Сьветач", 1958, № 1, с. 1-5.

чымасьці выпусьціць у сьвет першы нумар нашага часопісу. Мы верым у тое, што на гэтую ініцыятыву адгукнецца наша грамадскасьць і дасьць нам магчымасьць прадаўжаць выдавецтва „Царкоўнага Сьветача", пры чым у будучыні мы маем замер перайсьці з дзешавейшага фатаграфічнага на даражэйшы літаграфічны тып»[9]. Часопіс выходзіў раз альбо два разы на год у залежнасці ад грашовых магчымасцей. На працягу ўсяго часу рэдакцыя мусіла змагацца з матэрыяльнымі цяжкасцямі. Тым не менш, выданне ніколі не было спынена.

Для навукоўцаў гэтае перыядычнае выданне з'яўляецца надзвычай каштоўнай крыніцай падчас даследавання недалёкага мінулага беларускай эміграцыі, асабліва што тычыцца ейнага рэлігійнага жыцця. Нягледзячы на тое, што выдаўцы і аўтары звярталі асаблівую ўвагу на рэлігійную праблематыку, хапала, таксама, артыкулаў грамадска-палітычнага і культурніцкага зместу. Дзякуючы выданню зараз мы можам досыць дакладна прасачыць гісторыю царкоўнага жыцця эмігрантаў. Часопіс утрымлівае вельмі дакладную парафіяльную хроніку. Пры гэтым тычыцца гэта не толькі парафіі ў Саўт-Рыверы, але ў значнай ступені і іншых беларускіх асяродкаў на амерыканскім кантыненце. Асвятляліся пытанні, якія тычыліся беларускіх вернікаў у Каліфорніі, Чыкага ці Канадзе. Знаходзім тут, таксама, звесткі наконт беларускіх царкоўных грамад у Еўропе і Аўстраліі. На бачынах часопіса разгортваецца цэлы шэраг праблем, з якімі сутыкнуліся эмігранты. Раскрываюцца царкоўныя кантакты беларускіх вернікаў з эмігрантамі іншых нацыянальнасцей (у тым ліку: грэкамі, сербамі, албанцамі). Вялікая маса матэрыялу, што зразумела, тычылася рэлігійных пытанняў, істоты хрысціянскіх каштоўнасцей і догмаў. Рэдакцыя мела на мэце падтрымліваць маральна-рэлігійныя якасці чытачоў, умацоўваць іх веру і гартаваць дух. Часопіс друкаваў, таксама, літаратурныя творы. Безумоўна, асноўная ўвага надавалася БПЦ і яе гісторыі. Так, напрыклад, выдаўцы часопіса не абмінулі ўвагай гэткай падзеі, як 500 гадавіна цуду, звязанага са з'яўленнем Іконы Жыровіцкай Божай Маці[10]. Ствараўся мартыралог пакутнікаў за веру і царкву, сярод якіх пачэснае месца займалі мітрапаліт Мелхіседэк (Паеўскі)[11], а таксама князь Канстанцін Астрожскі[12]. Артыкулы, прысвечаныя гісторыі, ме-

[9] *Да нашых чытачоў*, „Царкоўны Сьветач", 1951, № 1, с. 22.

[10] А. С. Коўш, *500-годзьдзе зьяўленьня Цудадзейнае Іконы Жыровіцкае Божкае Маці*, „Царкоўны Сьветач", 1970, с. 5-9.

[11] С. К., *Высокапрэсьвяшчэньнейшы Мелхісэдэк, мітрапаліт менскі і беларускі,* „Царкоўны Сьветач", 1957, № 1 (8), с. 10-12; Ф. Высочкі, *Жыцьцё Прэпадобнамучаніка Афанасія Берасьцейскаго*, „Царкоўны Сьветач", 1960, № 1, с. 10-12.

[12] М. Лапіцкі, *350-гадовы юбілей Кн. Канстантына Канстантынавіча Астроскага*, „Царкоўны Сьветач", 1958, № 1, с. 8-12.

лі на мэце папулярызацыю ведаў пра мінулае царквы і народа. Нягледзячы на тое, што пераважная большасць публікацый мела публіцыстычны характар, траплялiся, таксама, і артыкулы, якія вылучаліся чыста навуковым падыходам[13]. Часопіс друкаваў агляд новай літаратуры, у тым ліку навуковай. Многія публікацыі тычыліся не толькі гісторыі БПЦ, але былі прысвечаны хрысціянству ў свеце. У якасці прыкладу можна звярнуць увагу на артыкул пра рэліквіі св. Мікалая, якія знаходзяцца ў мясцовасці Бары на поўдні Італіі[14].

Аўтары часопіса інфармавалі пра падзеі ў грамадска-царкоўным жыцці беларускіх эмігрантаў. Дзякуючы гэтаму можна ўявіць сабе, чым жылі і што хвалявала эмігрантаў. Аўтары і выдаўцы выдання актыўна рэагавалі на падзеі, якія адбываліся ў жыцці эміграцыйнага асяродка. На бачынах выдання „Царкоўны Светач" мы знаходзім шмат інфармацыі пра дзейнасць „канкурэнцыйнай" БАПЦ. Багата пісалася пра ўнутраны канфлікт сярод духоўнікаў і вернікаў гэтае царквы, які ўзнік у 1980-я гады[15]. Па зразумелых прычынах стаўленне рэдакцыі да БАПЦ было адмоўнае, калі не сказаць варожае. Нярэдка нават агучвалася думка, што БАПЦ з'яўляецца часовай пераходнай з'явай на шляху да акаталічвання праваслаўных вернікаў. Пра БАПЦ гаварылася як пра „крывіцкі" праект. Аўтары „Царкоўнага Светача" лічылі, што некананічная БАПЦ моцна дыскрэдытуе беларусаў у вачах іншых народаў. У сваю чаргу адносіны аўтакефалістаў да царкоўнага асяродка ў Саўт-Рыверы, таксама характарызаваліся нядобразычлівасцю і варожасцю. Сярод частых закідаў з боку прыхільнікаў БАПЦ было абвінавачванне сваіх апанентаў у нібыта русафільскіх схільнасцях. Аўтары „Царкоўнага Светача", асабліва а. Лапіцкі, пераканаўча і грунтоўна абаранялі сваю пазіцыю па гэтым пытанні. Праблематыка, якая закранaлася на бачынах часопіса, красамоўна адлюстроўвала ўсю складанасць ва ўзаемаадносінах паміж „крывічамі" і „зарубежнікамі". З абодвух бакоў часамі назіралася вялікая зацятасць, якая нярэдка набывала характар асабістых парахункаў.

Памылкаю было б аднак меркаваць, што ўнутраныя сваркі і непаразуменні здамінавалі змест часопіса. На старонках „Царкоўнага Светача" шмат месца было прысвечана ўласным справам і праблемам. Заслугоўвае ўвагі пытанне стварэння беларускай эміграцыйнай дыяцэзіі

[13] Гл.: М. Белямук, *Царкоўная архітэктура Панёманшчыны*, „Царкоўны Сьветач", 1980, № 29, с. 18-25.

[14] *Турынская плашчаніца*, „Царкоўны Сьветач", 1981, № 30, s. 6-7; *900-годзьдзе пераняссеньня мошчаў сьв. Мікалая*, „Царкоўны Сьветач", 1988, № 41, с. 13-24.

[15] *Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ізноў на судовай дарозе*, „Царкоўны Сьветач", 1980, № 29, с. 30-31; *Барацьба ўва улоньні БАПЦ не спыняецца*, „Царкоўны Сьветач", 1984, № 36, с. 7-8; *Развал БАПЦ*, „Царкоўны Сьветач", 1984, № 37, с. 11-13.

з уласным епіскапам у юрысдыкцыі Усяленскага патрыярхату. Эмігранты ўсведамлялі неабходнасць гэтага кроку, які б спрычыніўся да ўмацавання прэстыжу БПЦ і надаў бы ёй стабільны характар. 10 кастрычніка 1951 г. архіепіскап Міхаіл прыняў на аўдыенцыі беларускую дэлегацыю, якая прасіла ўладыку разгледзець іх просьбу. 26 лістапада 1957 г. архіепіскапа Міхаіла наведалі а. Лапіцкі і прэзідэнт БЦР Радаслаў Астроўскі. Такім чынам рыхтаваўся грунт пад вырашэнне гэтага пытання. Думка аб высвячэнні беларускага епіскапа была агучана на з'ездзе праваслаўных беларусаў — духавенства і вернікаў у Амерыцы 31 жніўня 1958 г. у Саўт-Рыверы[16]. Нягледзячы на пэўныя намаганні, справа аднак не кранулася з месца. 27-28 сакавіка 1970 г. у Саўт-Рыверы адбыўся чарговы з'езд праваслаўных беларусаў, падчас якога зноўку было ўзнята гэтае пытанне. Гэтым разам удзельнікі накіравалі ліст да патрыярха Афінагора, каб ён паспрыяў высвячэнню епіскапа для беларусаў[17]. З аналізу крыніц вынікае, што мэта не была дасягнута па прычыне адсутнасці адпаведнага кандыдата[18].

Працяглы час адной з галоўных тэматык, якая асвятлялася на бачынах „Царкоўнага Светача", было пытанне статусу БПЦ. Большасць артыкулаў па гэтай тэме належала аўтарству а. Лапіцкага. Чытаючы прэсу апанентаў Лапіцкага можа скласціся ўражанне, што ён належаў да зацятых праціўнікаў аўтакефаліі БПЦ. Насамрэч гэта не адпавядала сапраўднасці. Яскрава пераконваюць у гэтым ягоныя тэксты на старонках „Царкоўнага Светача". Святар не адмаўляўся ад аўтакефаліі як формы царкоўнага існавання Беларускае царквы. Цалкам, наадварот, быў свядомым яе прыхільнікам. У сваю чаргу быў перакананы, што наданне статусу аўтакефальнае царквы можа адбыцца толькі кананічным шляхам і не браў пад увагу ніякай іншай магчымасці[19]. У адным з артыкулаў ён зазначаў: „Праваслаўная Беларуская царква — гэта Царква нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў. Пад яе духоўнай апекай падобна як у мінулым, так і цяпер мы зможам захавацца як нацыя, служыць Богу і змагацца за вольнасць і незалежнасць Беларусі"[20]. Лапіцкі лічыў, што ўстанаўленне аўтакефаліі мусіць адбыцца на здаровым грунце, а менавіта праз атрыманне згоды Усяленскага патрыярха[21]. На думку айца

[16] *Рэзалюцыя зьезду праваслаўных беларусаў: духавентсва і вернікаў з Амэрыкі і Канады з дня 31 жніўня 1958 году у Саўт Рывэры, Нью Джэрсі, СШПА*, „Царкоўны Сьветач", 1958, № 1, с. 5.

[17] *Яго сьвяцейшаму патрыярху Афінагору І*, „Царкоўны Сьветач", 1970, № 1, с. 31-34.

[18] А. Гардзіенка, *Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі...*, с. 167.

[19] М. Лапіцкі, *Дваццаціпяцігодзьдзе Беларускага Аўтакефальнага Праваслаўнага Сабору. Менск — 1942*, „Царкоўны Сьветач", 1967, № 1, с. 7-13.

[20] М. Лапіцкі, *Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква і яе гістарычныя даты дваццатага стагодзьдзя*, „Царкоўны Сьветач", 1957, № 1 (8), с. 9.

[21] М. Лапіцкі, *У імя праўды*, „Царкоўны Сьветач", 1953, № 1 (4), с. 12.

Мікалая, незалежнасць Беларускай царквы магла канчаткова аформіцца толькі пры ўмове атрымання поўнай дзяржаўнай незалежнасці, на бацькаўшчыне, але ні ў якім выпадку не на эміграцыі, дзе знаходзілася нязначная частка беларускага грамадства. Да моманту канчатковага ўстанаўлення царкоўнае незалежнасці духоўнік прапаноўваў, каб БПЦ на эміграцыі знаходзілася ў юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату. Гэты варыянт Лапіцкі небеспадстаўна лічыў вяртаннем беларускага праваслаўя да Царквы-Маці. Абгрунтоўваў гэта перш за ўсё гістарычнымі прычынамі, падкрэсліваючы факт хрысціянізацыі беларускіх зямель з Візантыі[22].

Царкоўны асяродак у Саўт-Рыверы меў досыць напружаныя адносіны з расійскім духавенствам. На старонках часопіса „Царкоўны Светач" можна трапіць на артыкулы, якія сведчаць пра крытычнае стаўленне рэдакцыі да дзейнасці Маскоўскага патрыярхату на Беларусі. Рэдакцыя рашуча адкідвала расійскі характар праваслаўя на Беларусі. Аспрэчвалася кананічная ўлада Маскоўскага патрыярхату над БПЦ. Неўзабаве ў гэтых справах выдаўцы і аўтары „Царкоўнага Светача" спрачаліся з прадстаўнікамі расійскага духавенства. Крытыкаваліся, таксама, захады Рускай праваслаўнай царквы (РПЦ) на міжнароднай арэне. У 1970 г., калі са згоды Маскоўскага патрыярхату, было абвешчана аб утварэнні новай аўтакефальнай царквы — Амерыканскай праваслаўнай царквы, беларускі бок сустрэў дадзены крок вельмі адмоўна[23]. У часопісе нярэдка змяшчаліся матэрыялы прысвечаныя гісторыі Праваслаўнай царквы на землях Вялікага Княства Літоўскага. Царква ў ВКЛ разглядалася як беларуская аўтакефалія ў мінулым, якая паўстала ў 1415 годзе, калі ў Наваградку адбыўся сабор, падчас якога было абвешчана ўтварэнне літоўскай мітраполіі, незалежнай ад Масквы[24].

Часопіс „Царкоўны Светач" з'яўляецца, таксама, добрай крыніцай ведаў пра міжканфесійныя ўзаемадачыненні сярод беларускіх эмігрантаў. Перш за ўсё гаворка ідзе пра праваслаўна-каталіцкія стасункі. Аналіз матэрыялу дазваляе зрабіць выснову, што адносіны аўтараў і выдаўцоў часопіса да суайчыннікаў каталіцкага веравызнання былі станоўчыя. Яскрава сведчыць пра гэта ліставанне айца Лапіцкага з прадстаўнікамі беларускага рыма-каталіцкага духавенства на эміграцыі. Праваслаўная грамада Саўт-Рывера аказвала дапамогу братам-каталікам, якія не мелі ўласнай святыні. Лапіцкі асабіста дапамагаў

[22] М. Л., *Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква*, „Царкоўны Сьветач", 1952, № 2, с. 7.

[23] М. Лапіцкі, *Амэрыканска-Маскоўская „Аўтакефалія"*, „Царкоўны Сьветач", 1970, № 1, с. 10-14.

[24] *Грэцыя — крыніца веры нашых продкаў*, „Царкоўны Сьветач", 1951, № 1, с. 7-9.

ксяндзу Францішку Чарняўскаму ладзіць набажэнствы для эмігрантаў. Са згоды пробашча царквы св. Еўфрасінні Полацкай у мясцовай парафіяльнай друкарні выходзіў каталіцкі часопіс „Сяўбіт”, які выдаваўся вышэйзгаданым айцом Чарняўскім[25]. І хоць на старонках часопісу можна сустрэць публікацыі, аўтары якіх дыскутавалі з каталіцкімі дзеячамі альбо выказвалі сваё бачанне ў спрэчных пытаннях, мелі яны характар палемікі па царкоўна-гістарычных справах і не выходзілі па-за межы натуральнага абмену думкамі. Галоўны рэдактар „Царкоўнага Светача” ўтрымліваў братэрскія сувязі з духавенствам Украінскай грэка-каталіцкай царквы. Інакш аднак складваліся адносіны з беларускімі каталікамі ўсходняга абраду. Аўтары „Царкоўнага Светача” досыць востра і эмацыянальна рэагавалі на праявы актыўнасці духоўнікаў усходняга абраду ў эміграцыйных асяродках, разглядаючы яе як умешванне ва ўнутрыцаркоўныя справы[26]. Неабходна адзначыць, што пытанне стаўлення да ўсходняга абраду абмяркоўвалася не толькі на старонках „Царкоўнага Светача”. Гэтая тэма выклікала цікавасць аўтараў іншай тагачаснай беларускай эміграцыйнай прэсы[27]. Адносіны Лапіцкага да ўсходняга абраду не вынікалі толькі з ягоных асабістых перакананняў. Каб зразумець прычыны дадзеных непаразуменняў, неабходна разглядаць гэтую справу ў значна шырэйшым кантэксце. Належыць узгадаць, што пераважную большасць эмігрантаў складалі жыхары Заходняй Беларусі — грамадзяне міжваеннай польскай дзяржавы. Міжканфесійныя адносіны на заходнебеларускіх землях у даваенны перыяд былі досыць складаныя і часамі напружаныя. Стаўленне грамадства і палітычных элітаў да ўсходняга абраду было неадназначным і супярэчлівым. Неаунія сталася дадатковым элементам у складаных міжцаркоўных узаемаадносінах, які выклікаў шмат спрэчак і часта з'яўляўся нават прычынай канфліктаў[28]. Досвед, які вынеслі эмігранты з бацькаўшчыны, даваў аб сабе знаць і на чужыне. Пасля Другой сусветнай вайны на Захадзе апынулася вельмі

[25] *З дакладу а. протапрэсьвіцера Мікалая Лапіцкага, „Сучаснае становішча Беларускай Праваслаўнай Царквы ў вольным сьвеце і патрэбныя мерапрыемствы для ўзьняцьця царкоўнага жыцьця", прачытанага на Зьезьдзе беларусаў ЗША і Канады ў Торонто (Канада) дня 4 верасьня 1960 г.*, „Царкоўны Сьветач”, 1960, № 1, с. 14.

[26] К. Загонак, *Ні Рым, ні Масква, а незалежны Менск*, „Царкоўны Сьветач”, 1958, № 1, с. 13-16.

[27] Я. Пітушка, *Рым ці Масква*, „Беларускі Голас”, 1957, № 36; „Беларускае Слова”, 1956, № 2.

[28] Шырэй: M. Papierzyńska-Turek, *Między tradycją a rzeczywistością. Państwo wobec prawosławia 1918-1939*, Warszawa 1989, s. 404-441; M. Mróz, *Katolicyzm na pograniczu. Kościół katolicki wobec kwestii ukraińskiej i białoruskiej w Polsce w latach 1918-1925*, Toruń 2003, s. 262-268; A. Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, s. 573-579; E. Mironowicz, *Polityczne uwarunkowania funkcjonowania Kościoła prawosławnego w Polsce w latach 1920-1939*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne”, 2005, nr 24, s. 122-137; G. J. Pelica, *Kościół prawosławny w województwie lubelskim (1918-1939)*, Lublin 2009, s. 135-201.

нязначная колькасць беларускіх каталікоў усходняга абраду. У той самы час там знаходзілася некалькі святароў, якія разгарнулі місійную дзейнасць сярод родзічаў. Былі створаны місіі ў Парыжы і Лондане. Стаўленне „Царкоўнага Светача" да гэных місій было адмоўным. Лічылася, што дзейнасць уніятаў не будзе спрыяць кансалідацыі беларускай грамадскасці, а наадварот, можа стаць крыніцай сур'ёзных закалотаў у нешматлікім эміграцыйным асяроддзі[29]. Вельмі адмоўна аўтары часопіса сустрэлі навіну аб высвячэнні ў 1960 г. Чэслава Сіповіча на епіскапа ўсходняга абраду. На бачынах часопіса з'явіўся зварот духавенства БПЦ у юрысдыкцыі Канстанцінопальскага патрыярхату да беларусаў розных веравызнанняў. У дакуменце заклікалася да захавання ўзаемнае пашаны і рэлігійнай талерантнасці. Звярталася ўвага на тое, што існуе вострая патрэба дапамогі беларускім эмігрантам рыма-каталіцкага веравызнання. Тым часам лічылася немэтазгодным высвячэнне епіскапа на патрэбы жменькі беларусаў-каталікоў усходняга абраду. Бачылася ў гэтым пагроза чарговых падзелаў і непаразуменняў[30]. Не меншыя насцярогі выклікала хіратонія ў 1983 г. Уладзіміра Тарасевіча, апостальскага візітатара для каталікоў-беларусаў на чужыне[31].

Як згадвалася раней, стасункі паміж асяродкам у Саўт-Рыверы і каталіцкім духавенствам усходняга абраду былі непрыхільныя. Абодва бакі ўзаемна сябе крытыкавалі. Цалкам дыяметральна ацэньвалася роля, якую адыграла ў гісторыі беларусаў Берасцейская унія і звязаныя з ёй падзеі і асобы. Сведчанне гэтага можна, таксама, адшукаць на бачынах „Цакроўнага Светача". Дадатковым чыннікам, які пагаршаў сітуацыю, быў факт, што духавенства ўсходняга абраду было звязана з дзеячамі Рады БНР Мікалая Абрамчыка. У сваю чаргу, як ужо адзначалася, саўт-рыверскі асяродак гуртаваўся вакол Беларускай цэнтральнай рады на чале з Радаславам Астроўскім. Такім чынам, можна меркаваць, што палітычныя падзелы адыгралі не апошнюю ролю ў гэтым канфлікце.

На старонках „Царкоўнага Светача" закранналася праблематыка звязаная з палітычный сітуацыяй у свеце. У публікацыях выразна адчуваўся подых халоднай вайны, які тады панаваў у міжнародных адносінах. Напрыклад, у 1955 г. быў змешчаны артыкул, прысвечаны звароту маскоўскага патрыярха Алексія I і трох іерархаў РПЦ

[29] Н. Гардзіенка, *Беларусы ў Вялікабрытаніі*, Мінск 2010, с. 381.

[30] *Беларуская праваслаўная царква ў юрысдыкцыі канстантынопальскай патрыярхіі. Адозва*, „Царкоўны Сьветач", 1960, № 1, с. 1-3. Гл. таксама: Вокс, *„Сьцеражыцеся ілжэпрарокаў, каторыя прыходзяць да вас у авечай скуры, а ў сярэдзіне ёсьць ваўкамі хіжымі"*, „Царкоўны Сьветач", 1960, № 1, с. 4-9.

[31] *Мэта апраўдвае сродкі*, „Царкоўны Сьветач", 1984, № 36, с. 9-12.

да міжнароднай супольнасці, які тычыўся стану сусветнай бяспекі. Заклік савецкіх іерархаў да захавання спакою ў свеце быў расцэнены як чарговы здзек камуністычнага рэжыму над Царквой[32]. У часопісе сустракаюцца, таксама, артыкулы, у якіх асвячаліся праблемы Праваслаўнай царквы ў іншых краінах. Так, у адным з нумароў „Царкоўнага Светача" выказвалася салідарнасць з правадыром кіпрскіх грэкаў архіепіскапам Макарыясам, які 25 лістапада 1958 г. выступіў у ААН у абароне сваіх родзічаў на выспе[33]. З гонарам часопіс пісаў пра ўстанаўленне інстытуту вайсковых капеланаў праваслаўнага веравызнання ва ўзброеных сілах ЗША[34]. Выдаўцоў „Царкоўнага Светача" аб'ядноўвалі братэрскія сувязі з духавенствам і вернікамі Украінскай праваслаўнай царквы ў Амерыцы. 20 чэрвеня 1956 г. з нагоды свята Іконы Жыровіцкай Божай Маці архіепіскап Паладзій перадаў беларускай парафіі ў Саўт-Рыверы частку каменя, на якім адбыўся цуд з'яўлення святога абраза[35]. Рэдакцыя заўсёды ўважліва сачыла за падзеямі, якія адбываліся ў рэлігійным жыцці на бацькаўшчыне. Адна з публікацый распавядала пра вяртанне ў 1947 г. у Вільню рэліквій Трох Віленскіх Пакутнікаў[36]. Варты ўвагі, таксама, артыкул а. Лапіцкага пра Супрасльскі манастыр. Аўтар звярнуў увагу на вяртанне ў 1968 г. у Польшчу „Супрасльскага кодэкса"[37]. Не прайшоў незаўважаным для „Царкоўнага Светача", таксама, прыезд у 1987 г. у Польшчу і Ватыкан Усяленскага патрыярха Дзмітрыя І[38].

Пасля смерці айца Лапіцкага ў 1976 г. справу выдання часопіса працягваў айцец Святаслаў Коўш, новы пробашч парафіі св. Еўфрасінні Полацкай. Гэты святар у 1977 г. стаў адміністратарам усіх беларускіх праваслаўных парафій у юрысдыкцыі Усяленскага патрыярха на тэрыторыі ЗША і Канады. Дзякуючы ягоным намаганням часопіс выдаваўся яшчэ на працягу некалькіх наступных гадоў. Разам з прыходам новага рэдактара фармат часопіса не змяніўся. Можна аднак заўважыць павелічэнне лічбы артыкулаў на англійскай мове. Па-ранейшаму перавага надавалася царкоўным і грамадска-культурніцкім справам. Як і раней сярод асноўных нявырашаных праблем была адсутнасць

32 С. К., *Чарговы зьдзек бальшавікоў над Праваслаўнаю Царквою*, „Царкоўны Сьветач", 1955, № 1 (6), с. 2-5.
33 А. М., *Кіпрская праваслаўная царква. Прыклад любові да сваёй царквы і нацыі*, „Царкоўны Сьветач", 1958, № 1 (8), с. 12.
34 *Праваслаўная царква ўключана ў рэгулямін амэрыканскае арміі*, „Царкоўны Сьветач", 1980, № 29, с. 26.
35 *Сьвятая і дарагая беларускаму сэрцу рэліквія*, „Царкоўны Сьветач", 1956, № 1 (7), с. 1-2.
36 *Беларуская хроніка*, „Царкоўны Сьветач", 1957, № 1 (8), с. 24.
37 М. Лапіцкі, *Беларускі праваслаўны манастыр у Супрасьлі і яго „Супрасьльская рукапісь"*, „Царкоўны Сьветач", 1968, № 29, с. 4-9.
38 *Усяленскі Патрыярх на Беларусі*, „Царкоўны Сьветач", 1988, № 41, с. 18-19.

уласнага беларускага епіскапа. Не хаваючы незадавальнення айцец Коўш адначасова падкрэсліваў, што гэтая праблема датычыць не толькі беларускіх эмігрантаў, але з ёй змагаюцца, таксама, прадстаўнікі іншых нацыянальных груп на чужыне[39]. Часопіс актыўна каментаваў падзеі, якія адбываліся ў жыцці іншых хрысціянскіх цэркваў: каталіцкай і пратэстанцкіх. Апрача таго, рабіўся агляд экуменічнай дзейнасці. Асвятлялася стаўленне грамадства і прадстаўнікоў свету палітыкі да актыўнасці паасобных хрысціянскіх цэркваў. На старонках часопісу мы знаходзім, таксама, матэрыялы пра становішча царквы за „жалезнай заслонай"[40].

Нягледзячы на свой рэлігійны напрамак часопіс мусіў рэагаваць на цалкам свецкія справы, якія хвалявалі эмігранцкую супольнасць. Менавіта ў перыяд рэдагавання часопіса а. Каўшом у жыцці беларускай дыяспары ў ЗША адбыўся пэўны непрыемны інцыдэнт. Эміграцыйны асяродак, як, дарэчы, усіх амерыканскіх беларусаў на пачатку 1980-х гг. ускалыхнула г.зв. справа Лофтуса. Былы супрацоўнік Бюро спецыяльных расследаванняў пры Дэпартаменце юстыцыі Джон Лофтус публічна заявіў, што пасля вайны ў ЗША прыбыла група беларускіх нацыяналістаў, якія падчас нямецкай акупацыі здзяйснялі ваенныя злачынствы. Сярод абвінавачаных у супрацоўніцтве з нацыстамі апынулася шмат вядомых дзеячаў пасляваеннай беларускай эміграцыі, у тым ліку шмат жыхароў Саўт-Рывера. Беларуская дыяспара была вымушана абараняцца ад нападаў. У баку не мог застацца, таксама, рэдактар „Царкоўнага Светача". У адным з нумароў свайго часопіса айцец Коўш выказаў уласнае меркаванне наконт акцыі Лофтуса, ацэньваючы ягоную дзейнасць як беспадстаўнае ачарненне беларускага боку[41].

У 1988 г. пабачыў свет апошні нумар „Царкоўнага Светача". Не апошнюю ролю ў тым, што спыніўся выхад гэтага перыядычнага выдання, адыгралі матэрыяльныя клопаты эмігрантаў. Такім чынам, скончыўся істотны этап у рэлігійным жыцці беларускае дыяспары. Варта адзначыць, што „Царкоўны Светач" з'яўляецца адным з найбольш даўгавечных эміграцыйных выданняў. Як ужо згадвалася, можна яго лічыць каштоўнай крыніцай па гісторыі пасляваеннай беларускай эміграцыі. Несумненна, выданне адыграла істотную ролю ў жыцці беларускіх вернікаў на чужыне. Гэтая роля з'яўляецца тым больш зразумелай і выразнай, калі ўзяць пад увагу тое, што рэлігія

39 *Сабор беларускае праваслаўнае епархіі ў Паўночнай Амэрыцы 18 траўня 1985 г.*, „Царкоўны Сьветач", 1985, № 39, с. 7.

40 *Польскія камуністы разбурылі цьвяцісты крыж*, „Царкоўны Сьветач", 1983, № 35, с. 19.

41 *Slanderring the Nation*, „Царкоўны Сьветач", 1983, № 34, с. 1-10.

займала важкае месца ў штодзённым жыцці эмігрантаў, а таксама была адным з асноўных чыннікаў захавання нацыянальнай тоеснасці на чужыне. Рэлігійныя арганізацыі эмігрантаў праіснавалі найдаўжэй з усіх, асабліва ў параўнанні з палітычнымі, якія аказаліся значна больш кволымі. Безумоўна, вядучую ролю ў выданні часопіса адыграў айцец протапрэсвітар М. Лапіцкі. Ён не толькі рэдагаваў грамадска-рэлігійны часопіс, але і быў духоўным натхняльнікам і правадыром беларускай грамады ў Саўт-Рыверы. Як вельмі адукаваны чалавек сваім аўтарытэтам ён уплываў на суайчыннікаў і займаўся іх духоўным акармленнем. Напрыканцы варта працытаваць словы рэдакцыі „Царкоўнага Светача", якія былі напісаныя ў 5-ю гадавіну існавання парафіі ў Саўт-Рыверы: „На самай справе чым сталася Беларуская Праваслаўная Царква ў Саўт Рывэры для беларускага эмігранта на першай і яшчэ цяперашняй стадыі яго прабываньня ў Новым Сьвеце? Адказваючы каротка — усім: супольным месцам малітваў, нацыянальным яднаньнем, кавалачкам старой Бацькаўшчыны, апраўданьнем і напамінам"[42]. Мы думаем, што гэтыя словы з упэўненасцю можна аднесці і да самога часопіса, паколькі ў тагачасных умовах запатрабаванне на ўласнае друкаванае слова, прысвечанае рэлігійнай праблематыцы, было сапраўды значным.

**Summary**

**„Carkoŭny Śvietač" magazine in the years 1951-1988 – Belarusian Orthodox journalism abroad**

Following World War II, a number of Belarusian emigrants stayed in Western countries. The vast majority were Orthodox. In the United States, the Eufrazyna Potocka Parish in South River, New Jersey, became a vibrant center for Orthodox religion among emigrant population. Here, in the years 1951-1988, Rev. Mikołaj Łapicki founded and became the first editor of „Carkoŭny Śvietač" magazine. The publications were mostly devoted to contemporary Belarusian Orthodox Church both at home and abroad. In addition to its religious content, the periodical also published social, political, and cultural commentary. „Carkoŭny Śvietač", beside exerting a significant religious impact, is also an important historical review illustrating the lives of postwar Belarusian emigrants.

**Streszczenie**

**Z dziejów białoruskiej prawosławnej prasy na emigracji. Czasopismo „Carkoŭny Świetacz" (1951-1988)**

Po zakończeniu II wojny światowej na Zachodzie znalazła się pewna liczba Białorusinów. Pod względem wyznaniowym większość stanowili wierni Kościoła prawosławnego. Jednym z najliczniejszych i prężnie rozwijających się ośrodków białoruskiego prawosławia na obczyźnie była parafia św. Eufrozyny Połockiej w South River (stan New Jersey). W latach 1951-1988 wydawano tam czasopismo „Carkoŭny Świetacz", którego założycielem i pierwszym redaktorem był ks. Mikołaj Łapicki. Treść czasopisma zdominowały spra-

[42] М. С., *Адзначаючы пяцігодзьдзе*, „Царкоўны Сьветач", 1956, № 1 (7), с. 9.

wy związane z historią i teraźniejszością Białoruskiej Cerkwi Prawosławnej w kraju i za granicą. Mimo religijnego charakteru periodyku, na jego łamach publikowano również artykuły o treści społeczno-politycznej i kulturalnej. Czasopismo stanowi bardzo cenne źródło do dziejów powojennej emigracji białoruskiej na Zachodzie. „Carkoŭny Świetacz" odegrał istotną rolę w życiu religijnym emigrantów białoruskich.

**Marzena Grzybowska** — literaturoznawca i historyk. Skończyła Miński Państwowy Uniwersytet Lingwistyczny. Odbyła studia doktoranckie w Uniwersytecie Warszawskim. Zainteresowania badawcze: historia spuścizny literackiej i religijnej emigracji białoruskiej na Zachodzie po II wojnie światowej. Autorka szeregu artykułów naukowych w czasopismach polskich i zagranicznych.

**Віталь Галубовіч**
(Горадня)

## Бельскі сойм і прывілей 1564 года ў беларускай гістарыяграфічнай традыцыі

Канструяванне гістарычнай памяці беларусаў пачалося ў XIX ст., а ўласна беларускі погляд на мінулае выявіўся толькі ў пачатку XX стагоддзя[1]. Кожная мадэрная нацыянальная традыцыя, у тым ліку і беларуская, імкнулася, у першую чаргу, абгрунтаваць права на існаванне народа, у тым ліку права на незалежнасць у будучыні і, натуральна, уласнае бачанне мінулага. Але беларуская гістарыяграфія на тое і беларуская, каб знайсці шлях павыкручасцей. Ёй прыйшлося пацярпець найболей як з-за канкурэнцыі з суседзямі, так і з-за фізічнага знішчэння ды ідэалагічнага ціску. Так атрымалася, што перад пачынальнікамі беларускай гістарыяграфічнай традыцыі не стаяла першачарговая задача вывучэння гісторыі прававой культуры і прадстаўнічых інстытутаў, у сувязі з чым можна было паспекуляваць на ілюстрацыі эвалюцыі так званых шляхецкіх вольнасцей у часы Вялікага Княства Літоўскага з мэтай давесці пастулат пра пераемнасць мінулага і сучаснасці. Гэты варты асаблівага шанавання фрагмент гісторыі амаль без бою здаваўся палякам і літоўцам, пры ўсім тым, што ўжо на пачатку XX ст. мелася шмат доказаў аўтахтоннасці парламенцкіх традыцый на беларускіх землях. Усведамленне гэтага ў прафесійных гісторыкаў было, аднак да асэнсавання каштоўнасці парламенцкай гісторыі беларуская навука дайшла толькі на мяжы XX і XXI стагоддзяў. На вялікі жаль, айчынная гістарыяграфія дагэтуль не ў стане аднолькава добра асвятляць усе перыяды нашага мінулага, а асобныя спецыялісты па парламенцкай гісторыі займаюцца амаль выключна часамі Рэчы Паспалітай.

Паколькі не існуе айчынных даследаванняў, прысвечаных асобным соймам ВКЛ[2], паспрабуем прааналізаваць інфармацыю пра Бельскі сойм 1564 года і яго пастановы, якая сустракаецца ў працах беларускіх гісторыкаў.

[1] Р. Ліднер, *Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX-XX ст.* Санкт-Пецярбург 2003, с. 70-80.
[2] Матэрыялы, прысвечаныя асобным аспектам соймавай гісторыі ВКЛ, тут не ўлічваюцца.

## Сінтэзы гісторыі

Многае з таго, на чым грунтуецца сучасная беларуская, у тым ліку масавая, свядомасць, не заўжды ўключалася ў канон актуальных для нацыі ведаў. У першым сінтэзе айчыннай гісторыі — *Кароткай гісторыі Беларусі* Вацлава Ластоўскага не тое што пра Бельскі сойм ці адпаведны гаспадарскі прывілей, але нават пра Статут 1566 г. няма згадкі[3].

У ліку сінтэзаў, створаных у 1920-я гады, пачэснае месца займае праца Уладзіміра Пічэты *Гісторыя Беларусі*, якая пабачыла свет у 1924 годзе[4]. Гэтае даследаванне, перавыдадзенае толькі ў 2005 г., вартае асаблівай увагі. Уласна тут упершыню ў абагульняючых працах па айчыннай гісторыі быў згаданы сойм у Бельску як важны этап у рэфармаванні палітычнага ладу ВКЛ. Канешне, будучы акадэмік не ствараў пад беларускую гісторыю арыгінальны тэкст, ён толькі перафразаваў адпаведны фрагмент свайго нарыса, прысвечанага гісторыі літоўскай дзяржавы[5]. Уладзімір Пічэта схематычна абмаляваў прычыны склікання сойма, які адбываўся ва ўмовах барацьбы шляхты за роўныя правы з „літоўска-беларускім магнацтвам", якое пад уплывам вайны з Масквой было вымушана пайсці на саступкі. Характарызуючы наступствы гэтага, У. Пічэта адзначыў наступнае: „На **Бельскім сойме** (1563)[6] усе магнаты адмовіліся ад усіх сваіх судовых прывілеяў, прызналі агульную падсуднасць і юрысдыкцыю новых земскіх ураднікаў. Але ўсе абяцанні **Бельскага прывілея** былі ажыццёўлены толькі праз два гады"[7]. І хаця кемліваму чытачу давалася магчымасць самастойна здагадацца пра змест „усіх абяцанняў Бельскага прывілея", тым не менш, пералік адміністрацыйных і інстытуцыйных змен у княстве, якія адбыліся пасля выдання прывілея, павінен быў засведчыць рэвалюцыйны характар пастаноў Бельскага сойма.

Вельмі агульная характарыстыка такога палітычнага інстытута, як сойм ВКЛ, была дадзена Усеваладам Ігнатоўскім у *Кароткім нарысе гісторыі Беларусі*, які абапіраўся на аўтарытэтныя працы знакамітага знаўцы літоўскага парламентарызму Мацвея Любаўскага і таго ж Уладзіміра Пічэты[8]. Месца для апісання пастаноў соймаў часоў ВКЛ, у тым ліку Бельскага, У. Ігнатоўскі не знайшоў, а вось пры апісанні

[3] Власт, *Кароткая гісторыя Беларусі з 40 рысункамі*, Вільня 1910.
[4] У. І. Пічэта, *Гісторыя Беларусі*, Мінск 2005, 179 с.
[5] В. И. Пичета, *История белорусского народа*, Минск 2003, с. 7, 175-176.
[6] Памылкова, трэба 1564 г.
[7] У. І. Пічэта, *Гісторыя Беларусі*, с. 163.
[8] У. М. Ігнатоўскі, *Кароткі нарыс гісторыі Беларусі*, Мінск 1991, с. 108-109, 183.

сацыяльна-палітычнага ладу і становішча Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай ён на дзіва шырока карыстаўся звесткамі з гісторыі парламентарызму, больш таго, яны ўтвараюць асноўны фон для яго разваг[9]. Згаданы ў раздзеле *Культурная праца* факт „выдання" Статута 1566 г. цікавы быў Ігнатоўскаму толькі ў кантэксце ілюстрацыі пэўнай „эвалюцыі", а менавіта таго, што „перамены жыцця і польскі ўплыў налажылі на іх зьмест сваю пячатку". Такім чынам, і Бельскі сойм, калі ісці ўслед за логікай гісторыка, мусіў быць адным з этапаў фармавання не толькі „новых форм права", але і ўсталёўваў „новы сацыяльны строй польскага пэрыоду беларускай гісторыі, увесь прасякнуты панскімі, шляхоцкімі поглядамі і тэндэнцыямі"[10]. У цэлым жа, у працы У. Ігнатоўскага ідэалогія адчувальна дамінуе над стрыманым навуковым аналізам.

У створанай у 1920-я гады, але не выдадзенай у той час *Гісторыі Беларусі* Мітрафана Доўнара-Запольскага Бельскі сойм згаданы двойчы. Першы раз як важны этап у рэфармаванні судовай сістэмы: „(...) на Бельскім сойме ў 1564 г. ваяводы, старосты і дзяржаўцы адмовіліся **добраахвотна** ад судовых даходаў, звязаных з іх званнем суддзяў, і тады распачата судовая рэформа ў жаданым для шляхты сэнсе, таму што фармальных перашкод пры арганізацыі суда ўжо не існавала"[11]. Адсюль відавочна, што М. Доўнар-Запольскі імкнуўся падкрэсліць кампрамісны характар Бельскага прывілея, у адрозненне ад У. Пічэты, які прадстаўляў падзеі 1564 г. у кантэксце жорсткага супрацьстаяння. Другі раз згадка пра сойм спатрэбілася ў раздзеле з характарыстыкай эвалюцыі заканадаўства ў ВКЛ, дзе вельмі лаканічна адзначана: „Фармальна Статут быў прыняты на **Бельскім сойме**, але ўведзены ў дзеянне з 26 студзеня 1566 г. на Віленскім сойме 1565 года"[12]. Магчыма, праз нявычытанасць рукапісу ў тэкст трапілі і пэўныя недарэчнасці, а менавіта суаднясенне з 1564 г. падзей на Берасцейскім (?) сойме (бліжэйшы ў Берасці адбыўся ажно ў 1554 г.), калі было ўзнята пытанне пра новую рэдакцыю Статута.

Нельга не заўважыць наступную істотную акалічнасць: у тых сінтэзах, якія былі створаны прафесійнымі знаўцамі эпохі ВКЛ (У. Пічэта і М. Доўнар-Запольскі), факт правядзення сойма ў Бельску вылучаны як заўважная гістарычная вяха, пры гэтым згадваўся ён на тле міжстанавай барацьбы і прававой гісторыі.

[9] Там жа, с. 125-140.
[10] Там жа, с. 100.
[11] М. В. Доўнар-Запольскі, *Гісторыя Беларусі*, Мінск 1994, с. 134-135.
[12] Там жа, с. 143-144.

Беларуская савецкая гістарыяграфія ў 1950-1980-я гады асаблівыя акцэнты на парламенцкіх традыцыях не ставіла, але абысціся без згадкі пра інстытут праватворчасці, якім з'яўляўся сойм, ёй не ўдавалася. У першай паваеннай спробе інтэрпрэтацыі айчыннай гісторыі пра Бельскі сойм і адпаведны акт нічога не знаходзім, але яны, напэўна, маюцца на ўвазе, што відаць па наступнай цытаце: „На працягу 60-х гадоў XVI ст. шляхта Літоўскай дзяржавы, у тым ліку і беларуская, дамаглася для сябе новых прывілееў. (...) Быў складзены другі Статут, прыняты на сойме 1566 г. Другі Статут прадугледжваў і замацоўваў удзел шляхты ў дзейнасці сойма"[13]. У наступных версіях беларускай гісторыі, абмінаючы 1564 г., увага аўтараў канцэнтравалася адразу на Статуце 1566 г. як на значным этапе рэфармавання дзяржаўнага і судовага ладу, а таксама абмежавання правоў магнатаў[14]. Такім чынам, толькі валодаючы больш грунтоўнымі ведамі, можна было пераадолець савецкае ігнараванне канкрэтыкі.

У постсавецкай беларускай гістарыяграфіі згадкі пра Бельскі сойм маюць нерэгулярны характар. Некаторыя аўтары лічаць неабходным нагадаць пра падзею, іншыя абмінаюць яе ўвогуле. У *Нарысах гісторыі Беларусі*, найбольш знакавым у 1990-я гады сінтэзе нацыянальнай гістарыяграфіі, Бельск згадваецца ажно двойчы, але толькі як усходнеславянскі горад, што ўваходзіў у сферу ўплыву Берасця[15]. Упершыню ж Бельскі сойм вярнуўся ў абагульняючыя працы па беларускай гісторыі ў 1996 г. У выдадзенай у гэтым годзе калектывам аўтараў *Гісторыі Беларусі* Бельскі сойм, што праўда, без назвы месца правядзення, быў устаўлены ў ланцуг падзей, якія папярэднічалі заключэнню Люблінскай уніі: „Каб неяк кансалідаваць грамадства, збіць прапольскія настроі шляхты, магнацкая апазіцыя на чале з Радзівіламі пайшла на значную мадэрнізацыю ўнутранай палітыкі. Яна ўвасобілася ў прыняцці пастановы 1563 г., паводле якой праваслаўная і каталіцкая шляхта поўнасцю ўраўноўвалася ў правах, ва ўхваленні **на сойме 1564 г.** судовай рэформы, якая на польскі ўзор дазваляла ствараць мясцовыя суды, дзе галоўную ролю адыгрывала шляхта"[16]. Цікава, што такі погляд фармаваў становчую адзнаку арыстакратычных колаў ВКЛ, якія выяўляліся схільнымі да супрацы і больш патрыятычнымі, чым шэраговая шляхта.

[13] *История Белорусской ССР*, т. I, Мінск 1954, с. 88.

[14] *История Белорусской ССР*, т. I, Мінск 1961, с. 112; *Гісторыя Беларускай ССР*, Мінск 1972, с. 226.

[15] *Нарысы гісторыі Беларусі*: *У 2-х частках*, ч. 1. Мінск 1994, с. 67, 100.

[16] *Гісторыя Беларусі*, Мінск 1996, с. 87-88.

Наступны раз пра сойм у Бельску ўспомнілі ў сумесным праекце Гродзенскага і Беларускага дзяржуніверсітэтаў *Гісторыя Беларусі: У 2 частках*. Святлана Марозава, аўтарка раздзела пра рэформы ў ВКЛ, адзначыла: „Шляхта патрабавала, каб яе судзіў не вялікі князь і яго адміністрацыя, а сама шляхта. Бельскі сойм 1564 г. устанавіў земскія суды — выбарныя шляхецкія саслоўныя суды, упершыню цалкам аддзеленыя ад мясцовай адміністрацыі. Канчатковае прававое афармленне яны атрымалі Статутамі 1566 і 1588 гадоў”[17].

Падзеі ў Бельску ў 1564 г. былі зашыфраваныя і ў найбольш адметным аўтарскім праекце беларускай гістарыяграфіі — *Нарысе гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя* Генадзя Сагановіча. Распавядаючы пра падрыхтоўку уніі, аўтар заўважыў, не пазначаючы дэталяў, наступнае: „За 1563-1568 г. ён [Жыгімонт Аўгуст] правёў 6 соймаў, кожны з якіх займаўся дзяржаўна-прававымі пытаннямі”[18], а ў іншым месцы канстатаваў: „Пад націскам шляхты магнаты ў 1564 г. адракліся ад свайго асобнага статусу ў судовых справах і фармальна, згодна з літарай права, прыраўняліся да ўсяго рыцарства”[19]. Натуральна, што ў першай цытаце гаворка ідзе і пра Бельскі сойм, а ў другім — пра Бельскі прывілей. Апошняя цытата даслоўна перакачавала ў раздзел пра судовую рэформу падручніка па айчыннай гісторыі пад рэдакцыяй доктара гістарычных навук Юрыя Бохана і прафесара Віталя Галубовіча, дзе, дарэчы, Бельскі сойм 1564 г. пералічаны ў шэрагу соймаў, на якіх вяліся перамовы адносна уніі паміж ВКЛ і Польскім Каралеўствам[20].

Апошнім буйным праектам беларускіх гісторыкаў стала выданне *Гісторыі Беларусі* ў шасці тамах. Але і тут Бельскаму сойму не пашанцавала. У тэксце другога тома сойм 1564 г. увогуле не згадваецца, бо, як вынікае з логікі адпаведных фрагментаў, адбываўся ён за межамі сучаснай Беларусі. Не быў вылучаны Бельскі сойм і ў кантэксце ўнійнага працэсу[21]. Магчыма, на сойм гэты забыліся з тае дзіўнай акалічнасці, што ў гэтай версіі гісторыі Беларусі няма раздзелаў пра рэформы 1560-х гадоў у ВКЛ. Пэўным кур'ёзам выглядае згадка пра выданне 1 ліпеня 1564 г. **Бельскага прывілея** ў раздзеле *Храналогія*

[17] *Гісторыя Беларусі: У 2-х частках*, ч. 1: *Са старажытных часоў да канца XVIII ст.: Курс лекцый*, Мінск 2000, с. 287.

[18] Г. Сагановіч, *Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя*, Мінск 2001, с. 193.

[19] Там жа, с. 194.

[20] *Гісторыя Беларусі (у кантэксце сусветных цывілізацый): Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2005, с. 105, 155.

[21] *Гісторыя Беларусі: У 6-ці тамах*, т. 2: *Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага*, Мінск 2008, с. 386, 459.

*гісторыі Беларусі ў перыяд Вялікага Княства Літоўскага*[22]. Атрымліваецца, што падзея важная, яна асобна вылучаецца, але апісанне яе зместу і інтэрпрэтацыя адсутнічае.

Цікава, што нават у працах, вузкаарыентаваных на асвятленне падзей, звязаных з гісторыяй ВКЛ гэтага перыяду, беларускім гісторыкам удавалася амаль нічога не напісаць пра гісторыю парламентарызму, а пры апісанні перадумоў Люблінскай „анексіі" Вялікага Княства нічога не згадаць пра сойм у Бельску[23].

**Асобныя ўпамінанні**

З 1990-х гадоў беларускія гісторыкі пачалі бескампрамісна беларусіць Падляшша. І хаця асобны артыкул пра Бельск у *Энцыклапедыю гісторыі Беларусі* не трапіў, але ўжо ў кнізе Анатоля Цітова *Геральдыка беларускіх местаў* Бельск ёсць[24]. Праўда, пра тое, што тут адбываўся сойм 1564 г., вядомы беларускі гісторык не згадаў.

Каштоўная інфармацыя пра Бельскі прывілей і сойм сустракаецца ў асобных артыкулах і манаграфіях. Так, беларускі даследчык Андрэй Радаман знайшоў інфармацыю пра прыгоды ўласна Бельскага прывілея. Ён прыводзіць наступныя дадзеныя: у 1567 г., калі на загад канцлера ВКЛ Мікалая Радзівіла Рудога літоўскі пісар Ян Шымковіч перавозіў скрыні з дзяржаўнымі актамі, адзін з вазкоў па дарозе з Кнышына ў Мажэйкава саслізнуў у рэчку, з-за чаго асабліва моцна пацярпеў Бельскі прывілей 1564 года[25].

Увогуле прац, прысвечаных падзеям сярэдзіны XVI ст., у беларускай гістарыяграфіі не вельмі багата, але і нават на гэтыя рэдкія даследаванні ў абагульняючых працах увага не звяртаецца. Так, беларускія гісторыкі звыкла паўтараюць пра абмеркаванне праблемы уніі на соймах 1560-х гадоў, але абмінаюць заўвагу Андрэя Янушкевіча адносна таго, што „ў соймавых ухвалах да 1568 г. пытанне уніі і склікання агульнага з палякамі сойма, па сутнасці, не ставілася (за выключэннем Бельскага сойма 1564 г і Віленскага сойма 1565/1566 гг.)"[26].

[22] Там жа, с. 649.

[23] Напрыклад, Пётр Дзмітрачкоў прыгадваў толькі Варшаўскі сойм 1564 г.: П. Ф. Дзмітрачкоў, *Беларусь у складзе Вялікага Княства Літоўскага. Другая палова XIII — першая палова XVII стст.: Вучэбны дапаможнік*, Магілёў 2003, с. 92.

[24] А. Цітоў, *Геральдыка беларускіх местаў (XVI — пачатак XX ст.)*, Мінск 1998, с. 119-120.

[25] А. Радаман, *Віленскі земскі прывілей 1565 г. вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста*, „Беларускі гістарычны агляд", 2005, т. 12, сш. 1-2 (22-23), с. 141-142.

[26] А. М. Янушкевіч, *Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558-1570 гг.: манаграфія*, Мінск 2007, с. 298.

Абсалютна слушна даследчык заўважыў таксама, што пасля прыняцца шэрагу прывілеяў, у тым ліку Бельскага, „атрыманне шляхецкіх вольнасцей цяпер у любым выпадку не магло быць прывабным аргументам на карысць уніі з Польшчай”[27].

**Энцыклапедыі**

Калі параўноўваць інфармацыю пра Бельскі сойм і прывілей у энцыклапедыях, то можна канстатаваць, што прывілею пашанцавала найбольш, паколькі звесткі пра яго прысутнічаюць ва ўсіх буйных выдавецкіх праектах. Адпаведны артыкул Анатоля Грыцкевіча без змен передрукоўваецца з 1989 года[28]. Лаканічны артыкульчык пра Бельскі прывілей увайшоў і ў трэці том *Беларускай энцыклапедыі*[29]. Іначай справа выглядае з Бельскім соймам. Факт яго правядзення адзначаецца ў артыкулах, прысвечаных прывілею, а таксама ў артыкуле Валерыя Грынявецкага пра Бельск у энцыклапедыі *Вялікае княства Літоўскае*[30], а інфармацыю пра час правядзення падае Андрэй Радаман у артыкуле пра соймы ў *Энцыклапедыі гісторыі Беларусі*[31]. На гэтым, бадай, і канчаюцца дасягненні беларускай навукі ў галіне прадстаўлення экспрэс-інфармацыі пра падзеі ў Бельску ў 1564 годзе.

**Храналогіі**

У розных выданнях храналогіі гісторыі Беларусі Бельскі сойм згадваецца толькі ў ліку тых соймаў, падчас якіх на працягу 1563-1566 гг. праводзіліся перамовы пра унію, хаця асобна 1564 г. вылучаецца ажно пяць разоў у сувязі з рознымі мілітарнымі і культурнымі падзеямі[32]. У іншай папулярнай гістарычнай літаратуры 1564 год звычайна звязаны не з парламенцкай, а з вайсковай гісторыяй, дакладней, з перамогай войска ВКЛ над маскоўцамі пад Улай[33].

[27] Там жа, с. 301.

[28] *Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі*, Мінск 1989, с. 464; *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6-ці тамах*, т. 2, Мінск 1994, с. 10; *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя*: *У 2-х тамах*, т. 1, Мінск 2005, с. 310.

[29] *Беларуская энцыклапедыя: У 18-ці тамах*, т. 2, Мінск 1996, с. 92.

[30] *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя*: *У 2-х тамах*, т. 1, Мінск 2005, с. 308.

[31] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6-ці тамах,* т. 6, кн. 1, Мінск 2001, с. 380.

[32] *Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі: Ад старажытнасці да пачатку XX ст.*, Мінск 1995, с. 80-81; *Иллюстрированная хронология истории Беларуси: С древности и до наших дней*, Минск 1998, с. 86-87; *Иллюстрированная хронология истории Беларуси: С древности и до наших дней*, Минск 2000, с. 90-91 і інш.

[33] У. Арлоў, Г. Сагановіч, *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862-1918): Падзеі. Даты. Ілюстрацыі*, Вільня 2000, с. 104-105.

## Гісторыка-прававая літаратура

Адпаведная навуковая база ў беларускай навуцы дастаткова сціплая. Яна была напрацавана толькі ў апошнія дзесяцігоддзі[34]. Ці не найбольш значным дасягненнем беларускай навукі з'яўляецца неўміручы *Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі* Язэпа Юхо. Пра сойм у Бельску шукаць інфармацыі ў гэтай кнізе не варта, а зробленая аўтарам характарыстыка прывілея мае вельмі агульны, даведачны характар: „Шэраг новых палажэнняў уносіўся Бельскім прывілеем 1564 г. У ім абвяшчалася аддзяленне некаторых судовых органаў ад адміністрацыі, выбарнасць саслоўных судоў, роўнасць шляхты перад судом і законам. Усе гэтыя палажэнні былі ўзятыя з праекта новага Статута, які ўступіў у сілу ў 1566 годзе"[35].

У адрозненне ад Я. Юхо, іншыя беларускія гісторыкі права абміналі згадванне Бельскага прывілея ў ліку агульназемскіх і разглядалі яго ў межах раздзела, прысвечанага мясцовым судовым органам Вялікага Княства, дзе адзначалі: „Канчатковае прававое афармленне земскага суда праведзена Бельскім прывілеем 1564 г. і Статутамі 1566 і 1588 гг.", а таксама рабілі заўвагу: „Судаводства вялося на падставе Бельскага прывілея 1564 г. і Статутаў Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг. на старабеларускай мове (да канца XVII ст.), а пазней на польскай мове"[36]. У пункце, прысвечаным працэсуальнаму праву, таксама адзначана: „Да 1564 г. буйныя феадалы карысталіся правам выключнай падсуднасці, іх справы разглядаў вялікакняжацкі суд, што ўскладняла парадак прад'яўлення ім іскаў дробнымі і сярэднімі феадаламі. Бельскі прывілей 1564 г. абвясціў роўную падсуднасць для ўсёй шляхты"[37].

Адна з самых аптымістычных ацэнак Бельскага акта была дадзена Таісіяй Доўнар у яе версіі гісторыі дзяржавы і права Беларусі: „Шэ-

[34] Пра ўхваленне Статута 1566 г. на Бельскім сойме і другасны характар Бельскага прывілея Язэп Юхо адзначаў у вельмі папулярнай у свой час працы: Я. Юхо, *Крыніцы беларуска-літоўскага права*, Мінск 1991, с. 79, 45-46.

[35] Я. Юхо, *Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі: Вучэбны дапаможнік*, Мінск 1992, с. 150.

[36] А. Ф. Вішнеўскі, І. А. Саракавік, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Некаторыя пытанні і адказы*, Мінск 1997, с. 38, 41-42; Даслоўна тое ж: А. Ф. Вішнеўскі, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2000, с. 107, 112 і А. Ф. Вішнеўскі, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2003, с. 109-110, 115.

[37] А. Ф. Вішнеўскі, І. А. Саракавік, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі. Некаторыя пытанні і адказы*, Мінск 1997, с. 41-42; Даслоўна тое ж: А. Ф. Вішнеўскі, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2000, с. 112 і А. Ф. Вішнеўскі, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі: Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2003, с. 115.

раг новых палажэнняў у заканадаўства ўнёс Бельскі прывілей 1564 г. У ім аб'яўлялася аддзяленне некаторых судовых органаў для шляхты ад адміністрацыі, выбарнасць саслоўных судоў, роўнасць усёй шляхты перад судом. Абвясціўшы прававую роўнасць шляхты, гэты прывілей павысіў ролю дробнай і сярэдняй шляхты. Гэтыя палажэнні былі ўзятыя з праекта Статута 1566 г. Пазней у якасці ўступнай часткі Бельскі прывілей увайшоў у Статут 1566 г. і ў адпаведнасці з гэтым самастойнага значэння пасля прыняцця Статута не меў"[38]. Апошняя заўвага ў іншых працах беларускіх гісторыкаў звычайна не вылучаецца. Бельскі сойм у працы згаданы таксама як месца, дзе быў „адобраны" праект Статута 1566 года[39].

**Публікацыі Бельскага прывілея**

У савецкіх публікацыях крыніц па гісторыі Бельскаму прывілею месца не знайшлося[40]. Ажыўленне цікавасці да айчыннай гісторыі з канца 80-х гадоў XX ст. зрабіла актуальным попыт на тэксты дакументаў, у тым ліку і прававыя акты мінулых часоў. Бельскі прывілей некалькі разоў публікаваўся разам з перавыданнем Статута 1566 года[41]. У абодвух выпадках для друку быў узяты тэкст, выдадзены ў Маскве ў 1855 г. Асобна Бельскі прывілей быў надрукаваны ў зборніку дакументаў па гісторыі дзяржавы і права Беларусі[42]. Апошняя публікацыя зроблена на падставе тэксту, апублікаванага Мацвеем Любаўскім у 1900 г., а варыянты прыводзяцца па выданні 1855 г. Адзначана таксама, у якой кнізе Метрыкі ВКЛ захоўваецца копія прывілея. З навуковага пункту гледжання гэтая публікацыя, несумненна, мае свае перавагі.

38 Т. І. Доўнар, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі*, Мінск 2007, с. 81.

39 Там жа, с. 95.

40 У выдадзеным у Менску перад Другой сусветнай вайной капітальным зборніку дакументаў сярод іншых агульназемскіх прывілеяў Бельскага акта чамусьці няма: *Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах*, т. I: *IX-XVIII ст.*, Менск 1936, 678 + XVI с. Не быў ён надрукаваны і ў найбольш аўтарытэтным паваенным выданні: *Белоруссия в эпоху феодализма*, т. I: *С древнейших времён до середины XVII века*, Минск 1959, 516 с.

41 Т. І. Доўнар, *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года*, Мінск 2003, с. 40-47; *Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя*, т. 3: *Дадатак*, Мінск 2010, с. 477-480.

42 А. Ф. Вішнеўскі, Я. А. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах (Са старажытных часоў да нашых дзён): Вучэбны дапаможнік*, Мінск 1998, с. 58-67; А. Ф. Вішнеўскі, Я. А. Юхо, *Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах (Са старажытных часоў да нашых дзён): Вучэбны дапаможнік*, Мінск 2003, с. 55-64.

## Высновы

Бельскі сойм 1564 г. і адпаведны акт гісторыкі ўключалі ў лік абавязковых фактаў беларускай мінуўшчыны яшчэ ў 1920-я гады. Поўнае ігнараванне інфармацыі пра сойм у паваеннай савецкай гістарыяграфіі было кампенсавана ў часы незалежнасці, калі згадкі пра Бельскі сойм і акт сталі адносна стандартнымі. Падзеі 1564 г. постсавецкая беларуская гістарыяграфія разглядае не толькі як важны этап у развіцці дзяржаўнай і прававой сістэмы, але таксама як частку так званага ўнійнага працэсу.

На чым палягае досыць выпадковае ўпамінанне Бельскага сойма 1564 г. у айчыннай гістарыяграфіі, адказаць нескладана. У сучаснай беларускай гістарычнай навуцы адсутнічае нават самае павярхоўнае даследаванне Бельскага сойма на ўзроўні асобнай публікацыі. Іншай прычынай слабых ведаў пра гэты сойм з'яўляецца няўздымнасць для беларускіх гісторыкаў пераасэнсоўвання рэформ 1560-х гадоў на ўзроўні сучаснай навукі. На жаль, дагэтуль у абагульняючых працах беларускіх гісторыкаў няма таго ўзроўню асвятлення гэтых працэсаў, што можна заўважыць у сучасных польскіх аўтараў, таго ж Гжэгажа Блашчыка[43]. Простага перакладу на беларускую мову тут будзе мала, але ён хоць неяк прастымулюе далейшыя пошукі.

**Summary**

**The Bielsk Diet (*Sejm*) and the privilege of 1564 as presented in Belarusian historiographic tradition.**

The resolutions of the 1564 Bielsk Diet (*Sejm*) and the privileges granted to the noblemen were for a long time neglected in Belarusian historiography. Uładzimir Pičeta was the first to address the significance of the event in 1924 in his *Historia Białorusi*. Several years later the event is mentioned by Mitrofan Downar-Zapolski. However, during the post-war Soviet era, the fact seems to have been completely unknown to the authors of Belarusian history course books. It emerges again only in 1990s thanks to several authors who specialize in the history of Grand Duchy of Lithuania.

**Streszczenie**

**Sejm bielski i przywilej z 1564 roku w białoruskiej tradycji historiograficznej**

Postanowienia sejmu bielskiego z 1564 r. i przywileje nadane wówczas szlachcie dość późno stały się przedmiotem badań historiografii białoruskiej. Na rangę tych postanowień pierwszy zwrócił uwagę Uładzimir Piczeta w swojej „Historii Białorusi" z 1924 r. Kilka lat później wspomniał także o tym wydarzeniu Mitrofan Downar-Zapolski. W powojennej białoruskiej historiografii radzieckiej fakt ten był nieznany autorom licznych opracowań podręcznikowych. Pojawił się ponownie w latach dziewięćdziesiątych za sprawą kilku autorów specjalizujących się w badaniach dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego.

**Witał Hałubowicz** – doktor nauk historycznych (kandydat nauk), autor wielu opracowań na temat dziejów Wielkiego Księstwa Litewskiego.

[43] G. Błaszczyk, *Litwa na przełomie średniowiecza i nowożytności*: *1492-1569*, Poznań 2002, s. 115-143.

**Сяргей Чыгрын**
(Слонім)

## Выдавецкія пакуты Гальяша Леўчыка

Беларускі паэт, музыкант, мастак, калекцыянер Гальяш Леўчык (Ілья Ляўковіч; 1880-1944) — да сённяшніх дзён застаецца асобай загадкавай, недаследаванай і цікавай. Нарадзіўся ён 20 ліпеня 1880 г. у Слоніме, куды пераехаў яго бацька з-пад Ружан у пошуках „шчасця-долі ў шырокім свеце". Ілья скончыў Слонімскае гарадское вучылішча, служыў пісарчуком у каморніка, а пасля ў канцылярыі міравога суддзі.

Набыўшы на курсах прафесію чарцёжніка, юнак падаўся ў Варшаву. Там ён уладкаваўся на працу ў будаўнічы аддзел Варшаўскага магістрата. Напачатку 1920-х гадоў Ілья Ляўковіч спрабаваў перабрацца ў Вільню, але ў рэшце рэшт вярнуўся назад у Варшаву і жыў там на становішчы то дробнага служачага, то беспрацоўнага.

З 1907 г. Ілья Ляўковіч супрацоўнічаў з газетай „Наша ніва", дасылаў вершы, якія падпісваў псеўданімам Гальяш Леўчык. „Наша ніва" моцна прывязвае варшаўскага інтэлігента да беларускай справы, уводзіць у свой актыў. У Варшаве ён збірае сродкі на пасмяротнае выданне зборніка твораў Сяргея Палуяна, шукае платную рэкламу для „Беларускага календара", выпытвае і выманьвае ў збяднелых арыстакратаў Польшчы граматы, пячаткі, беларускія выданні.

У Варшаве Гальяш Леўчык аб'ядноўваў вакол сябе ўсіх беларусаў, аказваў бясконцыя сяброўскія паслугі новым сябрам і знаёмым: апекаваўся прыезджымі, гуртаваў у зямляцтва, каб не прапалі ў вялікім горадзе і не забыліся беларускай мовы. А ў вольны час займаўся творчасцю: пісаў вершы, перакладаў з польскай і рускай моў, апрацоўваў беларускі фальклор.

У 1912 г. у Вільні выходзіць яго першы зборнік вершаў „Чыжык беларускі". А ў 1980 г. беларускі літаратуразнавец Янка Саламевіч сабраў і апублікаваў асобнаю кнігай выбраныя творы Гальяша Леўчыка пад загалоўкам „Доля і хлеб". Яны выйшлі да 100-годдзя паэта.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык вельмі хацеў выдаць яшчэ некалькі сваіх кніжак. А выдаваць у яго было шмат чаго. Найперш ён хацеў выпусціць свайго „Чыжыка беларускага" кірыліцай. Падрыхтаваў да друку зборнік 138 трыялетаў „Мудра прыгаворка — соладка і горка". Марыў, каб выдаць на беларускай мове папулярныя ў тыя гады польскія і рускія песні ў сваім перакладзе, а таксама паэму „Дзяды" Адама Міцкевіча па-беларуску. Напісаў і падрыхтаваў да друку новы

свой паэтычны зборнік „Жаўранак беларускі”, а таксама брашуру сатырычных карыкатур. На ўсе гэтыя выданні ён па крупінцы, амаль галадаючы, збіраў у Варшаве злотыя. Збіраў і высылаў іх у Вільню выдаўцам, дамаўляўся з імі, загадзя плаціў ім, а яны так і не надрукавалі ніводнай яго кнігі ў тыя 1920-я гады. Віленскія выдаўцы ашуквалі Гальяша Леўчыка сваімі абяцаннямі, а ён ім верыў, чакаў, дасылаў лісты, просячы іх, раючыся з імі, як найлепш выдаць той ці іншы зборнік, а таксама аддаваў ім апошнія злотыя, і з надзеяй чакаў сваіх кніг. Але гэтыя надзеі былі марныя. Нахабныя віленчукі, такія як Уладзіслаў Знамяроўскі, не рэагавалі на яго лісты і просьбы. Магчыма яны добра ведалі, хто такі быў Гальяш Леўчык, ведалі, што гэта даволі сціплы, безабаронны, адзінокі, наіўны і добры беларус у Варшаве. Пра яго Зоська Верас пісала, што „ён меў шмат плюсаў: быў вельмі таварыскі, спагадлівы, услужлівы. Гатовы кожнаму памагчы, увайсці ў палажэнне. Ніколі не шкадаваў свайго часу, калі трэба было яго ахвяраваць не толькі для нейкай важнай справы, але нават для прыемнасці. Сам поўны жыццёвай энергіі, лічыў сваім абавязкам быць знаёмым з усімі беларусамі, што прыязджалі ў Варшаву, і заўсёды быць з імі у кантакце. Разумеецца, заўсёды падтрымліваў адносіны з Вільняй”[1].

Але віленчыкі крыўдзілі Гальяша Леўчыка. Гэта па іх віне, мы не трымаем сёння ў руках тыя выданні і творы беларускага літаратара, якія ён тады напісаў і хацеў выдаць. Многія з іх згубіліся. Толькі засталіся факты пра выдавецкія пакуты Гальяша Леўчыка. У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага (адз. зах. КП5368/Д1842 — КП5382/Д1855) захоўваюцца лісты Гальяша Леўчыка, напісаныя ім у 1926-1928 гадах да беларусаў у Вільню.

Жывучы ў Варшаве, паэт найперш вельмі хацеў выдаць свае трыялеты і шукаў выдаўца. І ён яго знайшоў у асобе Уладзіслава Знамяроўскага. Больш таго, у кастрычніку 1927 г. паэт заключыў з ім і яго жонкай Марыяй Знамяроўскай пісьмовую дамову на выданне беларускіх кніжак пад фірмаю „Кніжніца”. Аднак, відаць, з гэтай дамовы нічога не атрымалася. Знамяроўскі, атрымаўшы ад Леўчыка 400 злотых на выданне зборніка трыялетаў, перастаў пісаць да яго. І ў пісьме ад 30 лістапада 1927 г. паэт абрушыўся на выдаўца за тое, што хоча развaліць „Кніжніцу” і за тое, што не хоча друкаваць творы.

Праз дзесяць дзён прыслаў адказ Знамяроўскі. Ён паведамляў, што затрымка выйшла з-за таго, што завод не адліў новы шрыфт, а стары не варта набіраць. Нарэшце шрыфт быў куплены. І Знамяроўскі ў пісьме ад 16 красавіка 1928 г. пісаў Леўчыку, што паслаў яму карэктуру

[1] З. Верас, *Я помню ўсё*, Гародня — Wrocław 2013, с. 28.

трыялетаў, а дагэтуль яшчэ назад не атрымаў. У наступным пісьме ад 22 красавіка Знамяроўскі просіць Леўчыка прыслаць яму 100 злотых на паперу, якая закладзена ў банку, і на паперу на вокладку, а „то кніжка будзе ляжаць да канца свету". Пры гэтым Знамяроўскі зганьбіў трыялеты Леўчыка.

Тады паэт звяртаецца па дапамогу да Янкі Маразовіча, Ігната Дварчаніна, Ігната Мятлы, Міколы Шылы і іншых віленскіх сяброў. Ён піша ім, што Знамяроўскі выпрасіў яшчэ 25 злотых, а кніжку дагэтуль не выдае. Леўчык просіць, каб яны знайшлі якуюсь раду на „шахрая Знамяроўскага, які тады енчыў перада мною, што няма работы і няма з чаго жыць".

Пакуль не знайшлося доказаў наконт таго, ці дапамаглі сябры Гальяшу Леўчыку вярнуць грошы, ці не. Цяжка пакуль на гэта пытанне адказаць. Але кнігі яго ў Вільні так і не пабачылі свету. Акрамя адной, першай, — у 1912 годзе. Шырокія планы і цікавыя задумкі былі ў Гальяша Леўчыка, але вельмі малыя магчымасці. Пра ўсе выдавецкія пакуты Гальяша Леўчыка лепш раскажуць яго лісты, якія зберагаюцца ў Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага і публікуюцца сёння ўпершыню.

**Лісты Гальяша Леўчыка**

Крыніца: **Слонімскі раённы краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага, адз. зах. КП5368/Д1842 — КП5382/Д1855.**

**Ліст да Станіслава Станкевіча**[2]

Варшава, 4 студзеня 1926 года

Залаты Дзядзька Станкевіч!

Пасылаю табе спісак кніжак на „Два тыдні таннай кніжкі" для мяне і грошы 10 злотых 35 грошай. Калі ласка, запакуй 17 кніжак па спісу і пры аказіі праз каго-небудзь з нашых прышліце. Занясеш да цёткі Сівіцкай[3] у „Беларускую ніву"[4] на Віленскай 12-6, а адтуль хутчэй мо

[2] Станіслаў Станкевіч (1886-1964) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, літаратар, выдавец.

[3] Людвіка Сівіцкая (Зоська Верас; 1892-1991) — беларуская пісьменніца, лексікограф, перакладчыца, асветніца, грамадская дзяячка.

[4] „Беларуская ніва" — газета рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку, неафіцыйны орган Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выдавалася на беларускай мове тры разы на тыдзень у Вільні з 18 лістапада 1925 г. да канца 1926 г.

хто з нашых: ці Ўласаў[5], ці Міхайлоўскі[6], ці Тарас[7], ці хто колечы, хто будзе ехаць у Варшаву забярэ і прывязе мне, толькі заадрасуй. А можа ўжо будзе позна, бо сёння 4, а заўтра 5 і мае быць да 5-га. Дык ты, брат, не рабі мне адказу і запішы яшчэ па таннай цане, а як не, дык грошы аддасі назад.

Адначасова пасылаю для „Крыніцы"[8] 2,65 злотых, няхай прысылае на мой адрас: Warszawa, Nowogrodzka 58 m. 11 па тры экземпляры газеткі: адна для мяне, а дзве для Камітэту[9]. Таксама дасылаю два злотых для „Студэнцкай думкі"[10]: для мяне адзін экземпляр, і Камітэту адзін. Разам пасылаю табе 15 злотых. А пасля праз месяц прышлю ізноў грошай болей, бо цяпер яшчэ недахоп. Я паслаў таксама і для „Авадня"[11] 4,50 злотых: ад Камітэту 2,80 злотых і ад мяне 1,70 злотых. Няхай прысылае на мой адрас па 2 экз. (для мяне і Камітэту).

Забыўся папрасіць і календара на гэты год, дык ты пакладзі разам з кнігамі, а грошы табе прышлю разам як буду прысылаць на падпіску газет. Не бойся, не прападуць. Я нядаўна сказаў Зямкевічу[12], ці ён адаслаў табе 30 злотых, а ён ажні за голаў схапіўся і кажа, што „на смерць забыўся аб гэтым" і вельмі цябе перапрашаў за сваю няпамяць, але зараз табе ён напіша і прышле доўг 30 злотых. Не бойся, не прападуць і не прапалі, гэта толькі забыццё з яго стараны, але я не забыўся, што ад мяне належыць. Дык будзь ласкаў аддай па прыналежнасці ў рэдак[цыю].

5 Аляксандр Уласаў (1874-1941) — беларускі грамадска-палітычны і культурны дзеяч, выдавец, публіцыст. У 1922-1927 гг. меў мандат сенатара са спісу Блока нацыянальных меншасцей у польскім Сенаце I склікання.

6 Сымон Рак-Міхайлоўскі (1885-1838) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, публіцыст, выдавец.

7 Маецца на ўвазе Браніслаў Тарашкевіч (1892-1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, мовазнавец, пісьменнік-перакладчык. У публіцыстычнай творчасці карыстаўся псеўданімамі Адам Навука, «Тарас на Парнасе», Я. Тарас, Тарас Язычнік, Тарас Навіна.

8 „Беларуская крыніца" („Крыніца") — штотыднёвая газета на беларускай мове, выдавалася ў Вільні. Да 1925 г. выдавалася пад назвай „Крыніца", пасля да 19 лістапада 1939 г. пад назвай „Беларуская крыніца".

9 Беларускі Камітэт в Варшаве — беларуская грамадска-палітычная арганізацыя ў Варшаве ў 1919-1929 гг.

10 „Студэнцкая думка" — грамадска-палітычны, навуковы і літаратурны часопіс Беларускага студэнцкага саюза. Выдаваўся ў 1924-1926, 1928-1930, 1935 гг. у Вільні на беларускай мове.

11 „Авадзень" — двухтыднёвы часопіс гумару і сатыры. Выдаваўся на беларускай мове ў Вільні ў 1924-1925 гг. У 1929 г. аднавіўся, выйшла два нумары, апошні № 13 выйшаў у лютым 1933 г.

12 Рамуальд Зямкевіч (1881-1944) — беларускі бібліёграф, перакладчык, калекцыянер, гісторык літаратуры.

З Новым цябе годам 1926-м вітаю і жадаю табе шмат здароўя і грошай. Каб здаровенькімі ізноў бачыліся. Што ў цябе чуваць? Як там нашыя знаёмыя, што да цябе заязджаюць, або начавалі, як я быў? Ці твая гэта сястра ці іншая кузынка? Як я быў, то і яна была — прыязджала адведаць брата свайго.

Залучаю пару жартаў для „Авадня" — добрыя і нядаўна напісаныя. Аддай яму.

А ці вы не выратавалі крыху сценнага адрыўнога календара?

Здаецца, што выйшаў якісьці другі і праваслаўны каляндар? Калі так, дык запакуй разам.

Ну, задурыў табе голаў, бывай здароў і вясёлы, і багаты. Паклон усім, бывай.

Твой — Гальяш Ляўковіч.

### Ліст да Зоські Верас

Варшава, 7 студзеня 1926 года

Паважаная Цётухна і Залатая Сястронка!

Гневацца нельга на Новы год, што там у старым годзе было, дык і забудзецца. Не хочаш да мяне пісаць, дык я да цябе пішу і бачыш — не гневаюся, што быў змушаны няўдачай спеўніка, а ты, бач, наадварот? Дык з Новым годам, бывай здаровая і вясёлая і, каб лепш табе ў жыцці шанцавала! А таксама твайму сыночку і маме!

Пасылаю табе за газету для мяне, што прысылала „Беларускую Ніву", цяпер 5 злотых, а за месяц рэшту прышлю і разам на гэты год на газету „Б.Н."

Знайшоў я ў сваіх паперах запіскі аб тым, што ты калісь у 1923 годзе дала мне 50,000 марак на расходы па вышуканні ў Вільні для цябе агароду і хаты. Вось я тагды на гэта расходаваў на абвяшчэнні і пошту 22,700 марак, а 27,300 марак засталося. А потым хутка, бо ў канцы кастрычніка 1923 года мусяў выехаць з Вільні, грошы тагды страшэнна сталі падаць на нішто. Так што і пасылаць ужо не было чаго табе. Дык цяпер, рыючыся ў сваіх паперах, знайшоў гэтыя запіскі і, заглянуўшы ў польскі выказ марак да злотых, бачу, што гэтыя маркі польскія 27,300 маюць вартасць такую: 20,000 = 1 злотаму. Апрача таго я павінен табе за 4 кніжкі, што мне калісь была так добрая і прыслала: 2,50 злотых з перасылкай. Значыць, табе пасылаю 1,5 + 2,50 = 4 злотыя тваіх грошай. А разам з 5 — то будзе 9 злотых, якія табе дасылаю і вельмі дзякую і перапрашаю, што не мог прыслаць раней. Выбачай! І не гневайся — мы ж старыя прыяцелі. На што нам гневацца! Не памінай ліхам! Дык залучаю табе на памятку квіты і выразкі.

Як табе там жывецца? Блага? А як здароўе тваё, сынка і мамы? Ведаеш што: маме тваёй я параіў бы піць „piperazynu” musujučuju — гэта такі хімічны прэпарат, што раствараe ў арганізме мачовы квас, з чаго ідуць хваробы: падагра, раўматызм, артрэтызм і іншыя. Мама здаецца і на гэта хварэе? Калі так, дык варта было б піць. Бо я сам піў ад раўматызму і выздаравеў — руку было адняло. А цяпер нічога. Каб мама выпіла 7-10 слоікаў гэтай piperazyny — была б здаровая, думаю. Слоік тут у Варшаве каштуе 3,50 злотых. Гэта дорага, але што зробіш — трэба ратавацца. Калі мама на гэта хварэе, дык напішы мне, то я праз каго табе прышлю для мамы некалькі бутылачак, на колькі хопіць грошай. Piperazynu вырабляе тут „Spiess i Syn” і Казлоўскі — Boduena № 1. А загранічныя дарагія — 6 злотых.

На Камітэт сюды газеты не прысылайце так многа экземпляраў, бо тагды стары ўрад Камітэту столькі пажадаў, а цяпер на новы 26-ты год, прысылайце на маё імя на адрас: Nowogrodzka 58 m. 11 па 3 экземпляры: для мяне адзін, а два — для Камітэту. Хопіць, я сам аднясу ў Камітэт з хаты. Грошы за газеты на гэты год зараз прышлем, як Камітэт збярэцца на сход, то прыкажа выслаць і грошы, бо я сам не магу распараджацца.

Ну, бывай здарова, спакойна і май добрую думку! Паклон маме і пацалуй сынка!

Твой стары прыяцель — Гальяш Леўчык.

P.S. Я выслаў Станкевічу 2 злотых для „Студэнцкай думкі” у кнігарню, няхай прысылаюць нам па 2 экзепляры.

### Лісты да Уладзіслава Знамяроўскага[13] і яго жонкі Марыі

Варшава, 13 лістапада 1927 г.

Залаты брат Знамяроўскі!

Пасылаю табе ўвесь змест (рэестр) новай нумарацыі і адзін трыялет, каторага, здаецца, не было там разам, быў прапушчаны. Паводле ўжо гэтай нумарацыі па парадку ўсіх трыялетаў, каторых ёсць 138, пачынай набіраць у друк, а нумары старонак, то глядзі ўжо сам, як табе там выпадуць адносна карт на паперы, бо я не ведаю, як табе там выпадзе. Глядзі толькі па змесце, які нумар трыялету будзе на якой

[13] Уладзіслаў Знамяроўскі — віленскі выдавец, рэдактар. У 1920-1930-х гг. трымаў у Вільні прыватнае выдавецтва.

старонцы, як пакажаш у рэестры, каб не памыліцца. Разумееш? Каб усякі трыялет можна было па змесці хутка знайсці. Дый не забудзь мне паведамляць аб усім, што трэба табе будзе запытацца, каб выйшла ўсё складана. Мяркуйся паводле парадку самых нумароў трыялетаў, як я падаю ў змесце. Бо змест — важная тут рэч. Я табе выслаў заказное пісьмо, у якім усё табе растлумачыў — ты яго дастаў. Незабудзь мне адбіць і прыслаць разам з маімі рысункамі ручнымі і па 5 адбітак з клішаў. Мне яны будуць патрэбны папрыклейваць да маіх рукапісаў тэксту. Значыцца, грошы маеш ужо 400 злотых — можаш заплаціць, здаецца, усё: і клішы, і паперу на вокладкі, і брашуроўку. Я б не радзіў абрэзваць, каб крыва не выйшла, можна было б толькі абрэзваць у гары толькі з адной стараны, дзе ёсць заломы паперы, а рэшту бакоў пакінуць так, няхай сабе людзі самыя абрэзваюць. Дык пачынай на славу работу барджэй, каб на Коляды кніжка была з друку гатова. І каб людзі ўжо на святы маглі яе купляць.

П.С. Паклон тваёй жонцы, а нашай супальніцы. Што чуваць у Дварчаніна[14] аб выданні той другой брашуркі, што я грошы паслаў яму, а тэксты ў Шыла[15] былі? Ці Шыла аддаў Маразовічу[16], ці Дварчаніну? І як з грашыма ёсць гэтымі? Напішы мне адказ на маё пісьмо заказное, аб чым я там пісаў. Ну бывай здароў і да работ!

Твой Г. Л.

Варшава, 30 лістапада 1927 г.

Залаценькі Знамяроўскі!

Тваё маўчанне мяне вельмі хвалюе. Што гэта такое значыцца? Штось ты думаеш скруціць пэўна адносна мяне? Я да цябе напісаў тры пісьмы: заказное, другое звычайнае ў якім быў рэестр, і трэцюю адкрытку, а ты ані слова да мяне. Калі трэба было выцягнуць грошы, дык ты аж тры пісьмы прыслаў, енчачы амаль і просячы, а калі ўжо дастаў грошы, дык і ціха, ша... і хвастом хочаш накрыцца? Ну, брат, я бачу, што ў цябе штосьці не добра, хіба хочаш змахляваць? Бо тым часам Зямкевічу чуш ты якуюсь напароў — кажаш, што ўжо друкаваць кніжкі не будзеш, што змест яе быццам Дварчанін хацеў у печы

[14] Ігнат Дварчанін (1895-1937) — беларускі грамадскі-культурны дзеяч, вучоны, літаратар.

[15] Мікола Шыла (1888-1948) — беларускі грамадска-культурны дзеяч, журналіст, рэдактар.

[16] Янка Маразовіч (1895-1938) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, рэдактар сатырычнага часопіса „Маланка”.




Варшаўскі здымак Гальяша Леўчыка. 1912-1913 г.
Рамуальд Зямкевіч, Гальяш Леўчык, Зоська Верас. Варшава, 1914 г.
Слонімскі хор. Стаіць другі злева Гальяш Леўчык. Пачатак XX ст.

спаліць, а ты адратаваў, што яна не распрадасца, што яе ніхто не купіць і г.д. Глузду ты вытвараеш. Што гэта такое будзе?.. Цяпер я бачу, што мяне людзі асцераглі мець з табою якоесь дзела, што ты круцель, але я ім яшчэ не зусім паверыў, але цяпер — як жа будзе? Значыцца, ты сам гэта хочаш пацвердзіць фактамі? Га? Ці ты наіўнае дзіця, ці фактычна махляр і круцель? Каб выдумліваць якісьці абсурд, што Дварчанін хацеў кінуць у агонь? Ты гэтым зубы не замаўляй, калі яны не баляць, а адкрыта скажы, што хочаш і думаеш зрабіць. Ты, значыць, хочаш развязаць нашу суполку „Кніжніца", каторая яшчэ нават не нарадзілася як следуець? Што ж цяпер будзе? Кніжка мая мусіць выйсці ў свет, бо яна мае вялікую вартасць, або давай грошы назад. Ці ты дурны, ці хочаш мяне дурным зрабіць, што выдумліваеш якіясьці плёткі, не хочучы яе друкаваць? Ты кінь гэтак рабіць і абсалютна нікога не слухай, ніякай чужой дурной крытыкі, бо ў нас крытыкі праўдзівыя яшчэ не нарадзіліся, а пакуль што — я сам сабе крытык! Але ты ведай і зразумей, што „прагаворкі ў трыялетах" былі напісаныя мною ў 1923-1924 гадах, калі я быў у Вільні ў Саюзе кааператываў[17], то тагды іх і перапісваў на машыне ў Грыневіча Антона[18]. Калі я іх перапісаў, то хацеў іх у мяне купіць Клёцкін[19] і прасіў даць да перагляду Антону Луцкевічу[20], які іх прачытаў і напісаў яму добрую аб іх рэцэнзію. І Клёцкін купіў бы іх, але я хацеў, каб іх выдала Таварыства Выдавецкае[21] ў Вільні, думаючы — няхай лепш нашы заробяць, чым які жыд, дый не прадаў гэтых прыгаворак Клецкіну. Але час усё бег, а грошы Выдавецкае Таварыства і да гэтуль не мае. Дык я вось падумаў выдаць іх сваімі сродкамі пры тваёй помачы — няхай, думаю сабе, я і ты лепш крыху заробім, чым хто іншы. Дык адкладаў, не даядаў,аднімаў проста ад губы, каб сабраць крыху на гэту мэту грошы 400 злот., каб выдаць самому гэту кніжку, бо я даю сваю галаву нават адрэзаць, што „прыгаворкі" гэтыя на дзве тысячы экземпляраў усе чыста раскупяцца, бо яны маюць вартасць і каштоўнасць для нас, беларусаў, што і пацвердзіў сам нават Луцкевіч. А ты выдумліва-

17 Віленскі беларускі саюз кааператываў быў заснаваны ў пачатку 1920-х гг. Гл.: K. Gomółka, *Białoruskie instytucje życia gospodarczego w II Rzeczypospolitej*, „Białoruskie Zeszyty Historyczne", 1997, nr 8. s. 93-96.

18 Антон Грыневіч (1877-1937) — збіральнік беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог.

19 Барыс Клецкін (1875-1937) — віленскі выдавец.

20 Антон Луцкевіч (1884-1942) — адзін з пачынальнікаў, тэарэтыкаў і арганізатараў беларускага нацыянальна-вызвольнага і сацыялістычнага руху, старшыня Рады Савета Міністраў і міністр замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

21 Беларускае выдавецкае таварыства існавала ў Вільні ў 1913-1915 і 1919-1930 гг., выдавала і распаўсюджвала творы беларускай літаратуры.

еш якоясьці дурство. Гэта, брат, пахне тым, што ты значыцца са мною не хочаш працаваць для Бацькаўшчыны нашай, і я бачу цяпер, калі так, што ты, сапраўды, не беларус, калі хочаш са мною такія штукі рабіць, як з іншымі. Але трэба ж ратаваць сітуацыю і спадзявацца, што ўсё будзе добра, таму вазьміся хутчэй за работу. Паслухай мяне, ты ж нічым не рызыкуеш — я цэлы рыск бяру на сябе, чаго ж тут табе баяцца? Я табе скажу яшчэ вось што: як толькі выданне 2000 асобнікаў будзе ўжо гатова да прадажы, я зараз пастараюся, хоць пазычу ў каго, выплаціць табе тваю палавіну за працу і расходы зараз жа, а сабе буду ўжо збіраць з прадажы. Дык ты ж нічога чакаць не будзеш і нічога не страціш. Чаго ж тут махляваць і круціць? Так ці сяк, то кніжка гэта мусіць выйсці ў свет божы! А калі выйдзе гэта мая кніжка, то я тады ўжо дапамагу табе з твайго боку, як захочаш што пусціць. Рука руку мые, а нага нагу б’е. Згода будуе, нязгода руйнуе! Дык якая ж наша будзе суполка выдавецкая, калі ты ўжо вожыкам праціў мяне? І слухаеш больш чужой, чым маёй рады? Але слухай лепш мяне, то і заробіш, бо я маю лёгкую руку — некалькі людзей ужо мне дзякуюць, што я іх выцягнуў з бяды і цяпер добра зарабляюць. А калі не хочаш і пачынаеш моўчкі выкручвацца, узяўшы грошы, то як жа можа йсці выдавецтва — значыцца ты яго разбіваеш сам? Я да цябе пішу пісьмы, не маючы нават на гэта і часу, а ты маўчыш і нічога не пішаш — нават перабраўся на другую кватэру і не прыслаў мне новага свайго адрасу, дык як жа я гэта маю разумець? Як жа я гэта маю сабе тлумачыць? Мне трэба ведаць, ці ты атрымаў змест (рэестр) прыгаворак з новай нумарацыяй? Цяпер пасылаю табе рысунак значка нашай фірмы: „Выдавецтва КНІЖЫЦА”, з якога трэба зрабіць клішу. Гэты кругленькі значок-пячатка будзе адбівацца на кожнай выпушчанай намі кніжцы на задняй старонцы вокладкі. Гэта цяпер усе ўводзяць і прыгожа выглядае на кніжцы. Я паслаў табе восем рысункаў, а гэты будзе 9-ты. Ці з тых ужо ёсць клішы гатовыя?

Больш табе пісаць не буду, а чакаю ад цябе пісьма — што будзе! Калі з гэтага нічога не будзе, то будзь ласкаў прышлі назад мне тэксты маіх прыгаворак і ўсе рысункі мае назад са зместам. І вярні мне назад мае крывавыя грошы 400 злот. А калі паслухаеш мяне і згодзішся споўніць сваё слова і ўмову нашу, то хутчэй бярыся за работу, каб на новы год была кніжка з рысункамі гатова ў продаж. А цяпер, маючы ўсё на руках: і тэкст, і рысункі, і змест нумараваны, будзь ласкаў — прышлі мне падробны рахунак — колькі ўсё чыста вынясе разам кошту, каб я ведаў у якіх граніцах па твайму аблічэнню выданне кніжкі будзе мне каштаваць і колькі трэба будзе падаць прадажную цану асобнай кніжкі. Тагды я буду магчы разглядзецца, колькі ўсё гэта і чым будзе пахнуць. Канешне, мусіш мне напісаць пра ўсё, ка-

лі хочаш, каб была згода між намі і выдавецтва існавала. Кажу табе яшчэ раз, што прыгаворкі маюць вялікую вартасць, гэта не я кажу, а тыя, што знаюцца на такіх рэчах, што шмат з гэтых прыгаворак-трыялетаў ужо друкаваліся ў розных часопісах у Вільні, Рызе і інш., што нават іх хоча выдаць Інстытут Беларускай культуры і гаспадаркі[22], але я ўжо з табою на нясчасце звязаўся і ўтапіў 400 зл., дык і грошы на разе німаш і аддаваць цяпер няма як, бо ў цябе ўвесь матэрыял і грошы, і рысункі. Дык чакаю ад цябе слова — як будзе? Ці мне прыдзецца з кім іншым злучыцца ў выдавецтва, а я ўжо маю добрых трох супальнікаў, а з табою разыйсціся па дабру па здарову, ці што іншае зрабіць? Ну, дык прышлі мне падробнае аблічэнне выдавецтва. А калі ты думаеш не стрымаць і зламаць сваё слова, то прытрымлівайся іншай кампаніі, а грошы мне зараз жа вярні. Больш ужо нічога не буду пісаць і пісьмо гэтае пасылаю заказным на новы твой адрас. Бывай! І кланяйся сваёй жонцы, як супальніцы нашай, каторую ты таксама, здаецца, усё зводзіш. Хто што сее, тое й жнець...

Гальяш Ляўковіч.

Варшава, 4 снежня 1927 г.

Паважаная Панічка Знамяроўская!

Пішу да Вас дзеля таго, што і Вы з'яўляецеся трэцяй асобай нашай выдавецкай суполкі „Кніжніца", якую мы завязалі, калі я быў у Вільні нядаўна, але каторая па віне Вашага мужа не ведаю ці народзіцца, бо ён штось махлюе і круціць пачынае. Дык вось трэба Вам ведаць, што згодна з нашай дамовай у Вільні, я паслаў Вашаму мужу 400 злотых грошай, за што ён павінен быў купіць паперы. Даслаў яму 138 прыгаворак тэксту са зместам-рэестрам і 9 рысункаў да гэтай кніжкі, просячы, каб ён узяўся за работу і каб кніжка да новага году выйшла з друку. Тым часам я пішу да яго пісьмы — ужо тры паслаў, а ён маўчыць і нічога не кажа, а цяпер нібы ў Вас, здаецца, пан Зямкевіч з Варшавы. То ён яму казаў якіясьці брэдні, што кніжкі не хоча друкаваць, бо яе варта спаліць у печы, што ён амаль не даў спаліць яе Дварчаніну, які хацеў кінуць у печ, што яе ніхто не будзе купляць і таму падобныя выдумкі яму сказаў, хочучы, відаць, тут скруціць ці

[22] Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры — асветніцкая арганізацыя Заходняй Беларусі, створаная ў Вільні і Варшаве дзеячамі Беларускага сялянскага саюза і Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў процівагу Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Таварыству беларускай школы. БІГіК дзейнічаў з 26 мая 1926 г. да 4 снежня 1936 г.

што? Калі выцягнуць грошы, каб я яму хутчэй прыслаў, то ён напісаў аж тры пісьмы, а калі я яму паслаў грошы 400 злотых, то ўжо і замоўкнуў і хоча, відаць, як той казаў, хвастом накрыцца і штось змахляваць. Вось бачыце, як лёгка з Вашым мужам уступаць у суполку. А тым часам гэтая кніжка мае вялікую вартасць і хутка раскупіцца людзьмі, калі надрукуецца і грошы вернуцца, бо яе чытаў і ацэнку сваю даў Антон Луцкевіч сам, і Клёцкін хацеў купіць і сам выдаць, і хоча выдаць нават Інстытут культуры і гаспадаркі ў Вільні. Але я думаў самім выдаць, каб мы самі зарабілі, чым нехта іншы, але прыйшоў дур і няшчасце звязацца з Вашым мужам. І цяпер я маю клопат і згрызоту. Кніжка гэта мела быць першая, яна мецім е 138 прыгаворак вершам трыялетаў з рысункамі. І прыгожая, і важная была б кніжка — з яе ўжо некаторыя рэчы друкаваліся і ў Вільні, і ў Рызе ў беларускіх часопісах, дык рэчы вельмі важныя і арыгінальныя. І кніжка была б рэдкая і пакупная. Тым часам муж Ваш штось баламуціць і круціць, выдумляючы брэдні. Што цяпер будзе? Я ўжо ўтапіў яму 400 злотых і не маю магчымасці каму іншаму даць да друку, бо і тэксты маіх прыгаворак, і рысункі, і грошы 400 злотых у мужа ўгразлі. Калі ён хоча зламаць нашу дамову і сваё слова, то няхай верне мне ўсё назад, а я знайду сабе іншага супальніка, а калі ён яшчэ мае хоць крыху гонару і сумлення, каб споўніць сваё слова, то няхай хутчэй бярэцца за работу, каб кніжка была на новы год гатовая. Я яму казаў, што ён нічым не рызыкуе, што я сам на сябе бяру ўсю рызыку прадажы і яму зараз, як толькі кніжка выйдзе з друку, першаму выплацяцца расходы і за працу ягоную, дык чаго ж тут яму баяцца, калі я не баюся!? Але, відаць, што тут ён штось іншае думае, каб можа мяне скрыўдзіць — і кніжкі не выдрукаваць, і грошы не вярнуць — вось што. Дык Вы, панічка залаценькая, ведайце аб тым, што муж ваш вычварае ў вас за плячыма, бо і Вы ж мелі быць наша супальнічка выдавецкая. Скажыце яму з рассудкам: няхай апомніцца і вазьмецца за работу друкаваць гэту маю кніжку, то не пашкадуеце, бо і Вы заробіце на ёй. І я вярну свае грошы і заробім яшчэ. Угаварыце яго, каб ён не дурэў і не шалеў адносна мяне. А я па выхадзе маёй гэтай кніжкі ў свет, тагды дапамагу і мужу з яго боку, калі і другая кніжка пойдзе ў друк. Бо адзін другому мы павінны дапамагаць і падтрымліваць будзем супольна. А калі ён і вас не паслухае, то будзе шкадаваць, што сам давёў да разбіцця суполкі і да грызні. Вось цяпер памажы яму — а асабліва Вашаму мужу, дык пазнаеш па чым фунт ліха! А так прасіў і падлізваўся разам выдаваць кніжкі, што ён ужо паправіцца і будзе парадачным чалавекам. Але я цяпер бачу, што ён ліхі чалавек і фальшывы беларус, і будзе ашуканец, калі не выканае нашы ўмовы і сваіх слоў, або не верне назад мае грошы, што ўзяў ад мяне. Дык,

панічка, калі ласка, скажыце яму па-свойму: што ён думае рабіць са мной і з гэтай суполкай нашай выдавецкай? Ці не ўгаворыце Вы яго, і ці не паслухае ён Вас?.. А калі не паслухае і Вас, каб паправіцца, то напішыце мне на карце паштовай адкрыткі хаця, што і як будзе з намі і з цэлай работай? Я яму ўжо нічога пісаць не буду, не маю часу і ахвоты, бо 4 пісьмы яму быў паслаў. Бывайце здаровы і пішыце мне. Ваш прыяцель — Г. Ляўковіч.

Варшава, 12 снежня 1927 г.

І зноў паважаны Знамяроўскі!

Ага! Адазваўся. Чаму ж ты, брат, не напісаў мне хоць адкрытку, што адлеўня не зрабіла на свой час, калі ты такое нявіннае і рахманае ягнятка? А то ты пораш ерунду Зямкевічу, што мае прыгаворкі Дварчанін хацеў кінуць у печ, што іх не варта друкаваць і г.д. Відаць, што ты часта гутарыш са „шкляным богам”, калі і цяпер прыслаў ты пісьмо якоесь п’янoе. Дык можа і мяне трактуеш па „шкляному богу”, бо пішаш, што я быццам плачу і лаюся. З якога пальца ты гэта высасаў, што і плачу, і лаюся? Я не плачу і не лаюся, а толькі называю рэчы па іхнім іменям, як ёсць. Бо ці ж не шкада чалавеку часу і грошы, і трудоў, каб забаўляцца ў якіясьці „жмуркі”. Ты здумаў прыкрыцца чыёйсь „недапечанай крытыкай” адносна мяне, і хочаш, каб гэта падабалася? У мяне няма часу на сентыменты, а крытыкі ў нас яшчэ не нарадзіліся, дык я сам сабе крытык і сам сабе за грошы пан. Таксама і ты можаш быць: „слухай людзей а свой розум май”. Дык вось: набірай па гэтаму фармату, каторы табе назад адсылаю, гэты лепшы будзе, бо на вокладцы змесціцца і тытул кніжкі, і рысунак беларуса, а на том прадаўгаватым, дык не змесціцца. Цяпер далей трэба адбіць 2000 экз., а мо і 2500 экз., каб не было замала, бо ж гэта рэч прыгаворкі — беспартыйная. Так што і на тым баку Беларусі[23] будуць яе купляць таксама, як і тут. Таму распрадасца ўсё, бо 1000 — то замала. Ты напішы мне: колькі будзе плюс яшчэ 500 экз. каштаваць? Кошт пазначым 1,50 злот за экземпляр, так што будзе 2000 злотаў з гарою заробку нам. Па гэтаму фармату я думаю, што мо для эканоміі паперы, то ты можаш усадзіць і па два трыялеты на старонцы, здаецца ўлезе. А калі ў раздзелах на апошняй старонцы выпадзе ўжо адзін трыялет, то ён і застанецца на старонцы ў канцы раздзелу, а на новай ужо старонцы пойдзе новы раздзел: напрыклад, 2 японскі з рысункам і г.д. А на адвароце гэтай самай старонкі раздзелу не пакідаць чыстай, а памясціць па два

[23] Маецца на ўвазе Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

трыялеты — разумееш? Гэтак мы з’эканомім шмат паперы, якая пойдзе на іншыя экземпляры. Пастарайся ўсадзіць па два трыялеты на старонцы, гэта не сапсуе выгляду ніскольні, але шмат зберажэм паперы. Нумарацыя самых трыялетаў застанецца тая самая, як у змесце я напісаў. Толькі зменіцца нумарацыя старонак, якую ты сам акуратна падвядзеш набіраючы. Змест трэба даць увесь цэлікам з назовамі прыгаворак, каб лёгка можна было і хутка знайсці, які хочаш трыялет па тытулах іх на кожнай старонцы, бо толькі самыя раздзелы — гэта нічога не варта будзе. Па гэтаму фармату гусценька то на змест не пойдзе 8 старонак, а менш чым 8. Калі здарыцца так, што трыялет задоўгі ці расцягнуты, што не змесціцца на старонцы без пераносу, або пераламання, то мо ты яго зложыш такім іншым дробным і гусцейшым шрыфтам, каб змясціць. Бо перанос брыдка выглядае, няроўна і з несіметрычнымі праболамі — непажадана было б. На гэтым фармаце я думаю, што ты ўсадзіш па два трыялеты на старонцы, бо хаця той прадаўгаваты быў бы лепш ўдоўж, але за тое ўвыш каратк і будзе і зместу шмат не памесціцца. А што да кліш, то скажы там тваёй цынкаграфіі, што тут у нас мы плацім мінімум кліш на 6 злотых, 4 — за самую малую клішу. Дык што — Вільня мае быць даражэй, чым мы тут, у Варшаве, плацімо? Калі яны не згодзяцца на мінімум 4 злотых, то я тут зраблю сабе клішы мінімум па 4, дык прышлеш мне назад рысункі мае, а клішы тут зробім. Патаргуйся з цынкаграфіяй, бо дальбо задорага лічаць, здзерцы яны калі так! Варта было б адбіць пару дзесяткаў штук на лепшай паперы. Якую паперу таўшчыні дасі на вокладкі? Зрабі так усё, як я табе ва ўсіх пісьмах пісаў і прасіў. Карэктуры прысылай мне, бо Дварчанін кажа, што не мае часу на гэта. Я брэдняў не слухаю, але ты чаму слухаеш? Мае прыгаворкі-трыялеты ўжо даўным-даўно былі б надрукаваны, каб я іх хацеў прадаць, яны і так шмат друкаваліся ўжо. Там, брат, ілюструецца цэлая псіхалогія і агульны характар чалавека. І шмат дзе вельмі падыходзіць і да нашага беларускага элементу. Дварчанін тут аблічыў, што ў любой віленскай друкарні, каб даць іх выдрукаваць, то максімум каштавала б усё каля 800 злотых без карэктуры. А калі мы адаб’ем 2000 або 2500 экземпляраў, то па 1,50 злотых будзе 2500 злотых з гарою заробку. Дык ці ж не варта пастарацца. Каб кніжка выйшла і прыгожа выглядала з друку? Але з табою я бачу, што цяжкі інтарэс будзе. Што мне за дзела, што ты там з Паўлюкевічам[24] нюхаешся і ён цябе быццам надувае?! Абы я цябе, а ты мяне ўзаемна не надувалі, дык інтарэс пойдзе. Цяпер ты сам кажаш, што ёсць голад да кніжкі, але на добрыя і ары-

[24] Маецца на ўвазе Арсень Паўлюкевіч (1889 — ?) — лекар, грамадска-палітычны дзеяч.

гінальныя кніжкі. Дык будзе і ёсць у нас большы або двайны голад. Таму я маю на мэце пусціць у свет шмат арыгінальных кніжак. Ну, бывай і пішы як трэба.

Твой Г. Л.

Варшава, 17 красавіка 1928 г.

Залаты брат Знамяроўскі!

Пасылаю табе карэктуры трыялетаў, пранумараваныя паводле прысланага табе рэестру і падзеляныя па два на старонкі чырвоным атрамэнтам. Адначасова зноў і зборнік тэкстаў пранумараваў і адсылаю табе для рукаводства, як друкаваць будзеш. Цяпер чакаю ад цябе другой і трэцяй карэкты. Два трыялеты (№ 64 і № 89) ты прапусціў, дык усадзі іх. Да трыялетаў (№ 18, 27, 29, 30, 39, 57, 62, 67, 72, 97) трэба дадрукаваць ў зорках тлумачэнні некаторых слоў малавядомых, якія ты возьмеш з сшытка тэкстаў і дасі меншымі літарамі, унізе трыялету гэтага, бо гэта ёсць патрабаванні. Не памыліся ў нумарацыі старонак адносна картаў раздзелаў: I. араб. , II. індус., III. кітай., і г.д. і на іх адбіць рысункі. Прышлеш мне іх карэкты, а таксама карты вокладкі, тытуловай старонкі, прадмовы і г.д. з малюнкамі, а таксама рэестру. Адбі мне на паперах па 4 адбіткі ўсіх рысункаў і прышлі. Я бачу, што ты здаецца зрабіў завялікую клішу: круглую фірмову — яна адбіта на стар. 43 (на адвароце сшытка чарнавога). Я ж табе на арыгінальным рысунку паказваў на палавіну меншы ад арыгіналу, а ты махнуў на цэлую велічыню, гэтак не хораша будзе выглядаць, бо меншая прыгажэйшая будзе. Таму трэба паменшыць, бо завялікая. На рысунках я стрэлкамі паказаў велічыню кожнай клішэ. Што да цаны кніжкі, то я думаю назначыць за 2 асобнікі дзве залатыя, бо, калі такі Янка Станкеўчык[25] абвесціць ў сваім „Народзе"[26] цэну кніжкі „Новая зямля" Я. Коласа[27] за два злотых, якая пэўна не будзе большая і без рысункаў, то за нашу хіба кніжку з рысункамі два злотых не будзе многа. Ты зрэшты памяркуй. Матрыцы добра было б зрабіць, толькі хіба тады, калі набор ужо ўвесь будзе добра скарэктаваны. А ці не можна будзе матрыцы зрабіць пасля? Ты мне напішы, як гэта агулам робіцца? Калі выданне агулам будзе каштаваць 673 злотых, то на тваю долю выпа-

[25] Маецца на ўвазе Янка Станкевіч (1891-1976) — беларускі мовазнавец, гісторык, палітычны дзеяч.

[26] „Народ" — газета, орган Беларускай сялянскай партыі. Выдавалася з 18 жніўня 1927 г. да ліпеня 1929 г. у Вільні на беларускай мове.

[27] Якуб Колас (1882-1956) — народны пісьменнік Беларусі.

дае толькі 273 злотых, а я прыслаў 400 злотых, то якая ж гэта супалка наша будзе? Я больш, а ты мала даеш? Грошы табе, брат, больш не маю, але маю да выдання пару добрых слоўнічкаў і іншыя рэчы. Адбіць трыялетаў трэба канешне 2000 экз. Картачкі табе прыслаць цяпер не магу, бо дзесьці заверушылася, але залогу не будзе з геаграфіі. Пазыч у Дварчаніна або ў Мятлы[28], мо яны табе пазычаць пакуль выйдуць трыялеты, то аддамо ім. Геаграфію табе ўсю вярну, як толькі трыялетамі залог папоўніцца і зложыцца ў кнігарні.

Бывай здароў.

Твой Гальяш Ляўковіч.

### Ліст Баляславу Друцкаму-Падбярэскаму[29]

Варшава, 23 красавіка 1927 года

Паважаны Паночку!

Чытаючы сёння № 12 (41) „Беларускага слова"[30], я на 4-й старонцы напаткаў, што Вы, хвалячы Бога, ужо ахвяроўваеце на „чырвонае яечка" ў Горадню па 40 злотых. Дык, значыцца, што ўжо, хвала Богу, маеце грошы! І вось я таксама хацеў бы ад Вас атрымаць „чырвонае яечка"! Справа ў тым, што Вы, заходзячы часта ў Беларускі Камітэт у Варшаве ў 1921 годзе, калі я быў у Камітэце сакратаром, а Вы тутака ў Варшаве нейкі час тагды жылі, пазычылі ў мяне „ганарова" пад распіску чатырыста марак дня 28 лютага 1921 году — з абавязкам аддаць не пазней 4-ай гадзіны заўтрашняга дня. І вось я цяпер адшукаў гэту распіску, на якой Вашай рукой даслоўна напісана і падпісана: „Пазычыў ад п. Ляўковіча з абавязкам аддачы не пазней 4 гадз. заўтрашняга дня — чатырыста марак. 28 лютага 1921 г. /-/ Б.Друцкі-Падбярэскі". Квіт напісаны атрамэнтным філіятовым алоўкам на вузкай паперцы.

Гэты квіт я, будучы ў Вільні восенню 1924 года — пры спатканні з Вамі — паказаў Вам і вы тады сказалі, што мне пачакаўшы крыху аддасце, бо трэба аблічыць паводле цяперашняга курсу грошы на злотыя. Вы тады грошы не мелі. І я мусяў хутка выехаць тады з Вільні. І доўг так і па сённяшні дзень застаўся Вамі не ўрэгуляваны.

[28] Ігнат Мятла — заходнебеларускі дзеяч нацыянальнага руху.

[29] Баляслаў Друцкі-Падбярэскі (1894-1940) — беларускі літаратар і лексіколаг.

[30] „Беларускае слова" — заходнебеларуская штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета. Выдавалася з 3 лютага 1926 г. да 9 лютага 1928 г. у Вільні на беларускай мове.

Цяпер я тут, у Варшаве, і мне матэрыяльна цяжка, бо я хворы і мушу лячыцца, і мушу жыць, і за кватэру плаціць і г.д. Дык вельмі пажадана для мяне было б, каб Вы былі так добрыя і прыслалі мне гэты стары і „ганаровы" усё-ткі доўг. Бо я тады ў 1921 годзе сам сабе, як той казаў: ад губы адняў і Вам пазычыў і даў. Дык мне гэтыя грошы вельмі цяпер прыдадуцца. Знаючы Вашу павагу слова, я маю спадзеў, што Вы мне цяпер доўг урэгулюеце. Аблічэнне можна зрабіць па ўрадовым табелі: „О пшэрахованю зобовёнзань прыватно-правных" — выд. 1924 г., дзе сказана, што ў месяцы лютым 1921 года 130 марак роўна 30 рублям, значыцца 30 рублёў або 130 марак будзе якіх 14 даляраў, а 30 руб. або 130 марак няхай памножым на тры разы — вынясе: 90 руб. або 390 марак, што зраўняем на 400 марак доўгу па распісцы, якія будуць раўняцца па цяперашняму курсу: 14 дал. х на 3 = 42 даляры. А 42 даляры памножыць на 9 злотых з даляра (даляр роўны 9 злотых), дык выйдзе 378 злотых. Але я яшчэ, каб скончыць ўжо раз гэта, паменшу, закругліўшы на 350 злотых, без ніякага працэнту, якія будуць раўняцца 400 маркам у 1921 годзе. Бо тады гэта сума была мо больш варта, чым цяпер 350 злотых, гледзячы на цяперашнюю дарагавізну і раўняючы яе з цэнамі жыцця 1921 года. Такое аблічэнне будзе найбольш без крыўды, нейтральным і праўдзівым. Ну, але Вы мо інакш хочаце аблічыць — не ведаю, дык, калі ласка, прашу мне адказаць пісьмом, калі не згодзіцеся. А калі будзеце згодны, дык прашу міласці Вашай прыслаць мне доўг на 350 злотых па майму аблічэнню на мой адрас: Warszawa, ul. Nowogrodzka, № 58, m. 11 Eljasz Lewkowicz.

Застаюся з пашанай — сакратар
Беларускага Камітэта ў Варшаве Гальяш Ляўковіч.

## Ліст да Антона Луцкевіча

Варшава, 23 красавіка 1927 года

Паважаны Паночку!

Гальяш Леўчык, хаця вельмі рэдка, як той казаў, да Вас піша і штоколечы просіць, але калі напіша, дык пэўне ёсць у тым паважная патрэба. Ён бо застаўся з невялікага ліку „нашаніўцаў" верным да канчатку беларускаму нашаму адраджэнню з таго часу! Дык вось у чым справа! Да Вас цяпер звяртаюся, як быццам да заступніка Вашага ніколі незабыўшае памяці брата Івана[31], бо Вы, як быццам, цяпер ста-

[31] Гутарка ідзе пра Івана Луцкевіча (1881-1919) — беларускага палітычнага і грамадскага дзеяча, публіцыста, археолага, краязнаўца.

іце на чале нашага праўдзівага руху, дый прытым кіруеце справамі выдавецкімі — у Беларускім выдавецкім таварыстве. Хачу тут прасіць Вас, каб выпусціць другое выданне гражданкай ужо зборнічак маіх твораў „Чыжык Беларускі", які быў выдадзены Вашым братам Іванам у 1912 годзе. Друкавала яго друкарня „Зніч" у Вільні, на што я тады даў брату Івану 100 рублёў. Зборнічак гэты быў выдадзены лацінкай і каштаваў 50 руб. за 500 ці 1000 экземпляраў, я добра не помню. Але рахункі і квіты ў мяне з таго часу ёсць. А 50 рублёў засталося на выданне гражданкай, што мелася і зрабіцца. Але вайна перашкодзіла і так засталося. Цяпер „Чыжык Беларускі" лацінкай ужо даўно разышоўся, а грошы 50 рублёў там у Вас ці ў каго ў Вільні засталіся і клішэ таксама. А я ад прадажы яго ані гроша не атрымаў — дый не хачу, а жадаў бы толькі, каб выдаць за гэты доўг майго „Чыжыка Беларускага" гражданкай, каторага гражданкай і не было. А цяпер ён быў бы ўсё-ткі па часе актуальны, бо дух яго можа цяпер крычаць з болю таксама, калі не горш, як і да вайны, што было...

Ён, скажу, мо не вельмі „важна штука", але няхай бы быў сабе і гражданкай цяпер, калі лацінкай яго ўжо німаш. Думаю, што Вы проціў маёй просьбы і проціў памяці нябошчыка брата ўпоперак, як той казаў, не станеце і парупіцеся зрэалізаваць маю просьбу. Я за гэта нічога не хочу. А то выдаюцца іныя Быліны[32], Сваякі[33] і г.д., а пра мяне Вы і не падумаеце. Ці мо ігнаруеце або байкатуеце?.. Я не хачу ніякай „рэкламы", а толькі сэрца і пачуцця духовага, якога я, на жаль, здаецца, ніколі ад Вас так вельмі не атрымаў... Ну, магу і памыліцца — даруйце! Дык вось, калі цяпер становішча Беларускага Выдавецкага Таварыства магчымасць мае, а мне Ўласаў казаў, што нават так, дык, калі ласка, падумайце пра мяне, пусціўшы на першы „агонь" майго „Чыжыка" гражданкай у такім выглядзе, у якім ён ёсць ці быў лацінкай. Апрача гэтага ў мяне цяпер назбіралася шмат новых твораў — мо крыху іншага роду для новага зборніка пад назовам „Беларускі жаўранак". Яго нядаўна пераслаў праз сен[атара]. Уласава грам[адзяніну]. Дварчаніну ў Вільню, каб ён выбраў сабе штось для „Хрэстаматыі"[34], а таксама паслаў быў яму сваю біяграфію з фатаграфіямі сваімі — няхай там у Вільні будзе, бо як памру, то й так усё прападзе. Дык, калі ласка, параглядзіце ў Дварчаніна мае рэчы — мо і было б

[32] Маецца на ўвазе Янка Быліна (Ян Семашкевіч, 1883-1956) — беларускі паэт, каталіцкі святар.

[33] Маецца на ўвазе Казімір Сваяк (Канстанцін Стэповіч, 1890-1926) — беларускі паэт, каталіцкі святар.

[34] Маецца на ўвазе *Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры (ад 1905 года)* Ігната Дварчаніна, выдадзена 5-цю часткамі і адзіным выданнем у Вільні ў 1927 г.

магчыма выдаць і другі мой зборнік „Беларускі жаўранак". Апрача гэтага — у мяне ёсць вельмі, па мойму, цікавы і рэдкі да выдання зборнік трыялетаў „Мудра прыгаворка — соладка і горка" — 138 штук, які я Вам у 1924 годзе, будучы ў Вільні, даваў да прагляду. Але Вы яго ўсяго не мелі часу перагледзяць. Я ніхачу яго нікому прадаваць, хачу, каб яго выдала Выдавецкае Таварыства, каб яно лепш зарабіла сабе, чым хто іншы. Гэта яшчэ не ўсё. Я пераклаў шмат песняў папулярных з расейскай і польскай моваў, дык іх збярэцца таксама на цэлы зборнік. Яны цікавыя, тым больш гучаць па-нашаму. А пяюцца толькі ў той самай арыгінальнай мове. Палякі ўжо пераклалі шмат песняў расейскіх, пяюць іх па-польску, а таксама расейцы пераклалі польскія песні на сваю мову, а мы да гэтай пары не маем перакладаў. І нашы людзі на вёсках пяюць іх або па-расейску, або па-польску, а гэта ўсё-ткі вельмі непажадана. А як будуць пець па-свойму, дык не будуць пяяць іх на чужой для нас мове. Можна гэтыя песні перапісаць да друку і з нотамі іх. Яшчэ не канчатак: я маю спора іншых перакладаў паэтаў расейскіх і польскіх. Гэта цікавейшыя рэчы — іх таксама сабралася на брашурку. Яшчэ не ўсё — я пераклаў чуць не цэлыя „Дзяды" Адама Міцкевіча[35], здаецца, удалей, чым Арсеннева[36] — калі яна пераклала больш чым ІІ-ю частку. Я пераклаў часткі першую і другую, сцэну IX — „Ноч дзядоў" трэцяй часткі, шмат чаго з IV часткі — адным словам, цэлы этнаграфічны беларускі змест „Дзядоў". Усё гэта збярэцца на спорую кніжку, каторую як найхутчэй варта было б выдаць друкам праз Таварыства. Усё гэта я цяпер перапісваю на чыста да друку.

Апрача таго, я паводле „Дзядоў" пачаў пісаць сцэнарый да кінаматаграфу, каторы пашлецца ў Амерыку, каб зняць усё на фільм і магчыма паказаць на экране. Вось добра будзе, бо „Дзяды" для нас ёсць вельмі важная і цікавая паэма, што ўзята з нашага беларускага жыцця Адамам Міцкевічам. На канчатак скажу, што хацеў бы пад псеўданімам у невялікай брашурцы сатыры з карыкатурамі пэўных „дзеячаў" „Камплект дабраных дзеячаў", што нам шмат злога нарабілі, лікам пяцёх назбіралася, выдаць таксама. Вось такія мае прапановы і справы. Бывайце здаровы!

Гальяш Леўчык.

[35] Адам Міцкевіч (1798-1855) — польскі паэт беларускага паходжання.

[36] Наталля Арсеннева (1903-1997) — беларуская паэтка, перакладчыца, драматург.

